УДК 821.161.3-3
ББК 84(4Беи)
Ч11

**Чыгрын, С.**

Ч11 Іншых шляхоў не было : гісторыка-краязнаўчыя і літаратуразнаўчыя артыкулы, гутаркі / Сяргей Чыгрын. — Мінск : Кнігазбор, 2013. — 240 с.
ISBN 978-985-7089-17-8.

Кніга Сяргея Чыгрына складаецца з пяци раздзелаў. У першым аўтар распавядае пра тых людзей, якія змагаліся за Беларусь, і пра тых, якія дапамагалі беларускай культуры, гісторыі, літаратуры. У другім ідзе гутарка пра беларусаў Беласточчыны. У трэцім аўтар спыняецца на гісторыі Слонімшчыны. У чацвёртым — расказвае пра цікавыя выданні, якія пабачылі свет у апошнія гады ў розных выдавецтвах. У пятым раздзеле надрукаваны гутаркі з Аляксеем Пяткевічам, Аленай Васілевіч, Вячаславам Рагойшам, Лідзіяй Арабей і іншымі вядомымі асобамі.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7089-17-8**





# Янка Бялькевіч — даследчык роднай мовы


*Янка Бялькевіч*

Пра беларускага лексікографа і лексіколага, аўтара вядома «Краёвага слоўніка ўсходняй Магілёўшчыны» Янку Бялькевіча хораша неяк сказаў вершам Алесь Пісьмянкоў:

Я зноў аб галоўным,
Аб кроўным,
Я зноў пра свае карані:
Гартаю
Бялькевічаў «Слоўнік»,
Нібыта гасцюю
Ў радні.

Але Янка Бялькевіч быў родам не з Магілёўшчыны, а са Слонімшчыны з вёскі Варонічы, дзе ён з'явіўся на свет 6 сакавіка 1883 года ў сялянскай сям'і. Нядаўна я пабываў у Варонічах. Там ужо няма людзей з прозвішчам Бялькевіч. Але Бялькевічаў шмат жыве ў суседніх з Варонічамі вёсках Мяльканавічы, Сялявічы, Пасінічы і ў Слоніме. Але з тых апытаных вяскоўцаў ніхто пра Янку Бялькевіча нічога не чуў і не ведае. Хаця ён пасля Свіслацкай настаўніцкай семінарыі быў загадчыкам Вароніцкай сельскай школы, потым інспектарам школ Слонімскага павета, а са жніўня 1920 года працаваў у Наркамаце асветы БССР і ў школах Мінска.

Для паглыблення сваіх педагагічных ведаў Янка Бялькевіч паступіў на этнолага-лінгвістычнае аддзяленне толькі што адкрытага Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Ён не прапускаў ніводнай лекцыі, выступаў на семінарах з грунтоўнымі навуковымі рэфератамі па пытаннях беларускай і рускай філалогіі, удзельнічаў у розных гуртках. Яшчэ студэнтам Янка Бялькевіч па заданні слоўнікавай камісіі Інбелкульта збірае лексічны матэрыял для тлумачальнага слоўніка беларускай мовы, распісваючы на карткі творы



Ядвігіна Ш. і Максіма Багдановіча. Адначасова студэнт Бялькевіч запісвае і сістэматызуе беларускія словы з іншамоўнымі каранямі, мяркуючы скласці слоўнік іх.

Пасля заканчэння ўніверсітэта Янка Бялькевіч стаў працаваць дырэктарам Мсціслаўскага педагагічнага тэхнікума. Па просьбе слоўнікавай камісіі Інбенкульта ён збірае і сістэматызуе матэрыялы для дыялектнага слоўніка ўсходняй часткі Магілёўскай вобласці. У вольны час ён выязджае ў раёны, запісвае новыя словы і правярае запісаныя. Напрыканцы 1926 года картатэка будучага слоўніка ўжо налічвала 15 тысяч лексічных адзінак. Часопіс «Наш край» (1928. № 12. С. 50) паведамляў пра першыя поспехі Бялькевіча: «Словы на першыя літары слоўніка ўжо апрацаваны ўкладальнікам…».

Паралельна з укладаннем слоўніка Янка Бялькевіч даволі часта выступае на старонках розных беларускіх выданняў. У прыватнасці, ва «Узвышшы» ён друкуе рэцэнзіі на слоўнікі, рэзка выступае супраць ужывання ў беларускай літаратурнай мове слоў *акаляць* і *акаляючы* са значэннем рускіх *окружать, окружающий* (нататка «Аб слове акаляць» (Узвышша. 1928. № 2) і г. д.



*Слоўнік Янкі Бялькевіча*

У Янкі Бялькевіча было шмат планаў і задумак. Але ён неўзабаве быў арыштаваны ДПУ БССР па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Гэта здарылася 17 лютага 1930 года. І хоць вінаватым ні ў чым ён сябе не прызнаў, паводле пастановы калегіі АДПУ СССР ад 10 красавіка 1931 года яго саслалі на 5 гадоў у Іашкар-Алу. Там працу над беларускай філалогіяй яму замянілі працай

на лесапавале. А калі вызваліўся, выехаў у Данецкую вобласць, дзе выкладаў у школах рускую мову і літаратуру.

У 1948–1958 гадах працаваў у розных навучальных установах Жданава. Але і там, далёка ад Радзімы, Янка Бялькевіч не спыняў працу над слоўнікам. Ён вельмі хацеў вярнуцца на Беларусь, але да канца жыцця на гэта не атрымаў дазволу. Сэрца не вытрымала такой знявагі. За месяц да смерці яго рэабілітавалі, а ў кастрычніку 1960 года даследчыка нашай мовы не стала.

Клопаты аб выданні «Краёвага слоўніка ўсходняй Магілёўшчыны» пасля смерці Янкі Бялькевіча ўзялі на сябе яго жонка Ніна Мікалаеўна Улашчык і сын Узяслаў. І ў 1970 годзе ён пабачыў свет. Гэты слоўнік — адзін з самых поўных і грунтоўных з ліку ўсіх вядомых рэгіянальных (абласных) слоўнікаў беларускай дыялектнай мовы. Слоўнік Янкі Бялькевіча з'яўляецца багатым зборам лексікі жывой народнай мовы насельніцтва ўсходняй часткі Магілёўскай вобласці. Ён змяшчае каля 20 тысяч слоў.

Вялікае слоўнае багацце, сабранае Янкам Бялькевічам, даўно просіць перавыдання, перавыдання не толькі слоўніка, а і іншых ягоных прац.

## Кіраўнік патрыятычнай «Чайкі»


*Васіль Супрун*

Васіль Супрун жыў побач са мной на адной Брэсцкай вуліцы ў Слоніме. Таму я яго сустракаў амаль кожны дзень: то ідучы ў краму, то ён ехаў на дачу, то кудысьці спяшаўся на сустрэчу. Пры спатканнях Васіль Рыгоравіч стараўся гаварыць мала, ён больш любіў слухаць, а потым адным сказам ціха падводзіў вынікі ўсёй гутаркі. Ён да самай смерці быў асцярожным і маўклівым. Але я стараўся яго трохі разварушыць і гучна пытаўся: «Як справы, Васіль Рыгоравіч, чым займаецеся, над чым працуеце?»



— Вось сонейка выглянула вясновае, дык на дачу еду, варушуся там крыху. Цяжка ўжо працуецца ў маім узросце, не хапае сіл і здароўя, каб працаваць, пісаць. Хоць жаданне зрабіць тое-сёе яшчэ ёсць, — заўсёды з лагоднай усмешкай, але ціха адказваў ён. Заўсёды інтэлігентны, шляхетны, быццам не з сялянскай сям'і выйшаў шукаць вольную ад паноў і таварышаў беларускую Беларусь. Ён моцна перажываў за Беларусь, казаў, што сёння ў нашай апазіцыі не хапае самаахвярнасці. А без гэтага мы ніколі не пераможам.

Чаму ён так казаў? Таму што сам са сваімі равеснікамі ў 1946 годзе стварыў патрыятычную антысталінскую арганізацыю «Чайка», удзельнікі якой жылі ў Слоніме, Баранавічах, Навагрудку, Пінску і ў іншых гарадах, а таксама мястэчках. За гэта ён быў пакараны 25 гадамі зняволення.

Пра «Чайку» мы даведаліся толькі ў канцы 1980-х гадоў. Да гэтага часу ён нам ніколі нічога не казаў пра антысавецкае падполле. Калі выйшаў у 1956 годзе на волю і праз год вярнуўся на родную Слонімшчыну, быў пазбаўлены магчымасці працаваць настаўнікам, хоць меў педагагічную адукацыю: скончыў Слонімскую настаўніцкую семінарыю і Ганцавіцкае педагагічнае вучылішча. Настаўнікам працаваць не дазволілі, і Васіль Супрун мяняў занятkі і прафесіі. Працаваў спачатку будаўніком у роднай вёсцы, быў тэхнікам-будаўніком у СПТВ у Слоніме, а потым у пошуках заробку выехаў у Крым, дзе знайшоў працу праекціроўшчыка ў падводным марскім клубе ДТСААФ СССР. Працуючы далёка ад Беларусі, паступіў на гістарычны факультэт БДУ, які завочна скончыў у 1969 годзе.

Калі вярнуўся з Крыма на радзіму, то зноў пайшоў працаваць на будоўлю. Адначасова займаўся ў вольны час археалагічнай разведкай і раскопкамі на Гродзеншчыне і Брэстчыне. Пасля пісаў пра гэта ў мясцовым друку, у часопісе «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі». Так і дажыў да пенсіі… Але гэта было пасля вяртання з ГУЛАГа, пасля 1957 года. А да гэтага была «Чайка».

На пачатку 1946 года ў асяродку настаўніцтва і моладзі Слонімшчыны ўзнікла ідэя арганізаванага супраціву камуністычнаму руху і гвалтоўнай русіфікацыі Беларусі. З гэтай мэтай у пачатку траўня 1946 года ў Слоніме быў праведзены ўстаноўчы сход, на якім было прынятае рашэнне стварыць падпольную беларускую арганізацыю з канспірацыйнай назвай «Чайка», якая ставіла б сваёй мэтай змаганне за нацыянальныя правы і годнасць свайго народа, яго культуры, мовы, гісторыі і, урэшце, за свабоду і незалежнасць Беларусі. Арганізацыя планавала не займацца тэрорам, а індывідуальнай працай будзіць свядомасць беларусаў. Была прынятая праграма дзейнасці, асновы канспірацыі і абранае кіраўніцтва. У сходзе ўдзельнічалі Васіль Супрун (які быў абраны кіраўніком), Міхась Ракевіч, Міхась Чыгрын, Алесь Гардзейка, Леакадзія Кавальчук і Ніна Карач (сакратар). У сувязі з няяўкай Ніны Карач на пазнейшыя нарады і парушэннем канспірацыі дзяўчаты былі адхіленыя ад удзелу ў падполлі, змененыя яўкі. Дарэчы, пазней Ніна Карач была асуджана на 10 гадоў. Яе забралі ўжо студэнткай Інстытута народнай гаспадаркі. І што цікава, бацька Ніны быў некалі засланы з Расіі ў Польшчу для навядзення прапаганды на карысць Саветаў. А дачка, як бачыце, вырасла свядомай беларускай.

З агульнай згоды сяброў Васілю Супруну было загадана заснаваць патрыятычнае падполле ў Баранавіцкім настаўніцкім інстытуце, Міхасю Ракевічу — у Брэсцкім чыгуначным тэхнікуме, дзе ён навучаўся, Міхасю Чыгрыну — у Жыровіцкім сельскагаспадарчым тэхнікуме, дзе ён у той час вучыўся, і Алесю Гардзейку — сярод моладзі Слонімшчыны.

У хуткім часе патрыятычныя групы падполля былі створаныя і ў Баранавічах (з дапамогай Уладзіміра Салаўя — студэнта настаўніцкага інстытута), у Брэсце, Жыровічах і ў іншых гарадах і мястэчках.

«Чайка» за нейкі месяц дзейнасці выйшла далёка за межы Слонімшчыны, што патрабавала паглыбленай распрацоўкі праграмы і схемы ўнутранай будовы арганізацыі. А праз



пэўны час узнікла і неабходнасць стварэння так званага Цэнтра беларускага вызваленчага руху (ЦБВР), які павінен быў ажыццяўляць агульнае кіраўніцтва рухам. Кіраўніком Цэнтра быў абраны Васіль Супрун, намеснікам па арганізацыйна-палітычнай рабоце стаў Аляксандр Барэйка, а адказным за ваенізаваны рух — Міхась Ракевіч. Акрамя таго, дарадчымі членамі Цэнтра былі прызначаныя Мікалай Макарэвіч, ён жа — кіраўнік Брэсцкага абласнога падполля, Міхась Агейка — ад баранавіцкай інстытуцкай групы і Уладзімір Салавей — ад слонімскіх груп. Кантакты Васіля Супруна з А. Барэйкам і М. Ракевічам былі рэгулярнымі, з астатнімі членамі Цэнтра — пры неабходнасці.

Цэнтрам была прапанаваная так званая «колавая» схема кіравання. Ад Цэнтра мела адходзіць (акружаць яго) першае кола, гэта значыць, абласныя кіраўнічыя структуры, вакол якіх павінны размяркоўвацца раённыя групы — другога кола, а вакол апошніх — перыферыйныя групы — трэцяе кола. Пры гэтым прапаноўвалася своеасаблівая схема канспірацыі і кансервацыі падполля. На пэўным этапе, калі нейкая тэрыторыя будзе арганізацыяй ахоплена, яна павінна быць закансерваваная да спрыяльнай палітычнай сітуацыі, пры якой па камандзе з Цэнтра павінна была быць гатовая да любых дзеянняў…

Але за беларускімі хлопцамі і дзяўчатамі пільна сачыла спецгрупа МДБ. І ў чэрвені 1947 года беларускіх патрыётаў пачалі арыштоўваць. Быў схоплены і Васіль Супрун. Амаль паўгода знаходзіўся ў баранавіцкай следчай турме «Крывое кола» і мінскай «амерыканцы». 21 лістапада 1947 года Ваенны трыбунал войскаў МУС Беларускай акругі ў Мінску паводле артыкулаў 63-1 і 76 КК БССР (здрада радзіме і антысавецкая агітацыя) асудзіў Супруна на 25 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах з канфіскацыяй маёмасці. Такім суровым быў прыгавор перш за ўсё за ўпартасць, нязломнасць, адмову нагаворваць на сябе і іншых, карацей — за характар, за тыя яго рысы, якіх берыеўцы не

чакалі ад вясковага настаўніка, маладога народнага інтэлігента, маладога беларуса.

Пакаранне Васіль Супрун адбываў у лагерах Інты і Варкуты. У зняволенні падтрымліваў тайную міжлагерную перапіску з беларускай паэткай Ларысай Геніюш:

Бачыш? Вялізныя шрамы па краю —
Лагеры, зоны, драты.
Там ні за што, як і мы, дагараюць
Нашы ў няволі браты.

Вершы з перапіскі Васіля Супруна і Ларысы Геніюш упершыню былі апублікаваныя ў тыднёвіку «Літаратура і мастацтва» вясной 1989 года. Іх публікацыя была тады вялікай падзеяй у беларускім літаратурным жыцці. Аказалася, што Васіль Супрун усё жыццё пісаў вершы, найбольш патрыятычныя. А першы ягоны верш быў надрукаваны ў «Баранавіцкай газеце» яшчэ ў 1943 годзе. І толькі праз 50 гадоў дзяржаўнае выдавецтва «Мастацкая літаратура» выдала невялікі зборнічак вершаў Васіля Супруна пад назвай «Крык» з прадмовай прафесара Алега Лойкі. Вершы ў ім былі напоўненыя духоўнай сілай і верай, нязломнасцю духу ды бясконцай любоўю да роднага краю:

Так, каб жыць, каб тварыць, каб змагацца, любіць,
Трэба ўмець супроць хваляў і гора
Непакорна плысці, сваё Заўтра знайсці —
Яно лепей, чым нашае ўчора.

Потым свет пабачылі яшчэ некалькі кніг вершаў і краязнаўчых артыкулаў Васіля Супруна. Яго прынялі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Васіль Супрун быў вельмі таленавітым чалавекам. Ён умеў добра фатаграфаваць, маляваць, выдатна іграў на скрыпцы, любіў прыроду. Некалькі разоў ён звяртаўся ў вышэйшыя мінскія інстанцыі, каб яго рэабілітавалі, але так і не дачакаўся рэабілітацыі. Але для тых, хто ведаў Васіля Рыгоравіча, ён застаўся маральным аўтарытэтам назаўсёды.



## Лёс вязня польскіх і савецкіх лагераў


*Серафім Татарын*

Моладзь Зэльвеншчыны цяпер пра гэтага чалавека нічога не ведае і не чула, хіба толькі ведаюць пра яго аднавяскоўцы з вёскі Вострава. А ў 1920-х — 1980-х гадах імя Серафіма Татарына не сыходзіла з вуснаў жыхароў Зэльвеншчыны і Слонімшчыны. Актыўны дзеяч у Заходняй Беларусі, арганізатар гурткоў ТБШ у Слонімскім павеце, адказны рэдактар беларускай газеты «Наша праўда», удзельнік Другой сусветнай вайны, педагог, вязень польскіх і савецкіх лагераў Серафім Татарын заслугоўвае добрых слоў памяці. Тым больш, што сёлета ў лютым яму споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння. Праўда, у гэты юбілей на Зэльвеншчыне пра свайго слыннага земляка ніхто і не ўспомніў.

Серафім Татарын нарадзіўся 13 лютага 1903 года ў вёсцы Вострава Слонімскага павета (цяпер Зэльвенскі раён) у сям'і селяніна-серадняка, які меў трацціну ўчастка зямлі: 6 дзесяцін ворыва і лугу. У 1914 годзе закончыў тры класы царкоўнапрыходскай школы ў роднай вёсцы Вострава, а пасля займаўся ў духоўным вучылішчы ў Жыровічах.

У гады Першай сусветнай вайны сям'ю Татарыных выгналі рускія казакі ў бежанства ў Расію. Жылі ў Ніжнім Ноўгарадзе, дзе Серафім закончыў тры класы духоўнага вучылішча. А пасля рэвалюцыі ў Расіі вучыўся ў савецкай школе, а потым працаваў у аддзеле сацыяльнага забеспячэння. Тады ў Расіі было неспакойна, ішла грамадзянская вайна, людзі галадалі, таму Татарыны вырашылі вярнуцца на бацькаўшчыну.

Летам 1920 года бацька Серафіма купіў каня і воза, і яны паехалі на Беларусь. Да роднай вёскі Вострава дабраліся ў верасні. Але вёска ўжо была пад Польшчай. Прыехаўшы ў

роднае мястэчка, Серафім Татарын уладкаваўся працаваць вольнанаёмным настаўнікам у суседнюю вёску Лабзова, дзе выкладаў беларускую і рускую мовы. Але гэта працягвалася нядоўга, бо школа хутка была закрыта. Дзяцей палякі загадалі вучыць толькі па-польску.

У роднай і суседніх вёсках Серафім Татарын вылучаўся сярод равеснікаў сваёй адукаванасцю і пэўным жыццёвым вопытам. Таму нікога не здзівіла, што хутка юнак стаў важаком моладзі.

Ён хутка пазнаёміўся і падтрымліваў сувязі са слонімскімі актывістамі Паўлам Крынчыкам, Феакцістам Міско, Якубам Міско, часта бываў у Вільні, дзе пасябраваў з Рыгорам Шырмам, Максімам Танкам, Браніславам Тарашкевічам.

Аднойчы Рыгор Шырма запытаўся: «Серафім, хочаш надалей вучыцца? Станавіся рэдактарам газеты «Наша праўда». Але папярэджваю, што можа быць некалькі канфіскацый газеты, таму, каб не арыштавалі, давядзецца ўцякаць».

Юнак пагадзіўся. Так ён стаў адказным рэдактарам газеты «Наша праўда». За яго подпісам выйшла ў свет 19 яе нумароў, з якіх былі канфіскаваны № 3, 6 і 12, а ўсяго выйшла ў свет 49 нумароў. Улады збіралі абвінаваўчыя матэрыялы на рэдактара-выдаўца, а дэфензіва выбірала зручны момант для арышту. Прыйшлося часова пакінуць Вільню.

Пасля разгрому Беларускай сялянска-рабочай Грамады ў Заходняй Беларусі пачалі стварацца гурткі Таварыства беларускай школы (ТБШ). Усюды актыўна беларусы адкрывалі бібліятэкі-чытальні, ставілі спектаклі, чыталі лекцыі. Аднак не заўсёды на гэта палякі давалі дазвол.

Серафім Татарын у роднай вёсцы Вострава разам са сваімі аднавяскоўцамі пачаў актыўна будаваць Народны дом. Дапамогу яму і вяскоўцам нават аказвалі беларусы-востраўцы, якія жылі ў Амерыцы. З 1890 па 1912 год толькі з адной вёскі Вострава Слонімскага павета ў пошуках лепшай долі выехалі каля 100 чалавек. Там быў і родны брат Серафіма — Андрэй Татарын. Серафім напісаў яму пра тое, што яны вырашылі пабудаваць у Вострaве Народны дом. Напісаў



пісьмо-зварот за востраўцаў, якія жылі ў Амерыцы. Брат там зачытаў пісьмо. І рабочыя-беларусы пачалі збіраць долары і дасылаць у Вострава на будаўніцтва Народнага дома. Першы раз даслалі 63 долары, потым — 80. А трэці раз прыслалі ажно 100. Усе гэтыя грошы з падпіснымі лістамі паступілі ў гурток ТБШ вёскі Вострава.

Пры гуртку ТБШ у Вострaве працавалі драматычны і харавы гурткі. Ставілі беларускія спектаклі, гастралявалі з імі ў суседнія вёскі, наладжвалі канцэрты, лекцыі, сустрэчы. Пад восень 1927 года Серафіма Татарына выклікалі ў Слонім на допыт з выпадку канфіскацыі нумароў газеты «Наша праўда». Яго не арыштавалі, але аддалі пад нагляд паліцыі. Кожную нядзелю ён павінен быў прыходзіць у паліцэйскі ўчастак і адзначацца, а таксама ўзялі з яго распіску нікуды без дазволу не выязджаць.

Восенню 1928 года ў Слоніме быў праведзены павятовы з'езд ТБШ. На ім было выбрана новае кіраўніцтва. Старшынёй абралі Сямёна Жыткевіча, а намеснікам — Серафіма Татарына.

У сакавіку 1929 года юнакі і дзяўчаты праводзілі кароткую нараду ў акруговай управе ТБШ. Раптам туды ўварваліся некалькі паліцэйскіх і абвясцілі, што акруговая ўправа ТБШ у Слоніме па распараджэнні наваградскага ваяводы ліквідавана, а кнігарня закрыта. Так былі закрыты і ўсе гурткі ТБШ у Слонімскім павеце. У вёсцы Вострава дзейнічала добрая бібліятэка, якая налічвала 1000 кніг. Закрываючы яе, паліцыя захапіла ўсе кнігі. Уцалелі толькі тыя, якія былі на руках у чытачоў. Былі ліквідаваны ўсе гурткі ТБШ у Навагрудскім ваяводстве.

Але Серафім Татарын хутка пераязджае ў Навагрудак, дзе актыўна працуе сакратаром павятовага сакратарыята клуба «Змаганне». Але і там пачаліся новыя клопаты, новыя сутычкі з польскай паліцыяй.

29 жніўня 1929 года ў Вільні праходзіў сход пасольскага клуба «Змаганне» і яго 16 павятовых сакратарыятаў. Наляцела паліцыя. Дэлегатаў сходу арыштавалі. Каля двух тыдняў

трымалі ў віленскай турме на Лукішках, затым паліцыя развезла ўсіх па дамах пад распіску бацькоў. У хуткім часе Серафім Татарын зноў прыехаў у Наваградак і працягваў працаваць у сакратарыяце. 5 снежня 1929 года яго арыштавалі і пасадзілі на год у турму. 5 снежня 1930 года юнак выйшаў на волю, 8 снежня прыехаў у Вострава, а 9 снежня зноў яго арыштавалі і пасадзілі за беларускасць на 6 гадоў. Кайданкі, пабоі, пераводы з турмы ў турму, галадоўкі, няспынная барацьба за правы палітычных зняволеных… І толькі 5 студзеня 1936 года Татарына вызвалілі па амністыі. Выйшаўшы на волю, 33-гадовы юнак вырашыў ажаніцца. Але 25 красавіка, за тыдзень да вяселля, яго зноў арыштоўваюць і саджаюць у Картуз-Бярозаўскі канцлагер, дзе рэжым быў надзвычай жорсткі. «Аднойчы, — часта ўспамінаў Серафім Лук'янавіч, — упрог мяне з двума палітзняволенымі замест коней у барану. Шляя, якую адзелі на нас, была з дроту, які балюча ўпіваўся ў цела. Пот, слёзы крыўды і нянавісці засцілалі вочы…».

У Картуз-Бярозе Серафім Татарын прабыў 14 месяцаў. Вярнуўшыся дамоў, ён працаваў на бацькавай гаспадарцы. Але ў гісторыі Бацькаўшчыны адбываецца важная падзея — аб'яднанне Заходняй Беларусі з Усходняй. Літаральна 17 верасня 1939 года на першым вольным мітынгу Серафіма выбіраюць старшынёй Часовага валаснога сялянскага камітэта ў вёсцы Дзярэчын. Але НКУС «убачыў» у асобе Татарына замаскіраванага класавага ворага. І 11 кастрычніка 1939 года органы НКУС яго арыштавалі як «польскага шпіёна» і за тое, што ён працаваў у контррэвалюцыйных арганізацыях — БСРГ, ТБШ, «Змаганні», і прыгаварылі да 10 гадоў ППК. Ён быў этапаваны ў Іўдэльскі канцлагер НКУС Свярдлоўскай вобласці Расіі. А 13 красавіка 1940 года арыштавалі ўсю яго сям'ю (жонку і траіх дзяцей) і вывезлі на поўнач Казахстана. Умовы жыцця там былі даволі складаныя: клімат улетку сухі, спякотны, зімою — вялікія маразы, завеі. Працавалі шмат, заробкі былі мізэрныя, на дзень атрымлівалі толькі па два вядры вады.



Праз год сям'ю Татарына перавезлі ў Кустанайскую вобласць на будаўніцтва чыгункі. Працавалі ў кар'еры, капалі і ссыпалі зямлю. Там адпрацавалі тры гады. І ў 1945 годзе жонку і дзяцей Серафіма Татарына перавезлі ў Кіеў, адкуль іх забраў муж, які ўжо быў вызвалены з лагераў, ваяваў на фронце, атрымаў раненне. Але пасля вайны знайшоў сям'ю і забраў усіх на Зэльвеншчыну.

Калі дажыналі першае пасляваеннае жыта, Серафім Татарын пешшу адправіўся ў райцэнтр. Дамоў вярнуўся ноччу ў гуморы: за дзень уладкаваў усе справы, звязаныя з адкрыццём пачатковай школы ў роднай вёсцы Вострава. А 1 верасня ён, узяўшы падручнікі, шчаслівы, пайшоў у школу. Вучні дружна і шчыра прывіталі свайго настаўніка-земляка.

Пасля арганізацыі мясцовага калгаса «Радзіма» ў вёсцы Вострава адкрылася і пачала працаваць сямігадовая школа. У гэты час Серафім Лук'янавіч закончыў завочна педвучылішча і гістарычны факультэт настаўніцкага інстытута. 17 гадоў ён выкладаў у роднай школе гісторыю, і першы ўрок у кожным навучальным годзе ён прысвячаў барацьбе працоўных Заходняй Беларусі за лепшую долю. Разважаў заўсёды натхнёна, пераканаўча, цікава, быццам расказваў сваю біяграфію.

Памёр Серафім Татарын у 1988 годзе. А рэабілітавалі яго ў 1956-м. У канцы 1990-х гадоў, бываючы ў Дзярэчыне на Зэльвеншчыне ў настаўніка мясцовай школы Пятра Марціноўскага (1932–2006), я часта слухаў яго ўспаміны пра Серафіма Лук'янавіча Татарына: «Я добра ведаў гэтага простага і шчырага, гаваркога і няўрымслівага чалавека. Сустракаўся з ім у яго школе, на розных раённых нарадах, у кнігарні, у рэдакцыі раённай газеты "Праца", куды ён, як актыўны селькар, прыносіў свае артыкулы. Сваім багатым педагагічным вопытам ён шчыра дзяліўся з настаўнікамі на канферэнцыях і метадычных аб'яднаннях. А вечарамі чытаў лекцыі бацькам у клубах, сустракаўся з моладдзю. Яго дом у Востраве жыхары Зэльвеншчыны называлі ласкава Домам

Серафіма. Ён часта казаў, што лёс у жыцці выпаў на яго долю нялёгкі, але з перакананнем заўсёды падкрэсліваў: “Але калі б давялося пачаць спачатку — я не збочыў бы з абранага беларускага шляху…”».

## Гісторык Аляксандра Бергман

У 1990-х гадах, у пошуках слядоў пра дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі Максіма Бурсевіча, я пазнаёміўся з беларускім гісторыкам з Варшавы Аляксандрай Рыгораўнай Бергман. Максім Бурсевіч — мой зямляк, якога 9 кастрычніка 1937 года тройкай УНКУС асудзілі да вышэйшай меры пакарання. А гісторык Аляксандра Бергман усё сваё жыццё даследавала дзейнасць дзеячаў КПЗБ і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, у тым ліку Максіма Бурсевіча, Браніслава Тарашкевіча, Антона Луцкевіча, Ігната Дварчаніна, Веры Харужай, Сымона Рак-Міхайлоўскага, Паўла Валошына, Леапольда Родзевіча і іншых асоб. Таму я звярнуўся да



*Аляксандра Бергман (справа) з Янінай Юзэфовіч — роднай сястрой Леапольда Родзевіча, 1977 г.*



Аляксандры Бергман дапамагчы мне ў пошуках звестак пра майго земляка Максіма Бурсевіча. Яна не любіла пісаць вялікіх пісем, як, напрыклад, Зоська Верас ці Ларыса Геніюш. Аляксандра Рыгораўна пісала мала, але канкрэтна і ясна. Ды й аўтографы на яе кнігах складаліся з некалькіх слоў. На кнізе «Ігнат Дварчанін — беларускі палітык і вучоны», якую напісалі сумесна Аляксандр Баршчэўскі, Ежы Тамашэўскі і Аляксандра Бергман і якую яна мне даслала з Варшавы, гісторык падпісала проста: «Сяргею Чыгрыну — А. Бергман. Warszawa, 24.09.1992». А яе ўласную кнігу на польскай мове «Справы беларускія ў ІІ Рэчы Паспалітай» (Варшава, 1984) мне ў 1992 годзе падаравала гродзенская паэтка Данута Бічэль. «Я табе, Сяргей, хачу падараваць адну добрую кнігу. У цябе такой няма. Ды і гэта твая тэма…» — сказала Данута Янаўна і ўручыла мне кнігу Аляксандры Бергман. А вось яшчэ адно выданне слаўнага гісторыка пра Браніслава Тарашкевіча — «Слова пра Браніслава Тарашкевіча» — мне набыць так і не ўдалося. Яна выйшла на польскай мове ў Варшаве ў 1977 годзе і па-беларуску ў Мінску ў 1996 годзе.

Пішучы пра дзеячаў Заходняй Беларусі, Аляксандра Бергман шукала ў Беларусі, Літве і Польшчы іх сваякоў, ездзіла да іх, перапісвалася з імі. Нядаўна ўнучка Максіма Бурсевіча — Таццяна Ігараўна Бурсевіч з Магілёва — перадала мне некалькі пісем Аляксандры Бергман да яе бацькі Ігара Максімавіча Бурсевіча. Чытаючы гэтыя лісты, заўважаеш, як Аляксандру Рыгораўну да драбніц усё цікавіла, кожны год жыцця дзеяча Беларускай сялянска-рабочай Грамады Максіма Бурсевіча, кожны месяц яго жыцця, дзейнасці: дзе ён быў, чаму ён там быў, калі вярнуўся, навошта туды паехаў, што там рабіў і г. д. Дарэчы, пра Максіма Бурсевіча Аляксандра Бергман напісала два артыкулы: адзін апублікавала ў беластоцкім «Беларускім календары», другі — у тыднёвіку беларусаў Польшчы «Ніва». Вялікі артыкул пра Максіма Бурсевіча яна ўключыла і ў сваю кнігу на польскай мове «Справы беларускія ў ІІ Рэчы Паспалітай» (Варшава, 1984). Дарэчы, у гэтую кнігу ўвайшлі і яе даследаванні

пра жыццё і дзейнасць не толькі Максіма Бурсевіча, але і пра Браніслава Тарашкевіча, Антона Луцкевіча, Леапольда Родзевіча, Ігната Дварчаніна, Сымона Рак-Міхайлоўскага, Паўла Валошына, а таксама артыкулы пра кампартыю Заходняй Беларусі, пра дзейнасць Беларускай сялянска-работніцкай Грамады і іншыя. Распавядаючы, напрыклад, пра Ігната Дварчаніна, Аляксандра Бергман параўноўвала яго з Браніславам Тарашкевічам. Гісторык пісала: «Абодва яны надта хацелі здабыць грунтоўную адукацыю. Ці гэтае імкненне паходзіла са свядомасці недахопу ўласнай беларускай інтэлігенцыі, ці з уласцівасцей характараў — прагі ведаў: у аднаго і другога гэтае імкненне было магутнае, і яны паддаваліся яму з захапленнем. Абодва паходзілі з вёскі, з сялянскіх сем’яў. Абодва прыйшлі ў рэвалюцыйны рух у сталым узросце, з вышэйшай адукацыяй, прыйшлі з нацыянальнага лагера і перажывалі працяглую эвалюцыю светапогляду. Абодва дружылі. Хоць, праўду кажучы, Тарашкевіч быў асобай больш выдатнай і таленавітай. Час спрыяў болей Тарашкевічу. Ён пачаў сваю сеймавую кар’еру тады, калі быў сам сабе і рулём, і ветразем. Эвалюцыя яго палітычных поглядаў праходзіла на вачах соцень людзей. І калі б пасля яго нічога іншага не засталося, апрача адных сеймавых прамоў і іншых тагачасных сеймавых дакументаў, можна было б поўнасцю аднавіць яго постаць як грамадска-палітычнага дзеяча. Дварчанін у адрозненне ад Тарашкевіча прайшоў сваю эвалюцыю на чужыне, у асяроддзі малой групы беларускіх пісьменнікаў у чэшскай Празе (Ігнат Дварчанін у 1921–1925 гадах вучыўся ў Карлавым універсітэце ў Празе. — *С. Ч.*). Таму, відаць, выказванні тых, хто яшчэ памятаў Тарашкевіча, былі адназначныя, адносна ж Дварчаніна — не такія адназначныя: адны казалі — ён быў камуністам, другія — народнікам, а яшчэ іншыя — заўсёды быў нацыяналістам…».

Гісторык Аляксандра Бергман, як прыгадвае доктар філалагічных навук Арсень Ліс, дакументальна сведчыць, што якраз у адзіночцы № 45 Гродзенскай турмы, куды Браніслаў



Тарашкевіч быў у свой час перавезены з Варшаўскай цытадэлі ў красавіку 1931 года, ён скончыў да студзеня 1932 года пераклад шэдэўра Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш» і прыступіў да напісання гістарычнай граматыкі беларускай мовы. Дарэчы, Арсень Ліс таксама быў знаёмы з Аляксандрай Бергман. Нядаўна я запытаўся ў Арсеня Сяргеевіча, як і калі яны пазнаёміліся. «Як гісторык, сумленны і ўнікнёны даследчык беларушчыны, Аляксандра Бергман заслугоўвае ўдзячнай памяці. Шкадую толькі, што ўводзячы Аляксандру Бергман у «Энцыклапедыю гісторыі Беларусі», назваў у асноўным галоўныя яе працы, абмінуў публікацыі ёю беларускіх персаналіяў у паважных польскіх перыядычных выданнях. Што да нашых узаемадачыненняў з паважаным гістарыёграфам, то былі яны працяглыя і насілі пераважна характар ліставання, хоць былі і асабістыя сустрэчы ў Мінску і ў Варшаве. Першай зачапіла мяне сама пані Аляксандра пасля маіх першых публікацый пра Тарашкевіча. Я выказаў меркаванне, што Б. Традыцыя — гэта псеўданім Тарашкевіча, за што быў рэзкавата пакрытыкаваны дасведчанай у гісторыі КПЗБ і ў цэлым вызваленчага руху беларусаў даследчыцай. Задаваных мне пытанняў, на жаль, не помню. Трэба было б добра пакорпацца ў сотні, не меней, адрасаваных мне яе лістоў. Не маю, выбачай, такой змогі. Моцна стаптаўся напрыканцы 8-га дзясятка. Помніцца яшчэ, Аляксандра Рыгораўна не верыла, што зусім страчаны беларускі пераклад «Іліяды» Гамера, падштурхоўвала і мяне шукаць яго. Але ж ты ведаеш, што інквізітарскія кастры XX стагоддзя былі значна большыя за сярэднявечныя. Маштабы іх не паддаюцца вымярэнню. Помню, што навёў паважаную пані даследчыцу на ўзнаўленне памяці Уладзіміра Самойлы. Напісала досыць паважны пра яго нарыс. Вельмі сімпатычным быў, дарэчы, і яе муж пан Стэфан. Не памятаю ўжо, у якім польскім часопісе апублікаваў ён «Пастулаты беларускія» Браніслава Тарашкевіча, якія я не здолеў даць пры выданні выбранага з твораў нашага славутага палітыка і вучонага.

Да выдання манаграфіі А. Бергман на беларускую мову я напісаў прадмову», — расказаў Арсень Ліс.

Сапраўды, пра даследаванні Арсенем Лісам жыцця і творчасці Браніслава Тарашкевіча, маецца на ўвазе яго кніга «Браніслаў Тарашкевіч» (Мінск, 1966), Аляксандра Бергман напісала цэлы артыкул, які называўся «Арсень Ліс пра Браніслава Тарашкевіча» і апублікавала ў беларускім беластоцкім тыднёвіку «Ніва» 19 снежня 1966 года. У ім гісторык выказала свае пэўныя суб'ектыўныя і аб'ектыўныя заўвагі па кнізе тады яшчэ маладога 32-гадовага даследчыка Заходняй Беларусі.

А цяпер некалькі біяграфічных звестак пра Аляксандру Бергман. Нарадзілася яна 1 мая 1906 года ў Гродне ў сям'і мяшчан. Вучылася ў Гродзенскай прыватнай гімназіі Вальдмана, дзе далучылася да камуністычнага руху. У 1923 годзе пачала працу ў кравецкай майстэрні. У 1924 годзе была абрана ў Гродзенскі акружны камітэт камуністычнага саюза моладзі. За тое, што не здолела справіцца з раскольніцкімі плынямі «Сэцэсіі» ў мясцовай камсамольскай арганізацыі, была знята з пасады сакратара загадам ЦК КСМ Заходняй Беларусі. У 1925 годзе, як інструктар камсамола Заходняй Беларусі, выязджала з Гродна ў Вільню, затым у Брэст, Баранавічы.

У 1927 годзе вучылася ў партшколе КПЗБ у Мінску. У 1928 годзе была ўдзельніцай першага з'езда КПЗБ. У 1929–1931 гадах — у Маскве, працавала на электразаводзе і вучылася ў Міжнароднай «ленінскай» школе, потым у партшколе КПЗБ у Мінску.

У канцы 1935 года Аляксандра Бергман была рэпрэсіравана савецкімі ўладамі. Знаходзілася ў канцлагерах у Кіраве, Комі АССР, Кемераўскай вобласці. Беларуска-польскі гісторык Алена Глагоўская на гэты конт выказвае сваю думку: «Яўрэям у мінулым стагоддзі прыйшлося перажыць халакост — амаль татальнае знішчэнне нацыі. Аляксандры і Стэфану Бергманам ды іхняй дачушцы Зосі шчаслівы, можна сказаць, лёс падараваў жыццё, хаця не ў райскім шчасці, толькі ў разлуцы. Калі сёння чытаю пра кашмар лагернага жыцця сталінскіх часоў і генацыд яўрэяў падчас Другой сусветнай вайны, міжволі думаю: дзе тады лепш было быць яўрэю? Аляксандра Бергман у той час была ў сібірскіх лагерах. Так, яўрэйка ды камуністка была арыштавана ў Гомелі ў снежні 1935 года. Раней, напярэдадні ўгодкаў кастрычніцкай рэвалюцыі, быў арыштаваны яе муж — Стэфан, таксама камуніст. Ніхто на зважаў на тое, што ў іх было маленькае дзіця — Зося, якой у ліпені гэтага ж года споўніўся ўсяго годзік жыцця. З верай у камуністычныя ідэалы абое трапілі ў «рай». Іхнія біяграфіі — доказ таго, што і яўрэі камуністычных поглядаў не пазбеглі сталінскіх лагераў». Гэта так. Вызвалілі Аляксандру Бергман у 1943 годзе, а ў 1945 годзе яна выехала ў Польшчу.



У 1945–1948 гадах мужная жанчына працавала на паліграфічным камбінаце ў Лодзі, а потым пераехала ў Варшаву. Там пэўны час працавала рэферэнткай, потым — кіраўніком аддзела просьбаў, прашэнняў, памілаванняў і датэрміновых вызваленняў у выканаўчым бюро Спецыяльнай камісіі змагання са злоўжываннямі і завочна закончыла Партыйную школу пры ЦК ПАРП.

У 1956–1957 гадах гісторык працавала ў рэдакцыі часопіса «Życie partyi». А калі выйшла на пенсію, то пачала самастойна займацца навукова-даследчыцкай дзейнасцю.

Пражыла Аляксандра Рыгораўна Бергман амаль сто гадоў, яна памерла ў 2005 годзе, пакінуўшы нам у спадчыну звыш 40 артыкулаў і дзве фундаментальныя манаграфіі — пра беларускія справы Рэчы Паспалітай і пра Браніслава Тарашкевіча.



## Крынчык і Лябецкая

Гэты мой артыкул прысвечаны Паўлу Крынчыку (1898–1975) і Алене Лябецкай (1903–1982) — мужу і жонцы, якія ў першай палове ХХ стагоддзя былі актыўнымі дзеячамі вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, актывістамі Таварыства беларускай школы, вязнямі польскіх і савецкіх лагераў.



*Павел Крынчык з братам пасля збіцця паліцыяй на дэманстрацыі 2 жніўня 1929 г.*

Арганізатар і кіраўнік Народнага музея СШ № 4 г. Слоніма Аляксандр Жукоўскі аднойчы запрасіў Паўла Крынчыка паглядзець ягоны вялікі музей. Павел Сцяпанавіч пагадзіўся. Ён зайшоў з трысцінкай у музей і адразу пачаў разглядаць стэнды. Пад шклом аднаго з іх ён убачыў партрэт Сталіна. Нядоўга думаючы, ветэран падняў трысцінку і з усяе сілы стукнуў па шкле стэнда. Шкло пасыпалася на падлогу. Крынчык падскочыў да Жукоўскага і, махаючы перад носам кійком, закрычаў: «Калі ты яшчэ раз павесіш гэтага вусатага чорта, то я цябе павешу на гэтай кульбе». Аляксандр Жукоўскі ніколі больш не вешаў партрэт Сталіна ў сваім школьным музеі, хаця ён амаль увесь быў прысвечаны Другой сусветнай вайне.

Алена Лябецкая, калі польскія паліцыянты стукалі ў дзверы Слонімскай акруговай управы ТБШ у 1928 годзе, не разгубілася. Яна паспела праглынуць некалькі папер з



тэкстам лістоўкі. Калі ў пакой ТБШ уварваліся паліцыянты і пачалі вобыск, яны ўжо нічога крымінальнага знайсці не змаглі.



*Алена Лябецкая*

Павел Крынчык нарадзіўся ў вёсцы Едначы Слонімскага павета. Перад пачаткам Першай сусветнай вайны рускія казакі выгналі сям'ю Крынчыкаў у Расію. Яны заехалі ажно ў Екацярынаслаў. Там юнак паступіў у мясцовы палітэхнікум шляхоў зносін. Скончыў яго, а потым сям'я вярнулася на бацькаўшчыну, якая ўжо была пад Польшчай.

Вярнуўшыся на Слонімшчыну, Павел Крынчык стаў адным з ініцыятараў стварэння гурткоў Грамады, Таварыства беларускай школы і спажывецкага таварыства. У 1928 годзе ў польскі сейм былі абраны тры беларускія дэпутаты: І. Дварчанін, І. Гаўрылік, А. Стагановіч. У лютым 1929 года замест А. Стагановіча дэпутатам сейма стаў Павел Крынчык. У Варшаве яму ўручылі пасольскі мандат, і з сакавіка 1929 года ён быў асобай недатыкальнай. Але…

Прыехаўшы ў Вільню, беларускі дэпутат польскага сейма актыўна ўключыўся ў працу сакратарыята пасольскага клуба «Змаганне». Ён стаў плённа працаваць над склікannем Еўрапейскага сялянскага кангрэса ў Берліне, удзельнікам якога разам з жонкай Аленай Лябецкай быў і сам. Палымяны голас пасла гучаў тады на шматлюдных мітынгах працоўных у Дзярэчыне, Воранаве, Ашмянах, Вільні, Смаргоні, Кельцах, Карэлічах і ў іншых гарадах і мястэчках.

Нягледзячы на недатыкальнасць, Паўла Крынчыка на ўсіх мітынгах абражалі і білі польскія шпікі і паліцыянты. А летам 1929 года ў Карэлічах беларуса нават паранілі выстралам з пісталета ў галаву. Ён апамятаўся тады, калі сябры клалі яго на воз. Юнака хутка завезлі да доктара. Доктар дастаў з патыліцы кулю і сказаў: «Пану вельмі пашанцавала!»

З забінтаванай галавой Крынчыка адвезлі ў гасцініцу, потым на чыгуначную станцыю Наваельня, а адтуль у Вільню. Там перабінтавалі і зрабілі здымкі. Пазней гэта фатаграфія і фатаграфіі ягоных калег-паслоў Дварчаніна, Гаўрыліка, Грэцкага з перабінтаванымі галовамі будуць змешчаны на выбарчым плакаце. Плакат заклікаў беларусаў галасаваць за спіс кандыдатаў «Змагання» ў час дадатковых выбараў у сейм, якія праходзілі вясной 1930 года ў Лідскай выбарчай акрузе. Агітацыя аказалася даволі эфектыўнай і пераканаўчай. Толькі гэта ўсё хутка скончылася.

…Паўла Крынчыка паліцыя арыштавала дома, Валынца — у Вілейцы, Гаўрыліка — у цягніку, які ехаў у Варшаву. Іх усіх адправілі ў стэфанаўскую турму ў Вільню. У пачатку 1931 года пачаўся суд над сябрамі беларускага сялянска-рабочага пасольскага клуба «Змаганне». І. Гаўрыліку, І. Дварчаніну, Ф. Валынцу і П. Крынчыку далі па 8 гадоў кожнаму строгага турэмнага зняволення.

Праз пэўны час у турму завітала сябра Чырвонага Крыжа СССР у Польшчы Стэфанія Семпалоўская і сустрэлася ў камеры з Крынчыкам. Спадарыня Семпалоўская паведаміла, што савецкі і польскі ўрады дамовіліся аб абмене палітзняволенымі. «У спіс палітзняволеных, якія належаць абмену, уключаны і вы, — сказала яна. — Цяпер толькі павінна быць ваша згода». Семпалоўская заявіла таксама, што Крынчык можа ўзяць з сабой усю сваю сям'ю. Крынчык пагадзіўся і папрасіў з сабой узяць яго жонку Алену Лябецкую.

Так Павел Крынчык і яго жонка Алена Лябецкая апынуліся ў Мінску. Там іх шчыра віталі Валянцін Таўлай і Іван Тарасюк. Быў гэта 1933 год…

Цяпер пару слоў пра Алену Лябецкую. Яна была на 5 гадоў маладзейшая за свайго мужа. Нарадзілася на хутары Лягуцева Слонімскага павета (цяпер Дзятлаўскі раён). У 1910 годзе сям'я яе пераехала ў Гродна, дзе дзяўчынка паступіла ў падрыхтоўчы клас жаночай гімназіі.

Перад пачаткам Першай сусветнай вайны іх сям'ю выгналі ў Калугу. Там дзяўчына вучылася ў жаночай гімназіі.



А калі вярнуліся ў 1920 годзе на бацькаўшчыну — актыўна ўключылася ў грамадска-вызваленчы і культурны рух у Заходняй Беларусі. Яна актыўна стварала гурткі ТБШ, была арганізатарам і ўдзельнікам беларускіх спектакляў, канцэртаў на Слонімшчыне, Дзятлаўшчыне і Зэльвеншчыне.

З лістапада 1927 года Алена Лябецкая стала працаваць сакратаром Слонімскай акруговай управы ТБШ. Потым яе, як актыўную дзяячку ТБШ, забіраюць у Вільню, дзе Алена працуе ў Галоўнай управе ТБШ, загадвае беларускай бібліятэкай-чытальняй.

У лютым 1930 года Алену Лябецкую арыштоўваюць польскія ўлады і асуджаюць на 6 гадоў турмы. Але ў выніку абмену палітвязнямі яна разам з мужам трапляе ў Мінск…

Спачатку ў БССР жыццё наладжвалася някепска. Павел працаваў, а Алена вучылася на геолага-геаграфічным факультэце БДУ, працавала інструктарам у ЦК Міжнароднай арганізацыі дапамогі барацьбітам рэвалюцыі Беларусі. Але аднойчы іх сям'ю наведалі супрацоўнікі НКУС. Спачатку 26 лістапада 1935 года арыштавалі Паўла і прыгаварылі да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў за «сувязь з разведкай буржуазнай Польшчы». А потым восенню 1937 года арыштавалі і Алену. Павел Крынчык быў этапаваны ў адзін з Калымскіх лагераў. А Алена Лябецкая была выслана ў адзін з лагераў Усходняй Сібіры.

На радзіму Алена Лябецкая вярнулася ў 1947 годзе, а Павел Крынчык — у 1956 годзе. Яны жылі ў Слоніме, дзе і памерлі. Пасля сябе Павел Крынчык і Алена Лябецкая пакінулі невялікія ўспаміны пра барацьбу і дзейнасць у 1920–1930-х гадах у Заходняй Беларусі. Гэтыя ўспаміны друкаваліся ў кнігах «У суровыя гады падполля» (Мінск, 1958), «Годы испытаний и мужества» (Мінск, 1973), «Вильнюсское подполье» (Вільнюс, 1966). Пра сталінскія лагеры ўспамінаў яны не пісалі.

Неяк, перад выступленнем у адной са школ, Алена Канстанцінаўна Лябецкая сказала, што «мы ніколі не ішлі на гатовае, мы ўсё аддавалі справе роднай Беларусі, бо ў нас іншых шляхоў не было».

## Належала да арганізацыі «Жыве Беларусь!»


*Вера Белакоз*

Рыхтуючы кнігу Алеся Белакоза «Музей у Гудзевічах», шмат чуў ад Алеся Мікалаевіча шчырых успамінаў пра ягоную родную сястру Веру Белакоз. Ён заўсёды ласкава называе яе Верачка: «Верачка выкарыстоўвала кожную хвіліну, каб выхаваць мяне патрыётам. Калі мне і ўдалося здзейсніць нешта значнае, то толькі дзякуючы беларускасці Верачкі».

Вера Белакоз нарадзілася 26 ліпеня 1921 года ў вёсцы Юраўляны Крынкаўскай гміны Сакольскага павета на Беласточчыне ў сялянскай сям'і. З дзяцінства выхоўваўся характар, была вельмі даверлівай, шчырай, уражлівай да няпраўды. Аднойчы яе маці напякла аладак з грыкі. Вера сабрала дзяўчынак з вёскі і прапанавала: «Я вас пачастую смачнымі грычанікамі, а вы пачастуйце тым, што вам мама нагатавала на дзень». Дзяўчаты пагадзіліся. Вера раздала ўсім па дзве аладкі, хаця самой і сястры засталося па адной. А потым пайшлі да сяброўкі Валі. Але Валя забегла дамоў, зачыніла дзверы і нікога не ўпусціла ў хату. А сама села каля акна і пачала есці крупнік. Вера папярэдзіла, што калі Валя зараз жа не пачастуе крупнікам дзяўчынак, так, як дамаўляліся, то яна паб'е шыбы ў вокнах. Але Валя дзвярэй не адчыніла. І ўсе шыбы былі пабіты. Бацька Веры Белакоз цэлы дзень шкліў вокны суседа.

Вера сапраўды была справядлівай. Алесь Белакоз прыгадвае, што Верачка часам пачастуе ўсіх смачнымі грушамі, то зварыць яйкі і ўсім раздасць, то грошай дасць бяднейшым, якія бацька прывёз з Амерыкі. А калі вучылася ў школе, дапамагала дома дзяўчатам і хлопцам па мове, па матэматыцы. Вось такою расла Вера Белакоз.



Аднойчы было вельмі холадна. І маці Веры Белакоз пабаялася браць дзяцей у поле. Яна пакінула іх дома. Малая Вера знайшла сахарыну і шмат з'ела. З-за гэтага ў яе перастаў працаваць адзін з клапанаў сэрца. Пройдзе дзяўчынка 100–200 метраў і задыхаецца. Прафесар адной з самых лепшых клінік Вільні сказаў бацькам, што Вера пражыве толькі да 18 гадоў, а пасля пампрэ. Але гэта будзе пасля…

Скончыўшы школу Вера Белакоз паступіла ў Віленскую беларускую гімназію. У Вільні ёй прапанавалі ўступіць у беларускую засакрэчаную арганізацыю «Жыве Беларусь!». І Вера пагадзілася. Дарэчы, у гэту арганізацыю запрасілі толькі 13 самых надзейных юнакоў і дзяўчат. Сярод іх была і Вера. У Вільні сябры арганізацыі «Жыве Беларусь!» наладжвалі беларускія вечары, ставілі спектаклі, выпускалі лістоўкі. Калі Вера прыязджала на канікулы ў вёску Лядкі, куды пераехала іх сям'я, збіралася вакол яе мясцовая моладзь. У 1938 і 1939 гадах яна аднавіла ў Лятках Купалле. Юнакі і дзяўчаты вёскі і мясцовых вёсак і хутароў прыходзіла да Веры, каб разам паспяваць беларускія песні, паслухаць вершы, даведацца пра віленскія навіны.

У пачатку 1941 года Вера Белакоз вярнулася дамоў і пакінула вучобу, бо даведалася, што іх сям'ю павязуць у Сібір. Але пачалася вайна. І мясцовы люд нямецкую акупацыю сустрэў з радасцю, бо бальшавікі нікога не павязуць у Сібір, не пасадзяць у турмы, не расстраляюць, не заганяць у калгасы, не адбяруць зямлю, гумна, каня і кароў.

Неяк прыбягаюць да Белакозаў мясцовыя юнакі Дзіма Жалезняковіч, Юра Пракопчык, Віталь Янушчык, якія вельмі паважалі Веру. Вера ім кажа: «Хлопцы, я чула, што палякі ўжо даносяць на беларусаў, што мы — камуністы ці камсамольцы. У Лятках ужо расстралялі трох невінаватых вяскоўцаў. Мы абавязаны ў самы кароткі час давучыць нямецкую мову, каб маглі зайсці да камісара ці да каменданта, апраўдаць падстаўленага беларуса, выратаваць яго». Алесь Мікалаевіч Белакоз памятае да сённяшніх дзён, як цэлымі днямі Вера і хлопцы зубрылі нямецкую мову, чыталі ра-

маны па-нямецку, газеты, часопісы і размаўлялі між сабой па-нямецку. Больш з вёскі, а таксама з суседніх, нікога не расстралялі, не пасадзілі, не саслалі ў лагер смерці.

Пасля гэтай справы Вера Белакоз пачала агітаваць хлопцаў, каб адкрывалі ў вёсках патаемныя беларускія школы. Вера стварыла школу дома. Сюды хадзілі дзесяць чалавек. Хадзілі дзеткі хаваючыся і не ўсе адразу, адны з загуменняў, а другія з дарогі. Тады Ваўкавышчына адносілася да Беласточчыны, якая была аб'яўлена Усходняй Прусіяй, гэта значыць Нямеччынай, у якой беларускіх школ не павінна было быць. Тутэйшыя людзі нават сталі пагаворваць, што немцы даведаліся пра існаванне патаемнай школы Веры Белакоз. Таму заўсёды на душы ў дзяўчыны і ва ўсіх была вялікая трывога. Але школа існавала. Вось што ўспамінае брат Веры Белакоз Алесь Мікалаевіч: «Неяк Вера сказала: «Задала вам на сёння вывучыць на памяць тры раздзелы з паэмы «Курган» Янкі Купалы. Але ніхто з вас усіх раздзелаў не вывучыў. Калі б немцы ведалі, што вы не хочаце вучыць роднай беларускай літаратуры, то сёння прывезлі б вам скрынку цукерак. А потым кожнага з вас пагладзілі б па галоўцы і сказалі б: вы добра робіце, што не вучыце беларускай літаратуры. Мы гэту ведзьму, што вас мучыць заняткамі, зараз расстраляем, а вам прышлём немца, які будзе вучыць вас па-нямецку…» Мы, хлопчыкі, плачучы пайшлі з класа, а дзяўчынкі абляпілі настаўніцу і пачалі прасіць яе: «Даруйце нам, калі ласка. Мы ўсю паэму вывучым на памяць. Мы вас любім. Любім Беларусь і родную мову». Дзяўчынкі пачалі плакаць, цалуючы і абдымаючы настаўніцу. Гэта была субота. У панядзелак амаль усе паэму «Курган» ведалі на памяць».

У канцы чэрвеня 1941 года Алесь з сябрамі убачыў каля рэчкі на сенажаці савецкага салдата. Дзеці пачалі будзіць салдата, але ён не рэагаваў на іх старанні дапамагчы яму. Пра гэты факт сказалі Веры. Вера ўзяла хлеба, сала, паляндвіцы і прыбегла з Алесем на дарогу, па якой адступалі савецкія танкі. Вера з братам сталі сярод дарогі, і танк, які ехаў, спыніўся. Адчыніўшы люк, вайсковец закрычаў: «Ты што, не бачыш, што мы адступаем? Яшчэ і хлопчыка пад гусеніцы падстаўляеш. Сыдзі з дарогі!» — «Не сыду!» — закрычала Вера. «Чаму?» — здзівіўся вайсковец. «Там хворы салдат. Забярыце яго, бо немцы расстраляюць», — папрасіла Вера. Вайсковец паслухаўся і праз люк апусціў салдата ў танк, а сам сеў на машыну зверху. Так яны і паехалі адступаць.



У 1943 годзе да Белакозаў зайшоў нехта Карпук і пачаў агітаваць Веру, каб яна ехала на з'езд у Беласток і ўступіла ў Саюз беларускай моладзі. Ён заходзіў і да Дзімы Жалезняковіча. Але Вера адмовілася. Яна сказала, што каб была здаровая, то абавязкова паехала б і паглядзела б, што гэта за Саюз. Але каб дабрацца да Беластока, трэба было пехатой ісці да Саколкі, але яна з-за хваробы не прайшла б і некалькі кіламетраў.

У Беласток тады паехаў яе сябра Дзіма Жалезняковіч, які ўступіў у Саюз беларускай моладзі, потым вучыў дзетак у беларускай школе. Пасля вайны ён за гэта атрымае 10 гадоў Сібіры.

Калі скончылася вайна, Вера Белакоз працавала настаўніцай у Гудзевіцкай школе, дзе па-ранейшаму выхоўвала беларускіх патрыётаў. Праўда, яе часта наведвалі супрацоўнікі КДБ. Аднойчы прыехаў кадэбэшнік, які быў даволі адукаваным чалавекам. Вось яму Вера Белакоз і не пабаялася сказаць праўду ў вочы, што працуюць яны ўсе дарам, што яна за месячную зарплату можа купіць толькі восем кілаграмаў збожжа, якіх хапае на тое, каб пракарміць год тры курыцы, а есці самой трэба, старэнькай матулі, брату, які вучыцца ў Ваўкавыску ў восьмым класе і плаціць за вучобу 150 рублёў за год. Вера абуралася, што ў школе мала гадзін на беларускую мову, што ўстановы навадняюцца рускімі, што старшыня сельсавета — рускі, дырэктар школы — руская, сакратар партыйнай арганізацыі — рускі. Што казала Вера, кадэбэшнік запісваў у пратаколы, але, відаць, занатоўваў не ўсё. Дый потым вяскоўцы прасілі яго не арыштоўваць Веру.

Супрацоўнік КДБ аказаўся на дзіва сумленным чалавекам, таму што Веру больш ніколі КДБ не чапала.

28 траўня 1948 года ў Гудзевіцкай школе а дзявятай гадзіне меў пачацца экзамен па матэматыцы ў чацвёртым класе. Прыехаў інспектар раённага аддзела адукацыі Стольнікаў. Седзячы каля школы, ён запытаўся ў дырэктара школы Барыса Кофмана:

— А почему все ученики и учителя плачут, они страшно боятся экзаменов?

— Сёння ноччу памерла наша найлепшая настаўніца, усе яе шкадуюць… — адказаў дырэктар.

— А она местная или восточница? — далей пытаецца Стольнікаў.

— Не, тутэйшая, шчырая беларуская патрыётка, — адказвае Кофман.

— Да что б они, эти западники, все передохли — я был бы счастлив, — зрываецца інспектар.

Праз некалькі гадзін, напіўшыся, Стольнікаў паехаў на Ваўкавыск.

Калі хавалі Веру Белакоз, быў прыгожы, цёплы, веснавы дзень. На пахаванне сабралася сотні людзей. Дзяўчыну пахавалі на вясковых могілках у Гудзевічах.

Калі ўспамінае сваю родную сястру Веру Белакоз заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь Алесь Мікалаевіч Белакоз, у яго на вачах з'яўляюцца слёзы: «Верачка ўвесь час думала, каб прынесці найбольш славы, дабра, карысці, закаханасці ў сваю Бацькаўшчыну».





## Сябры Беларускага студэнцкага саюза

Гэтаму рэдкаму, гістарычнаму здымку больш за 80 гадоў. На ім сфатаграфаваны ўрад Беларускага студэнцкага саюза (БСС) Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя ў 1932 годзе. Беларускі студэнцкі саюз насамрэч існаваў у Віленскім універсітэце з 1920 года. Менавіта тады студэнты-беларусы Віленскага ўніверсітэта заснавалі Гурток студэнтаў-беларусаў, які ў 1921 годзе стаў называцца Беларускі студэнцкі саюз. Яго заснавальнікамі былі Браніслаў Туронак, Антон Абрамовіч, Францішак Пяткевіч, Тодар Куніцкі і Мікалай Марцінчык. Усе яны з'яўляліся студэнтамі медыцынскага факультэта ўніверсітэта. Старшынёй быў абраны Антон Абрамовіч.

Беларускі студэнцкі саюз праводзіў культурна-асветніцкую дзейнасць, даваў пазыкі і стыпендыі сваім сябрам, якія былі з бедных сем'яў. Пры саюзе існаваў славуты хор Рыгора Шырмы, у якім спявалі пераважна студэнты і які адзін час называўся «Беларускі хор пры Беларускім студэнцкім саюзе». Існавалі там і курсы беларускай мовы, беларусазнаўства, кааперацыі, дзейнічала сталоўка «Беларуская сытніца».



БСС прымаў актыўны ўдзел у самакіраванні ўніверсітэта і ў вырашэнні шматлікіх пытанняў універсітэцкага жыцця. Беларускі студэнцкі саюз быў самай значнай і буйной беларускай арганізацыяй у Віленскім універсітэце, пры гэтым і самай трывалай, праіснаваўшы да моманту скасавання самога ўніверсітэта. За ўвесь час існавання саюза яго сябрамі былі каля 300 асоб, розных па нацыянальнасці, але найперш беларусаў.

А цяпер вернемся да фотаздымка. На ім злева направа сядзяць Эма Залкінд, Эрвін Кашмідэр, Марыя Мілюць, Станіслаў Станкевіч. Стаяць злева направа Янка Хвораст, Мар’ян Пецюкевіч і Хведар Ільяшэвіч. Лёс гэтых людзей склаўся па-рознаму. Пра адных мы ведаем шмат, пра іншых — амаль нічога.

Пра Эму Залкінд вядома толькі, што яна па нацыянальнасці была яўрэйкай, выкладала ва ўніверсітэце гісторыю. Але заўсёды падтрымлівала беларусаў, прымала ўдзел у розных мерапрыемствах, якія праводзіў БСС.

Кіраўніцтва ўніверсітэта імкнулася кантраляваць дзейнасць студэнцкіх таварыстваў. З гэтай мэтаю сенат выдаваў спецыяльныя пастановы, апроч якіх існавалі і адмысловыя «Указанні ўніверсітэцкіх улад па кантролі за дзейнасцю студэнцкіх арганізацый». Паводле гэтых дакументаў, за кожным студэнцкім таварыствам быў замацаваны куратар з ліку ўніверсітэцкіх выкладчыкаў, якога зацвярджаў сенат. Куратар сачыў за тым, каб дзейнасць студэнцкага таварыства адпавядала закону і статуту. Ён жа выконваў функцыі апекуна студэнцкай арганізацыі, прадстаўляў яе інтарэсы перад універсітэцкімі ўладамі. Куратарамі БСС былі вядомыя і паважаныя не толькі ў Вільні, але і ва ўсё Польшчы ды за яе межамі прафесары Станіслаў Уладычка, Эрвін Кашмідэр, Ежы Гопен.

Эрвін Кашмідэр, які сядзіць на здымку другі злева, хоць і быў немец па паходжанні, але не заставаўся ўбаку ад праблем беларускай моладзі. Будучы доктарам славістыкі, ён мог нават з навуковага гледжання разглядаць беларускае пытанне. Эрвін Кашмідэр актыўна наведваў пасяджэнні праўлення арганізацыі, куратарам якіх ён быў, разам з беларускімі студэнтамі перажываў іх поспехі і праблемы. Ён шчыра апекаваўся справамі саюза, прыкладаў усе свае намаганні на тое, каб аб’ектыўна знаходзіць выйсце ў канфліктных сітуацыях, якія ўзнікалі часам паміж сябрамі беларускіх студэнцкіх арганізацый. І толькі тады, калі Эрвін Кашмідэр пераехаў з Вільні ў Мюнхен на сталае месца жыхарства, быў вымушаны пакінуць сваё куратарства над БСС. Эх, знайсці б у Мюнхене сёння дзяцей ці ўнукаў Кашмідэра, а раптам ён пакінуў успаміны пра Віленскі ўніверсітэт, Беларускі студэнцкі саюз і фотаздымкі…



Марыя Мілюць, якая сядзіць злева ад Эрвіна Кашмідэра, была родам з Навагрудскага павета. Гэта старэйшая сястра паэта Алеся Мілюця (1908–1944), які загінуў у гады Другой сусветнай вайны ва Усходняй Прусіі.

Побач з Марыяй Мілюць — Станіслаў Станкевіч (1907–1980) — беларускі літаратуразнавец, грамадска-культурны дзеяч, публіцыст, крытык. Скончыў Віленскую беларускую гімназію і Віленскі ўніверсітэт, дзе ў 1933 годзе абараніў магістарскую дысертацыю на тэму «Беларуская стыхія ў творах Элізы Ажэшкі». У 1936 годзе за працу «Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі» атрымаў ступень доктара філасофіі ў галіне польскай і славянскай літаратуры. Падчас навучання ва ўніверсітэце прымаў удзел у Беларускім студэнцкім саюзе, рэдагаваў «Крыніцу» і «Студэнцкую думку», з’яўляўся стваральнікам і старшынёй універсітэцкага Таварыства прыяцеляў беларусаведы. Рабіў шматлікія публікацыі на тэмы беларускай літаратуры ў Віленскай беларускай прэсе.

Трох прыгожых хлопцаў, якія стаяць, адразу пазнаюць тыя, хто цікавіцца нашай гісторыяй. Гэта Янка Хвораст, Мар’ян Пецюкевіч і Хведар Ільяшэвіч.

Беларускі танцоўшчык, балетмайстар, збіральнік беларускага фальклору, заслужаны работнік культуры Беларусі Янка Хвораст (1902–1983) быў родам з Пружаншчыны.

Навучаўся ў Віленскай беларускай гімназіі, дзе і распачаў творчую дзейнасць як саліст танцавальнай групы хору славянскай песні. Пасля паступіў у Віленскі ўніверсітэт, дзе быў адным з кіраўнікоў музычна-драматычнай секцыі Беларускага студэнцкага саюза. Адначасова вучыўся ў прыватнай школе балетнага майстэрства. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР з'яўляўся кіраўніком харэаграфічнай групы Беларускага ансамбля песні і танца пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы, а таксама салістам балета Беларускай філармоніі.

Папулярны заходнебеларускі паэт 1930-х гадоў Хведар Ільяшэвіч меў Божы дар. Ён скончыў Віленскую беларускую гімназію і гістарычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. У 26 гадоў стаў магістрам філасофіі за дысертацыю «Друкарня дома Мамонічаў у Вільні». Вершы і празаічныя абразкі пачаў пісаць рана. Друкаваў іх у «Студэнцкай думцы», «Беларускай ніве», «Крыніцы». У 1922 годзе ў Вільні выйшаў яго першы паэтычны зборнік «Веснапесьні». Пасля свет пабачылі яшчэ два — «Зорным шляхам» (1932) і «Захварбаваныя вершы» (1936). Пры жыцці ў Хведара Ільяшэвіча выйшла яшчэ адна кніжачка пра жыццё і літаратурную творчасць Ядвігіна Ш. Вось і ўсё, што паспеў зрабіць ён за свае 38 гадоў (загінуў у аўтамабільнай катастрофе ў Германіі ў 1948 годзе). Ягоныя шматлікія апавяданні, крытычныя артыкулы, рэцэнзіі і пераклады раскіданы па заходнебеларускіх выданнях 1920–1940-х гадоў.





## Трагічны лёс «узвышаўцаў»

Паглядзіце на гэты фотаздымак. Ён зроблены быў у Мінску ў 1929 годзе. Якія прыгожыя, маладыя і таленавітыя беларускія хлопцы на ім сфатаграфаваны! Гэта яны стварылі ў 1926 годзе беларускае літаратурна-мастацкае згуртаванне «Узвышша» — аб'яднанне беларускіх пісьменнікаў, якое праіснавала да снежня 1931 года. Аб'яднанне выдавала літаратурны часопіс «Узвышша» (1927–1930), зборнікі творчасці сваіх сяброў.

На здымку (злева направа сядзяць): Язэп Пушча, Адам Бабарэка, Уладзімір Дубоўка, Кузьма Чорны, Змітрок Бядуля, Кандрат Крапіва. Стаяць (злева направа): Максім Лужанін, Сяргей Дарожны, Антон Адамовіч, Тодар Кляшторны, Уладзімір Жылка, Васіль Шашалевіч і Пятро Глебка. Старшынёй «Узвышша» быў Кузьма Чорны, намеснікам — Кандрат Крапіва, сакратаром — Адам Бабарэка.

Самы старэйшы сярод гэтых хлопцаў быў Змітрок Бядуля, яму тады споўнілася 36 гадоў, а самымі маладымі тады былі Сяргей Дарожны, Максім Лужанін і Антон Адамовіч — яны мелі толькі па 20 гадоў.



Да 1929 года гэтыя хлопцы ўжо павыдавалі свае цудоўныя і арыгінальныя кнігі, якія да сённяшніх дзён застаюцца ўзорам сапраўднай беларускай літаратуры. Хораша і таленавіта ішоў у літаратуру Язэп Пушча. У 1925 годзе ён выдае першы зборнік паэзіі пад выдатным загалоўкам «Раніца рыкае», потым выходзяць кнігі вершаў «Vita» (1926), «Дні вясны» (1927), «Песні на руінах» (1929). Даўно я не чытаў радкоў, падобных да гэтых (Язэпа Пушчы):

Раніцу шчэбет пільнуе
У лісці жоўта-зялёным.
Туліцца жнівень пад пуняй
З ношкай аўсянай саломы…

Была падрыхтаваная да выдання кніга «Мой маніфест» (схаваная ў вуллі, а затым, пасля арышту брата, спаленая сястрой Лёдзяй). Быў падрыхтаваны да друку, але таксама не выйшаў і зборнік лірыкі «Грэшная кніга». У канцы 1920-х ускладніліся пошукі паэта, у некаторых яго творах прагучалі песімістычныя ноты.

Летам 1930 года Язэп Пушча быў арыштаваны ДПУ БССР па справе «Саюза вызвалення Беларусі» і асуджаны пазасудовым органам НКУС 10 красавіка 1931 года як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Тэрмін адбываў у Чабаксарах, Шадрынску. Летам 1935 года яго вызвалілі. У 1937–1941 гадах жыў у Мурамскім раёне Уладзімірскай вобласці, настаўнічаў. У гады Другой сусветнай вайны быў на фронце. Пасля зноў жыў у Мурамскім раёне. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага Суда БССР 30 студзеня 1956 года. Вярнуўся з сям'ёй у Беларусь у 1958 годзе. Да апошніх дзён жыў у Мінску. Памёр у 1964 годзе.

Адам Бабарэка пісаў вершы, апавяданні, распрацоўваў пытанні літаратуразнаўства і эстэтыкі, даследаваў літаратурны працэс. У 1925 годзе ён выдаў зборнік «Апавяданні», рыхтаваў новыя кнігі. Але 25 ліпеня 1930 года яго арыштоўваюць у Мінску па справе «Саюза вызвалення Беларусі» і асуджваюць да 5 гадоў ссылкі. Год прабыў у мінскай турме, а потым адбываў ссылку ў г. п. Слабадское Кіраўскай вобласці, з канца 1934 года — у Кіраве (Вятка), працаваў бухгалтарам. Тэрмін ссылкі быў падоўжаны на 2 гады ў адміністрацыйным парадку. Паўторна арыштаваны 24 ліпеня 1937 года ў рамках сфабрыкаванай маштабнай акцыі па рэпрэсаванні беларусаў, сасланых АДПУ ў пачатку 1930-х гадоў. Паводле пастановы «тройкі» па Кіраўскай вобласці ад 15 лютага 1938 года атрымаў 10 гадоў зняволення ў лагерах. Пакаранне адбываў у пасёлку Княж-Пагост Комі АССР у Паўночным чыгуначным лагеры НКУС, дзе памёр у лагернай бальніцы.



Уладзімір Дубоўка — адзін з таленавітых «узвышаўцаў». Да 1929 года з друку выйшлі зборнікі вершаў «Строма» (1923), «Трысцё» (1925), «Credo» (1926), «Наля» (Масква, 1927). Яго арыштавалі летам 1930 года ў Крамлі па справе «Саюза вызвалення Беларусі» і асудзілі на 5 гадоў высылкі ў Яранск. У ліпені 1935 года тэрмін высылкі быў падоўжаны на 2 гады. У лістападзе 1937 года Уладзіміра Дубоўку асудзілі на 10 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў у Кіраўскай вобласці, Чувашыі, на Далёкім Усходзе. У зняволенні літаратурнай працай не займаўся. У 1949 годзе яго зноў арыштоўваюць у Грузіі. Асобай нарадай МДБ СССР у красавіку 1949 года асуджваюць на 25 гадоў зняволення. Канчаткова быў рэабілітаваны 15 лістапада 1957 года. Пасля рэабілітацыі жыў у Маскве.

Уладзімір Дубоўка яшчэ ў 1925 годзе напісаў класічны верш «О Беларусь, мая шыпшына». Гэты верш сёння ведае кожны свядомы беларус. Ён пачынаецца так:

О Беларусь, мая шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цвет!
У ветры дзікім не загінеш,
Чарнобылем не зарасцеш…

Кажуць, што Уладзімір Дубоўка, калі жыў у Маскве, трымаў на балконе чамаданчык са сталярскім рыштункам,

які дапамагаў паэту зарабляць на кавалак хлеба на Далёкім Усходзе і ў Краснаярскім краі. Не выкідваў і не забываў — думаў, што яшчэ спатрэбіцца…

Кузьма Чорны пражыў 44 гады. У 1920-х гадах ён выдаў кнігі апавяданняў «Апавяданні» (1925), «Срэбра жыцця» (1925), «Па дарозе» (1926), «Пачуцці» (1926), «Хвоі гавораць» (1926), «Вераснёвыя ночы» (1929). Яго арыштавалі 14 кастрычніка 1938 года. Прасядзеў у Мінскай турме 8 месяцаў, з іх 6 — у камеры-адзіночцы. Быў катаваны. Вызвалены летам 1939 года. Тры новыя раманы, аб'ёмнае літаратуразнаўчае даследаванне паэмы Я. Коласа «Новая зямля» згарэлі ў першыя дні вайны. У адным з лістоў да аўтара гэтага матэрыялу Сяргей Панізьнік напісаў: «Вунь нядаўна прачытаў: прыводзяць словы Кузьмы Чонага з допытаў, як ён на Купалу, Коласа бурчэў… Пасядзеў бы такі «даследчык» голай жопай на ножцы стула… Не магу спраўдзіць словы падглядчыка выпадковага, быццам бачыў пакінуты Лужаніным на машынцы тэкст чарговага даносу сакратара на свайго падапечнага… Тэксты прызнанняў з інквізітарскіх камер — чорная энцыклапедыя, дзе тэксты прымушаныя можна прабачыць. А вось добраахвотна-паслужныя даносы прачытаць бы. Чэшскія будзіцелі выхоўвалі анямечаны народ шпількамі пад рабро: «Народ мой! Я цябе люблю, таму маю права цябе ненавідзець». Вычытаў, што на душу насельніцтва Беларусь займае першае месца па рэпрэсаваных».

Найлепшы лёс з усіх «узвышаўцаў» выпаў на долю Кандрата Крапівы. Да 1929 года ён трымаў у руках свае кнігі сатыры і гумару «Асцё» (1925), «Крапіва» (1925), «Біблія» (1926), «Байкі» (1927). Кандрат Крапіва пражыў 95 гадоў, двойчы атрымліваў Сталінскую прэмію, Дзяржаўную прэмію СССР, стаў народным пісьменнікам Беларусі, акадэмікам. Паглядзіце на гэты фотаздымак. Кандрат Крапіва сядзіць неяк убаку ад усіх сваіх сяброў, здаецца, што ён неяк ад іх аддаляецца, саромеецца. Гляджу на здымак, і прыгадваецца верш Кандрата Крапівы, напісаны ў 1925 годзе. Ён



называецца «Язычок». Ці не пра сябе самога і свой язык паэт напісаў:

Вось дык ладзіць!
Вось дык гладзіць!
Вось дык ліжа!
Ніжай! Ніжай!
Яшчэ вазьмі
Вось тут лізні
Разоў ля ста,
Каля хваста.
Вось так! Вось так!
Дальбог мастак!
Што ні скажа —
Маслам мажа
З плеч да лытак.
Вось дык крытык!
Вось бы гэты язычок
Ў прыбіральню на цвічок!

Кандрат Крапіва выступаў супраць рэабілітацыі многіх беларускіх паэтаў, у тым ліку і «ўзвышаўцаў» — былых яго сяброў. Калі пасля 30 гадоў ростані Уладзімір Дубоўка прыехаў у Мінск і зайшоў у Саюз пісьменнікаў, дзе старшынёй быў Пятрусь Броўка, які патэлефанаваў Крапіве, што вярнуўся Дубоўка, Крапіва сказаў: «О, прыехаў… Ты ведаеш, аніяк не магу з ім спаткацца цяпер. Нарада ў Акадэміі. Разумееш… Ды і юбілейныя клопаты даймаюць…» Тады Пятрусь Броўка патэлефанаваў Максіму Лужаніну. Але той толькі сказаў: «Калі ласка, перадай маё вітанне. А пра сустрэчу… Папрасі на іншы раз. Цяпер аніяк не выпадае…» Пра гэта «спатканне» добра сказаў Алесь Пашкевіч у сваёй кнізе «Круг» (Мінск, 2006).

Максіма Лужаніна НКУС толькі трохі напалохаў. Ён быў арыштаваны ДПУ БССР 15 сакавіка 1933 года ў Мінску па справе «Беларускай народнай грамады» і, як «член контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі», высланы да двух гадоў ссылкі. Адпраўлены ў ссылку ў Марыінск

Кемераўскай вобласці, але праз некалькі месяцаў быў вызвалены і вярнуўся дадому. Паўстае пытанне: чаму яго так хутка вызвалілі? Міхась Скобла ў сваёй кнізе «Краса і сіла» згадвае, што «некаторыя даследчыкі, спасылаючыся на архіўныя дакументы, сцвярджалі, што М. Лужанін у тыя гады ў адносінах да сваіх калег-пісьменнікаў паводзіў сябе не лепшым чынам. Але зусім бязгрэшных тады было вельмі мала…»

Побач з Максімам Лужаніным стаіць мой зямляк са Слоніма паэт Сяргей Дарожны. Аднойчы ён прачытае свае паэтычныя радкі Кузьме Чорнаму. А пасля слоў «Беларусь больш не стане крыжам пры дарозе з Хрыстом распятым» Кузьма Чорны расчуліўся. Сяргей Дарожны быў арыштаваны ДПУ БССР 29 жніўня 1936 года і асуджаны на 8 гадоў пазбаўлення волі. Яго абвінавачвалі ў падрыхтоўцы замаху на першага сакратара ЦК КП(б)Б М. Гікалу, пра якога паэт збіраў матэрыялы для кнігі. Юнака адправілі на будаўніцтва Камсамольска-на-Амуры, дзе ён і загінуў у канцлагеры Ніжне-Амурскі ў 1943 годзе.

Калі б Антон Адамовіч пасля Другой сусветнай вайны не з’ехаў на Захад, праз пэўны час ён таксама апынуўся б у сталінскіх лагерах. Хаця іх зведаў яшчэ да вайны. 25 ліпеня 1930 года быў арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Пастановай Калегіі АДПУ СССР ад 10 красавіка 1931 года яго выслалі ў Глазаў, у 1934 годзе перавялі ў Вятку (Кіраў), дзе юнак працаваў у навучальных установах. Вызвалілі толькі праз сем гадоў. У 1938 годзе Антон Адамовіч вярнуўся ў Мінск.

У канцы 1943 года ён пераехаў у Германію. Працаваў у газеце «Раніца» (Берлін). У лагеры для перамешчаных асоб выдаваў газету «Ведамкі», «Бацькаўшчына», часопісы «Конадні» і «Сакавік». З 1960 года Антон Адамовіч жыў у ЗША, дзе і памёр ва ўзросце 89 гадоў.

Паводле ўспамінаў Паўла Пруднікава, Тодара Кляшторнага называлі ў свой час «беларускім Ясеніным» праз падабенства стылю і настрою вершаў, хоць у той жа час у творчасці гэтых двух паэтаў мелася і нямала адрозненняў. Тодара Кляшторнага закатавалі ў мінскай турме НКУС, калі яму было толькі 34 гады. Беларускі эмігрант з Аўстраліі Сымон Шаўцоў згадваў, што Тодар Кляшторны часта насіў з сабою ў клетцы канарэйку, якую вучыў размаўляць. Рабочыя-муляры ведалі, што ён паэт. З рыштаванняў забачаць яго і гавораць: «Вунь ідзе пралетарскі паэт!» Пыталіся: «Як спявае канарэйка?» — «Не спявае, а плачыць у клетцы канарэйка», — адказваў Тодар.



Да 1929 года ў Змітрака Бядулі выйшлі з друку кнігі паэзіі «Пад родным небам» (1922), «Буралом» (1925), «Паэмы» (1927), зборнікі апавяданняў «На зачарованых гонях» (1923), «Апавяданні» (1926), «Выбраныя апавяданні» (1926), «Танзілія» (1927), «Дэлегатка» (1928). Усе «ўзвышаўцы» вельмі любілі і паважалі Змітрака Бядулю — яўрэя па нацыянальнасці, але вялікага беларускага літаратара і сябра. Як згадвае Міхась Скобла, смерць у Змітрака Бядулі была трагічнай. У 1941 годзе эшалон з бежанцамі спыніўся на станцыі паблізу горада Уральска. Пісьменнік выбег па кіпень і не паспеў ускочыць на прыступку вагона адыходзячага цягніка. Кінуўся бегчы наўздагон і — не вытрымала сэрца, памёр проста на рэйках. Там яго ва Уральску і пахавалі.

Летам 1930 года Уладзіміра Жылку арыштавала пад Мінскам ДПУ БССР па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Пры вобыску на кватэры ў яго забралі 27 кніг, шмат пісьмаў і рукапісаў. А пастановай калегіі АДПУ ў 1931 годзе ён быў асуджаны на 5 гадоў ссылкі, якую адбываў ва Уржуме Кіраўскай вобласці, дзе працаваў загадчыкам гаспадаркі і выкладчыкам літаратуры ў медыцынскім тэхнікуме. Памёр ад туберкулёзу лёгкіх.

Уладзімір Жылка пахаваны на мясцовых могілках Уржума. Хацеў быць пахаваным у Вільні, горадзе, які вельмі любіў:

О Вільня, крывіцкая Мекка!<br>О места, — ўсё цуд, хараство!

Дзяржаўная думнасць павекаў,
Узнята рашуча брыво!..

Месца пахавання Васіля Шашалевіча невядомае. Ён двойчы быў арыштаваны сталінскімі халуямі і знішчаны далёка ад Беларусі. Паэт Сяргей Грахоўскі прыгадваў: «З Васілём Шашалевічам часта апыналіся за адным сталом, разам выходзілі, гаварылі, непрыкметна спускаліся па Камсамольскай вуліцы на Нямігу і даходзілі аж да яго дома на вуліцы Вызвалення ў Мінску. Гэтыя праходкі для мяне былі найлепшаю школаю: Васіль Антонавіч мне расказваў пра Шэкспіра і Ібсэна, Астроўскага, Сухава-Кабыліна, натхнёна чытаў вершы Генрыха Гейне і Баратынскага…» Васіль Шашалевіч напісаў п’есы «Апраметная» (другая назва «Зруйнаваная цемра», 1925), «Змрок» (1927), «Трэцяя сіла» (1926–1928, не захавалася), «Воўчыя ночы» (1927–1929) і шмат іншых.

Пятру Глебку пашанцавала ў жыцці амаль так, як і Кандрату Крапіве. Ён таксама не быў рэпрэсаваны. Як член дэлегацыі Беларускай ССР Пятро Глебка неаднаразова ўдзельнічаў у рабоце сесій Генеральнай Асамблеі ААН у Нью-Ёрку, дзе некалі нават сустрэўся з Антонам Адамовічам, што не ведаў нават НКУС. Пра што яны размаўлялі, сёння проста можна здагадвацца. Паэт у свой час узначальваў Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору (ІМЭФ) АН БССР (1957–1969), а затым усё Аддзяленне грамадскіх навук. Ён заўсёды клапаціўся аб развіцці роднай мовы.

Вось такі няпросты і трагічны лёс былых «узвышаўцаў». Многія з іх пражылі ўсяго 30–40 гадоў. Лёс іх раскінуў па былой вялікай савецкай краіне і многіх не вярнуў на бацькаўшчыну. Яны шмат маглі зрабіць для Беларусі, для роднай літаратуры, культуры, але не змаглі. Толькі гэты стары здымак нам сёння нагадвае той час, калі беларускія хлопцы-літаратары былі разам і былі шчаслівымі.



# Лёс Міхася Петрыкевіча



*Міхась Петрыкевіч, 1960 г.*

Кніга краязнаўчых артыкулаў Міхася Петрыкевіча і ўспамінаў пра яго павінна была выйсці з друку даўно, дый нават і не адна. Але такой магчымасці не ўзнікла: ні пры жыцці Міхася Петрыкевіча, ні пасля яго смерці. І толькі ў 2013 годзе, калі грамадскасць Дзятлаўшчыны адзначыла 100-гадовы юбілей Міхася Фёдаравіча Петрыкевіча, з’явілася ідэя сабраць краязнаўчыя артыкулы гэтага чалавека пад адну вокладку і выдаць іх асобным выданнем. На маю думку, кніга «Народжаны вечнасць тварыць» (Мінск, 2013) атрымалася. Яна вяртае з небыцця яшчэ адно імя чалавека, які жыў з намі побач у ХХ стагоддзі, выхоўваў малодшае пакаленне, вывучаў родны край, ствараў музеі, пісаў пра тое, пра што ў 1960–1970-х гадах мог напісаць настаўнік, краязнавец, гісторык, пра што тады мог выказаць свае думкі, апублікаваць іх. Вядома ж, калі б сёння Міхась Фёдаравіч жыў і пісаў, то гэта былі б іншыя артыкулы і краязнаўчыя даследаванні і па-іншаму ён распавядаў бы іх людзям. Тым не менш і тое, што засталося нашчадкам ад творчай спадчыны аўтара гэтай кнігі, заслугоўвае ўвагі, развагі, памяці.

Міхась Фёдаравіч Петрыкевіч быў унікальным чалавекам, але найперш вельмі таленавітым і працалюбівым. Любоў да людзей, да роднай зямлі прывілі яму яшчэ бацькі ў вёсцы Падкасоўе, што на Навагрудчыне. Там ён і з’явіўся на свет 31 ліпеня 1913 года. Бацька меў толькі 5 гектараў зямлі, таму асаблівага дастатку не было, але жылі не без хлеба. Трывожыла, аднак, думка, як будуць жыць далей, калі прыйдзецца на пяцярых дзяцей падзяліць бацькавы загоны на пяць частак. Можа, таму і вырашылі ў сям’і, каб

хаця адзін з іх здабыў адукацыю і адмовіўся ад спадчыны. Гэты выбар дастаўся Міхасю.

У 1925 годзе пасля заканчэння чатырохкласнай пачатковай школы бацька адвозіць сына ў Адамполь (былы маёнтак графа Храптовіча), дзе польскія ўлады адкрылі двухгадовую школу для падрыхтоўкі кандыдатаў у настаўніцкую семінарыю. У гэтай школе вучыліся дзеці небагатых паноў, чыноўнікаў-палякаў, было некалькі і сялянскіх дзяцей-беларусаў.

Падчас вучобы ў былым маёнтку Храптовічаў да Міхася Петрыкевіча прыходзіць сумная вестка — памёр бацька. Хлопчык вяртаецца ў родную вёску. Але сям'я вырашае, што здольны да навукі Міхась павінен працягваць вучобу. І ён пасля школы паступае ў Навагрудскую беларускую гімназію.

Вучыўся юнак добра. Але ў апошнім класе далучыўся да камсамольцаў Заходняй Беларусі, за што Навагрудскі акруговы суд прыгаварыў яго да трох гадоў зняволення і пазбавіў на 10 гадоў усіх грамадзянскіх правоў.

У 1934 годзе Міхась Петрыкевіч выйшаў на волю, аднак вучыцца не меў права, ды і на працу не бралі. Таму падаўся ажно ў Налібоцкую пушчу. Уладкаваўся дрывасекам, але



*Навагрудская беларуская гімназія. Сядзіць трэці злева ў першым радзе Міхась Петрыкевіч, 1929 г.*



і там непрыкметна займаўся агітацыйна-масавай работай сярод лесарубаў і возчыкам лесу.

У верасні 1939 года ў Заходнюю Беларусь прыходзіць савецкая ўлада. Міхась Петрыкевіч вяртаецца з Налібоцкай пушчы і едзе ў Навагрудак. Там працуе загадчыкам аднаго са школьных інтэрнатаў першай Навагрудскай школы, а ў вольны час рыхтуецца да паступлення ў інстытут. А ў 1940 годзе Міхась Петрыкевіч паступае на літфак Беластоцкага педінстытута. У сваім хатнім архіве знайшоў згадку ўспамінаў пра сустрэчу Якуба Коласа і Янкі Купалы ў Беластоцкім педінстытуце. Гэтую згадку некалі мне даслаў сам Міхась Петрыкевіч. У пісьме Міхась Фёдаравіч прыгадваў наступнае: «Гэта было 14 кастрычніка 1940 года ў горадзе Беластоку. Я тады вучыўся ў Беластоцкім педінстытуце на літаратурным факультэце. Вялікай падзеяй у жыцці інстытута і маім асабістым жыцці была нечаканая першая сустрэча з народнымі паэтамі Беларусі Янкам Купалам і Якубам Коласам. У Беластоку тады праходзіла выязная сесія АН БССР. На сесіі прысутнічалі і народныя песняры. Калі мы пра гэта даведаліся, то аднадушна вырашылі арганізаваць у інстытуце сустрэчу з паэтамі. Дырэкцыя інстытута падтрымала нашу ініцыятыву. На хуткую руку мы падрыхтавалі невялікі канцэрт, выпусцілі спецыяльны нумар насценнай газеты.

14 кастрычніка пад вечар дэлегацыя студэнтаў, сярод якіх быў і я, адправілася ў памяшканне, дзе праходзіла сесія. Калі літаратарам перадалі нашу просьбу, то яны адразу пагадзіліся з намі сустрэцца. Мы крыху пачакалі. І раптам з прэзідыума выйшлі народныя паэты, ветліва прывіталіся, і мы накіраваліся ў педінстытут. Нашаму шчасцю не было канца. Трэба было ісці не менш чым кіламетр, і ўвесь гэты час мы маглі свабодна гутарыць з любімымі паэтамі. Вечар быў цёплы і ціхі. Ападала лісце з ліп і каштанаў. Вясёлая грамада абступіла паэтаў, мы ішлі гурбою. Янка Купала ўвесь час жартаваў, а мы смяяліся.

Я ішоў побач з Якубам Коласам. Ён цікавіўся нашым мінулым, пытаўся адкуль мы родам. Калі даведаўся, што я

з Наваградчыны, то сказаў: «Добра ведаю Наваградчыну. Слаўныя там людзі, прыгожая прырода. У мяне было многа блізкіх таварышаў з Наваградчыны».

Актавая зала была ўжо поўнай, калі мы прыйшлі. Паэтаў сустракалі дружнымі і доўгімі апладысментамі. Песняры раскланяліся, распрануліся і селі за стол прэзідыума. Кароткую прамову сказаў супрацоўнік АН БССР Барысенка В. В., які суправаджаў паэтаў. Потым выступілі з чытаннем сваіх вершаў Янка Купала і Якуб Колас. Што яны чыталі — я ўжо не памятаю. Мы як зачараваныя слухалі іх, запаміналі міміку, жэсты. Асабліва запомнілася, што голас Якуба Коласа быў гучны і звонкі.

Паэты падзякавалі за цёплы прыём, пажадалі нам поспехаў у вучобе, напомнілі пра вялікую адказнасць настаўнікаў перад народам, пра тое, што заходнія вобласці чакаюць нас, каб ліквідаваць адсталасць народа, павысіць яго культуру.

У перапынку мы папрасілі падпісаць нам кнігі. Паэты разгубіліся, бо ў іх не было з сабой кніг. Калі ж яны даведаліся, што мы самі купілі іх кнігі, — ахвотна падпісалі на памяць аб сустрэчы некалькі дзясяткаў сваіх кніг. Янка Купала падпісаў мне свой зборнічак «Над ракой Арэсай», а Якуб Колас — зборнік выбраных твораў.

Калі пачалася вайна, я вырваў тытульныя лісты з аўтографамі і насіў іх з сабой. Але на фронце, дзе я быў, яны згубіліся. Янку Купалу я больш ніколі ў жыцці не бачыў, а Якуба Коласа сустракаў некалькі разоў пасля вайны. Аднак першая сустрэча ў Беластоку была самая яркая, самая хвалюючая і запомнілася мне назаўсёды».

Падчас вучобы ў Беластоку Міхась Петрыкевіч працаваў і настаўнікам па ліквідацыі бязграматнасці на абцасавай фабрыцы ў горадзе Беластоку. Сын Міхася Петрыкевіча Валерый Міхайлавіч перадаў мне цікавы дакумент на рускай мове. Гэты дакумент адрасаваны быў у Навагрудскі раённы аддзел народнай адукацыі ад грамадзяніна Зазекі Іосіфа Васільевіча з Мінска. У заяве спадар Зазека паведамляў і пацвярджаў наступнае: «Пацвярджаю, што на самай справе гр-н Петрыкевіч Міхаіл Фёдаравіч падчас вучобы ў Беластоцкім педагагічным інстытуце па накіраванні Беластоцкага гарана працаваў з верасня 1940 года па красавік 1941 года настаўнікам па ліквідацыі бязграматнасці на абцасавай фабрыцы ў горадзе Беластоку. Я ў гэтыя гады працаваў намеснікам дырэктара па навучальнай частцы Беластоцкага педінстытута і даваў рэкамендацыю ў гарана для прыёму Петрыкевіча М. Ф. на працу настаўнікам па ліквідацыі бязграматнасці, што і пацвярджаю сваім подпісам. І. Зазека».



Калі пачалася Другая сусветная вайна, Міхась пакінуў Беласток і вярнуўся на радзіму. Аднойчы ён атрымлівае загад з Любчанскай управы з'явіцца на работу, а калі не з'явіцца, то адправяць у Германію альбо расстраляюць. Вядома ж, з'явіўся. Стаў працаваць у раённым дарожным аддзеле рахункаводам. Адначасова выконваў некаторыя заданні падпольнай патрыятычнай групы праз майстра Францкевіча з вёскі Пліса, перасылаў патрэбныя звесткі партызанам. Нягледзячы на рызыку, залічыў фіктыўна на дарожныя работы звыш 150 чалавек, якім пагражала высылка ў Германію. Пазней удалося наладзіць сувязь з тым самым намеснікам дырэктара Беластоцкага педінстытута Іосіфам Засекам, які працаваў у падполлі ў Свіслацкім раёне.

Летам 1944 года Міхася Петрыкевіча забралі служыць у войска. У 1946 годзе ён дэмабілізаваўся і адразу паступіў на другі курс Мінскага педінстытута. Стаў працаваць у Карэліцкай школе, а потым быў пераведзены на пасаду завуча ў Валеўскую сярэднюю школу Навагрудскага раёна. Там у Міхася Фёдаравіча ўзнікла думка стварыць школьны краязнаўчы музей. Дапамагаў яму ў гэтым і настаўнік Уладзімір Урбановіч. Усё пачыналася з маленькага пакойчыка, з невялікай колькасці экспанатаў. Краязнаўчая праца захапіла не толькі настаўнікаў, але і ўсіх вучняў, якія актыўна падключыліся да збору звестак аб паходжанні роднай вёскі Валеўка, гісторыі развіцця і станаўлення школы, вядомых людзей вёскі і г. д. Так з'явіліся першыя экспанаты: грыфельная дошка, катомка, з якой хадзілі ў школу, падручнікі,

рэчы сялянскага побыту. Музей пачынаў пашырацца, а ў 1968 годзе яму было прысвоена званне народнага. Школьны музей у Валеўцы стаў вядомы на ўсю Беларусь, а далёка за межы Навагрудскага раёна разнеслася і чутка пра нястомнага настаўніка-краязнаўцу Міхася Петрыкевіча. Даведаліся пра Міхася Фёдаравіча і ў Дзятлаве. А аднойчы прыехалі адтуль яго «сватаць» да сябе. Цяжка было рушыць вопытнаму педагогу, які ўжо меў званне заслужанага настаўніка БССР (1965), з Валеўскай сярэдняй школы, таму і не адразу пагадзіўся на пераезд у Дзятлава. Але ўсё ж перамагла прага навізны, прага нязведанага. Таму з сям'ёй Міхась Петрыкевіч пераехаў у 1967 годзе ў Дзятлава і адразу пачаў шукаць матэрыялы, ездзіць па архівах і музеях, па вёсках раёна, дык так захапіўся пошукамі матэрыялаў для будучага Дзятлаўскага раённага музея, што ўжо ні аб чым іншым не мог думаць.

Пятро Чырко тады працаваў дырэктарам раённага Дома культуры (а цяпер ён — намеснік старшыні Дзятлаўскага райвыканкама), добра ведаў Міхася Петрыкевіча, падчас ягонага 100-гадовага юбілею ў Дзятлаўскім музеі прыгадваў: «Неяк у абедзенны перапынак прыбягае да мяне Міхаіл Фёдаравіч і кажа: "Паехалі хутчэй на хутар, там ёсць на паддашку жорны". Паехалі мы. А на вуліцы — снег, завіруха. Кажу: "Давай пачакаем трохі". — "Ды не, — кажа, — а раптам хто забярэ". Ледзьве прабіліся да хутар. А калі ўжо забралі тыя жорны, быў Міхась Фёдаравіч вельмі шчаслівы. Так радаваўся, нібы клад знайшоў. Потым кажа: "Пятро, гэта такая рэч!"»

Дзякуючы Міхасю Петрыкевічу 5 мая 1968 года ў Дзятлаве быў адкрыты Дзятлаўскі музей народнай славы. Пра свой музей і экспанаты ў музеі Міхась Петрыкевіч мог расказваць суткамі. Гэта было цікавейшае падарожжа па мінулай і сучаснай гісторыі Дзятлаўшчыны. Наведвальнікі слухалі і дзівіліся яго апантанасці і памяці. Ён ведаў гісторыю кожнага экспаната, адкуль і як ён трапіў у музей. А за многімі экспанатамі цягнуўся доўгі ланцужок людзей і падзей…



За сваё жыццё Міхась Петрыкевіч быў узнагароджаны шматлікімі дыпломамі, медалямі, ганаровымі граматамі. Дзякуючы нястомнай пошукавай і даследчай працы Міхасю Петрыкевічу ўдалося адкрыць новыя імёны, вярнуць і ўвекавечыць забытую славу некаторых людзей. З яго ініцыятывы былі ўстаноўлены многія помнікі і адкрыты мемарыяльныя дошкі (у прыватнасці, Ігнату Дварчаніну ў вёсцы Погіры), а вуліцам прысвоена імя героя ці знакамітага земляка. Вяртанне гэтых імёнаў не заўсёды было простым.

З 1967 года Міхась Петрыкевіч друкаваў у газетах і часопісах артыкулы на розныя краязнаўчыя тэмы. Вельмі шчыра сябраваў з беларускімі пісьменнікамі, асабліва з Уладзімірам Калеснікам, Уладзімірам Караткевічам, Янкам Брылём, Анатолем Іверсам, Фёдарам Янкоўскім, Янкам Скрыганам і многімі іншымі. Дзясяткі кніг з аўтографамі зберагаюцца ў Дзятлаўскім музеі і ў сына Валерыя Петрыкевіча дома ў Дзятлаве. «Міхасю Петрыкевічу — добраму сябру», — напісаў Янка Брыль на сваёй кнізе «Золак, убачаны здалёк» 11 мая 1979 года. На сваёй кнізе «Час і песні» Уладзімір Калеснік пакінуў такі аўтограф: «Міхаілу Фёдаравічу Петрыкевічу — па-сяброўску. У. Калеснік. 24 чэрвеня 1963 г.».

Каля 20 гадоў ён аддаў Дзятлаўшчыне, роднаму музею. А потым пераехаў жыць у Вільню да дачкі Святланы і да ўнукаў, хаця не парываў сувязяў з музеем, часта прыязджаў у Дзятлава, пісаў пісьмы, даваў парады, цікавіўся музейнымі справамі. А ў Вільні Міхась Фёдаравіч наведваў Таварыства беларускай культуры, бываў на ўсіх беларускіх мерапрыемствах… 6 сакавіка 1999 года яго не стала. Не стала светлага, таленавітага, шчырага беларуса, але засталіся ў Валеўцы і ў Дзятлаве яго музеі, па ўсім свеце жывуць і працуюць яго вучні, якіх ён любіў, а яны любілі і паважалі свайго Настаўніка…

2 жніўня 2013 года ў Дзятлаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі адзначылі 100-годдзе з дня нараджэння Міхася Петрыкевіча. Падчас ушанавання супрацоўнікі Дзятлаўскага райвыканкама пасмяротна занеслі яго імя ў ганаровую Кнігу Славы Дзятлаўскага раёна. Дакумент пра гэта і спецыяльны

кубак былі ўручаны сыну Валерыю Петрыкевічу. Дарэчы, гэта другі раз імя Міхася Петрыкевіча заносіцца ў раённую Кнігу Славы. Першы раз яго занеслі, але потым, як палітычна ненадзейнага чалавека, выкраслілі. І вось новае вяртанне шаноўнага педагога і краязнаўца ў Кнігу вялікіх людзей Дзятлаўшчыны. Справядлівасць, як кажуць, перамагла.

*2013*

## Чалавек маўклівага сэрца: Якуб Міско



*Якуб Міско з братам*

Калі я паступіў на першы курс Белдзяржуніверсітэта, у часопісе «Маладосць» (1980. № 9) з'явілася дакументальная аповесць «Было яно калісьці…» майго земляка, пісьменніка і журналіста Якуба Міско. Я купіў часопіс і на адным дыханні прачытаў гэтую аповесць. У ёй Якуб Міско цікава апісваў свае дзіцячыя і юнацкія гады, беларускую Вільню, дзе вучыўся і сталеў, а таксама шчыра пісаў пра родную Слонімшчыну. А дзесьці ў 1989 годзе яшчэ адзін мой зямляк, доктар гістарычных навук Васіль Мялешка прыслаў мне верш Якуба Міско, які называўся «Наперад». Гэты верш гісторык знайшоў у архіве, ён друкаваўся ў 1926 годзе ў падпольным часопісе вучняў Віленскай беларускай гімназіі. Я параіў Васілю Іванавічу даслаць верш Якуба Міско ў «ЛіМ», што ён і зрабіў. І 6 кастрычніка 1989 года верш «Наперад» Якуба Міско быў надрукаваны на адной са старонак тыднёвіка. Гэты верш у той час заклікаў моладзь да шчаслівейшай долі, да барацьбы за лепшае жыццё:

Наперад, да лепшае долі!
Наперад, да сонца, да зор!



Мы ў цемры не можам жыць болей,
Нам трэба святло і прастор!..

Якуб Міско нарадзіўся 1 чэрвеня 1911 года ў вёсцы Чамяры Слонімскага павета ў сялянскай сям'і. Вучыўся ў пачатковай школе ў бежанстве ў Расіі.

А калі сям'я вярнулася ў Чамяры ў 1921 годзе, паступіў у Віленскую беларускую гімназію, адкуль яго за рэвалюцыйную дзейнасць некалькі разоў выганялі. Друкавацца пачаў у 1926 годзе ў падпольным часопісе вучняў гімназіі «Наперад». Публікаваўся ў польскіх газетах. У 1932–1934 гадах працаваў у галоўным сакратарыяце арганізацыі «Змаганне», а потым у рэдакцыі віленскай «Беларускай газеты» (легальнае выданне КПЗБ). На працягу 1930-х гадоў Якуб Міско неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі, некалькі гадоў правёў у турмах. У лістападзе 1939 года разам з братам быў арыштаваны НКВД. Але дзякуючы ўмяшанню П. Панамарэнкі, яго вызвалілі. Пасля вызвалення прыехаў у Ліду, дзе да пачатку вайны быў літсупрацоўнікам лідскай раённай газеты «Уперад».

Калі пачалася вайна, Якуба Міско забралі на фронт. Спачатку быў радавым разведчыкам, а да Берліна дайшоў гвардыі маёрам з пяццю ордэнамі. Калі вярнуўся на радзіму, паступіў і скончыў Баранавіцкі настаўніцкі інстытут. Усё жыццё Якуб Міско адпрацаваў журналістам. З іх амаль 30 гадоў — у «Сельской газете». Пісаў не толькі журналісцкія матэрыялы, але і апавяданні, гумарэскі, артыкулы пра былых дзеячаў Заходняй Беларусі, рэцэнзіі на кнігі Максіма Танка, Янкі Брыля, Алеся Адамовіча, Міхася Машары, Віктара Касько. На беларускую мову перакладаў творы польскіх літаратараў. У «Сельской газете» шмат гадоў вёў вельмі папулярны сярод чытачоў калючы куток сатыры і гумару.

У 1967 годзе Якубу Міско было прысвоена званне заслужанага дзеяча культуры Беларусі. Да апошніх сваіх дзён Якуб Герасімавіч шмат працаваў, сустракаўся са сваімі сябрамі. Журналіст М. Шыбаліс пісаў пра Якуба Міско: «До

последних дней он продолжал накапливать знания, много читал, пополнял свою богатую библиотеку. Доступный и общительный, любивший шутку, розыгрыш, дороживший дружбой с товарищами, он был твёрд и требователен в работе, прежде всего, к самому себе» (Шибалис М. Голос молчаливого сердца // Сельская газета. 1983. 6 марта).

Пасля смерці Якуба Міско (памёр 23 кастрычніка 1981 года) народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль сабраў яго лепшую спадчыну і выдаў асобнаю кнігай, якую назваў «Маё маўклівае сэрца». У першы раздзел кнігі ўвайшла дакументальная аповесць «Было яно калісьці…», а ў другі — нарысы, артыкулы і гумарэскі. Ва ўступным слове да кнігі Янка Брыль сказаў: «Найлепш пісалася яму тое, што звязана з былой Заходняй Беларуссю, з яе горкай нядоляй, са слаўнай барацьбой яе лепшых сыноў і дачок за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. У гэтай цікавай, высокакультурнай публіцыстыцы амаль усюды натуральна і неабходна прысутнічае аўтар — як актыўны ўдзельнік многіх галоўных падзей свайго часу, са сваім глыбінным веданнем прадмета, са сваёй ідэйнай перакананасцю, грунтоўна праверанай у выпрабаваннях на сталасць» (Брыль Янка. Замест прадмовы // Міско Якуб. Маё маўклівае сэрца. Мінск, 1983. С. 4).

Такім да сённяшніх дзён і памятаюць майго земляка тыя яго маладзейшыя сябры, якія яшчэ жывуць, такім ён і застанецца ў памяці ўсіх беларусаў.

## Ён любіў беларусаў і нашы песні

Упершыню я даведаўся пра ўкраінскага харавога дырыжора, кампазітара і фальклfavрыста Аляксандра Кошыца (1875–1944), калі прачытаў кнігу Рыгора Шырмы «Песня — душа народа» (Мінск, 1976). У сваёй кнізе Рыгор Раманавіч пра Кошыца згадвае так: «Прафесар А. Кошыц падараваў нам ужо дзесяць аранжаментаў, кожны з якіх шэдэўр харавой мастацкай літаратуры. Найлепшыя з іх калядкі — “Там за садамі”, “Прасвятая Марыя” і валачобная “Лугам зеляненькім”». А часопіс «Беларускі летапіс» (1938. № 2) дадае: «Гэты цэнны ўклад у нашую музычную літаратуру яшчэ пабольшыцца, а імя прафесара Аляксандра Кошыца застанецца несмяротным не толькі ў гісторыі ўкраінскай музыкі, але і беларускай».




*Аляксандр Кошыц*

Аляксандр Кошыц — украінец. Нарадзіўся ён у сям’і святара на Кіеўшчыне. Вучыўся ў Кіеўскай духоўнай акадэміі, але сан свяшчэнніка не прыняў. Працаваў у духоўнай жаночай гімназіі ў Стаўрапалі, сабраў і апрацаваў 500 песень. У 1904 годзе прыехаў у Кіеў, дзе паступіў у музычна-драматычны інстытут. Пазней працаваў у гэтым інстытуце, вёў клас харавых спеваў і адначасова вывучаў кампазіцыю ў прафесара Любамірскага. З 1911 года дырэкцыя Імператарскага музычнага вучылішча прапанавала Аляксандру Кошыцу весці клас харавых спеваў у вучылішчы, а пазней — у кансерваторыі.

У 1917 годзе Украінская Цэнтральная Рада даручыла Аляксандру Кошыцу ўзначаліць Музычную тэатральную камісію, якая пазней была перайменавана ў Міністэрства мастацтваў Украіны. У 1919 годзе Сімон Пятлюра прапанаваў Кошыцу стварыць Украінскую рэспубліканскую капэлу. Капэла была створана, і яе артысты з дазволу Пятлюры выехалі на гастролі па Заходняй Еўропе і Амерыцы. Гэты калектыў на той момант быў лепшым на Украіне. І ён сродкамі мастацтва інфармаваў свет пра барацьбу ўкраінскага народа за сваю незалежнасць. Але пасля ліквідацыі Украінскай Народнай Рэспублікі Аляксандр Кошыц ужо не змог вярнуцца з калектывам на бацькаўшчыну.

Украінская рэспубліканская капэла Аляксандра Кошыца паспяхова гастралявала ў Чэхаславакіі, Аўстрыі, Швейцарыі, Францыі, Германіі, Англіі, Польшчы, Іспаніі і іншых дзяржавах. У 1922 годзе Кошыц са сваім калектывам паехаў у турнэ па Амерыцы, дзе карыстаўся большым поспехам, чым

у Еўропе. Хор атрымаў прызнанне ў ЗША, Уругваі, Бразіліі, Мексіцы, Канадзе, Кубе. Нягледзячы на ўсе трыумфы, Аляксандру Кошыцу заўсёды не давала спакою настальгія. Сваім сябрам ён пісаў: «Адзіная мая надзея, што трымае мяне на зямлі і дае сілы жыць, — гэта быць перад смерцю дома, убачыць мілых людзей, мой дарагі Кіеў, маю Украіну».

Яшчэ ў 90-х гадах XIX стагоддзя ў сваёй роднай вёсцы Тарасаўка Кіеўскай губерні Аляксандр Кошыц запісаў украінізаваную беларускую песню «Свеця месяц, свеця ясны», якая на Украіну завандравала разам з беларускімі плытнікамі. Песню гэту ўкраінскі кампазітар не мог забыць і пазней, калі ў 1929 годзе ў Парыжы запісаў другі яе тэкст, пачуўшы ад аднаго ўкраінца-эмігранта, які некалі чуў і вывучыў песню ад беларусаў-плытнікаў, якія працавалі на Дняпры каля мястэчка Трыполле на Кіеўшчыне. Вялікі мастак адразу звярнуў увагу на красу беларускай песні: «Гэта чаруючы, цудоўны ўзор народнага кантрапункту, да якога проста страх дакрануцца рукой аранжыроўшчыка. Я яе так і пакінуў, як яна пяецца, і думаю, што ніякай ноты немагчыма дабавіць да гэтага шэдэўру народнай творчасці» (Беларускі летапіс. 1938. № 2. С. 28).

У 1930-х гадах Аляксандр Кошыц перапісваўся з Рыгорам Шырмам. З канадскага горада Вініпега, дзе жыў і памёр украінскі кампазітар, ён дасылаў пісьмы Рыгору Шырме, свае песні, а таксама музычныя творы ўкраінцаў Кірыла Стэцэнкі (1882–1922) і Арцемія Ведэля (1767–1808), часцей за ўсё іх царкоўныя музычныя кампазіцыі. Некаторыя Рыгор Шырма ўключаў у рэпертуар і свайго хору. Рыгор Шырма, высока ставячы Кошыца, як музычнага этнографа і кампазітара, прыцягнуў яго ўвагу да беларускага музычнага фальклору. Апрацоўкі дасланых Шырмам песень (валачобнай «Лугам, лугам зялененькім», каляднай «Там за садамі», дажынкавай «Ой, у садочку цвіла лілея», любоўна-лірычных «Гыля, гыля, мае шэры гусі», «Ой, выйшла маці», «Закукавала зязюлька», «Прыляцелі гусі», «Ой, у садзе-вінаградзе») сведчаць пра



ўласцівыя Аляксандру Кошыцу веданне хору, тонкі густ, клопат аб захаванні асаблівасцей ладавай будовы і шматгалосся народнай першакрыніцы, адрозніваюцца натуральнасцю голасавядзення. Яны ўваходзілі ў рэпертуар Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы Беларусі, былі апублікаваныя ў анталогіі «Беларускія народныя песні (для хору)».

«Беларускія песні цудоўныя, і па духу, слову і музыцы родныя нам, украінцам. Мне здаецца, што ўкраінскія песні вельмі блізкія да беларускіх і стылістычнай, і меладычнай структурай, бо са старых часоў наша гісторыя была больш супольная, чым цяпер», — пісаў Рыгору Шырме Аляксандр Кошыц. Так, нашы песні спляліся, як спляталіся часта доля і нядоля нашых народаў. Беларусы часта ўцякалі ці іх высялялі сілай на шырокія і вольныя стэпы Украіны. А разам з сабой неслі яны туды сваю родную песню. А калі вярталіся, то з Украіны прывозілі дамоў песні ўкраінскія. Вось чаму часта ў нас і сёння можна пачуць украінскую «Капаў, капаў крынічаньку» ці «Цякла рэчка невялічка», а на Украіне — беларускую «Свецяь месяц, свецяь ясны».

У траўні–жніўні часопіс «Беларускі летапіс» за 1938 год надрукаваў урывак з ліста да Рыгора Шырмы ўкраінскага кампазітара. Аляксандр Кошыц пісаў: «Пала мне ў вока ваша калядка «Ува Іардані» — і не мог стрымацца ад спакусы заранжыраваць яе на хор. Гэтую калядку я ведаю даўно, бо сам запісаў яе на Украіне ў Звенігародскім павеце, у маёй роднай Тарасаўцы. Але ваша калядка крыху адметная ад нашай і структурай, і тэкстам, хаця толькі ў драбніцах, бо ўсё тое ж самае. Меладыйны контур вашай калядкі вельмі цэнны і цікавы, а непарочная яе чысціня, святасць, і ціхае святло радасці, якім яна гарыць, быццам белая васковая свечачка з пяшчотным агнём і светлымі слёзкамі воску, — да таго ўзварушае душу, што я, пераіграўшы некалькі разоў аранжымент, аж заплакаў…»

Вось як рабіў аранжыроўку ўкраінскі прафесар беларускіх песень! Вось чаму пасля такой аранжыроўкі беларуская песня, захоўваючы сваю крыштальную чысціню, адначасова

атрымлівала новую цудоўную вопратку. Вось чаму беларуская народная песня застаецца неўміручай заўсёды.

У хроніцы часопіса «Беларускі летапіс» (№ 4–5) за 1938 год паведамлялася, што кампазітар Аляксандр Кошыц зрабіў аранжыроўку на змешаны хор беларускай народнай песні «Прыляцелі гусі». «І на гэты раз, як заўсёды, вялікі мастак падараваў для беларускай культуры новы дыямент сваёй творчасці», — падкрэсліў часопіс. Толькі ў 1938 годзе да 10 беларускіх песень дакранулася працавітая рука вялікага ўкраінскага кампазітара. Аб гэтым так пісала амаль уся заходнебеларуская прэса. А той жа часопіс «Беларускі летапіс» у 1938 годзе нават змясціў партрэт Аляксандра Кошыца на першай старонцы.

## Канстанцін Галкоўскі



*Канстанцін Галкоўскі*

У лютым 2013 года споўнілася 50 гадоў, як не стала Канстанціна Галкоўскага (1875–1963) — беларускага і літоўскага кампазітара, дырыжора, педагога, народнага артыста Літвы. Але ж Літвы, а не Беларусі, хаця для беларускай культуры ён зрабіў значна больш, чым для літоўскай. Лявон Луцкевіч і Галіна Войцік некалі выдавалі ў Вільні серыю кніжачак «Партрэты віленчукоў». У 2001 годзе яны выпусцілі і кніжачку, прысвечаную Канстанціну Галкоўскаму. У ёй аўтары напісалі: «Канстанцін Галкоўскі — карэнны віленчук і беларус паводле паходжання, залічаны ў Літве ў плеяду лепшых нацыянальных кампазітараў. Між тым не меншыя, калі не большыя, заслугі ў К. Галкоўскага ёсць і перад беларускім музычным мастацтвам. Але ў Беларусі ён — забыты кампазітар…»



Вядома, 50 гадоў з дня смерці — гэта сумны юбілей. Хаця сам Канстанцін Галкоўскі пражыў 88 гадоў. Ён шмат ведаў, бачыў, ён любіў Беларусь, беларускі народ, беларускую паэзію, з ім сябравала ўся беларуская Вільня XX стагоддзя. У гэтым я пераканаўся гартаючы і чытаючы беларускія віленскія выданні 1920–1930-х гадоў. Давайце іх разам пагартаем, пачытаем. Напрыклад, часопіс «Беларускі летапіс» (1937. № 6–7) пісаў: «Кампазітар К. Галкоўскі апрацаваў шэсць народных беларускіх песень для аднаго голасу для фартэпіяна. Мелодыі і тэксты песень узятыя з рукапісаў Рыгора Шырмы і запісаны: дзве ў вёсцы Кацёлкі Пружанскага павета («Ой, дожджык ідзе, раса нападзе» (асенняя) і «Ой, у полі дзве пташачкі, обе рабакрылы» (рэкруцкая), адна запісана ў мястэчку Мядзёл Пастаўскага павета («Кукавала зязюлька, што лес мал» (вясёлая, жартаўлівая), адна — у вёсцы Нізяны Ваўкавыскага павета («На гарэ камары, а ў даліні гусі…» (гумарыстычная), адна — у вёсцы Навасёлкі Пастаўскага павета («Купалялё») і прыпеўкі «Чэраз сад-вінаград па ваду хадзіла» з Наваградскага павета. Гэтыя новыя працы слаўнага кампазітара з’яўляюцца вельмі цэнным укладам у беларускую вакальную літаратуру, асабліва сольную. Распрацаваны з незвычайным майстэрствам вялікага мастака, з поўным разуменнем народнага духу і з захаваннем народнага стылю і характару, прычым адна з гэтых песень пакладзена таксама для віяланчэлі і раяля».

У 1930-х гадах у Вільні адбывалася шмат беларускіх канцэртаў, літаратурна-музычных вечароў, сустрэч. Але ніводны канцэрт не праходзіў без Канстанціна Галкоўскага. 13 снежня 1936 года ў Вільні адбыўся Дзень беларускай культуры. У ім актыўны ўдзел прымалі хор Рыгора Шырмы і спявак Міхась Забэйда-Суміцкі. Часопіс «Калоссе» (1937. № 1) паведамляў: «Пад кіраўніцтвам слаўнага рэгента і няўтомнага беларускага культурнага дзеяча грам. Р. Шырмы ведамы ягоны Беларускі хор выканаў першыя дзве часткі: у першай кантату К. Галкоўскага на словы М. Танка, народныя песні: «А мне трудненька», «Па саду хаджу» — К. Галкоў-

скага і песню «Вясна», музыка К. Галкоўскага, словы М. Васілька, а ў другой частцы — цудоўную сюіту «Каханне» (дзесяць народных песняў) праф. К. Галкоўскага. Беларуская песня, дзякуючы артыстычнаму выкананню хору, пры дасканальным акампаніраванні праф. К. Галкоўскага, асягнула вышыні хараства. Запоўненыя слухачамі (больш паўтысячы) аўдыторыя была зачараваная і свой энтузіязм і задавальненне з перажываных эстэтычных эмоцыяў выказвала бурнымі воплескамі ў гонар выканаўцаў…»

Калі спяваў Міхась Забэйда-Суміцкі, Канстанцін Галкоўскі акампаніраваў яму. А спявак выконваў і песні кампазітара — народную «Абнімі ты мяне» і «Ці грэх цябе любіць» на словы Ясакара (З. Бядулі) і многія іншыя. Галіна Войцік і Лявон Луцкевіч прыгадваюць, што Канстанцін Галкоўскі быў акампаніятарам Міхася Забэйды-Суміцкага ў 1936–1938 гадах. Ён заўсёды заходзіў на сцэну ўпэўненым крокам, кланяўся, сядаў каля раяля. Быў Канстанцін Галкоўскі невысокага росту, лысы як калена, але ягоны твар з правільнымі рысамі быў прывабны. А тэмперамент Галкоўскага праяўляўся тады, калі ён іграў вясёлую музыку.

Апошні раз Канстанцін Галкоўскі і Міхась Забэйда-Суміцкі сустрэліся ў Вільні вясной 1944 года, калі Віленская беларуская гімназія адзначала сваё 25-годдзе. Сюды з Прагі прыехаў і спявак. Іх апошні сумесны канцэрт адбыўся ў Вільні ў тэатры на Вялікай Пагулянцы. Больш яны ніколі ў жыцці не сустрэліся…

Нарадзіўся Канстанцін Галкоўскі ў Вільні 16 чэрвеня 1875 года. Бацька яго паходзіў з Магілёўшчыны, а маці — з Міншчыны. З маленькіх гадоў Кастусю бацькі прывівалі любоў да музыкі. Таму пасля школы ён паступіў у Пецярбургскую кансерваторыю па класу кампазіцыі і operнай аркестроўкі пад кіраўніцтвам М. Рымскага-Корсакава і А. Глазунова. Яго дыпломнай працай была трохактовая опера «Цыганы» па паэме А. С. Пушкіна. За гэтую дыпломную працу, як прыгадваў Рыгор Шырма, Канстанціну Галкоўскаму педагагічная рада кансерваторыі ў 1908 годзе



прысудзіла залаты медаль. Гэта быў адзіны выпадак за 50 гадоў існавання кансерваторыі.

У 1909 годзе Канстанцін Галкоўскі прыязджае ў Вільню, дзе разам з Людамірам Рагоўскім кіруе ўсім музычным жыццём. Там ён арганізоўвае першы ў Вільні сімфанічны аркестр, выступае за дырыжорскім пультам, піша музычныя творы — сімфоніі, п’есы, песні, ён цікавіцца мясцовым песенным фальклорам, асабліва беларускім. Рыгор Шырма ў сваёй кнізе «Песня — душа народа» (Мінск, 1976. С. 109–110) прыгадвае: «Усё напісанае кампазітарам на беларускія тэмы можна падзяліць на дзве групы. Першая — гэта тая ці іншая распрацоўка народных беларускіх мелодый, другія — арыгінальная музыка на словы беларускіх паэтаў».

15 сакавіка 1936 года ў актавай зале Віленскага ўніверсітэта Беларускі студэнцкі саюз і Таварыства прыяцеляў беларусаведы ладзілі вечар беларускай паэзіі. Да гэтай вечарыны Канстанцін Галкоўскі напісаў тры песні — «Марш маладых» на словы Міхася Машары, «То не пчолка звініць у гаёчку» на словы Міхася Васілька і «Касец» на словы Максіма Танка. «Гэта быў першы выпадак, калі вершы паэтаў Заходняй Беларусі былі пакладзены на музыку», — пісаў часопіс «Летапіс Таварыства беларускае школы» (1936. № 1–3). Гэтыя песні выканаў хор Рыгора Шырмы. «Марш маладых» атрымаўся па характару сапраўдным маршам-гімнам моладзі. А песня «Касец» — магутным маршам працы, які кідае «сталёвыя ўдаль адгалосы». Песня «То не пчолка звініць у гаёчку» атрымалася цудоўнай мініяцюрнай сімфоніяй. Калі яна выконвалася, на фоне хору Шырмы без слоў выступала дзяўчына, якую госця-вясна галубіла шэптам дубравы, асыпала пяшчотамі сонца, а таксама ветрыкам варушыла валасы. Усе гэтыя тры песні тады былі вытрыманы ў беларускім народным характары.

Канстанцін Галкоўскі пры жыцці напісаў вялікую працу — беларускую оперу паводле паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка». Калі ён яе даслаў у Саюз кампазітараў Беларусі, яму паведамілі, што трэба пісаць пра перамогу і

подзвігі партызан у гады Другой сусветнай вайны, а не па творчасці Коласа.

Дарэчы, падчас вайны кампазітар жыў у акупіраванай немцамі Вільні. Ён працаваў у Віленскай беларускай гімназіі, выкладаў гісторыю музыкі. Немцы яго не чапалі, а пасля вайны Галкоўскага абмінулі і рэпрэсіі. У 1945 годзе ён стаў заслужаным дзеячам мастацтва Літвы, праз два гады — прафесарам, а ў 1955 годзе — народным артыстам Літвы. Рыгор Шырма падлічыў, што Канстанцінам Галкоўскім зробленае ў галіне беларускай народнай музыкі выглядае так: дзіцячых і жаночых хароў — 14, змешаных, невялікіх — 22, вялікіх — 12, мужчынскіх — 2, дзве солавыя песні з акампанементамі фартэпіяна і, апрача таго, дзве народныя сюіты «Дуда» і «Каханне», з якіх кожная пры выкананні хорам займае па паўгадзіны часу. І дзясяткі песень ім напісана на словы Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Танка, Змітрака Бядулі, Канстанцыі Буйло, Міхася Машары, Міхася Васілька і іншых паэтаў.

Памёр наш кампазітар 20 лютага 1963 года. На магіле і на мемарыяльнай шыльдзе на доме, дзе ён жыў, надпісы на літоўскай і расейскай мовах. Што Канстанцін Галкоўскі быў беларусам і беларускім кампазітарам, нідзе не прыгадваецца. Галіна Войцік і Лявон Луцкевіч пішуць, што «па вайне Канстанцін Галкоўскі не меў нікога блізкага ў беларускім асяроддзі Вільні…». Гэта не так. Тыя са старэйшых беларусаў, хто жыў у Вільні і не быў рэпрэсіраваны, з ім кантактавалі. З Беларусі часта да яго заязджалі Максім Танк, Рыгор Шырма. У 1959 годзе ў яго гасціў беларускі пісьменнік і перакладчык Алесь Траяноўскі. Ён і зрабіў гэты фотаздымак Галкоўскага, які публікуецца ў кнізе. А мне яго перадаў пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік, за што я яму ўдзячны.





## Яго захапляла беларуская народная творчасць



*Аляксандр Грачанінаў*

У пачатку сакавіка 1937 года, праездам з Францыі ў Фінляндыю, на некалькі дзён затрымаўся ў Рызе вялікі рускі кампазітар Аляксандр Грачанінаў (1864–1956). А 5 сакавіка ў сталіцы Латвіі адбыўся ягоны аўтарскі вечар. Поўная зала гледачоў і слухачоў, дзе выступаў кампазітар, шчыра вітала слаўнага на ўвесь свет музычнага дзеяча. Былі ў зале і беларусы з Латвіі, прыехалі таксама і з Вільні. Яны загадзя запрашалі кампазітара да сябе, каб прывітаць яго ў сваёй беларускай грамадзе ў Рызе, але мясцовая ўлада гэтага не дазволіла. Тады беларусы без запрашэння з’явіліся на вечарыну і там публічна паднеслі кампазітару букет кветак і прыгожа аздоблены беларускім арнаментам прывітальны адрас з аўтографамі рыжскіх беларусаў. Арнамент намаляваў беларускі мастак Пётра Мірановіч.

Сярод выкананых твораў Аляксандра Грачанінава ў Рызе была і беларуская песня «Зязюлька». Яна ў зале, як пісаў часопіс «Калоссе» (1937. № 1. С. 62), «сабрала найбольш воплескаў».

Дзякуючы дырэктару Варшаўскага радыё Эдмунду Рудніцкаму, наш слынны спявак Міхась Забэйда-Суміцкі ў 1938 годзе ўпершыню наспяваў на грамафонныя кружэлкі дзесяць беларускіх песень. Сярод іх былі чатыры песні Аляксандра Грачанінава: «Ляціць сарока», «Конь бяжыць», «Ой, рана куры запелі» (калядная), «Ды шчука-рыба ў моры» (рэкруцкая). І наогул у 1930–1940-х гадах у Заходняй Беларусі ніводзін беларускі канцэрт ці вечарына не праходзілі, каб у праграме не стаялі музычныя творы Аляксандра Грачанінава. А любоў да беларускай песні, да беларускай

народнай творчасці прывіў яму ў пачатку XX стагоддзя прафесар-беларус Мікалай Янчук (1859–1921).

Справа ў тым, што пры Маскоўскім універсітэце ў 1903 годзе была заснавана музычная секцыя этнаграфічнага таварыства. Старшынёй секцыі быў выбраны прафесар Мікалай Янчук, які ў той час працаваў сакратаром аддзела этнаграфіі Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі пры Маскоўскім універсітэце. А віцэ-старшынёй пры ім быў абраны Аляксандр Грачанінаў. І вось на працягу шмат гадоў гэтай секцыяй было сабрана некалькі тамоў народнай музычнай творчасці, у тым ліку, натуральна, і беларускай. «Працуючы ў гэтай камісіі, — піша ў сваёй кнізе «Моя музыкальная жизнь» (Парыж, 1934) Аляксандр Грачанінаў, — я меў магчымасць пазнаць песні ўсіх народаў Расіі, з якіх асабліва палюбіў беларускія». Далей вялікі кампазітар прыгадвае, як аднойчы Мікалай Янчук прынёс яму дзве беларускія песні «Гэй ты, доля» і «Бяда» з тым разлікам, калі спадабаюцца, каб апрацаваў. Песні Аляксандру Грачанінаву вельмі спадабаліся. Ён напісаў іх для голасу і фартэпіяна і надрукаваў. Калі кампазітар прынёс іх Янчуку, прайграў і перадаў яму ноты ў падарунак, ён неяк хітра глянуў на яго, падзякаваў і сказаў: «Надта добра, толькі мелодыі і тэкст гэтых песень не народныя, а мае». Грачанінаў здзівіўся, бо так добра было падроблена на народны лад. І, вядома ж, у наступным выданні песні Аляксандра Грачанінава «Доля» і «Бяда» мелі аўтара. Вось адкуль пачалося знаёмства рускага кампазітара з беларускімі песнямі.

Нарадзіўся Аляксандр Грачанінаў у 1864 годзе ў Калузе, але хутка сям’я пераехала ў Маскву, дзе і прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады будучага кампазітара. Бацькі яго мелі музычныя здольнасці ад прыроды. Маці спявала не народныя песні, а сентыментальныя мяшчанскія рамансы, а бацька любіў спяваць царкоўныя песні.

У 1890 годзе Аляксандр Грачанінаў скончыў педагагічныя курсы Маскоўскай кансерваторыі па класу Васіля Сафронава і пераехаў у Пецярбург, дзе паступіў у кансерваторыю



да педагога Рымскага-Корсакава. Пасля кансерваторыі зноў вярнуўся ў Маскву, дзе выкладаў у музычнай школе сёстраў Гнесіных.

Пасля рэвалюцыі 1917 года ў Расіі Аляксандр Грачанінаў некалькі гадоў канцэртаваў у якасці дырыжора і піяніста, а таксама працягваў працу з дзіцячымі харамі. Але з кожным годам старэйшаму рускаму кампазітару станавілася жыць цяжэй і цяжэй у краіне, разбуранай рэвалюцыяй і грамадзянскай вайной.

У 1925 годзе ён з сям’ёй эмігрыруе ў Еўропу. Спачатку жыў у Парыжы, а потым пераехаў у Нью-Ёрк. У 1934 годзе ён напісаў і выдаў кнігу ўспамінаў «Маё музычнае жыццё», а праз 20 гадоў кніга на англійскай мове пабачыла свет і ў Нью-Ёрку.

Да апошніх дзён Аляксандр Грачанінаў марыў вярнуцца на радзіму, але гэта яму ажыццявіць не ўдалося. Апошнія гады жыцця ён дажываў адзін і памёр на чужыне ва ўзросце 92 гадоў.

Творчая спадчына кампазітара Аляксандра Грачанінава даволі вялікая — гэта 1000 твораў, у тым ліку 6 опер, дзіцячы балет, 5 сімфоній, 9 вялікіх сімфанічных твораў, музыка да 7 спектакляў, 4 струнных квартэта, шматлікія інструментальныя і вакальныя творы. Але самая каштоўная частка яго спадчыны — харавая музыка, рамансы, харавыя і фартэпіянныя творы для дзяцей і г. д.

У 1932 годзе Рыгор Шырма пачаў перапісвацца з Аляксандрам Грачанінавым, які жыў у Парыжы, і аднойчы паслаў яму 25 запісаў заходнебеларускіх народных песень з просьбай апрацаваць іх для хору. Аляксандр Грачанінаў іх апрацаваў і даслаў Рыгору Шырме ў Вільню. На канцэртных выступленнях, якія шмат разоў ладзіліся ў Вільні, гарманізацыі Аляксандра Грачанінава так рэльефна выступалі сярод іншых, стваралі такія асаблівыя настроі, што публіка, не толькі беларуская, заўсёды звярталася з просьбай паўтарыць альбо прасіла проста перапісаць іх. Прастата, яснасць, прыгожая гучнасць без непатрэбных,

чужых народу бравурных эфектаў, строга захаваны народны лада-танальны каларыт, дужа цікавы і не аднастайны спосаб гарманізацыі — вось асаблівасці тых апрацовак, якія так значна адрозніваліся ад іншых. «Перапёлка», «Раёк», «Перад Пятром», «Калыханка», «Вяснянка» — гэта былі і засталіся такія цудоўныя беларускія абразкі, што іх спявалі ў іншых краінах Еўропы, а «Перапёлачка» даляцела аж да Амерыкі. «Уклад, зроблены Грачанінавым у гісторыю развіцця беларускай песні, — піша Рыгор Шырма ў сваёй кнізе «Песня — душа народа» (Мінск, 1976. С. 40), — уяўляецца так. Для мяшанага хору апрацаваны: «Перапёлачка», «Раёк», «Перад Пятром», «Чаму селязень», «Ляцела зязюля», «Не кур, не вей, мяцеліца», «Ішла каляда», «Ой, куры, куры», «Ці ў полі не каліна была», «Памру, памру, маці» і «Конь бяжыць, зямля дрыжыць». Апрача таго, напісаны для аднаго голасу з акампанементам раяля: «Зазвінела пчолачка», «Доля», «Бяда», «Вяснянка», «Купалінка», «Калыханка», «Зязюля» і адна скрыпкавая п'еса на тэму калядкі з Пружанскага павета. Чатыры апошнія песні напісаны таксама для голасу з акампанементам аркестра і перакладзены на англійскую мову. У гэтых песнях народная мелодыя захавана для голасу без змен, а ўжо акампанементам Грачанінаў малюе свае беспадобныя музычныя ўзоры. Такое тонкае мастацтва, напрыклад, у перадачы настрояў маладой беларускай кабеты, якая спявае: «Дубравачка, ой зялёная, у тваім шуме я заблудзіла», што, здаецца, кампазітар, паслухаўшы, пераклаў на музыку свайго акампанементу адвечны шум нашай Белавежы. Безумоўна, гэтыя творы трэба прызнаць шэдэўрамі ў беларускай народнай музычнай літаратуры».

Вядома ж, усё пералічанае Рыгорам Шырмам далёка не поўны спіс таго, што з беларускіх песень апрацавана Аляксандрам Грачанінавым для хору і сола. Але рускі кампазітар паказаў усяму свету, што беларуская народная творчасць не толькі не ўступае творчасці іншых народаў, а, наадварот, часта пераўзыходзіць іх.



Пра беларускасць Аляксандра Грачанінава ў 1930-х гадах пісалі многія заходнебеларускія выданні. Часопіс «Калоссе» (1937. № 1) паведамляў пра канцэрт беларускага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага ў Вільні, што «гэты высокай клясы еўрапейскі артыст-чарадзей пры акампаніяменце прафесара Галкоўскага выканаў папулярна-апрацаваныя А. Грачанінавым чатыры беларускія народныя песні: "Ляціць сарока", "Конь бяжыць", "Шчука-рыба ў моры" і "Ой, рана куры запелі"».

На афішах і ў праграмках беларускіх вечароў і канцэртаў у Вільні таксама заўсёды стаяла імя Грачанінава. У праграме вечара беларускай паэзіі і песні, які ладзіўся 15 сакавіка 1936 года Беларускім студэнцкім саюзам, спявакі Л. Сасноўская і С. Савіцкі выконвалі песні Аляксандра Грачанінава «Ляціць сарока, ды скрай аблока», «Конь бяжыць», «Шчука-рыба ў моры», «Ой, рана куры запелі», «Ой, ты грушка мая». Рыгор Шырма дасылаў у Парыж народныя беларускія песні, а Аляксандр Ціханавіч Грачанінаў іх апрацоўваў і дасылаў у Вільню Рыгору Раманавічу, дасылаў адна за адной: «На дварэ дожджык», «Ой, гыля, гыля, гусі, вадою», «Зялёны гай», «Там, каля млына» і многія-многія іншыя.

Аляксандр Грачанінаў напісаў цудоўную «Беларускую рапсодыю» для сімфанічнага аркестра і п'есу для скрыпкі і фартэпіяна «Дар Белай Русі». У 1925 годзе Беларускай драматычнай студыяй у Маскве, а ў 1926 годзе Другім Беларускім драматычным тэатрам была пастаўлена казка-феерыя «Апраметная». Яе напісаў беларускі драматург Васіль Шашалевіч, у якой сатырычнымі сродкамі паказаў гістарычны лёс Беларусі. Музыку да гэтай п'есы напісаў усё той жа Аляксандр Грачанінаў.

Многія беларусы ў 20–40-х гадах XX стагоддзя не верылі, што Аляксандр Грачанінаў рускі па нацыянальнасці, яны думалі, што гэта беларус, які так добра ведаў беларускую песню, так глыбока вывучаў у ёй народную душу. Таму і мы сёння не павінны яго забываць.

# Наш украінец Міхайла Гайваронскі



*Міхайла Гайваронскі*

Украінскія выданні, якія пісалі і пішуць сёння пра свайго знакамітага кампазітара і патрыёта Міхайлу Гайваронскага (1892–1949), заўсёды згадваюць 1938 год: «Особливо творчим для композитора був 1938 рік. Михайло Гайворонський опрацював білоруські народні пісні, оркестрові твори, видав ще два скрипкові твори «Прелюдія» і «Сонатіна» для скрипки з фортепіано».

Сапраўды, вялікі ўкраінскі кампазітар, музыкант, дырыжор, педагог, скрыпач, грамадскі дзеяч, капельмайстар арміі Украінскай Народнай Рэспублікі Міхайла Гайваронскі ў канцы 1930-х гадоў шмат працаваў для музычнай Беларусі. Асабліва плённым на беларускія песні быў менавіта 1938 год. Жыў тады кампазітар у Нью-Ёрку. Але яго там знайшоў Рыгор Шырма і напісаў яму ліст. Беларус і ўкраінец сталі ліставацца. Так пачалося іх сяброўства.

Сам Міхайла Гайваронскі быў родам з Цярнопальшчыны. Маці ведала шмат народных песень, а бацька добра іграў на скрыпцы. У іх і вучыўся будучы кампазітар музыцы і спевам.

Пасля заканчэння народнай школы паступіў у настаўніцкую семінарыю. Там наведваў аркестр семінарыі, спрабаваў пісаць музыку.

Пасля заканчэння семінарыі Міхайла Гайваронскі пачаў працаваць настаўнікам недалёка ад Львова.

У 1914 годзе Міхайла Гайваронскі ўступае ў рады Украінскіх сечавых стральцоў. Там арганізуе духавы аркестр, а потым становіцца капельмайстрам войск Украінскай Народнай Рэспублікі. Піша стралецкія песні і маршы.

У 1923 годзе Міхайла Гайваронскі пакідае радзіму і эмігрыруе ў ЗША. У Нью-Ёрку ён арганізуе хор і аркестр, а таксама паглыбляе свае музычныя веды ў Калумбійскім універсітэце.



Найбольш вядомымі творамі ўкраінскага кампазітара з'яўляюцца яго сімфанічная паэма «Над Чорным морам», «Гераічная паэма», «Гуцульская рапсодыя», рапсоды «Доўбуш», «Родная старонка мая», маршы, уверцюры, струнны квартэт «Маразенко», трыа «Каламійка», зборнік п'ес для струннага аркестра, ён з'яўляецца аўтарам багатых інструментальных твораў камернага характару, напісаў шэраг песень на словы Тараса Шаўчэнкі: «Запавед», «Вучыцеся, браты мае», «Садок вішнёвы» і многія-многія іншыя.

Міхайла Гайваронскі пражыў усяго 57 гадоў. Ён памёр 11 верасня 1949 года ў Нью-Ёрку, дзе і пахаваны.

А цяпер вернемся ў 1938 год. Часопіс «Беларускі летапіс» за кастрычнік–снежань 1938 года пісаў: «Кампазітар М. Гайваронскі скампанаваў на мяшаны хор дзве беларускія песні да слоў Максіма Танка: «Спакойна дрэмле Нарач» і «Прайдуць гады». Гэтыя кампазіцыі запачаткавалі новы кірунак у беларускай харавой літаратуры — кірунак свабоднай творчасці, — распачата так патрэбная праца музычнага ілюстравання нашай паэзіі. Вялікая падзяка і чэсць слаўнаму кампазітару!»

Паэзію Максіма Танка вельмі ўпадабаў Міхайла Гайваронскі. 10 снежня 1938 года ў Вільні выступаў хор пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы. Менавіта хор і выканаў упершыню кампазіцыю Гайваронскага на словы Максіма Танка. А часопіс «Калоссе» ў 1939 годзе адзначаў, што кампазіцыя Гайваронскага на словы Максіма Танка захоплівае свежасцю і сілай малюнка. Але дзеля гэтага трэба добра ўчытацца ў тэкст літаратурнага твора, а таксама адначасова ўслухацца ў яго вольную ілюстрацыю, каб цалкам ацаніць сінтэтычную мастацка-жывапісную яркасць, дакладнасць і гармонію ўсяго паэтычна-музычнага твора. Але апрача вонкавай, так сказаць, красы, вобраз Нарачы мае, як і сам верш Максіма Танка, характэрны ўнутраны сімвалізм, які надзвычай выразна выяўляе і падкрэслівае музыка Міхайлы Гайваронскага. Той самы часопіс «Калоссе» (1939. № 1) падкрэсліваў, што «асабліва трэба адзначыць і музыку Гайваронскага на

сільны верш Танка «Прайдуць гады», як адзіны вынятак з усёй чыста народнай праграмы».

Пісаў музыку ўкраінскі кампазітар і да вершаў Якуба Коласа і Паўлюка Труса. Кожны з твораў гэтых паэтаў быў прадуманы, і музыка кампазітара была цесна сплецена з тэкстамі. Пачуцці паэтаў кампазітар адбіваў і дапаўняў гармоніяй свае музыкі.

Летам 1938 года з Нью-Ёрку Міхайла Гайваронскі дасылае Рыгору Шырме сем апрацаваных для хору беларускіх народных песняў. Сярод іх — «Гэй, паехаў сын Даніла», «О-ю-ля-лю», «Замуж пайсці, трэба знаць». А восенню 1938 года Рыгор Шырма зноў атрымаў ад Гайваронскага пяць новых беларускіх народных песняў: «Лявоніха», «Ой, гукнула сыраежка» (жніўная), «Ой, у полі дзве птушачкі» (рэкруцкая), «Як пайшоў Мікола» (валачобная), «Ой, ляцелі, ды два галобочкі» (валачобная). Часопіс «Беларускі летапіс» (1938. № 3, верасень) паведаміў, што «стыль і мастацкі характар апрацоўкі гэтых песняў як найболей адпавядаюць духу нашай народнай творчасці». «Беларускі летапіс» нават надрукаваў ноты Міхайлы Гайваронскага да народных песень «О-ю-ля-лю» і «Гэй, паехаў сын Даніла».

Рыгор Шырма і заходнебеларускія выданні ў 1930-х гадах шырока пісалі шмат пра тых, хто дапамагаў беларускай музычнай творчасці. Музычныя апрацоўкі народных беларускіх песень Міхайлам Гайваронскім ацэньваліся як яркая гармонія, такая чыстая і спеўная, прадыктаваная народным кантрапунктам, якая ідзе побач з яснай народнай мелодыяй. Пры гэтым яны ніколі не зніжаюць песні да простага, чужога для мастацтва этнаграфізму, але разам з тым і этнаграфічных рысаў песні не мяняюць на штучныя эфекты і прыкрасы. Слухаючы беларускія песні ў апрацоўцы Гайваронскага, нават не ведаючы тэксту, мы даведаемся, што гэта звіняць валачобнікі або пяюць каляднікі. Ад кожнай беларускай песні Гайваронскага вее подыхам свежага паветра нашых лясоў і ніў, чуецца пах сенажацяў, абмытых рачнымі хвалямі. Беларуская вёска, стагоддзямі абскубаная, гамоніць у тых



гуках нечуванаю дагэтуль моваю — моваю свайго чулага і вялікага сэрца. І гэта ўсё дзякуючы музыцы вялікага ўкраінскага кампазітара Міхайлы Гайваронскага, які пакінуў нашчадкам у спадчыну шмат цудоўных твораў, якія ўвайшлі ў залаты фонд не толькі ўкраінскай, але таксама і нашай беларускай музычнай культуры.

## Трагічны лёс Серафіма Жыровіцкага (Рамана Шахмуця)


*Раман Шахмуць*

Вялікдзень 1946 года беларускі святар Серафім Жыровіцкі (Раман Шахмуць) сустрэў у сталінскіх лагерах вітаннем сваіх братоў па лагеры: «Хрыстос Уваскрос!..» — «Сапраўды ўваскрос!» — адказвалі зэкі. Пачуўшы гэтыя святыя словы, лагернае начальства пачало лютаваць. Яно схапіла Рамана Шахмуця і кінула яго ў карцар, дзе знаходзілася па пояс ледзяная вада. А потым прывязалі рукі і ногі да двух грузавікоў, якія раз’ехаліся ў розныя бакі, разарваўшы цела святара папалам. Так загінуў архімандрыт Серафім Жыровіцкі. Гэта было ў пачатку сакавіка 1946 года.

Нарадзіўся Раман Шахмуць 15 ліпеня 1901 года ў вёсцы Падлессе на Случчыне (цяпер Ляхавіцкі раён) у шматдзетнай сялянскай сям’і Рамана і Алены Шахмуцяў. З дзяцінства хлопчыка цягнула да царквы, дзе ён многа і старанна маліўся. Нягледзячы на беднасць і раннюю смерць бацькі, Раману ўдалося скончыць двухгадовую школу ў Ляхавічах. У 1916 годзе ён паступіў паслушнікам у Мінскі Свята-Духаў мужчынскі манастыр. Але праз год, у 1917 годзе, вымушаны быў вярнуцца ў роднае Падлессе, каб дапамагаць аўдавелай маці. У 1921 годзе Раман здаў экзамен на псаломшчыка і

нейкі час служыў у царкве Нараджэння Багародзіцы ў вёсцы Вяляцічы каля Пінска.

25 чэрвеня 1922 года, адчуваючы ў сабе манаскае прызванне, ён пакідае свой дом і накіроўваецца ў Жыровіцкі манастыр на Слонімшчыну. Праз год юнак прымае манаскі пострыг з імем Серафім.

Дзякуючы добрым здольнасцям да музыкі і спеваў, яму было даручана яшчэ выконваць абавязкі рэгента і ўстаўшчыка. У 1926 годзе Серафіма (Шахмуця) рукапалажылі ў іерадыякана. У гэтым сане пэўны час ён кіраваў манастырскім хорам, выконваў абавязкі эканома. Карыстаўся вялікай павагай і аўтарытэтам сярод манастырскай брацііі.

У 1935 годзе Серафім Жыровіцкі быў узведзены ў сан іераманаха. Яго накіравалі на Беласточчыну ў вёску Курашава, што каля Гайнаўкі. Там праваслаўны прыход апынуўся ў цяжкім становішчы ў сувязі з актывізацыяй уніятаў. Два гады іераманах Серафім служыў у Курашаве. За гэты час малітоўнай і падзвіжніцкай працы ён дамогся значнага паляпшэння стану храма і прыходу, заўважна ўмацоўваў дух праваслаўных вернікаў. А 20 мая 1937 года ён з хрэсным ходам з Курашава прыйшоў у Жыровічы, дзе ў гэты дзень адзначалі свята Жыровіцкай іконы Божай Маці.

Па прапанове іераманаха Серафіма ў 1938 годзе ікона Жыровіцкай Божай Маці была ўпершыню вынесена з Жыровіцкага Свята-Успенскага сабора і на спецыяльна абсталяваным возе яе пачалі вазіць па Гродзенскай епархіі.

З таго часу іераманах Серафім разам са сваім сябрам Рыгорам Кударэнкам, будучым архімандрытам Жыровіцкім, удзельнічаў у місіянерскіх хрэсных ходах з Жыровіцкай Іконай Божай Маці па заходнебеларускіх гарадах і вёсках. Падчас гэтага ходу разам з прыхаджанамі ён збіраў сродкі на рамонт Жыровіцкага манастыра. Паўсюль сустрэчы іконы адбываліся ўрачыста і шматлюдна.

У канцы 1939 года ўладыка Панцеляймон (Павел Ражноўскі) узвёў айца Серафіма ў сан ігумена, а крыху пазней — у сан архімандрыта.



Калі пачалася Другая сусветная вайна, архімандрыт Серафім і іерэй Рыгор Кударэнка з благаславення архіепіскапа Панцеляймона ў жніўні 1941 года пакінулі Жыровіцкі Свята-Успенскі манастыр і выехалі ў напрамку Мінска. Ім было даручана заняцца арганізацыяй царкоўнапрыходскага жыцця ва Усходняй Беларусі, дзе яно было ў даваенны час цалкам разбурана.

Па дарозе ў Мінск яны наведалі шэраг вёсак Капыльскага, Слуцкага і Уздзенскага раёнаў. У кожным паселішчы місіянеры збіралі сярод вернікаў прашэнні на імя ўладыкі Панцеляймона з просьбай аб адкрыцці прыходскіх цэркваў; усюды адпраўлялі богаслужэнні, аглядалі храмы, якія захаваліся, выбіралі будаўнічыя камітэты для іх рамонту, хрысцілі дзяцей, адпявалі нябожчыкаў, нястомна прапаведавалі.

Прыбыўшы ў Мінск, архімандрыт Серафім і айцец Рыгор нядоўгі час служылі ў Спаса-Праабражэнскай царкве былога жаночага манастыра. Але ўжо ў студзені 1942 года адправіліся на Віцебшчыну з той жа мэтай місіянерскай пропаведзі. Затым яны наведалі Оршу, Магілёў, Быхаў, Рагачоў, Жлобін, Бабруйск і Гомель. У мясцовасці Чонкі аднавілі жаночы манастыр, у якім пасяліліся 30 сясцёр.

У Віцебску па просьбе Царкоўнага аддзела, быў напісаны архімандрытам Серафімам артыкул для газету «Новый путь». У ёй аўтар распавядаў пра сваю місіянерскую працу, аб адкрыцці цэркваў, пра тое, як народ радуецца гэтаму, энергічна ачышчае храмы ад калгаснага збожжа, ад смецця. Людзі неслі ў храмы выратаваныя і схаваныя ад бальшавікоў крыжы, рызы, малітоўнікі, Евангелле, абразы, дапамагалі рамантаваць храмы, горача маліліся, пачалі хрысціць дзяцей, адпяваць памерлых і г. д. У Вербную нядзелю праваслаўныя святары наведалі горад Сянно, дзе наладзілі першае богаслужэнне, на якім прысутнічала каля 1000 вернікаў. Там архімандрыт Серафім і іерэй Кударэнка пахрысцілі 200 дзяцей. Падчас місіянерскага падарожжа 1941–1944 гадоў па Усходняй Беларусі айцом Серафімам разам з іерэем Кударэнкам былі адкрыты 74 храмы.

Аб'ехаўшы Усходнюю Беларусь, архімандрыт Серафім (Шахмуць) стаў першым летапісцам тых пакутаў, якія вы-церпелі служыцелі праваслаўнай царквы ў перыяд бальшавіцка-савецкага тэрору.

У чэрвені 1944 года ў сувязі з набліжэннем лініі фронту святары выехалі ў Гродна, дзе знайшлі прытулак у манастыры Нараджэння Багародзіцы. А 6 верасня таго ж года абодва прапаведнікі і місіянеры былі арыштаваны. Супрацоўнікі НКУС прад'явілі ім абвінавачанне ў супрацоўніцтве з акупацыйнымі карнымі органамі СД і ў іншых надуманых злачынствах. На самай справе прычынай арышту была іх падзвіжніцкая і місіянерская дзейнасць. Арыштаваных пратрымалі пад «следствам» роўна 10 месяцаў, так нічога і не дабіўшыся. На допытах асуджаныя трымаліся мужна, не хаваючы сваіх поглядаў і перакананняў.

Абодвум вязням 7 ліпеня 1945 года вынеслі прысуд аб пазбаўленні волі тэрмінам на 5 гадоў з адбываннем пакарання ў канцлагеры. Іх адправілі ў Горкаўскую вобласць, размясцілі ў розных месцах, на адлегласці 12 кіламетраў. Хутчэй за ўсё гэта быў Унжэнскі канцлагер МДБ Горкаўскай вобл. (станцыя Сухабязводная). Там і закатавалі архімандрыта Серафіма Жыровіцкага (Рамана Шахмуця). Рэабілітаваны ён быў пракуратурай Беларусі 22 красавіка 1994 года. Па інфармацыі Леаніда Маракова, групавая справа архімандрыта і іншых святароў № 35844-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Святар Рыгор Кударэнка, адбыўшы тэрмін зняволення, вярнуўся ў Жыровіцкі Свята-Успенскі манастыр, дзе праз нейкі час прыняў манаскі пострыг з імем Ігнацій. У 1984 годзе ва ўзросце 89 гадоў яго не стала.

У 1999 годзе Сінодам Беларускай праваслаўнай царквы архімандрыт Серафім Жыровіцкі быў далучаны да ліку святых новапакутнікаў. А ў 2000 годзе на юбілейным Архірэйскім Саборы РПЦ, які праходзіў у Маскве, Серафім, архімандрыт Жыровіцкі, быў кананізаваны.



Штогод 6 верасня ў Свята-Успенскім Жыровіцкім манастыры адбываецца святочнае ўшанаванне памяці прападобнамучаніка Серафіма Жыровіцкага. У гэты дзень наладжваюцца хрэсны ход і літургія. У гонар яго дзейнічае ў Слоніме і прыходскі храм.

## Палітычныя малюнкі забытага мастака Аляксандра Раманоўскага

Здымкаў беларускага мастака Аляксандра Раманоўскага мне знайсці не ўдалося. Але адшукаў шмат яго малюнкаў на палітычныя тэмы. На іх адлюстравана трагічная і праўдзівая гісторыя нашага народа.



*На допыт*

Аляксандр Раманоўскі пражыў усяго 40 гадоў. Ён нарадзіўся ў Віцебску ў 1915 годзе. Пасля школы паступіў у мясцовы мастацкі тэхнікум. А калі закончыў тэхнікум, уладкаваўся на працу настаўнікам малявання. А потым пэўны час працаваў мастаком-дэкаратарам у Другім Беларускім дзяржаўным тэатры (БДТ-2).



*Партрэт студэнта Віцебскай мастацкай школы Сямёнава, які загінуў у падвалах НКУС у 1938 г.*

У 1940 годзе Аляксандра Раманоўскага мабілізуюць у армію і накіроўваюць на фінскі фронт. Але там праз год ён трапляе ў нямецкі палон. Яго, як палоннага, прывозяць у Германію, дзе ён і знаходзіўся да канца вайны. Праўда, вяртацца на бацькаўшчыну Раманоўскі не спяшаўся, бо ведаў, што адразу будзе сасланы ў Сібір. Ён застаецца ў Германіі. Там беларускі мастак працягвае сваю творчую дзейнасць і жыве да 1949 года.

З Германіі шлях беларускага мастака ляжыць у Аўстралію. Спачатку ён далучыўся да беларусаў Сіднея, а потым неяк адышоў ад іх, хаця з многімі землякамі сябраваў. У Аўстраліі Аляксандр Раманоўскі шмат працаваў. У памятным альбоме «Беларускія мастакі замежжа» (ЗША, 2001) пра яго згадваецца так: «Найбольш творчую ўвагу мастака прыцягвалі палітычныя карыкатуры, плакат, скетч. Ягоныя творы адзначаюцца поўным апанаваннем тэхнікі рысунку ды імкненнем выказаць задуманую ідэю найбольш ашчаднымі мастацкімі сродкамі».

Карыкатуры-скетчы Аляксандра Раманоўскага друкаваліся на старонках беларускай газеты «Бацькаўшчына», у часопісе «Конадні», у расійскіх эміграцыйных выданнях. А ў 1955 годзе ў Сіднеі асобным выданнем свет пабачыў сшытак з 14 скетчамі мастака пад назвай «За жалезнай заслонай».

Беларускі мастак у далёкім замежжы вельмі часта звяртаўся да тэматыкі падсавецкай Беларусі, паказваў цяжкае жыццё беларусаў, жахі рэпрэсій. Ён наладжваў шматлікія кантакты з аўстралійскімі мастакамі, удзельнічаў у разнастайных мастацкіх выставах. А апошняя з іх, як згадвае Наталля Гардзіенка ў сваёй кнізе «Беларусы ў Аўстраліі» (Мінск, 2004), якая аб'ядноўвала творы 30 найвыдатнейшых аўстралійскіх мастакоў, адбылася ў Сіднеі ў верасні 1955 года, за месяц да трагічнай смерці нашага мастака.



*Масавыя арышты*



*Святары ў лагеры прымусовай працы*

Некаторыя творы Аляксандра Раманоўскага я ўключыў у сваю кнігу.

Яны актуальнасць сваю не страцілі.



# Адзін з сяброў Саюза вызвалення Беларусі



*Самсон Пярловіч*

Неяк у Карэлічах сустрэў настаўніка-пенсіянера, мясцовага літаратара і краязнаўцу Івана Іванавіча Вярбіцкага. Падчас размовы спытаў у яго пра лёс беларускага паэта, вязня сталінскіх лагераў з Навагрудка Самсона Пярловіча. «Я быў добра знаёмы з Самсонам Пярловічам. Ён быў асуджаны за Саюз вызвалення Беларусі. Яго выдаў правакатар з Баранавіч Алесь Бажко, які ў тыя першыя пасляваенныя гады быў супрацоўнікам баранавіцкай абласной газеты «Чырвоная звязда». Поўнасцю вінаваты ў арышце Самсона Пярловіча і іншых хлопцаў і дзяўчат Алесь Бажко», — сказаў Іван Іванавіч. А потым дадаў: «А які лёс Самсона Пярловіча чакаў потым, вы павінны ведаць самі, я вам распавядаць не буду».

А лёс Самсона Пярловіча быў цяжкім. Калі мне хто прыгадвае Самсона Георгіевіча, заўсёды згадваецца адзін з яго вершаў:

Мне мой лёс здаецца толькі чорным,
Што не варты меднага граша.
Толькі ёсць у ім і тыя зёрны,
Што мая выспельвала душа.

Тых зярнят няхай не вельмі многа,
Але ўсё-ткі, служачы красе,
Веру я — да скарбу залатога
Хтосьці іх калісьці аднясе.

З Самсонам Пярловічам мне пашанцавала сустрэцца некалькі разоў. Гэтыя сустрэчы адбываліся ў Навагрудку, дзе ён жыў і працаваў. Праўда, сустрэчы гэтыя былі нядоў-

гія і звязаныя з візітамі пісьменнікаў Гарадзеншчыны на Навагрудчыну. Калі туды прыязджалі пісьменнікі з іншых рэгіёнаў Беларусі, да нас далучаўся і Самсон Пярловіч. Але ён, павітаўшыся з усімі, вёў сябе даволі сціпла, моўчкі, занадта ветліва. А калі выступалі на сцэне і давалі яму слова, ён заўсёды чытаў свае гумарыстычныя вершы. У гледачоў узнімаўся настрой, і яны адорвалі паэта апладысментамі. Ніхто з літаратараў, мне здаецца, ніколі ў яго не спытаў: як ты жывеш, дзе працуеш, як здароўе? Прыехалі ўсе — і паехалі, а Самсон Георгіевіч заставаўся ў сваім Навагрудку.

Нарадзіўся Самсон Пярловіч 13 жніўня 1923 года ў вёсцы Католышы на Навагрудчыне ў сям'і беларускага селяніна, дзе было сямёра сыноў. У чацвёртым класе польскай школы хлопчык Самсон напісаў першы свой верш пра Свіцязь. А калі закончыў польскую школу, пачаў настаўнічаць сам, вучыў дзетак у пачатковай школе.

У 1943 годзе 20-гадовага юнака схапілі немцы і павезлі ў Германію. Везлі яго і іншых юнакоў і дзяўчат на Рыгу. Па дарозе ён і яшчэ некалькі хлопцаў скокнулі з вагона. Але хутка іх схапіла латышская жандармерыя. Пасля допытаў іх адправілі на Лібаву, і хутка Самсон са сваімі сябрамі апынуўся ў лагеры за калючым дротам. Адтуль хлопцы таксама ўцяклі і некалькі тыдняў былі вольнымі. Але хутка іх зноў арыштавалі і адправілі ажно ў Вену. Вызвалілі Самсона Пярловіча ў пачатку красавіка 1945 года. А 1 мая ён далучыўся да савецкіх воінаў.

Пасля вайны юнак вярнуўся на родную Навагрудчыну і пачаў супрацоўнічаць з навагрудскай раённай газетай. У гэты час у розных рэгіёнах Заходняй Беларусі ўтварыліся падпольныя маладзёжныя суполкі, якія вырашылі супрацiўляцца мерапрыемствам савецкай улады, скіраваным на вынішчэнне беларушчыны. Галоўнай мэтай змагання маладзёжнага падполля было здабыццё незалежнасці Беларусі.

Падпольная арганізацыя ў Навагрудку паўстала пазней, чым падобныя групы ў Глыбокім і Паставах (канец 1945 — пачатак 1946 года), у Слоніме (травень–чэрвень 1946 года), у Нясвіжскім раёне і Гродне (лета 1946 года), — у лістападзе 1946-га. Адрозненнем навагрудскага Саюза вызвалення Беларусі ад іншых арганізацый была наяўнасць у яго кіраўніцтве не толькі ўдзельнікаў беларускіх нацыянальных арганізацый і збройных фармацый часоў нямецкай акупацыі, але і былых франтавікоў Чырвонай Арміі. Да навагрудскага Саюза вызвалення Беларусі (СВБ) далучыўся і Самсон Пярловіч. Ён быў упаўнаважаным СВБ у Навагрудскім раёне.

Калі працаваў Самсон Пярловіч у навагрудскай газеце, ён пазнаёміўся з супрацоўнікам баранавіцкай абласной газеты «Чырвоная змена» Алесем Бажко (1918–2013). Аднойчы Бажко схлусіў Пярловічу, што ён з'яўляецца сябрам антысавецкай арганізацыі «Чайка». І што ён, Бажко, знаходзіцца ў вышэйшым звяне гэтай падпольнай структуры. Самсон яму паверыў. Але не ведаў навагрудскі юнак, што гэты Бажко з'яўляўся тайным агентам НКУС.

Аднойчы Бажко прыехаў у Навагрудак, сустрэўся з Самсонам Пярловічам, а той шчыра давяраючы, як сябру «Чайкі», як калегу па пяру, паказаў дом яму, дзе жылі іншыя сябры СВБ. А ў маі 1947 года ў Навагрудак прыехалі чэкісты, акружылі дом і ўсіх арыштавалі. Разам з чэкістамі быў і Бажко, ён усё паказваў, кіраваў, бачыў. А 30 мая 1947 года быў арыштаваны і Самсон Пярловіч. Усіх арыштаваных завезлі ў Баранавічы ў турму «Крывое кола», там іх і дапытвалі. Так былі арыштаваны 18 сяброў СВБ. Сярод іх — Генадзь Казак, Міхась Кожыч, Міхась Капціловіч, Кастусь Рамановіч, Аляксандр Ляпешка, Аляксандр Усюкевіч, Пятро Дземянчук, Іван Макар, Міхась Мазан, Яўген Лішко, Анань Родзевіч, Сафрон Стома, Віталь Губарэвіч, Адам Шабоцька, Самсон Пярловіч і іншыя. 29–31 жніўня 1947 года Ваенны трыбунал войск МУС Баранавіцкай вобласці прысудзіў 18 сяброў СВБ да зняволення на тэрмін ад 8 да 25 гадоў канцлагераў. Найбольшы тэрмін атрымаў кіраўнік арганізацыі — Генадзь Казак, які памёр у зняволенні. Загінулі ў савецкіх канцлагерах яшчэ некалькі сяброў СВБ. Перад арыштам у Самсона Пярловіча знайшлі верш «Паднімецца

крыўда», які ён напісаў у 1947 годзе. Другая страфа верша гучала так:

Бо Сталін-тыран, і старых, і малых
Запрогшы ў прыгонныя ёрмы,
Нявіннай крывёй суцяшае іклы,
Каму колькі жыць, ставіць нормы…

Пра гэты верш ведаў нават сам Цанава. Ён так хацеў паглядзець на юнака з Навагрудчыны, які набраўся мужнасці ўзняць голас супраць Сталіна, што Пярловіча з Баранавіч адправілі ў Мінск на допыт да Цанавы. Самсон Пярловіч успамінаў: «Заходжу ў кабінет. Там шмат чыноў НКУС. Выходзіць з-за стала нейкі гарбаносенькі чалавек. Гэта быў Цанава. Паказвае тэкст майго верша і пытае: “Твой?” — “Мой”. — “Ды як жа ты набраўся нахабства так напісаць пра геніяльнага чалавека? Сталін — бацька народаў”, — закрычаў Цанава. “Для вас, можа, і бацька народаў, а для беларускага народа — палач”, — адказваю. Малады я тады быў, гарачы, ды і тэрмін ведаў. Як цяпер бачу: Цанава ўвесь расчырванеўся і кажа па-беларуску: “Не мані!..”» (зборнік «Саюз вызвалення Беларусі (1946–1947)». Слонім ; Менск : Беларускі Рэзыстанс, 2005. С. 38).

За верш і за СВБ Самсона Пярловіча асудзілі на 10 гадоў сталінскіх лагераў. Яго выслалі на лесапавал у лагер Усць-Вым (Комі АССР), потым беларускі юнак будаваў шахты ў спецлагерах Караганды. Гэта былі шахты імя Кастэнкі, 107-я, 120-я. Бурыў ствалы, прабіваў штрэкі, ставіў умацаванні. Кастусь Рамановіч згадваў: «Я разам з Пярловічам прайшоў праз пакуты на лесапавалах Усць-Вым, на будаўніцтве шахтаў у Карлагу, спаў разам з ім на голых нарах. І там, на голых нарах, Пярловіч складваў вершы без алоўка, якія мы вучылі на памяць для будучыні» (Наша Ніва. 2002. 15 лютага).

3 студзеня 1956 года навагрудскага хлопца вызвалілі з лагераў. Ён павінен быў яшчэ адбываць высылку ў Сарані Карагандзінскай вобласці Расіі, але яна была адменена.



Восенню 1946 года Самсон Пярловіч вярнуўся ў родны Навагрудак. Але адразу ў рэдакцыю раённай газеты не пайшоў, бо там быў арыштаваны і зняты з працы. А ўладкаваўся на працу на Навагрудскі завод газавай апаратуры, дзе адпрацаваў каля сарака гадоў. За яго на заводзе ніхто лепш і ніколі не змог зрабіць разца, затачыць фрэзу, зенкер. Працуючы на заводзе, ён марыў мець свой куточак, свой пакойчык. І такую магчымасць ён атрымаў дзякуючы адміністрацыі завода. Але потым збег абставін усё перакрэсліў…

У апошнія гады жыцця Самсона Пярловіча часта можна было бачыць на рынку ў Навагрудку. Там ён гандляваў рознымі запчасткамі, жалезкамі і кніжкамі. А мясцовы люд разносіў па горадзе розныя плёткі. Але няшмат людзей ведалі, што ён мусіў зарабляць любым спосабам грошы, каб аддаць даўгі за аперацыю, што зрабілі дачцэ ў Германіі.

А яшчэ ён заўсёды пісаў вершы. Шмат радкоў напісана ім пра сталінскія зняволенні:

Злы вецер выў над галавою,
Мароз пякельны твар паліў,
А я пілою лучкавою
Бярозы, ліствіцы валіў.
Уздрыгваў дол, стагналі дрэвы,
Пякучы снег хвастаў чало.
Тайзе ж направа і налева
Канца і краю не было…

Пры жыцці Самсону Пярловічу ўдалося ў Навагрудку выдаць два зборнічкі сваіх вершаў — «Заяц на бярозе» (1995) і «Чарадзейны агонь» (1998). А прафесар Алег Лойка падрыхтаваў яго зборнік вершаў «Бяссмертнік» і апублікаваў у Мінску ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1994 годзе. У прадмове да яго Алег Лойка напісаў: «Кніга Самсона Пярловіча «Бяссмертнік» — гэта найперш кніга яго жыццёвага лёсу, асабліва сваім першым раздзелам — «За калючымі дратамі…». І гэта разам з тым і кніга народнага лёсу, складаных гістарычных шляхоў, якімі беларусы ішлі праз XX стагоддзе».

Сябра Саюза вызвалення Беларусі і паэта Самсона Пярловіча не стала 14 снежня 2001 года. Пры жыцці ён так і не дачакаўся рэабілітацыі, як не дачакаліся яе Васіль Супрун з патрыятычнай «Чайкі», паэтка Ларыса Генюш і тысячы іншых патрыётаў нашай Бацькаўшчыны.

## Фатаграфічная спадчына Юзафа Шыманчыка



*Юзаф Шыманчык са сваёй жонкай Аленай Ласько, 1930-я гг.*

Сярод тых, хто пакінуў неацэнную беларускую фатаграфічную спадчыну першай паловы XX стагоддзя, быў фатограф Юзаф Шыманчык (1909–2003).

Нарадзіўся ён у Косаве. Будучы 14-гадовым хлопчыкам, Юзік упершыню выпадкова пазнаёміўся з фотаапаратам. Захапленне тэхнікай і фотамастацтвам змяніла яго жыццё. Пачынаў юнак як самавук. Але з часам набыў прафесійнае майстэрства і заснаваў сваё фотаатэлье — спачатку ў родным Косаве, потым у Слоніме падчас вайны, а пасля 1945 года ў Польшчы ў Кутне.

Заўзяты ідэяй Яна Булгака, які быў прыхільнікам фатаграфавання бацькаўшчыны, ён з рэпарцёрскім запалам дакументаваў Беларусь — здымаў беларускае Палессе, азёры Белае і Спораўскае, Косава, вёску Пескі (цяпер Бярозаўскі раён), Слонім, Пінск, сялян, рабочых, сцэны быту сельскіх жыхароў, іх цяжкую працу і г. д. Захавалася каля 400 этнаграфічных і дакументальных здымкаў з Палесся. 50 фотаздымкаў у Юзафа Шыманчыка набыў у 1990-х гадах Бярозаўскі гісторыка-краязнаўчы музей. Фатограф падараваў музею і адзін са сваіх фотаальбомаў.





*Палескі гаспадар, 1937 г.*



*Палац у Мерачоўшчыне*



*Дзяўчаты з Палесся, 1930-я гг.*

Пасля вайны Юзаф Шыманчык некалькі разоў наведваў Беларусь. У 1999 годзе ён прыязджаў сюды разам са здымачнай групай Варшаўскага тэлебачання. На Касаўшчыне і ў іншых мясцінах, дзе да 1945 года жыў спадар Шыманчык, здымалі пра яго дакументальны фільм «Фатограф Палесся». Мастак фатаграфіі наведаў мясціны свайго маленства і юнацтва, ён нават змог сустрэцца з героямі сваіх фотаздымкаў, якія яшчэ жылі і нават памяталі, як ён іх фатаграфаваў. Пазней гэты фільм музею ў Бярозе падаравала дачка Юзафа Шыманскага Ірэна Даманьска.



*Вуліца Татарская ў Слоніме, 1943 г. Фота Ю. Шыманчыка*



Дарэчы, Ірэна Даманьска, якая цяпер жыве ў Лодзі, у 2012 годзе ў Варшаве ў галерэі «Вазоўня» наладзіла выставу, прысвечаную бацьку. Выстава мела назву «Юзаф Шыманчык: паміж фатаграфіяй бытавой і “айчыннай фатаграфіяй”». Наведвальнікі выставы і крытыкі ў польскай прэсе адзначалі, што аўтар здымкаў 30-х гадоў XX стагоддзя не толькі фіксаваў прыгажосць тых мясцін, дзе бываў, але паказаў таксама прозу жыцця, часта вельмі беднага. Працы Юзафа Шыманчыка сёння з’яўляюцца доказам таго, што ў гісторыі беларускай і польскай фатаграфіі 1930-х гадоў мы павінны з роўнай сілай улічыць вартасць сацыяльнай фатаграфіі як плынь піктарыялізму. Фатаграфіі Шыманчыка, пісала польская прэса, апрача прыгажосці краявіду і характарных чалавечых тыпаў, паказваюць таксама цяжкае жыццё, бяду палескай вёскі…

У 1990-х гадах я перапісваўся з Юзафам Шыманчыкам. Ён жыў тады ў дачкі ў Лодзі. Спадар Шыманчык заўсёды быў рады маім пісьмам і выданням, якія я дасылаў. У знак падзякі ён кожны раз высылаў мне свае здымкі Слоніма 1942–1944 гадоў. Здымкі ўнікальныя, рэдкія, якасныя, цікавыя. І яны менш вядомыя беларусам і палякам за цыкл здымкаў беларускага Палесся. Хаця ані ў тэхнічным, ані ў мастацкім сэнсе яны не саступаюць палескім. Шмат слонімскіх здымкаў Юзафа Шыманчыка я ўжо апублікаваў у друку, у сваіх кнігах. Але яшчэ далёка не ўсе.

Да вайны Юзаф Шыманчык пазнаёміўся з Аленай Ласько, якая была родам таксама з Косава і працавала швачкай. Яны пажаніліся і ў пачатку Другой сусветнай вайны пераехалі ў Слонім, жылі ў самым цэнтры горада ў старым двухпавярховым доме на другім паверсе з балконам. У цэнтры горада Юзаф меў фотамайстэрню. Яго не чапалі ні партызаны, ні немцы — ніхто. Ён займаўся толькі фотасправай. Здымаў усіх, хто прыходзіў да яго ў майстэрню ці прасіў сфатаграфаваць дома.

Аднойчы ў горадзе адбыўся мітынг. Выйшла на балкон паслухаць выступоўцаў і Алена Ласько. Але ж трэба было

здарыцца бядзе. Балкон абваліўся. Так загінула цяжарная Алена. Юзаф Шыманчык моцна перажываў смерць каханай.

У ліпені 1944 года, калі немцы пакінулі Слонім, савецкія салдаты кінулі гранату ў фотамайстэрню спадара Шыманчыка. Усё згарэла. Выратаваць Юзафу ўдалося некаторыя здымкі і негатывы, якія знаходзіліся ў падвале.

Пасля вайны Юзаф Шыманчык паехаў жыць у Польшчу, дзе яшчэ сорак гадоў працаваў фатографам у гарадку Кутна. З выхадам на пенсію, у 1985 годзе, ён пераехаў у Лодзь.

Усё, што сфатаграфаваў і пакінуў беларусам і палякам Юзаф Шыманчык у першай палове XX стагоддзя, яшчэ па вартасці не ацэнена спецыялістамі-этнографамі і гісторыкамі. А можа, я памыляюся? Бо яго фотаздымкі ўжо набылі музеі і бібліятэкі Варшавы, Кракава, Беластока, Мінска, Вільні, Бярозы, Слоніма, Пінска, Пружан і іншых гарадоў. Яго працы сёння выклікаюць жывую цікавасць ва ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй бацькаўшчыны і хто неабыякавы да яе.



# Родам з Беласточчыны

# Даследчык беларускіх гаворак Беласточчыны

Доктар філалогіі, прафесар Люблінскага ўніверсітэта імя Марыі Кюры-Складоўскай Міхал Саевіч родам з Беласточчыны, нарадзіўся ён у вёсцы Ляўкова Новае ў 1949 годзе. У пачатковую школу хадзіў у суседняе Ляўкова Старое. У 1963 годзе быў прыняты ў агульнаадукацыйны ліцэй у Гайнаўцы, дзе дадаткова выкладалі беларускую мову. Асабліва зацікавіла Міхала ў ліцэі літаратура. Таму актыўна прымаў удзел у міжшкольным літаратурным гуртку, нават пісаў вершы і апавяданні, якія друкаваліся ў беластоцкіх газетах і ў тыднёвіку «Ніва». Акрамя таго, захапляўся яшчэ біялогіяй і марыў пра медыцыну. Аднак урэшце выбраў рускую філалогію ва ўніверсітэце Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне, куды паступіў у 1967 годзе.

Калі вучыўся ва ўніверсітэце, то зразумеў, што яго больш прыцягвае мовазнаўства. У гэтым была вялікая заслуга прафесара Міхала Лэсёва, дзякуючы якому наш зямляк заняўся ў студэнцкім навуковым гуртку праблематыкай моўнага паграніčча. Потым пад кіраўніцтвам таго ж прафесара ўзяўся пісаць магістарскую працу, прысвечаную фанетыцы і флексіі беларускіх гаворак на тэрыторыі Гайнаўскага павета.

У 1972 годзе Міхал Саевіч распачаў даследаванні ў Інстытуце рускай і славянскай філалогіі роднага ўніверсітэта. Доктарская праца маладога вучонага была прысвечана працэсам словаўтварэння ў беларускіх гаворках ваколіц Нараўкі і Белавежы на Беласточчыне. Габілітацыйнае даследаванне прысвяціў ён словатворчасці найменняў суб'ектаў у наднарвянскіх беларускіх гаворках Беласточчыны. І гэтыя даследаванні далі пэўны плён.

Цяпер Міхал Саевіч з'яўляецца аўтарам многіх прац, прысвечаных праблематыцы польска-беларуска-ўкраінскага моўнага паграніčча на Беласточчыне. Асабліва шмат увагі ўдзяліў ён той жа словатворчасці наднарвянскіх беларускіх гаворак Беласточчыны, а таксама праблеме беларуска-ўкраінскай моўнай граніцы. У яго навуковым здабытку ёсць працы, якія датычацца дыялектнай лексікалогіі, утварэння слоў, этналінгвістыкі, анамастыкі. Падсумаваннем даследчыцкай працы стала манаграфія нашага земляка «Суфіксальная дэрывацыя асобасных найменняў суб'ектаў у наднарвянскіх беларускіх дыялектах Беласточчыны». Потым былі новыя артыкулы і кнігі. Сярод іх такія даследаванні, як «Дэвербальныя nomina subiecti ў наднарвянскіх беларускіх гаворках Беласточчыны», «Аддзеяслоўныя назоўнікі з фармантам -ач са значэннем суб'екта дзеяння ў наднарвенскіх беларускіх гаворках Беласточчыны» і іншыя.



Акрамя навуковай і педагагічнай працы Міхал Саевіч актыўна займаецца перакладчыцкай дзейнасцю. Ён перакладае на польскую мову творы рускай і беларускай літаратур. У яго перакладзе Тэатр Юльюша Астэрвы ў Любліне паставіў п'есу «Стомлены д'ябал» беларускага драматурга Сяргея Кавалёва. Міхал Саевіч кажа пра сябе, што з'яўляецца «мовазнаўцам з літаратурнай душой». Вялікае задавальненне дае вучонаму выкладчыцкая работа. Ён вядзе заняткі па беларускім і рускім мовазнаўстве ў абодвух люблінскіх універсітэтах. Кіраваў даследаваннямі амаль 50 магістрантаў, у тым ліку тымі, што выбралі беларускую філалогію. Ён кіруе лабараторыяй беларускай мовы і літаратуры Інстытута славянскай філалогіі Універсітэта Марыі Кюры-Складоўскай.

Спадар Саевіч актыўна ўдзельнічае ў дзейнасці розных навуковых таварыстваў — найперш у Польскім беларусазнаўчым таварыстве, дзе з'яўляецца яго старшынёй. Ён прыкладае ўсе намаганні дзеля збліжэння і ўзаемнага разумення паміж польскім і беларускім народамі.



## Герой працы з Макаўлянаў

Не кожнаму ў савецкі час давалі званне Героя Сацыялістычнай Працы. Антону Гічану са Шчучыншчыны такое званне прысвоілі ў 1966 годзе.

Антон Гічан быў простым вясковым чалавекам, працаваў з ранку да вечара ў калгасе «1 Мая» Шчучынскага раёна. Спачатку яго прызначылі брыгадзірам, потым — загадчыкам вытворчага ўчастка, а затым — загадчыкам жывёлагадоўчай фермы.

Родам Антон Гічан быў з вёскі Макаўляны, што на Беласточчыне. Але пасля вайны разам з бацькамі пераехаў на Гродзеншчыну. Тут працаваў, меў нават за працу ордэн Працоўнага Чырвога Сцяга і бронзавы медаль ВДНГ СССР.

У пошуках звестках пра Антона Гічана ўсё ж удалося мне знайсці на Шчучыншчыне яго сваякоў. Найперш я трапіў на сына Анатоля. Сын жыве з сям'ёй у вёсцы Тур'я недалёка ад Шчучына. Ён з вялікай ахвотай расказваў мне пра бацьку і яго лёс. Дарэчы, Анатоль вельмі добра размаўляе па-беларуску, чалавек дэмакратычных поглядаў. З ім можна размаўляць доўга на самыя розныя тэмы. Але сёння мы гутарылі толькі пра ягонага бацьку — Героя Сацыялістычнай Працы Антона Уладзіміравіча Гічана.

— Спадар Анатоль, ці жыве ваш бацька?

— Не, яго не стала ў 1987 годзе. Ён пражыў усяго 58 гадоў. Пахаваны на Шчучынскіх могілках. А мама яшчэ жыве.

— А ці быў пасля Другой сусветнай вайны ваш тата ў родных Макаўлянах?

— Калі пачалася Другая сусветная вайна, мой тата са сваімі бацькамі быў вывезены ў Нямеччыну. Там яны працавалі ў аднаго баўэра. Пасля вайны дамоў у Макаўляны яны не вярнуліся. Не ведаю толькі чаму. А прыехалі на Шчучыншчыну да сваякоў. Так там і засталіся. На Шчучыншчыне ён ажаніўся. У мяне яшчэ ёсць брат і дзве сястры. Здаецца, на Беласточчыне тата пасля вайны быў толькі адзін раз. Я ў Польшчы ніколі не быў, але вельмі хочацца пабываць на радзіме таты. Гічаноў там жыве шмат.



— Дык у чым справа?

— Магчыма, я і сам вінаваты, бо вельмі шмат спраў. Але гэтыя справы ніколі не скончацца. А цяпер у вёсцы Тур'я вырашыў пабудаваць для сям'і вялікі дом. Таксама часу не стае. Так і бягуць гады. І ўсё ж я абавязкова пабываю на радзіме таты.

— А ці захаваліся ў вас старыя фотаздымкі з Макаўлянаў?

— На вялікі жаль, не. Упершыню тата сфатаграфаваўся ў 1950-х гадах.

— Якой веры быў ваш тата?

— Ён быў праваслаўны, а мама — каталічка. Тата заўсёды святкаў усе святы: і праваслаўныя, і каталіцкія. Але ў царкву тады, у савецкі час, хадзіў рэдка.

— Як ушаноўваецца памяць пра Героя Сацыялістычнай Працы сёння? Усё ж, не кожнаму тады давалі такое званне.

— Трохі памятаюць пра яго. У Шчучынскім райвыканкаме на стэндзе «Знакамітыя людзі Шчучынскага раёна» ёсць і яго імя. У раённай кнізе «Памяць» таксама тата згадваецца. Маме адзін раз у год даюць за бацьку нейкую невялікую фінансавую дапамогу, але і яна гэтым задаволена. Вось і ўсе згадкі.

## Доктар медыцынскіх навук

У архіве асабістых спраў Гродзенскага медыцынскага ўніверсітэта за 1971 год ёсць звесткі пра Пятра Іванавіча Шыманскага — кандыдата медыцынскіх навук. Гэта пазней ён стане доктарам медыцынскіх навук, прафесарам. Аказалася, што Пётр Шыманскі нарадзіўся 7 лютага 1928 года ў Беластоку. У 1953 годзе ён скончыў Брэсцкую фельчарска-акушэрскую школу, а ў 1959 годзе — Мінскі медыцынскі інстытут.

Пасля заканчэння інстытута Пятра Шыманскага накіравалі на працу ў Гродзенскі медінстытут. Спачатку ён пра-

цаваў аспірантам, а потым асістэнтам кафедры нармальнай фізіялогіі гэтага інстытута. У 1967 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму «Аб асаблівасцях самарэгуляцыі сардэчна-сасудзістай сістэмы ў здаровых сабак і пры эксперыментальнай пітуітрынавай гіпертэнзіі».

У 1971 годзе Пятра Шыманскага запрасілі ў Другі Маскоўскі медыцынскі інстытут (цяпер Расійскі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт), і ён пагадзіўся. Там наш зямляк абараніў доктарскую дысертацыю, стаў прафесарам. Апублікаваў дзясяткі матэрыялаў на розныя медыцынскія тэмы, напісаў некалькі кніг, манаграфій. Калі пералічваць назвы гэтых публікацый і кніг, то простаму чалавеку, далёкаму ад медыцыны, яны нічога не скажуць. Ну, напрыклад, «Ангіятэнзіятанаграфія ў эксперыменце і клініцы», «Хранатропны і інатропны кампаненты кардыяльных рэфлексаў у коткі» і іншыя.

У Расійскі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт мне ўдалося датэлефанавацца і запытаць у рэктараце пра Пятра Іванавіча Шыманскага. На жаль, яго хатні тэлефон і адрас мне там не далі, але сказалі, што прафесар, нягледзячы на свой паважны ўзрост, яшчэ чытае лекцыі студэнтам.

## Прафесар мінералогіі

Радзіма расійскага геолага, горнага інжынера, прафесара мінералогіі Екацярынаслаўскага вышэйшага горнага вучылішча Леанарда (Леаніда) Антонавіча Ячэўскага (1858–1916) — Беласточчына (канкрэтнае месца нараджэння пакуль даведацца не ўдалося). Тут прайшлі яго дзіцячыя і юнацкія гады.

У 1883 годзе наш зямляк скончыў Пецярбургскі горны інстытут. Пасля заканчэння інстытута Леанард Ячэўскі праводзіў геалагічныя даследаванні ў Забайкальскай вобласці Расіі. Затым шукаў залатыя промыслы па прытоках ракі Анота і Урыка ў Іркуцкай вобласці. Актыўна займаўся пошукамі каменнавугольных радовішчаў у стэпах Кіргізіі.



Калі пачалося будаўніцтва Сібірскай чыгункі, Леанард Ячэўскі ўваходзіў у склад геалагічнай партыі, якая праводзіла даследчыя работы вакол сярэднесібірскага і байкальскага ўчасткаў Сібірскай магістралі.

У 1896 і ў 1897 гадах наш зямляк адкрыў вялікія мясцовыя месцазнаходжанні нефрыту ў басейне рэк Анота і Урыка Іркуцкай вобласці.

У канцы 1890-х гадоў у сувязі з жаданнем вырабіць саркафаг для рускага цара Аляксандра III Леанард Ячэўскі паехаў у камандзіроўку на Саяны і шукаў спецыяльны камень для саркафага. Ён знайшоў такі камень, але той не задаволіў царскіх чыноўнікаў і быў забракаваны. Засмучаны такім вынікам, спадар Янчэўскі пакінуў пошукі і стаў працаваць у Екацярынаслаўскім вышэйшым горным вучылішчы. Там стаў прафесарам мінералогіі, апублікаваў некалькі сваіх прац. Сярод іх — «Геалагічны нарыс залатых промыслаў каля зліцця рэк Аноты і Інгоды», «Алібераўскае месцазнаходжанне графіту», «Геатэрмічныя назіранні ў Сібіры» і іншыя.

В. Вярнацкі, сучаснік Ячэўскага, пісаў, што для Леанарда Ячэўскага «не было мяжы паміж практыкай і тэорыяй. Ён да пытанняў практыкі падыходзіў з навуковым метадам і браў адтуль пытанні, якія цікавілі жыццё, але ў той жа час і для навукі ставіў новыя задачы. Ён шмат зрабіў для пошукаў і вывучэння карысных выкапняў Сібіры, у прыватнасці золата».

## Паштоўка ад Уладзіміра Казберука

Яшчэ восенню 2012 года напісаў невялікі ліст у Мінск літаратуразнаўцу, кандыдату філалагічных навук Уладзіміру Казберуку і задаў яму некалькі пытанняў. Мяне цікавіла, як пажывае 90-гадовы пісьменнік, ці пішацца яму што, аб чым думаецца. Але доўга вестак ад яго не было. Дый я не хацеў больш турбаваць сталага чалавека. І раптам перад праваслаўнымі Калядамі ў 2013 годзе атрымліваю ад Уладзіміра

Міхайлавіча Калядную паштоўку з віншаваннямі і адказамі на мае пытанні. Аўтару гэтага матэрыяла, усім беларусам Беласточчыны, а таксама землякам з родных Бандараў, дзе нарадзіўся вучоны філолаг, Уладзімір Казбярук жадае моцнага здароўя і «ўсяго, што ў жыцці патрэбна».

— Уладзімір Міхайлавіч, ці часта цяпер сядаеце за рабочы стол пісьменніка?

— Апошнім часам адчуваю сябе так, што за пісьмовы стол ужо не сядаю. Але зборнік успамінаў пра Максіма Танка я падрыхтаваў яшчэ ў мінулым стагоддзі (нават у мінулым тысячагоддзі), але ён яшчэ не выйшаў з друку.

— Аб чым думаецца сёння вам з вышыні 90-гадовага беларускага літаратара? Дарэчы, вы самы старэйшы беларускі літаратар з Беласточчыны, які, дзякаваць Богу, яшчэ жыве і думае пра нашу культуру і літаратуру.

— Я ўжо не даю рады сачыць за сучасным літаратурным працэсам, бо мала што чытаю. І таму пра асаблівасці літаратурнага працэсу такога ўяўлення не маю, як гэта было раней. За рабочы стол не сядаю, хаця мне шмат чаго трэба было б зрабіць. Ёсць важныя задумы, якіх я ажыццявіць не паспеў. Калісьці вядомы даследчык літаратуры Генадзь Кісялёў у адным з артыкулаў пісаў, што мне вельмі карысна было б скласці зборнікі артыкулаў, якія я апублікаваў. Але мне заўсёды хацелася апублікаваць нешта новае. Паспеў у 2007 годзе выдаць сваю кнігу «Нашы вытокі». Але тады, калі я пачынаў публікаваць першыя артыкулы, то ў мяне яшчэ не было планаў на далёкую перспектыву. Я пісаў пра тое, што нейкім чынам прыцягвала ўвагу чытачоў і даследчыкаў літаратуры. А цяпер думаецца пра тое, што пражыта, што было, чым жыў.

— Я прачытаў вашу кнігу «Нашы вытокі» — кнігу пошукаў гісторыка-літаратурнай праўды. Вельмі цікавая кніга.

— Мая кніга «Нашы вытокі» ўяўляе сабой зборнік артыкулаў, у якіх разглядаюцца з'явы і падзеі старой беларускай літаратуры, удакладняюцца некаторыя трактоўкі «Слова аб палку Ігаравым», іншых помнікаў пісьменнасці. Асноўную ўвагу ў ёй надаю разгляду так званых белых плям і спрэчных пытанняў той далёкай гістарычнай эпохі. Аналізую таксама дзейнасць і літаратурную творчасць Гальяша Пельгрымоўскага, пісара Вялікага Княства Літоўскага.

— Уладзімір Міхайлавіч, з кім з беларускіх літаратараў падтрымліваеце сёння сувязі, гутарыце, тэлефануеце?

— Пакінулі нас тыя пісьменнікі, з якімі я мог гутарыць ці ў час сустрэч, ці па тэлефоне. Гэта былі Іван Навуменка, Віктар Каваленка, Генадзь Кісялёў, Янка Брыль і іншыя. Сам я ўжо хадзіць нікуды не магу і пра тое, што адбываецца ў літаратуры, даведваюся толькі з газеты «Літаратура і мастацтва» і часопіса «Полымя». Ад сённяшняга літаратурнага працэсу, на вялікі жаль, я адарваўся ў такой ступені, што ўжо не даў бы рады заўважыць нейкія змены ў ім. Ад узросту не ўцячэш, а мне ўжо споўнілася 90.

*2013*



## Крутыя дарогі Прытыцкіх з Гаркавічаў

Родная сястра вядомага беларускага дзяржаўнага дзеяча Сяргея Прытыцкага (1913–1971) Іраіда Царук даслала сваю новую кнігу ўспамінаў на рускай мове «Крутые дороги» (Мінск, 2012). Кніга прысвечана Сяргею Прытыцкаму.


*Сяргей Прытыцкі*

Шчыра прызнаюся, прачытаў я яе з вялікай цікавасцю. Кніга напісана проста, лёгка чытаецца, момантамі ажно захапляе. Шкада толькі, што напісаны ўспаміны па-руску. Такія выданні, лічу, павінны быць на роднай мове, яны яшчэ лепш чыталіся б, яны бліжэй былі б беларускаму чытачу, таму што, апісваючы і ўспамінаючы родную Беласточчыну, родныя Гаркавічы, Саколку, Заходнюю

Беларусь, нельга так цёпла і сардэчна выказаць свае думкі на чужой мове, як на роднай.

Пяць гадоў працавала Іраіда Царук над успамінамі. І яны ўдаліся, атрымаліся, хаця месцамі, калі чытаеш, напрошваецца рэдактарская праўка. Ды што гэта я пачаў з заўваг. Яны, вядома ж, ёсць. Але сам змест успамінаў — гэта далёка не сухія факты гісторыі Заходняй Беларусі, гэта цёплыя і сардэчныя ўспаміны і перажыванні, боль, радасць і жыццё сям'і Прытыцкіх з вёскі Гаркавічы Сакольскага павета Падляшскага ваяводства. Аўтарка на прыкладзе сваёй сям'і, гісторыі родных братоў, сясцёр, бацькоў практычна паказала гісторыю беларускага народа, асабліва беларусаў з Заходняй Беларусі.

Кніга «Крутые дороги» (далей цытаваць буду ўсё ў перакладзе на беларускую мову. — *С. Ч.*) складаецца з трох раздзелаў: «Пачатак шляху», «Ваенныя дарогі», «Новае жыццё». У першым раздзеле аўтарка разгледзела гістарычны шлях Беларусі, роднай Беласточчыны, Сакольшчыны і Гаркавічаў з Юраўлянамі. Аўтарка піша, што некалі ў Сакольцы вялікае значэнне мелі кірмашы, дзе гандлявалі коньмі. А справа ў тым, што добрым попытам карысталіся некалі коні «сакольскай» пароды. Па іх і прыязджалі пакупнікі з розных рэгіёнаў Польшчы.

А вось што кажа аўтарка пра рэкруцкі тэрмін службы. «Рэкрутчына ўспрымалася беларускімі (і не толькі) сялянамі, як паховіны жыўцом. Чалавек, які стаў рэкрутам, практычна назаўсёды знікаў з сям'і, нават калі ён служыў 25 гадоў».

Цікавы факт Іраіда Царук згадвае пра свайго дзеда Рыгора Прытыцкага: «Мой дзед Рыгор быў сярэдняга росту, моцнага целаскладу мужчына. Вызначаўся зайздросным здароўем. Памёр, працуючы ў полі, на 105-м годзе жыцця, напярэдадні Першай сусветнай вайны».

Шмат і даволі праўдзіва аўтарка кнігі апісвае горкі хлеб бежанцаў-беларусаў. У Гаркавічы тады прыскакалі на конях сотні рускіх казакоў і пачалі крычаць: «Збірайцеся, ідзіце з вёскі, бо яе мы будзем хутка паліць. Нічога не пакідайце немцам». Людзі Гаркавічаў разгубіліся, бо не ведалі, што рабіць, куды ісці і ехаць. Прытыцкія, напрыклад, пасадзілі ўсіх на воз і паехалі ў Крынкі, Малую Бераставіцу і далей на ўсход. З тэрыторыі Заходняй Беларусі, па інфармацыі Іраіды Царук, выехалі прыкладна 2,5 мільёна чалавек, а вярнуліся на бацькаўшчыну ўсяго толькі каля 600 тысяч. Бежанцы з Гродзеншчыны і Беласточчыны апынуліся ў Сібіры, Забайкаллі, сярэдняй частцы Расіі, у Краснаярску, Хакасіі, Томску, Пензе, Тамбове. Тады з 1902 па 1912 гады вывезлі і пасялілі ад Цюмені да Іркуцка каля 3 мільёнаў чалавек, з якіх 1,5 мільёна былі з заходніх губерняў. У адным толькі Тулунскім павеце Цюменскай губерні з 157 вёсак — 124 вёскі былі заселены беларусамі. Там яны ў цяжкіх умовах тайгі, балот засявалі новыя землі, будавалі чыгунку, наладжвалі адносіны з мясцовым насельніцтвам — буратамі, якутамі, эвенкамі, якія іх сустрэлі далёка не па-сяброўску.

Сям'я Прытыцкіх з Гаркавічаў трапіла ажно ў Пензенскую губерню. Ім больш-менш пашанцавала ў бежанстве, але бацька Іраіды вельмі сумаваў па Беласточчыне. Аўтар кнігі ўспамінае: «Бацька сумаваў па родных мясцінах, хаця і імкнуўся схаваць гэта, асабліва ад жонкі. А мама — чулая, уважлівая, усё заўважала і часам пыталася: «Не можаш забыць Гаркавічы? Сумуеш? А што там мы бачылі добрага?»

Але Восіп Рыгоравіч, каб не хваляваць жонку, маўчаў. Хаця перад вачыма яго заўсёды стаялі родныя беларускія мясціны, старая вярба каля ганка і маладая рабіна каля веснічак, вішнёвы сад у канцы агарода, квітнеючыя яблыні і грушы ў вялікім садзе… «Тут прыгожа, — часам казаў у бежанстве бацька, — але нашых сцяжынак тут няма», — чулліва прыгадвае Іраіда Царук.

Вярнуліся на бацькаўшчыну. Прыехалі ў Мінск. Але ён сустрэў далёка не шчыра. Як быццам гэта вярнуліся не беларусы, а чужакі. У Прытыцкіх скончыліся харчовыя запасы, ды і грошай не было. Беларусы Беласточчыны казалі: «Ехалі

да Мінска — кідалі лупінска, а ехалі з Мінска — збіралі лупінска».

Згодна з перапісам насельніцтва 1921 года, на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства пражывалі 3 372 134 чалавекі, што складала 12,5% насельніцтва Польшчы. 70,5% былі беларусы, 11,4% — яўрэі, 10% — палякі.

Іраіда Царук у сваёй кнізе згадала і знакамітых людзей Беласточчыны: кампазітара, дырыжора Кастуся Кіслага, братоў Грынкевічаў, фізіка Аляксандра Гершуна, архітэктара Іосіфа Лангбарда, тэатральнага крытыка Арсеня Лабовіча, палітыка Янку Чарапука і іншых. Ёсць згадка і пра тэатральны кааператыў «Полымя», які дзейнічаў на Беласточчыне ў 1930-х гадах. Дэкарацыі да спектакляў кааператыва «Полымя» тады маляваў беларускі мастак Язэп Драздовіч, аўтарка кнігі чамусьці называе яго Іванам Драздовічам.

Прыгадвае Іраіда Царук і рэвалюцыйны шлях Сяргея Прытыцкага, а таксама Паўла Валошына. «Ад вёскі да вёскі, ад хутара да хутара ішоў Сяргей Прытыцкі, ствараючы ў былой Заходняй Беларусі падпольныя ячэйкі партыі і камсамола, уцягваючы ў рэвалюцыйную барацьбу дзясяткі, сотні новых змагароў» — піша натхнёна аўтарка кнігі. Былы падпольшчык А. Я. Якубоўскі, які працаваў у той час на Браслаўшчыне, у Крынках, Слоніме і іншых мясцінах, у пісьме да аўтаркі кнігі ў 1971 годзе пісаў, што ў Крынках ён упершыню сустрэўся з камсамольцам «Аркадзем». Пазней ён даведаўся, што Аркадзь — гэта С. В. Прытыцкі. Па ініцыятыве Аркадзя ў той час адбываліся забастоўкі ў Крынках, не быў ён убаку ад забастовак і ў іншых рэгіёнах Беласточчыны.

Шмат старонак у кнізе адведзена таму моманту, калі ў судзе Сяргей Прытыцкі страляў у Якава Стральчука. Але забіць Стральчука яму не ўдалося, бо ён быў апрануты ў бронежылет. Чуллівы ўспамін Іраіды Царук, калі маці сустракаецца ў турме з Сяргеем Прытыцкім: «Прывялі Сярожу. Апіраючыся на кіёк, ён ледзьве ступаў на нагу. Бледны, худы. Але маму сустрэў такой радаснай, здавалася, бесклапотнаю ўсмешкай. Толькі матуліна сэрца не падманеш. Прытуліўшыся да яго грудзей, мама ціха-ціха сказала:



— Сынок, на добрага чалавека ты руку не паднімеш.

— Ніколі, мамачка, — апусціўшыся перад ёй на калені, ціха адказаў Сярожа, — чэсным і добрым людзям я заўсёды дапамагу чым змагу.

— Сярожанька, а я чым магу дапамагчы табе? Ты такі бледны, можа, табе маёй крыві хоць кропельку ўліць?

Пасля гэтага, расказваў Сярожа, ён нічога не мог сказаць. Слёзы пырснулі з яго вачэй. Упершыню і апошні раз гэты, здавалася, жалезны чалавек плакаў. Час спаткання праляцеў імгненна. Наглядчык хутка разлучыў маці з сынам. Праз некалькі тыдняў — 12 лістапада 1937 года — мама памерла…».

Пра смерць сваёй мамы Сяргей Прытыцкі даведаўся ад сястры Любы, калі тая наведала яго за кратамі ў Гродне. Люба сказала: «Сярожка, апошні, гарачы паклон табе ад мамы». Сяргей стаў бледным, схапіўся рукамі за краты і сказаў: «Мама памерла…» Болей размаўляць яны не змаглі…

У 1937 годзе Сяргей Прытыцкі выйшаў на волю. Але потым пачалася Другая сусветная вайна, пасляваенная адбудова Бацькаўшчыны. Пра лёс Сяргея Прытыцкага ў гэты час аўтарка распавядае ў наступных раздзелах кнігі. З яе ўспамінаў чытачы даведаюцца, што ў Сяргея Прытыцкага было вельмі шмат сяброў. Сярод іх былі і беларускія літаратары. Ён шмат гадоў сябраваў с Міхасём Лыньковым, Петрусём Броўкам, Кандратам Крапівой, Піменам Панчанкам, Піліпам Пестраком, Максімам Танкам. Вельмі шмат вершаў Максіма Танка ведаў на памяць.

Летам 2007 года аўтарка кнігі Іраіда Царук са сваімі сваякамі наведала Польшчу. Яна пабывала ў родных Гаркавічах. А вось Юраўлянаў ужо няма. Там пагранічная застава. Са 120 дамоў у Гаркавічах засталося толькі 30. Музея Сяргея Прытыцкага даўно не існуе. Аўтарка з горыччу піша: «Ужо няма нічога, з чаго складвалася тое жыццё, калыскай якой былі Гаркавічы».

Так, аўтарку ўспамінаў можна зразумець. Яна шчыра распавядала пра свой час, пра сваё XX стагоддзе. Гэта былі яе гады: шчаслівыя і сумныя, горкія і радасныя. Яе равеснікі жылі, думалі, вучыліся, працавалі ў цесным кантакце з жыццём, гісторыяй, усімі падзеямі нашай Беларусі. А адарваць Прытыцкіх, як і ўсіх беларусаў, ад нашай Радзімы немагчыма. Якім бы бурным, трагічным, ствараючым і разбуральным ні было тое XX стагоддзе.

*2013*

## Беларуская Беласточчына на старонках кнігі Зоські Верас «Я помню ўсё»



*Зоська Верас*

У 2005 годзе Міхась Скобла падрыхтаваў і выдаў эпісталярную спадчыну Ларысы Геніюш «Каб вы ведалі». У 2013 годзе з друку ва Уроцлаве выйшаў вялікі том успамінаў і пісьмаў Зоські Верас «Я помню ўсё». Таксама праца Міхася Скоблы, які ўкладаў, рыхтаваў тэксты, пісаў прадмову і каментар да кнігі. Вельмі ўдалыя назвы падабраў укладальнік да гэтых выданняў. У першай Ларыса Геніюш у сваіх лістах распавядала праўду пра тое, што адбывалася ў Беларусі ў XX стагоддзі, расказвала шчыра, бо паэтка не магла маўчаць, хоць для сваіх успамінаў вымушана была абраць самы непублічны жанр — лістоўны. У лістах Ларысы Геніюш — праўда, каб мы яе ведалі заўсёды.

У пісьмах Зоські Верас — каб мы помнілі пра тых, хто аддаў усе свае сілы і жыццё дзеля Бацькаўшчыны, пра тых, хто сапраўды быў патрыётам, а не толькі беларусам. Выданне ўспамінаў і пісем Зоські Верас прымеркавана да яе 120-годдзя з дня нараджэння, з якіх амаль сто гадоў беларуская грамадская дзяячка пражыла і бачыла на сваім



вяку шмат чаго і шмат каго. У кнізе апублікавана 386 лістоў Зоські Верас, з іх 367 надрукаваны ўпершыню.

Калі грунтоўна даследаваць кнігу «Я помню ўсё», то гэта даследаванне можна падзяліць на некалькі раздзелаў: «Беларуская інтэлігенцыя на старонках кнігі», «Беларуская Вільня на старонках кнігі», «Слонімшчына на старонках кнігі» і г. д. Я вырашыў пагартаць старонкі беларускай Беласточчыны кнігі Зоські Верас «Я помню ўсё». Дужа яна шырока паказана ва ўспамінах і лістах Людвікі Сівіцкай (Войцік). І шмат новага, цікавага можна даведацца з таго, што нам у спадчыну пакінула наша грамадская дзяячка.

Кніга Зоські Верас пачынаецца з аўтабіяграфіі аўтаркі, з успамінаў пра старое Гродна, Гродзенскі гурток беларускай моладзі, пра курсы ў Варшаве, пра таварыства помачы ахвярам Першай сусветнай вайны, пра Менск, Вільню, пра таварыства «Пчала» і часопіс «Беларуская борць» і, вядома ж, пра Альхоўнікі: «Можна ехаць дахаты ў Сакольшчыну, у фальварак майго дзеда Альхоўнікі, дзе чакала мяне маці… Я ў Альхоўніках займалася агародамі і была ў дзеда практыкантам-пчаляром. Часам спатыкалася з некаторымі сябрамі ГГБМ, напрыклад, з А. Зенюком, Я. Лявіцкім (бацькам) і Марысяй Бобрык…» ГГБМ — гэта Гродзенскі гурток беларускай моладзі. Пра яго сяброў таксама шчыра ўзгадвае Зоська Верас. Асабліва цёпла прыгадвае Адама Бычкоўскага, які быў адным з арганізатараў і першым старшынёй ГГБМ. Паходзіў Адам Бычкоўскі з фальварка Талочкі Сакольскага павета. Гэта цяпер з пісем Зоські Верас я даведаўся, што Бычкоўскі быў жанаты, і гэта была яго памылка, з грузінкай, але па духу рускай шавіністкай, якая не дапускала ў хату нікога з беларусаў, прычым і дачку гэтак навучыла. Адам за ўсё гэта перажываў, хаця сам, калі жыў і працаваў у Варшаве, моцна кантактаваў з беларусамі, дапамагаў ім, асабліва тады, калі патрэбны былі юрыдычныя кансультацыі. А свой архіў перадаў на захаванне Пятру Ластаўку. У пісьме да Аляксея Пяткевіча ад 18 лістапада 1971 года

Зоська Верас піша: «Сягоння мінула 34 гады ад дня смерці першага старшыні Горадзенскага гуртка беларускай моладзі Адама Бычкоўскага. Ён быў і адным з арганізатараў гуртка. Маю яго лісты і маю артыкул Пятра Ластаўкі «Адвакат Адам Бычкоўскі» — да 30-годдзя яго смерці, напісаны ў 1967 годзе. П. Ластаўка меў надзею, што гэты артыкул будзе надрукаваны ў беластоцкай «Ніве». Але гэта была толькі абяцанка — не надрукавалі. У гэтым артыкуле гаворыцца аб працы адваката А. Бычкоўскага ў Варшаве ў апошнія гады перад смерцю…».

Папракае Зоська Верас «Ніву» і ў іншых лістах да гарадзенскіх літаратараў. У прыватнасці Міколу Гайдука — карэспандэнта «Нівы» ў пісьме да Адама Мальдзіса (5 ліпеня 1979 года): «Не ведаю, ці Вы помніце артыкул у беластоцкай «Ніве», змешчаны на юбілей (85 гадоў?) Р. Шырмы. Там былі такія радкі: «Р. Шырме запрапанавалі працу ў Віленскай Беларускай гімназіі… Пачаў працаваць у 1926 г. Але працаваў нядоўга, бо праз два гады гімназію закрылі» (гэта, мусі, значыць — зачынілі). Вынік — Віленская Беларуская гімназія ў 1928 годзе перастала існаваць. Я адразу напісала ў рэдакцыю «Нівы»: «Ці гэта злая воля, ці абыякавасць аўтара артыкулу да гістарычнай праўды?» Рэдактар мне нічога не адказаў, але паказаў ліст мой аўтару — М. Гайдуку… Толькі цяпер, 31 красавіка, як М. Гайдук заехаў да мяне, справа высвятлілася: вестка аб зачыненні Віленскай Беларускай гімназіі ў 1928 годзе ўзята з успамінаў Р. Шырмы… М. Гайдук на мяне не пакрыўдзіўся. Наадварот, сцвярджаючы, што я яго «вылаяла», сказаў, што гэта добра! Каб ізноў не скараціць існаванне ВБГ аж на 16 гадоў… У артыкуле — яшчэ паўбяды, але ў кніжцы было б недаравальна».

У пісьмах Зоські Верас дастаецца часам і «Беларускаму календару». Але ў лісце да Дануты Бічэль ад 16 студзеня 1981 года яна паведамляе: «А ці даходзіць у Гародню беластоцкі «Беларускі каляндар»? У сёлетнім надрукавалі нарэшце мае ўспаміны аб Гарадзенскім гуртку беларускай моладзі».



Сябры Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі прысутнічаюць амаль ва ўсіх пісьмах Зоські Верас. Пра іх аўтарка піша шчыра, цёпла, з настальгіяй успамінае светлы час у Гародні, пра тыя мерапрыемствы, якія арганізоўвалі беларускія хлопцы і дзяўчаты гуртка, пра іх сустрэчы і вандроўкі. Найбольш у гуртку было моладзі з Сакольшчыны. А гэта Язэп Лявіцкі, Адольф Зянюк, Янка Ляўковіч, Уладыслаў Чаржынскі, Янка Чарапук, Марыся Бобрык, Францішак Эйсмант, Павел Аляксюк, Марыя Салянка і многія іншыя. Па-рознаму склаўся іх лёс. Язэп Лявіцкі загінуў падчас Першай сусветнай вайны. Адольф Зянюк памёр ва ўзросце 44 гадоў у Вільні. Ён рэдагаваў некалі «Студэнцкую думку». Уладзіслаў Чаржынскі памёр у Казані ў ссылцы, Янка Чарапук у Чыкага і г. д. У пісьме да Аляксея Пяткевіча ад 16 студзеня 1972 года Зоська Верас паведамляе: «Я памаленьку збіраю звесткі аб некаторых сябрах гуртка. Пытаюся ў пляменніка кс. Грынкевіча. Гэты пляменнік — Казімір Грынкевіч — добры беларус, жыве ў Новым Двары. Я з ім перапісваюся і аб некаторых гурткоўцах у яго магу даведацца. Аб Марыі Бобрык не пішу, бо маю шмат яе лістоў… Лабенец Хвэлька — з Новага Двара, аб ім распытаюся К. Грынкевіча. Ведаю адно, што ў 1918 годзе выехаў у Савецкі Саюз. Спаткала я яго ў Менску на вакзале… Пранук Эйсмант (паміж іншым, хрышчоны сын маёй бабкі — па матцы) — сын лесніка ці аб'ездчыка. Жылі ў вёсцы Кусьцінцы Сакольскага павета. Скончыў гімназію ў Гродне. Пасля я яго страціла з вачэй…»

Родную Сакольшчыну Зоська Верас памятала заўсёды. У пісьме да кампазітара Яўгена Петрашэвіча 2 верасня 1968 года яна нават прыгадала прыпеўкі, якія спявалі ў вёсцы Новы Двор Сакольскага павета. Вось некалькі з іх:

Я на ганачку стаю,
Слёзкі коцяцца.
Мяне замуж аддаюць,
А мне хочацца.

* * *

Ой, пайду я на гару,
На жоўты пясочак —
Кавалера прыману
На сыры кусочак!

* * *

Танцуй, танцуй, абы змог,
Не шкадуй маіх ты —
Мае ножкі сталёвыя,
Да таночку гатовыя.

У пісьме да Аляксея Пяткевіча ад 16 студзеня 1972 года Зоська Верас зноў прыгадвае Сакольшчыну і сваіх родных людзей: «Пасля смерці бацькі я і маці вярнуліся на Бацькаўшчыну. Адзін год — 1908 — пражылі ў Сакольшчыне, у фальварку матчынага бацькі, а ў 1909 годзе я паступіла адразу ў 6-ю клясу гімназіі ў Гродне». А Вячку Целешу ад 14 кастрычніка 1980 года адказвае на яго пытанне. А пытаўся ў яе Целеш: ці была яна дзе, акрамя Гродна? «Толькі ў Лідзе, і то каратка — праездам», — адказвае Зоська Верас. А далей яна ўздыхае, але гэты ўздых настальгічны, самотны, далёкі і нават радасны: «А ў Сакольшчыне ведаю мястэчкі: Сідру, Сухаволю, Дуброву, Саколку… і шмат вёсак. Усё гэта ў дзяцінстве і ранняй маладосці…»

Зоська Верас пры жыцці актыўна сачыла за ўсімі беларускімі справамі, дзе б яны ні адбываліся. Яна шмат чытала, ёй дасылалі кнігі беларусы з усіх куткоў свету. Кнігі яна чытала вельмі ўважліва. І калі там знаходзіла недакладнасці, вельмі перажывала, пісала пра гэта ў сваіх лістах, распавядала сябрам. У 1978 годзе яна ў кнізе «Стану песняй» Лідзіі Арабей прачытала пра скамарохаў. У пісьме да Адама Мальдзіса напісала: «Паводле мяне, на Беларусі ніколі скамарохаў не было. Батлейку насілі батлейшчыкі. Я ў Сакольшчыне запісала словы батлейкі, як яшчэ была ў гімназіі. А ў Менску мы адшукалі на правінцыі старога батлейшчыка, прывезлі ў Менск (зразумела — з батлейкай) і на Захараўскай, 24 у «Беларускай кнігарні» цэлы тыдзень ладзілі яго выступленні».



Незадаволена Зоська Верас была і артыкулам Аляксандры Бергман пра Сымона Рак-Міхайлоўскага, які быў апублікаваны ў «Беларускім календары» за 1980 год. Яна піша Аляксею Пяткевічу, што «нейкім цудам Смолічы зрабіліся Лёсікамі! Апошнія ніколі ў Гродне не былі». Крытыкуе Зоська Верас і непраўдзівыя звесткі пра Антона Луцкевіча, пытаецца ў Пяткевіча: «Чаму ж А. Бергман маніць?»…

Беларуская Беласточчына ў пісьмах Людвікі Антонаўны Сівіцкай вельмі розная. Але дзякуючы гэтым лістам мы сёння можам даведацца шмат цікавага і новага пра таленавітых людзей беластоцка-беларускай зямлі, пра тыя падзеі, якія адбыліся на Беласточчыне ў першай палове ХХ стагоддзя.

*2013*

## Панцеляймон Панамарэнка выганяў беларусаў з роднай зямлі

Жыхары вёскі Пасінічы Слонімскага раёна Іван і Людміла Літвінюкі шчыра сустрэлі мяне гарачай гарбаткай, цукеркамі і абаранкамі.

— Частуйцеся абаранкамі, яны вельмі смачныя, сын з Мінска прывёз, — сказала гаспадыня і сардэчна запрасіла за стол.

— А дзе ваш сын вучыцца ці працуе? — пытаюся ў Літвінюкоў.

— Наш сын Аляксандр Літвінюк жыве ў Мінску, ён яшчэ малады, але ўжо кандыдат эканамічных навук. Выдаў некалькі кніг па праблемах развіцця сусветнай эканомікі і міжнародных эканамічных зносінаў, знешнеэканамічнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь і інтэграцыі яе ў сістэму трансгранічных сувязей. Вельмі хацеў бы наладзіць сувязі з такімі ж маладымі эканамістамі ў Польшчы, з землякамі

бацькі, які родам з вёскі Гарнова, што на Беласточчыне, — працягвала размову спадарыня Людміла Літвінюк.

— Іван Андрэевіч, дык вы родам з Беласточчыны? — пытаюся ўжо ў гаспадара хаты.

— Так. Нарадзіўся я ў 1939 годзе ў Польшчы ў вёсцы Гарнова Бельск-Падляшскага раёна, а пасля вайны, мусіць, гэта быў Сямытыцкі раён. З Гарнова нашу сям'ю эвакуіравалі ажно ў Херсонскую вобласць на Украіну. Агітацыя ехаць на Усход была вельмі актыўная. Мне расказвала маці, што ў нашай хаце нават быў сам Панцеляймон Панамарэнка, які агітаваў выязджаць на Усход, практычна выганяў нас і іншыя беларускія сем'і на Усход.

— Магчыма. Панцеляймон Панамарэнка быў рускім чалавекам, даваў згоду на арышт і асуджэнне дзяржаўных і партыйны работнікаў БССР…

— А ў 1938–1947 гадах ён быў сакратаром ЦК КП(б)Б, адначасова з верасня 1939 года з'яўляўся членам ваеннага савета Заходняй ваеннай акругі. Так што мая маці казала праўду. Гэта быў 1944 ці 1945 год, адразу пасля вайны.

— Кім працавалі ў Гарнове вашы бацькі?

— Яны былі звычайныя сяляне, працавалі на зямлі. Мелі 12 гектараў зямлі ў Гарнове, гектар лесу. Многія сваякі бацькі нікуды не паехалі, засталіся на радзіме. Сям'я наша была невялікая: я і сястра. Сястра ўжо памерла, а мне цяпер 72 гады.

— А ваша сям'я ўсё ж пакінула родную вёску Гарнова?

— Заставілі пакінуць. Бацькі пагрузілі ў вагоны плугі, бароны, сячкарню, 5 кароў і іншае хатняе багацце, і мы паехалі, як пісалася ў эвакуацыйным лісце, у іншы раён БССР, а завязлі нас ажно на Украіну. А тады на Украіне была галадоўка, таму выгадна было, каб да іх прыехалі сяляне з багатай Заходняй Беларусі з каровамі, коньмі, збожжам. Прыехалі туды, а там галадэча. Некаторыя ўсё кінулі і паехалі назад у Польшчу. А іншыя беларусы паспрабавалі застацца.

— І ці доўга вы былі ў Херсонскай вобласці?



— Нядоўга. Сабралася нас некалькі сем'яў, і вырашылі мы ехаць назад сваім ходам, запрэглі каня, пагрузілі ўсё і пачалі вяртацца. Але па дарозе ў нас утапіўся конь, тады запрэглі дзве каровы і ехалі дамоў такім чынам. Прыехалі мы на Слонімшчыну ў вёску Багданавічы. Пасялілі нас у хату, дзе жыў паляк, які выехаў у Польшчу. Дом быў вялікі, і ўладкавалі туды тры сям'і з Беласточчыны: нашу сям'ю, Здунюкоў і Персцянюкоў. Палякі паехалі, але бульбу, відаць, выкапаць не паспелі. Мы выкапалі бульбу, засыпалі скапцы і аднойчы прачынаемся, а іх нехта падпаліў. Магчыма, хтосьці з палякаў, якія засталіся на Слонімшчыне. Тым не менш мы пачалі паціху абжывацца, я пайшоў у школу. А потым нам далі хату ў вёсцы Мізгіры, дзе жыло ўжо шмат беларусаў з Беласточчыны. Нам нават зайздросцілі многія, што ў ладны дом нас засялілі, бо ў многіх хатах не было падлогі, невялікія хаткі былі, халаднаватыя. А нам патрапіўся вялікі і дагледжаны дом. Але ў калгас мае бацькі так і не ўступілі, не пайшлі, не захацелі. У нас тады забралі зямлю, а далі толькі 20 сотак.

— А ці былі ў вашай маці і бацькі браты і сёстры?

— У бацькі была сястра, яна жыла ў заходняй частцы Польшчы. Яна нават хацела бацьку выклікаць у Польшчу, каб ён вярнуўся ў Гарнова, але не паспела, бо памерла. А ў мамы было шмат братоў і сясцёр.

— І як ваш лёс склаўся на Слонімшчыне?

— Бацька меў каня і працаваў на розных работах, але ў калгас не пайшоў. У 1952 годзе супраць яго завялі справу. Бацька пачаў хавацца. Яго некалькі разоў выклікалі ў НКУС на допыты. А калі ў 1953 годзе Сталін памёр, прыйшла паперка, што справа спынена.

— І бацька ваш так ніколі і не ўступіў у калгас?

— Не. Потым мы пераехалі ў Слонім. Бацька і маці ніколі пенсіі не атрымлівалі. А калі стаў СССР кіраваць Гарбачоў, то маці атрымала 100 рублёў. Бацька памёр рана — у 1973 годзе, а маці пражыла 83 гады. Прозвішча мамы было Макарчук Надзея, яна таксама была родам з Гарнова.

— Ці памятаеце вы, Іван Андрэевіч, што-небудзь з вёскі Гарнова?

— Памятаю, дзе стаяла наша хата. Калі пакінулі яе, то маці сказала вяскоўцу Савіцкаму, каб ён там жыў. Бацька мой Андрэй ездзіў у 1962 годзе ў Гарнова, то казаў, што хаты, хлява, розных прыбудоў ужо няма. Іх Савіцкі перанёс на хутар. Бацька з горыччу казаў пра гэта.

— А вы наведвалі Беласточчыну?

— Быў адзін раз там у 1973 годзе. І то з цяжкасцю далася мне гэта паездка пры камуністах. Але паехаць на радзіму мне пашанцавала.

— Ці падтрымліваеце сувязі з кім-небудзь з Беласточчыны?

— Мы хочам знайсці землякоў, якія да нас прыязджалі. Мы шмат гадоў таму сустракаліся, гутарылі з Аляксандрам Літвінюком з Гарнова, з якім у 1974 годзе спаткаліся ў Мінску. А таксама хочам знайсці Макарчука Юзіка з Сельдцаў — сваяка мамы. Ён жыў на вуліцы Гальчынскага. Гасцяваў у нас і айцец Антоній Чапко. Але сувязі з гэтымі людзьмі даўно спыніліся. Хочацца даведацца пра лёс маіх землякоў.

— Іван Андрэевіч, а як ваш лёс склаўся ў Беларусі?

— Я скончыў фізмат Брэсцкага педінстытута. Працаваў настаўнікам на Слонімшчыне, быў дырэктарам школы ў горадзе Клічаве на Магілёўшчыне. Калі пайшоў на пенсію, з жонкай прыехалі на Слонімшчыну ў хату яе бацькоў, дзе цяпер і жывём. Дарэчы, я ніколі не быў піянерам, камсамольцам і членам кампартыі. І добра, што нікуды не паспеў уступіць.

*2012*





# Юбілейны фэст Вольгі Грышук



*Вольга Грыцук, 1958 г.*

Пачну з верша. Гэты верш мне даслаў выдатны наш паэт, даследчык беларускай культуры, краязнавец Сяргей Панізьнік. Верш прысвечаны слаўнай беларусцы Вользе Грыцук з Канады. Эпіграфам верша служаць радкі Вольгі Грыцук з дому Дуброўскіх: «Мая радзіма — Дзісеншчына… І я не магу зразумець тых, хто лёгка забываецца на сваю зямлю, сваю мову, на ўсё, што робіць чалавека чалавекам». А верш гучыць так:

Жыла ў Дзісне з Дуброўскімі, Ластоўскімі,
Тут чула Жаўняровіча псалмы…
Дасюль Дзісна ні крыгамі, ні войскамі
Не змецена: тут Адзігітрыя і мы.
Да Друі, да Лявонпаля, да Браслава
Схіляюцца чупрыны курганоў.
І сёння ёй, Васільеўне, прыўкраснага
Тут вельмі многа для паромаў-сноў.
Дарожкаўскую вуліцу з каштанамі,
Муры, капліцу помніла дзяўчо…
…Пранесліся нягоды — ураганамі
І пад спадзеў падстаўлена плячо.
Каханейка пякучае не стоміцца
Збіраць сляды дзяцінства ля Дзвіны…
Ёй здзейсніцца Дзісна! Вярба памоліцца,
Каб наша суайчынніца-патомніца
Прыйшла на фэст пад родныя званы.

Вядома, прыйдзе спадарыня Вольга на фэст, на свой фэст юбілейны, на свой фэст вялікі, шчыры, светлы, беларускі — 29 кастрычніка 2013 года ў яе дзень нараджэння — ёй спаўняецца 90. І прыйдуць на фэст усе беларусы Канады, Амерыкі, Бельгіі, Германіі, ЗША, Польшчы, Англіі, Белару-

сі, каб павіншаваць яе з гэтым слаўным юбілеем. А хто на фэст не патрапіць, дык ён абавязкова знойдзе Вольгу Грыцук у канадскім горадзе Кінгстане, каб абняць яе і пажадаць здароўя і толькі здароўя, а таксама падзякаваць за ўсё добрае, што яна зрабіла за сваё жыццё і што працягвае рабіць для беларускай культуры, нягледзячы на свой вялікі ўзрост.

Лісты ад Вольгі Грыцук, якія атрымліваю з Канады, пазнаю адразу па прыгожым, роўненькім почырку. Адкрываю канверт і чытаю: «Пра Вашу кніжку «З беластоцкай зямлі», якую выдала ў Беластоку Праграмная Рада Тыднёвіка «Ніва», я атрымала шмат добрых ацэнак і задавальнення ад беларусаў для якіх я выслала Вашу кніжку. Доктар Вітаўт Кіпель з Нью-Ёрку прыслаў мне ліст, у якім піша, што шмат чытаў, але Ваша кніжка дапоўніла ягоныя веды. Казаў таксама, што такой кніжкі, добрай кніжкі ніхто яшчэ не напісаў. Пішыце больш, бо гэта вельмі важна і патрэбна для адраджэння нашай Бацькаўшчыны вольнай і незалежнай…».

У іншым пісьме спадарыня Вольга паведамляе: «Сёлета (маецца на ўвазе, у 2011 годзе. — *С. Ч.*) у красавіку ў Вербную нядзелю адведалі мяне з Таронта уладыка Святаслаў, які прывёз з сабой спадарынь Наталлю Гардзіенка і Віялету Кавалёву. Наша беларуская арганізацыя Згуртаванне беларусаў Канады ў Таронта запрасіла спадарыню Гардзіенка напісаць кніжку пра Згуртаванне беларусаў у Канадзе. Спадарыня Гардзіенка прыехала ў Канаду на цэлы месяц. Ездзіла ў Манрэаль, Атаву, шукала матэрыялы на кніжку. Да мяне прыехала ў апошні дзень перад выездам у Беларусь. Калі кніжка будзе выдадзена, не ведаю. Усе паперы і дакументы яна сфатаграфавала…»

У пісьме пытаюся ў спадарыні Вольгі, ці кантактаваў яе муж Алесь Грыцук з беларусамі, калі вучыўся ў Варшаўскім універсітэце. Спадарыня Вольга хутка піша адказ, дзе яна паведамляе і пра Алеся Грыцука: «Мой муж у тым часе ў Варшаве не жыў. Ён у 1930-х гадах настаўнічаў у Браславе і завочна вучыўся ў Варшаўскім універсітэце на гістарычным факультэце. Скончыўшы навуку, ён атрымаў



дыплом з тытулам магістра. Я пераглядзела ўсе ягоныя паперы і нічога не знайшла: ані дакументаў, ані лістоў і здымкаў з таго часу. Таксама не ведаю, ці мой муж меў якія-небудзь кантакты з беларусамі ў Варшаве. У 1939 годзе яго з Браслава мабілізавалі ў польскае войска і паслалі на фронт абараняць Варшаву. Там ён быў паранены і забраны ў нямецкі палон. Ляжаў у шпіталі ў Варшаве. Калі набраўся сіл і раны загаіліся, Алесь са шпіталя ўцёк дадому ў Плянту да бацькоў на Беласточчыну. У тым часе Беласточчына ўжо была акупавана Савецкім Саюзам…»

Пажаніліся Аляксей (Алесь) Грыцук з Беласточчыны і Вольга Дуброўская з Дзісеншчыны 1 лютага 1958 года. Як бачыце, у спадарыні Вольгі сёлета два юбілеі: 55 гадоў таму яна выйшла замуж за беластоцкага беларуса і свой уласны юбілей.

Шлях Вольгі Дуброўскай да Аляксея Грыцука быў няпростым і доўгім. Пра гэта яна вельмі дакладна і шчыра напісала ў сваёй кнізе «Мы стваралі сваю Беларусь» (Мінск, 2007). Кніга ўнікальная, цікава чытаецца, шмат фактаў з уласнай біяграфіі і з біяграфіі Аляксея Грыцука, з жыцця беларусаў у Канадзе.

На Захад Аляксей Грыцук з Беласточчыны паехаў у 1944 годзе. А ў Канаду ён дабраўся параходам з Італіі ў студзені 1948 года. Яго ўзялі ў гэтую краіну па кантракце, які трэба было адрабіць. Цэлы год ён працаваў лесарубам. Было яму нялёгка. Ён перапісваўся толькі з Міколам Ганько. І праз Міколу Алесь выйшаў на Згуртаванне беларусаў Канады, арганізаванае Кастусём Акулам. А калі скончыўся тэрмін кантракту, Аляксей Грыцук прыехаў у Таронта. І там уладкаваўся на фізічную працу і штодня вучыў англійскую мову. У Таронта ён актыўна ўключыўся ў беларускае жыццё. А Вольга Дуброўская ў гэты час ужо жыла ў Польшчы, яны сталі перапісвацца. Тым часам сябры Алеся Грыцука ў Канадзе сталі паціху жаніцца, а ён чакаў сваю Вольгу. І вось той дзень наступіў. Вольга Грыцук успамінае: «Увечары са сталіцы Англіі я ляцела трансатлантычным самалётам у

Манрэаль з перасадкай у Таронта. У цудоўны сонечны дзень, гадзіне 11-й мяне сустрэў з групай сяброў Алесь — дарагі, чаканы. Ён бег насустрач, схапіў у абдымкі, пакружыў некалькі разоў, аж закружыў мне галаву. Мы абое расплакаліся. Яго сябры апладзіравалі і казалі: «Горка, горка!» А там завезлі нас на кватэру, якую наняў ва ўкраінцаў Глушкоў. Алесь падрыхтаваў сюрпрыз: сам склаў з купленых ім дэталяў тэлевізар і паставіў яго ў пакоі. Тэлевізар тады яшчэ быў вялікай навіной, і мяне ўразіла, што Алесь змог яго сам зрабіць. Ён доўга нам служыў. Першы куплены тэлевізар мы займелі ўжо потым, калі пераехалі ў Кінгстан…»

1 лютага 1958 года Алесь і Вольга ўзялі шлюб. А 8 студзеня 1959 года ў іх нарадзілася дачка Юльяна.

Вольга Грыцук, натхнёная сваім мужам, стала ў Канадзе актыўнай дзяячкай беларускага руху. У 1965 годзе яна была адной з заснавальніц Згуртавання беларускіх жанчын Канады. А 6 снежня 1975 года яе абралі старшынёй Згуртавання беларускіх жанчын Канады. Гэту арганізацыю Вольга Грыцук узначальвала 18 гадоў — да 1993 года.

І 18 гадоў Вольга Грыцук пражыла з Аляксеем Грыцуком. Яго не стала ў траўні 1976 года. Перад смерцю ён казаў: «Беражы Юльянку і глядзі, каб не страціць дом. Я ведаю, ты моцная, ты ўсяму дасі рады».

І мужная жанчына-беларуска сапраўды аказалася моцнай. Яна дала адукацыю дачцэ, дачакалася ўнучку Сафію… Спадарыня Вольга жыла і за сябе, і за Алеся. І працягвае жыць і думаць пра лёс Беларусь і вельмі спадзяецца, што народ беларускі будзе шчаслівы.

У яе кнігу «Мы стваралі сваю Беларусь» увайшлі і ўспаміны пра Алеся Грыцука. Але ў гэтых успамінах ёсць і радкі-характарыстыкі пра Вольгу Грыцук. Барыс Аляксандрыў кажа пра яе так: «Оля — сціплая, разважная і чуйная». Раіса Жук-Грышкевіч напісала, што «Любіў Алесь Грыцук прыгаство, і Бог надарыў яго прыгожай жонкай Вольгай і дачкой Юльянай». Вольга Іпатава шчыра апісвае: «Вольга Грыцук і цяпер захавала былую прыгажосць — сінія вочы, акварэльныя фарбы твару, стройную постаць, мілую ўсмешку і нейкую даверлівую чуллівасць».



Гляджу на фотаздымак спадарыні-беларускі Вольгі Грыцук і думаю, няўжо за плячыма гэта прыгожай і мужнай жанчыны дзевяць дзясяткаў гадоў. Шмат ёю пражыта, шмат пабачана, шмат зроблена. Хочацца верыць, што яе жыццёвы фэст будзе працягвацца да наступных юбілеяў, бо для беларусаў і Канады, і Беларусі, і Польшчы спадарыня Вольга заўсёды з'яўлялася прыкладам, як трэба шчыра любіць сваю Бацькаўшчыну, свой народ, родную мову. Любіць, шанаваць, перажываць за беларускасць да апошняга дыхання, да апошняга імгнення.

*2013, кастрычнік*

## З Бацютаў — у Дзятлава

У горадзе Дзятлава, што на Гарадзеншчыне, на Кастрычніцкай вуліцы жыве Галіна Мікалаеўна Яравая. Падчас сустрэчы жанчына прызналася, што яна родам з вёскі Бацюты, якая знаходзіцца недалёка ад Беластока. А ў пацвярджэнне гэтаму кабета прынесла з хаты фотаздымак 1948 года. Ён быў зроблены ўжо ў Дзятлаве, але на здымку сфатаграфаваны многія жыхары вёскі Бацюты, найбольш там беларусаў з прозвішчам Калодка. Я папрасіў жанчыну расказаць пра людзей, якія сфатаграфаваны на здымку, а таксама пра сябе.

Галіна Мікалаеўна захвалявалася, але з прыемнасцю пачала свой аповед:

— Я нарадзілася ў 1940 годзе ў Бацютах. Калі пачалася вайна і бамбёжка, тата мяне ўзяў на рукі і пабег хавацца ў бульбу, што расла за хатай. А ў гэты момант снарад падае проста на наш агарод, але не змог узарвацца. Так мы засталіся жывыя…

— А якое прозвішча было ў вашага бацькі?

— Бацьку звалі Мікалай Іосіфавіч Шэйноўскі. А мой дзед Іосіф падчас рэвалюцыі ў Расіі жыў у Маскве. Ён працаваў

на чыгунцы. А бацька мой там хадзіў у школу, скончыў нават чатыры класы. Пасля яны прыехалі ў Бацюты. На той час тата быў у Бацютах даволі адукаваным чалавекам. Працаваў там намеснікам солтыса. Ён выпісваў паперы на падаткі людзям і разносіў іх па хатах.

— Ваш бацька і дзед былі праваслаўныя ці каталікі?

— Усе мы праваслаўныя, па нацыянальнасці — беларусы.

— А як ваш дзед трапіў з Масквы ў Бацюты?

— Ён адсюль быў родам. І вярнуўся на радзіму. А пасля вайны тату рэпрэсіравалі і саслалі ў Разань.

— А за што тату рэпрэсіравалі?

— Атрымалася вельмі прыкрая недарэчнасць. Справа ў тым, што да вайны ў Бацютах было некалькі Шэйноўскіх Мікалаеў. Адзін з іх падчас вайны пасадзіў яўрэя на воз, накрыў саломай і завёз за мост, які праходзіў праз Нарву, і здаў немцам. Пасля вайны падумалі, што гэта зрабіў мой бацька Шэйноўскі і саслалі яго ў Разань на пасяленне. Праўда, адбыў ён там толькі тры гады, яго памілавалі і адпусцілі. Бацька вырашыў вярнуцца ў родныя Бацюты да сваякоў.

— Але Беласточчына ўжо была пад Польшчай.

— Так, Сталін ужо Беласточчыну аддаў палякам. Таму тата ў Бацюты не трапіў, а прыехаў у Дзятлава, куды шмат пераехала нашых аднавяскоўцаў і сваякоў.

— У 1948 годзе ў Дзятлаве жыхары Бацютаў вырашылі зрабіць агульны фотаздымак. Так?

— Так. Мне было тады толькі 8 гадкоў. Але я памятаю той час і многіх на гэтым здымку.

— Раскажыце, калі ласка, хто сфатаграфаваны на гэтым старым здымку.

— На гэтым здымку сфатаграфаваны сем'і Калодкаў, Конюхаў, Фісяк, Абрамовічаў, Грынаш, Капцеўскіх — усе яны з Бацютаў. Але ёсць і чужыя асобы. У другім радзе ў вайсковай форме, трэці злева сядзіць энкэвэдэшнік, які арганізоўваў і перавозіў нас з Бацютаў у Дзятлава. Прозвішча яго не памятаю. Ён ажаніўся з нашай Аняй Калодка, што сядзіць злева ад яго. Гэты энкэвэдэшнік ужо памёр.





Справа на здымку ў касцюме таксама нейкі рускі чэкіст з Чалябінска. Пасля вайны яго прыслалі на Беларусь, каб знішчыць беларускую банду Гомана. Калі ён яе знішчыў, так казалі людзі, то паехаў назад у свой Чалябінск. Часова ён жыў у Дзятлаве.

— Для вас гэты здымак, відаць, вельмі дарагі?

— Вельмі. Ён мне нагадвае дзяцінства, якое прайшло ў Бацютах і ў Дзятлаве, а таксама маіх сваякоў і аднавяскоўцаў, многіх якіх, на жаль, ужо няма на гэтай зямлі.

*2011*

## Верш пра вёску Козлікі

Шукаючы творы старэйшага беларускага паэта Анатоля Іверса (1912–1999) для ягонай кнігі паэтычнай спадчыны «Аўсяныя росы», я перагартаў падшыўкі Слонімскай раённай газеты за 1960–1980 гады. У адным з нумароў газеты за 1977 год натрапіў на падборку вершаў паэта, прысвечаных Польшчы. Якраз тады Анатоль Іверс наведаў суседнюю дзяржаву. Ён пабываў у Плоцку, дзе ў 1930-х гадах служыў

у польскай кавалерыі. Наведаў паэт і Беласточчыну, праязджаў праз вёску Козлікі, у якой нарадзіўся Герой Савецкага Саюза, Маршал Савецкага Саюза беларус Васіль Сакалоўскі (1897–1968).

Пасля вяртання з Польшчы Анатоль Іверс напісаў цыкл вершаў, прысвечаных дзяржаве-суседцы. Гэта вершы «Працуе Вісла», «Зацесна Нарве ў берагах», «У Плоцку», «Над Віслай». Яны былі надрукаваны не толькі ў слонімскай раённай газеце, але і ў беларускім тыднёвіку «Ніва», што выдаецца ў Беластоку. У слонімскай падборцы быў яшчэ адзін верш, які называецца «Вёска Козлікі», а ў «Ніве» я яго не знайшоў. Вырашыў верш Анатоля Іверса пра вёску Козлікі ўключыць у сваю кнігу.

## Вёска Козлікі

Ад Беластока ехалі мы ў Бельск,
І справа вёска Козлікі мільгнула.
Цвілі сады, і яблынева бель
Маё дзяцінства моцна закранула.
Сяло заўсёды мілае. А тут…
Радзіўся слаўны маршал Сакалоўскі.
Здаецца, дрэвы тут бялей цвітуць
І сыплюць квецень у другія вёскі.
О, колькі вёсак, дальніх берагоў
Сустрэлі шчасце — свята Перамогі.
Цяжэй было б, напэўна, без яго
Разбіць фашызм, прыйсці ў свае парогі…
Святыя месцы, будзьце на зямлі,
Каб мы маглі прыехаць і наведаць,
Дарогі тыя ўспомніць, што прайшлі,
І болей — радасцяў, і меней — бедаў.

*Анатоль Іверс, 1977 г.*



## Тэлефанізацыя Слоніма ў першай палове 1930-х гадоў




*Паштовая марка, выпушчаная ў Польшчы ў 1992 г.*

Тэлефонная сетка Слоніма ў пачатку 1930-х гадоў дзейнічала ў рамках адной польскай арганізацыі «Polska Poczta, telegraf i telefon».

Хаця сама Слонімская пошта мае даўнія традыцыі. Пра гэта напамінае і паштовая марка, выпушчаная ў Польшчы ў 1992 годзе. На ёй адлюстраваны герб пошты другой паловы XVIII стагоддзя. Пад княжацкай каронай, на фоне княжацкага плашча знаходзяцца і польскія арлы, і беларуская «Пагоня», і надпіс «Stacya Poczthalteryi Slonimska».

У музеі пошты і тэлекамунікацый у Вроцлаве на ганаровым месцы стаіць вялікая слонімская паштовая карэта. Захоўваецца там і пячатка слонімскай пошты часоў Міхала Казіміра Агінскага (1738–1800). Тады слонімскім паштмайстрам быў нехта І. Чахоўскі.

Амаль праз два стагоддзі пасля Агінскага ў Слоніме з'явіліся тэлефоны. Па спісе абанентаў, які захоўваецца ў музеі ў Вроцлаве, бачна, што ў пачатку 1930-х гадоў у Слоніме налічвалася 190 тэлефонаў — адзін апарат-нумар на 98 жыхароў. Гэта было вельмі мала, бо на той час у Еўропе адзін тэлефонны апарат-нумар быў на 22 чалавекі.

Давайце цяпер паглядзім, хто, напрыклад, напачатку 1930-х гадоў у Слоніме меў тэлефоны. Дарэчы, тэлефоны тады былі падключаны на наступных вуліцах і завулках (гэта цікава, якія назвы мелі вуліцы і завулкі Слоніма ў першай палове XX стагоддзя): 3 Мая, Глухая, Другая Берагавая, Ружанская, Міцкевіча, Студэнцкая, Касцюшкі, Гандлёвая, Панятоўскага, Віленская, Сянкевіча, Пілсудскага, Замкавая, Бернардзінская, Маставая, Магістрацкая, Доўгая,



Мяшчанская, Уланская, Агінскага, Жыровіцкая, Школьны двор, Гандлёвы пляц, завулак Аптэчны, завулак Зялёны. У асноўным тэлефанізацыя была наладжана ў цэнтры горада. Пошта для сваіх патрэб мела 8 тэлефонаў. Дарэчы, тэлефоны пачыналіся з нумара 0 і да нумара 189. Калі ў той час нехта набіраў нумар 0, то мог датэлефанавацца да зменшчыка ў паштова-тэлеграфным аддзяленні Слонім-1 на вуліцы Касцюшкі (цяпер гэта вуліца Маякоўскага (стары будынак пошты)), калі нехта набіраў нумар 4, то мог пазваніць у паштова-тэлеграфнае аддзяленне Слонім-2, якое знаходзілася на чыгуначным вакзале, а паштова-тэлеграфнае аддзяленне Слонім-3 месцілася ў ваенных казармах (туды тэлефон быў з нумарамі 1–49).

У пачатку 1930-х гадоў у Слоніме было тры аптэкі, дзве бальніцы і прыватныя дактары, у асноўным яўрэі — Эфрас Ізаак, Эпштэйн Моўша, Хая Якімоўская, Максім Каварскі, Крэмень Моўша, Цяліга Чэслаў, Станіслаў Хшаноўскі, А. Руцкі, а таксама адзін ветэрынар. Кожны з іх меў свой тэлефон. Аптэка «Здароўе» знаходзілася на вуліцы 3 Мая, д. 11 (цяпер Чырвонаармейская вуліца). Гарадскі шпіталь знаходзіўся на вуліцы Магістрацкай, дзяржаўны шпіталь на вуліцы Пілсудскага, акушэрская ўстанова на вуліцы Касцюшкі. Ва ўсіх медустановах былі свае тэлефоны.

Тэлефон з нумарам 1 мела следчая ўстанова, тэлефон нумар 2 — агульная канцылярыя Слонімскага староства, нумар 3 — мясцовы магістрат, нумар 5 — чыгуначны пастарунак Дзяржаўнай паліцыі, які знаходзіўся на чыгуначным вакзале, нумар 6 — натарыус Ціт Салтоўскі, які жыў на вуліцы Касцюшкі, нумар 7 (і гэта вельмі дзіўна і цікава) меў аптовы склад спіртавой манаполіі на вуліцы Пілсудскага і г. д.

Шмат тэлефонаў мелі два пяхотныя палкі — 79 і 80, якія дыслацыраваліся ў той час у Слоніме. Яны размяшчаліся ў казармах, дзе цяпер знаходзіцца Слонімская 11-я механізаваная брыгада на Чырвонаармейскай вуліцы. У вайскоўцаў была свая гарнізонная тэлефонная станцыя, якая абслугоўвала тэлефоннай сувяззю камандзіраў, казармы імя генерала

Скерскага, жандармерыю, гарнізонную палату хворых, камендатуру, лясны трэніровачны лагер, прыватныя кватэры генералаў Туркоўскага і Бандроўскага, парахавы склад.

Тэлефоннай сувяззю былі забяспечаны і банкі з касамі, якіх у Слоніме на той час было нямала. Тэлефоны мелі Народны банк з абмежаванай адказнасцю на вуліцы Касцюшкі, Купецкі кааператыўны банк на вуліцы Міцкевіча, Хрысціянскі банк на вуліцы Міцкевіча, камунальная ашчадная каса ў Слоніме, каапературыўная каса, казначэйская ўстанова па справах падаткаў і гербавых зборах.

У першай палове 1930-х гадоў у Слоніме налічвалася ажно пяць гасцініц з тэлефонамі. Гэта былі гасцініцы «Вікторыя» Жалікоўскага на вуліцы Міцкевіча, 3, «Кракаўская» Равіцкага на вуліцы Замкавай, 8, «Гранд» Мерамінскага на вуліцы Маставой, 40, «Метраполь» Эльясевіча на вуліцы Маставой, 32, «Славянская» Любоўскага на вуліцы Студэнцкай, 3.

Мелі тэлефоны і слонімцы, якія займаліся бізнесам. Напрыклад, Лейба Айзенштадт грошы рабіў у лясной прамысловасці, Аўраам Парэцкі вырабляў мэблю, Юдэль Паразоўскі на Гандлёвым пляцы (цяпер плошча Леніна) меў уласную друкарню з тэлефонам № 155, прыватная друкарня была і ў Раманоўскага Вольфа на вуліцы Сянкевіча, 5, тартакі мелі на Доўгай вуліцы Файн і Канцапольскі з тэлефонамі № 147 і 148 і іншыя.

Мелі тэлефонныя апараты і многія слонімскія магазіны: электрычны, радыётэхнічны, водаправодны, матацыклаў, мэблевы, сельгасмашын, будаўнічых матэрыялаў і іншыя.

Тэлефоны ў першай палове 1930-х гадоў былі ўстаноўлены і ў лясніцтвах, дзяржаўнай настаўніцкай семінарыі, якая знаходзілася на вуліцы 3 Мая, 38 (у будынку сённяшняга ліцэя), у Грыбаве ў дзяржаўнай мужчынскай сельскагаспадарчай школе, у павятовай радзе беспартыйнага блока супрацоўніцтва з урадам, у гарадской бойні. Слонімскія графы Уладзіслаў Пуслоўскі, Ксаверы Пуслоўскі, Эмэрык Чапскі, Лізавета Моль таксама карысталіся паслугамі тэлефоннай



сувязі. Тэлефон меў і ўладальнік прыватнага таксі Мікалай Павук, які жыў на вуліцы Пілсудскага, 53.

Дзе працавалі і чым займаліся тады ў горадзе над Шчарай Рабіновічы, Манусевічы, Мілеры, Лахазвянскія, Гродзенскія і іншыя слонімцы, у якіх дома таксама стаялі тэлефоны, — невядома. Скажу яшчэ, што беларус Фабіян Якімец быў тэхнікам-наглядчыкам тэлеграфа і тэлефонаў у Слоніме.

*2013*

## Населеныя пункты Слонімскага павета ў 1905 годзе

Слонімскі павет 107 гадоў таму назад быў значна большы па тэрыторыі за сённяшні Слонімскі раён. Ён тады меў плошчу 6,3 тысячы квадратных вёрст (1 вярста — 1066,8 метра). Плошча Слонімскага раёна сёння налічвае 1,5 тысячы квадратных кіламетраў. У склад Слонімскага павета ўваходзілі і некаторыя землі з населенымі пунктамі сённяшніх Зэльвенскага, Дзятлаўскага, Баранавіцкага, Пружанскага, Івацэвіцкага і Мастоўскага раёнаў.

Слонімскі павет, пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай, у 1795 годзе быў далучаны да Расійскай імперыі. Ён спачатку знаходзіўся ў складзе Слонімскай губерні (аказваецца, што наш Слонім быў некалі не толькі павятовым горадам, а і губернскім), потым у складзе Літоўскай губерні, а з 1801 года — у Гродзенскай губерні, а з 1920 года — пад Польшчай, а з верасня 1939 года ўвайшоў у склад БССР.

Цяпер давайце вернемся ў Слонімскі павет 1905 года. На той час ён меў 23 воласці: Боркінскую, Быценьскую, Гічыцкую, Дабромысленскую, Дварэцкую, Дзераўнянскую, Дзярэчынскую, Дзятлаўскую, Жыровіцкую, Казлоўскую, Кастровіцкую, Косаўскую, Курылавіцкую, Люшнеўскую, Мар’янскую, Міжэвіцкую, Пацаўскую, Пескаўскую, Рагатнянскую, Ружанскую, Старавескую, Чамерскую і Шылавіцкую. Насельніцтва ў Слонімскім павеце налічвалася каля

230 тысяч чалавек. З іх беларусаў — каля 81%, яўрэяў — каля 15%, рускіх — 2,1%, палякаў — каля 1,5%. У склад Слонімскага павета ўваходзіў павятовы горад Слонім, а таксама пасёлкі, накшталт Аляксандрава-Альбярціна, сёлы, як, напрыклад, Высацк, вёскі, маёнткі, урочышчы, двары, хутары, фальваркі, млыны, дзе таксама жылі людзі, сядзібы, лясныя аховы, чыгуначна-дарожныя казармы, паштовыя станцыі. Усіх населеных пунктаў Слонімскага павета налічвалася каля 1400 адзінак.

Найбольшым па насельніцтву ў 1905 годзе быў павятовы Слонім. У ім пражывалі 20 130 чалавек. Цікава, а колькі вяскоўцаў тады было ў слонімскіх вёсках? Вёскі сто гадоў таму былі даволі густанаселенымі. І найбольш там пражывала беларусаў. Як паведамляе выданне Гродзенскага губернскага статыстычнага камітэта «Указатель населенным местностям Гродненской губерніи» (Гродна, 1905), у вёсцы Азарычы пражывалі 253 чалавекі, у вёсцы Акачы — 245, у Бабынічах — 765, у Бярдовічах — 172, у Баравіках — 327, у Бракаве — 349, у Вербалатах — 357, у Вяценеўцы — 330, у Ваўчунах — 191, у Вараб'евічах — 350, у Высацку — 246, у Глоўсевічах — 926, у Гуменіках — 287, у Ганьках — 224, у Дзеравянчыцах — 348, у Драпаве — 278, у Едначах — 296, у Загрыцькаве — 381, Ісаевічах — 294, у Капустах — 90, у Клепачах — 515, у Какошчыцах — 389, у Кастровічах — 330, у Малой Кракотцы — 317, у Вялікай Кракотцы — 627, у Лысках — 549, у Ламашах — 325, у Лапухове — 493, у Мыславе — 691, у Нагуевічах — 552, у Нараставічах — 76, у Акунінаве — 554, у Орлавічах — 135, у Востраве — 541, у Пасінічах — 640, у Переваловцы — 1090, у Парэччы — 484, у Разанаўшчыне — 190, у Рахавічах — 353, у Касцянях — 468, у Савічах — 616, у Сянькоўшчыне — 436, у Скоўдзічах — 124, у Сурынцы — 540, у Трыбушках (цяпер вёска Мірная) — 327, у Тушэвічах — 144, у Хадзявічах — 649, у Харашэвічах — 436, у Чапялёве — 909, у Чамярах — 800, у Цывіншчыне — 150, у Ягнешчычах — 440, у Якімавічах — 348 і г. д.



За сто гадоў, як бачыце, насельніцтва вёсак Слонімшчыны зменшылася ў некалькі разоў. Шмат вёсак знікла з геаграфічных картаў нашага сённяшняга раёна. А тады ў Слонімскім павеце іх было шмат, асабліва многа было фальваркаў, хутароў, маёнткаў, двароў, сядзібаў, урочышчаў. А там таксама жылі людзі, жылі добра, шмат працавалі на зямлі, трымалі кароў, свіней, курэй, авечак. Даўно зніклі ўрочышча Юзафін-Бакуновічы каля Шылавічаў, урочышча Харажэўшчына каля тых жа Шылавічаў, маёнтак Трончын каля Кастровічаў, маёнтак Струг каля тых жа Кастровічаў, урочышча Татэнь каля Міжэвічаў, маёнтак Стабінава каля Кастровічаў, урочышча Свінка каля Шылавічаў, фальварак Басіны каля Шылавічаў, вёска Вашкевічы каля Кастровічаў, дзе пражывалі 346 чалавек, урочышча Гута каля Шылавічаў, былая карчма Дывальня каля Чамяроў, фальварак Дзедава каля Чамяроў, фальварак Іванкоўшчына каля Жыровічаў, двары Каменка каля Чамяроў і Шылавічаў, урочышча Колбавічы каля Шылавічаў, урочышча Лісавічы каля Міжэвічаў, урочышча Кустоўка каля Дзераўной, урочышча Куць, ці Ямічна (дзве назвы ў аднаго ўрочышча), каля Шылавічаў, аколіца Лазы-Савіцкія каля Міжэвічаў, урочышча Леанцінава каля Шылавічаў, маёнтак Ксавер'ева каля Кастровічаў, урочышча Лядоўня каля Кастровічаў, урочышча Лозкі-Раманава каля Міжэвічаў, сядзіба Марыямпаль каля Кастровічаў, фальварак Міхалін каля Міжэвічаў, сядзіба Мосцішча каля Кастровічаў, урочышча Аўчарня каля Кастровічаў, урочышча Плябанка каля Жыровічаў, урочышча Пералесенка каля Жыровічаў, маёнтак Падлужжа каля Кастровічаў, фальварак Адамполь-Янова каля Чамяроў і дзясяткі іншых.

Былі ў Слонімскім павеце і населеныя пункты, якія мелі адны і тыя ж назвы. Напрыклад, Ягнішчычы (тады вёска называлася Ягнешчыцы) мела назву вёска, быў маёнтак Ягнешчыцы, дзе пражывалі 5 чалавек, а таксама сядзіба Ягнешчыцы, дзе жылі 6 чалавек. А назву Азярніца насіла не толькі мястэчка з насельніцтвам 554 чалавекі, але і маёнтак Азярніца, дзе жылі 70 чалавек, вадзяны млын Азярніца, дзе

таксама пражывалі 6 чалавек, чыгуначная станцыя Азярніца з 50 асобамі і лясная ахова Азярніца налічвала 6 чалавек. Тое ж самае было і з Дзявяткавічамі Старымі (105 асобаў), Дзявяткавічамі Новымі (107 асобаў), маёнткам Дзявяткавічы Старыя (73 асобы), былая карчма з 6 асобамі і млын Дзявяткавічы Новыя з 6 асобамі.

Вельмі шмат фальваркаў (польскае слова *folwark*, нямецкае *vorwerk* — панская гаспадарка з комплексам будынкаў, ці проста невялікая сядзіба на хутары працавітага селяніна) было ў пачатку XX стагоддзя ў Слонімскім павеце. Адны назвы — гэта цэлы слоўнік сакавітых і прыгожых слоў: Андржэева, Бакуновічы, Міхалін, Пятрунелін, Пятрапалін, Прусоўшчына, Дубароўшчына, Высоцк Горны, Басіны, Станіслававa, Глацькі, Янушэўшчызна, Дзедава, Забулле, Іванкоўшчына, Краснастаў і іншыя.

Жылі людзі ў той час і неслі службу ў чыгуначна-дарожных казармах, пастах тэлеграфных апаратаў, шасэйных будках. Кожная будка мела свой нумар. Напрыклад, чыгуначна-дарожныя будкі № 26, 27, 28, 607, 608, 609, 610 знаходзіліся каля Шылавічаў, будкі № 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 13, 14, 15 — каля Чамяроў і г. д. Там заўсёды прысутнічалі па 5–15 чалавек. І жыць, і працаваць, ці служыць у падобных будках, было нават ганарова. Таму не ўсім выпадала мажлівасць туды ўладкавацца.

*2013*





## Слонімскі разведчык, забыты ў Польшчы і ў Беларусі



*Якуб Грынчук*

У 1972 годзе сваякі сяржанта Якуба Грынчука са Слонімшчыны, які загінуў у гады Другой сусветнай вайны, напісалі ў ваенны архіў у горад Падольск Маскоўскай вобласці просьбу паведаміць, якія ўрадавыя ўзнагароды меў сяржант Грынчук Якуб Якаўлевіч. З архіўнага аддзела ўліку персанальных страт сяржантаў і салдат Савецкай Арміі хутка прыйшоў адказ. Але пра ўзнагароды ў ім не было ні слова, а толькі паведамлялася, што сяржант Грынчук Якуб Якаўлевіч, 1924 года нараджэння, загінуў 7 студзеня 1945 года. Пахаваны ён у вёсцы Янова на вясковай плошчы каля касцёла Рыпінскага павета Варшаўскага ваяводства Польшчы.

Хто ж такі сяржант Якуб Грынчук, які загінуў на тэрыторыі Польшчы ў гады Другой сусветнай вайны? Якуб Грынчук нарадзіўся ў вёсцы Грынкі на Слонімшчыне. Пасля таго, як сюды прыйшла савецкая ўлада, ён пайшоў вучыцца на слесара ў школу ФЗН, якая адкрылася ў Слоніме. А калі немцы акупіравалі Беларусь, Якуб стаў партызанскім сувязным і пайшоў працаваць на Грынкоўскі чыгуначны пераезд. Ні адзін варожы эшалон не прайшоў на ўсход без пільнага вока сувязнога. А калі немцы заўважылі падпольную работу юнака, камандаванне партызанскага атрада паклікала яго ў свае рады.

Пасля выгнання гітлераўцаў Якуб Грынчук працаваў сакратаром Шчучынскага райкама камсамола. Даведаўшыся, што ствараецца група разведчыкаў для пасылкі ў тыл ворага на польскую тэрыторыю ў ваколіцы Млавы, Якуб Грынчук добраахвотна даў згоду дапамагчы Савецкай Арміі і польскім сябрам вызваляць суседнюю Польшчу.

25 жніўня 1944 года група савецкіх разведчыкаў удала прызямлілася і дзейнічала ў цеснай сувязі з членамі польскай канспірацыйнай арганізацыі Рыпінскага павета. 7 студзеня 1945 года Якуб Грынчук нарваўся на нямецкую засаду. Калі яго акружылі, ён блізка падпусціў гітлераўцаў і ўзарваў гранату… А праз адзінаццаць дзён на тое месца, дзе загінуў савецкі разведчык, прыйшлі войскі Другога Беларускага фронту.

Удзячныя польскія сябры пахавалі слонімскага юнака і паставілі на магіле абеліск з чырвонай зоркай.

У 1973 годзе сваякі Якуба Грынчука па запрашэнні аддзела асветы і культуры Рыпінскай павятовай рады нарадовай пабывалі ў Янове ў Польшчы — там, дзе загінуў іх родны чалавек. Слонімцаў сустракалі кветкамі і гарачымі абдымкамі.

Тады ж у Янове адбылася ўрачыстасць, на якой прысутнічалі прадстаўнікі партыйных арганізацый, мясцовых улад, Генеральны консул СССР у Гданьску Пётр Шарыкін, многа людзей. Яноўскай школе тады прысвоілі імя нашага земляка, разведчыка Якуба Грынчука, а на школе адкрылі мемарыяльную шыльду. Пра гэта пісалі многія польскія газеты і часопісы.

Цэлы тыдзень гасцілі сваякі героя ў Польшчы. Яны азнаёміліся з павятовым Рыпінам, пабывалі ў мясцовай дзяржаўнай сельскай гаспадарцы, наведалі мясціны, дзе загінуў разведчык, былі жаданымі гасцямі ў былога сланімчаніна Станіслава Засімовіча, які працаваў там павятовым школьным інспектарам.

Польскія сябры ўручылі слонімскім гасцям многа памятных падарункаў, у тым ліку і вялікі фотаальбом, прысвечаны памяці Якуба Грынчука. Гэты альбом нядаўна паказала мне сланімчанка Клаўдзія Канстанцінаўна Каральчук, пляменніца Якуба Грынчука. Жанчына запыталася: «А ці цяпер захоўваецца памяць пра майго дзядзьку ў Польшчы?»

Я звязаўся з гісторыкамі Польшчы і запытаўся, ці ўшаноўваецца ў Янове памяць пра савецкага разведчыка, якія вызвалялі Польшчу ад гітлераўскіх салдат. Адказ быў сумны — не. Прыйшлося Клаўдзію Канстанцінаўну Каральчук засмуціць. Бо школа ў Янове ўжо не носіць імя Якуба Грынчука, ды і мемарыяльнай шыльды на школе даўно няма. Дзякаваць Богу, застаўся толькі абеліск, дзе загінуў і пахаваны разведчык са Слонімшчыны.



*2010*

## Першамай Алега Лойкі



*Алег Лойка*

1 траўня — дзень нараджэння майго слыннага слонімца — прафесара, доктара філалагічных навук, членакарэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук, паэта, празаіка, літаратуразнаўца Алега Лойкі (1931–2008). Пры жыцці 1 траўня, дзе б ні быў Алег Антонавіч, ён заўсёды ехаў у родны Слонім, ехаў дадому, да землякоў, на зялёны бераг Шчары.

Свой дзень нараджэння Алег Лойка любіў сустракаць менавіта ў Слоніме. Гэты горад ён называў сваім першым святлом, прасторам і любоўю. Ён так і пісаў: «Ды я не ведаю. Рос я ў горадзе ці ў вёсцы, бо з кожнай вуліцы і вулічкі гэтага лёгшага абапал Шчары гарадка відаць на ўзгоркавым небасхіле сінія лясы, відаць разлогія палі: вясною — у руні, летам — у спелых нівах, восенню — у срабрыстым павуцінні…»

Алег Лойка любіў Слонім, любіў людзей, якія жывуць і жылі ў ім, ці як ён называў у «гэтай Шчаравай даліне». Ён заўсёды ўсёй душой быў з родным горадам. Любы Слонім — ён шчыра насіў у сэрцы. А Першамай у Слоніме для Алега Антонавіча быў найвялікшым днём, які збіраў усіх яго сяброў і сваякоў за адным сталом. Збіраў у бацькоўскай хаце на Зялёнай вуліцы ці ў цешчынай хаце на Віленскай вуліцы.

Пасля Мінска ён вярнуўся ў Слонім назаўсёды. Жыў у цешчынай хаце, спачатку з жонкай Ліліяй, а потым, калі яе не стала, жыў адзін:

«Мілая!.. Мілая!..» —
Дык як я тое скажу
Па-над тваёй магілаю,
Поруч якой не ляжу…

Але што я распавядаю пра сумнае, я ж пачаў пра Першамай Алега Лойкі. Дык вось, у апошнія гады жыцця знакамітага слонімца і мне некалькі разоў прыйшлося з ім разам сустракаць Першамай — гэта значыць святкаваць дзень яго нараджэння. Сябра Алега Антонавіч — энцыклапедыст і літаратуразнавец з вёскі Вялікая Кракотка Янка Саламевіч таксама часта бываў у яго слонімскай хаце. А на дзень нараджэння свайго сябра спадар Янка спяваў народныя песні. Як яны разам, землякі-слонімцы, спявалі народныя песні!.. О, гэта трэба было бачыць і чуць! А колькі яны іх ведалі — дзясяткі, сотні… А ці мы сёння зможам за сталом праспяваць хоць адну беларускую народную песню?.. Га?.. Праспяваць ад пачатку да канца… А яны спявалі бясконца — адна за адной, якія толькі прыходзілі на памяць. Я і сёння іх бачу разам, чую іх, слухаю іх, яны — перада мной, як жывыя мае вялікія землякі…

Неяк Алег Антонавіч запрасіў мяне з сабой у вёску Крывічы Зэльвенскага раёна. Там у яго таксама былі сваякі па бацьку. Дый бацька Алега Антонавіча — Антон Цімафеевіч — быў адтуль родам. А дзед Цімох, як распавядаў Алег Лойка, умеў пакладаць (кастрыраваць. — *С. Ч.*) парасят, загаворваў ад рожы, ад пярэпалахаў. А прадзед Алега Лойкі — Лявон — бацька дзеда Цімоха — той увогуле меў славу знахара ледзь не на ўсё Палессе: да яго ў вёску Крывічы прыязджалі ажно з-пад Пінска. Гісторыя паўтаралася: на сёмым годзе пасля смерці бацькі Алега Лойкі на Зялёную вуліцу, 13 у Слонім, дзе ён жыў, таксама прыехалі да бацькі Лойкі па лекі людзі з-пад Пінска.





*Анатоль Кулагін, Уладзімір Караткевіч,*
*Алег Лойка ў Слоніме, 1980-я гг.*

Дык вось: паехаў я з Алегам Антонавічам у Крывічы на Зэльвеншчыну. На дзвюх машынах паехалі са Слоніма сваякі Алега Лойкі, у тым ліку і яго сястра Людміла Антонаўна. Прыехалі мы ў Крывічы, спыніліся на панадворку адной хаты. З хаты павыходзілі людзі, пачалі абдымаць Алега і Людмілу Лойкаў, казаць адзін аднаму кампліменты, пытацца пра жыццёвыя клопаты. А потым прыйшлі суседзі, таксама пачалі абдымаць гасцей, шанаваць. Раптам на панадворку з'явілася некалькі доўгіх сталоў, іх накрылі саматканымі настольніцамі, а праз пэўны час пачалі трашчаць гэтыя сталы ад вясковых страў, сокаў і горкіх напіткаў. Сабралася ўся вёска. Селі за сталы. Першаму далі слова Алегу Антонавічу. Ён сказаў, што адзін раз на год Лойкі прыязджаюць у бацькаву і дзедаву родную вёску Крывічы, дзе ўся вёска — іх сваякі. Да самага вечара крывічане гутарылі, успаміналі, смяяліся і плакалі ад сустрэчы. А потым прыйшоў нехта з акардэонам, пачалі спяваць крывіцкія народныя беларускія песні. Уяўляеце — сабралася ўся вёска Крывічы, усе крывічы Алега Лойкі, якіх ён вельмі-вельмі любіў і шанаваў і якім усё жыццё дапамагаў, чым мог. І яны яму дапамагалі, шанавалі, любілі, ганарыліся ім. Гэта трэба было бачыць, гэта трэба было чуць. Глядзеў я на ўсё гэта, і прыгадваўся мне верш Алега Лойкі, прысвечаны дзеду Цімоху з Крывічоў:

Цімошкаў я, мой дзед — Цімох,
Цімохаў я нашчадак,
Я ўсё ў жыцці рабіў, як мог,
Рабіў жа — не на ўпадак…

Сапраўды, Алег Лойка рабіў «не на ўпадак» не толькі для сваіх родных і блізкіх людзей, рабіў для Бацькаўшчыны, і зрабіў для яе шмат. На вялікі жаль, сёлетні Першаймай у Слоніме ўжо будзе пяты па ліку без Алега Антонавіча. Ён, бясспрэчна, — асоба вялікая ў маштабах не толькі Беларусі, але і Еўропы. Такімі людзьмі мы павінны ганарыцца, а таксама і ўслаўляць гэтае імя заўсёды. Але ў нас такіх людзей не ўшаноўваюць, не згадваюць, не цэняць ні пры жыцці, ні нават пасля смерці. А чаму б не адкрыць у Слоніме ў яго гонар мемарыяльную шыльду на будынку ліцэя, дзе ён вучыўся, надаць яго імя гэтаму ліцэю? Устанавіць у Слоніме стыпендыю імя Алега Лойкі лепшым вучням школ горада і навучэнцам вучылішчаў. Стварыць у Слоніме беларускі культурны цэнтр імя Алега Лойкі, дзе наладжваліся б і праводзіліся б літаратурна-музычныя вечары і сустрэчы. Устанавіць помнік нашаму вялікаму земляку і г. д.

Прайшло пяць Першамаяў без Алега Лойкі і пяць гадоў бяспамяцтва. Цяпер я разумею, чаму ён свае апошнія кнігі так назваў: «Плач зямлі», «Дрэва жыцця», «Галгофа», «Неўміручасць», «Ушанаванне». Я толькі сёння гэта зразумеў, Алег Антонавіч. Вы былі мудрым, таленавітым і мужным чалавекам. Вы ўсё прадбачылі наперад, вы адчувалі час і са шчырым спачуваннем хацелі нам дапамагчы:

Не дабягу, — дайду,
Не дайду, — дапаўзу
Ў кожную бяду,
У кожную слязу…

*2013*



# Нам добра дома…

Жыў некалі ў Слоніме па вуліцы Багушэвіча Міхась Барысавіч Літвінчык. У свой час ён скончыў польскую школу, пасля вучыўся ў Сянькоўшчынскай сярэдняй школе. Калі пачалася Другая сусветная вайна, пайшоў на фронт. Быў двойчы паранены, з баямі дайшоў да Кёнігсберга.

Пасля вайны Міхась Літвінчык прыехаў у родны Слонім і да самай пенсіі адпрацаваў шафёрам. На грузавых машынах аб’ездзіў Беларусь удоўж і ўпоперак. Але захапленнем яго была не толькі тэхніка. Слонімец яшчэ цікавіўся прыказкамі і прымаўкамі. Спачатку іх усюды збіраў, запісваў ад людзей. А потым сам пачаў пісаць. Пра яго талент да прыказак і прымавак нават пісалі рэспубліканскія газеты і часопісы, а ў канцы 1980-х гадоў Міхася Літвінчыка запрасілі на Беларускае тэлебачанне ў перадачу «Роднае слова», дзе ён вельмі шчыра расказваў пра прымаўкі і прыказкі. На вялікі жаль, такой перадачы на Беларускім тэлебачанні даўно не існуе, а яна была вельмі папулярнай тады. Рэдакцыя і аўтары перадачы атрымлівалі сотні пісем, прапаноў, водгукаў.

Міхась Літвінчык часта заходзіў да мяне ў рэдакцыю «Газеты Слонімскай», дзе я працаваў. Мы з ім гутарылі пра Беларусь, пра мову, пра наш багаты фальклор. Аднойчы Міхась Барысавіч пакінуў мне агульны сшытак сваіх прыказак і прымавак. «Няхай у цябе будзе адзін з маіх спісаных сшыткаў, можа, калі табе прыгадзіцца», — сказаў зямляк і паклаў на стол сшытак сваіх народных твораў. Нядаўна я гэты сшытак адшукаў у сваім хатнім архіве. Уважліва прачытаў. І мне спадабаліся прыказкі і прымаўкі Міхася Літвінчыка. Вось некаторыя з іх: запісаныя думкі як віно — яны павінны адстаяцца; не можа быць адукаваным той, хто не ведае роднае мовы; можна жыць па-братэрску, але не па-сяброўску; не трэба здзіўляцца з нас — такія былі і да нас; каб не было памяці, дык не было б і слёз; і золата дурня не зробіць разумным; хто ходзіць, той можа падаць; пазяхаць — не спяваць, голасу не трэба; дурань смяецца не

са смешнага, а з разумнага; самая праўдзівая мова — народная; калі добра працуеш — гаспадарку мацуеш; вучыць не толькі сябар, але і вораг; жонка дрэнна маецца, якая ўсім мужчынам падабаецца; бывае, і барон ловіць варон; хлеб свежы добры для ежы; дай Бог усё умець і не старэць і г. д.

Міхась Літвінчык напісаў дзясяткі такіх сшыткаў прымавак і пагаворак. Але дзе яны цяпер — ніхто не ведае. А гэта ж наш народны скарб, скарб духоўнай культуры. Даўно яго трэба было б сабраць і выдаць асобнай кніжкай, але ж каму гэта сёння патрэбна. Хаця яшчэ 24 снежня 2004 года Беларусь далучылася да міжнароднай канвенцыі ЮНЕСКА 2003 года «Аб ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны». Гэтым самым Беларусь узяла абавязкі перад міжнароднай супольнасцю захоўваць і пашыраць аб'екты нематэрыяльнай культурнай спадчыны, да ліку якіх адносяцца і творы фальклору.

Сустракаю неяк на вуліцы настаўніка-пенсіянера Мікалая Іванавіча Ракевіча. «Добра, што я цябе сустрэў, — кажа слонімец. — Хачу даць табе некалькі прыказак пра сям'ю, нявестку, свякроў. Ты раней такіх не чытаў. Я іх запісаў ад Валянціны Самусевіч, якая родам з вёскі Азярніца Слонімскага раёна. Пачытай!..»

Я ўзяў ліст з прыгожым почыркам і пачаў чытаць: нявестка свекрыві дзярэ да крыві; калі добрая свякроў, то вып'е кроў, калі ліхая, то косці пааб'ядае; калі зяць на дачцэ, то для цешчы, што сто даляраў у руцэ, калі сын на нявестцы, то што гаўно на трэсцы (для свекрыві); мае адно вока і тое спаць хоча; глядзіць левым вокам у правую кішэнь; бывае найгорш, калі баішся: і ліха не мінеш, і надрыжышся.

Але найлепш ведаў фальклор, і ў прыватнасці беларускія прымаўкі і прыказкі, мой зямляк са Слонімшчыны, вядомы беларускі энцыклапедыст, бібліёграф, літаратуразнавец Янка Саламевіч. На вялікі жаль, летась яго не стала. Сустракацца і гутарыць з Янкам Саламевічам — гэта была вялікая асалода, гэта было сапраўднае свята, нейкі своеасаблівы ўніверсітэт. Усё жыццё ён любіў лавіць яркія, гаваркія словы, фразеалагізмы — асаблівасці роднай і іншых моў. Іван Уладзіміравіч гаварыў мне: ну скажы, у каго ты сустракаў слова «аб'ясніць»? Ён у рукапісе Янкі Купалы ў яго музеі трапіў на такі радок: «Няхай цябе аб'ясніць розум ясны». Здарава, праўда! Бацька яму некалі казаў: «Мёрзлая зямля заскалела» (стала цвёрдаю, як скала). Неяк расказаў ён мне пра аднаго жыхара яго роднай вёскі Кракоткі, які еў бліны: сем мазаных, сем нямазаных, сем сухама — збольшага перакусіў.



Любіў распавядаць Янка Саламевіч пра сваіх аднавяскоўцаў. Казаў, што ў яго вёсцы мовяць: сучка маленька, нізенька, як слончык на чатырох ножках. Ці так: ідзе нага за нагу, як назаўтра; е што гаварыць, ды німа чаго слухаць; з носа кап, ды ў рот хап; ужэ суп у сватэ збіраецца (пачаў кіснуць) і г. д.

Сёння мне часта прыгадваецца мой дарагі і паважаны зямляк Янка Саламевіч. Ён мне казаў: не называй мяне Іван Уладзіміравіч, не трэба, кажы спадар Янка. Я так яго ў апошнія гады і клікаў. Прымаўкі і прыказкі спадар Янка называў выслоўямі. Ён мог іх нагаварыць кучу і горбу, мех і торбу: не ўсё тое падбірай, што па вадзе плыве; не кожны хворы, што стогне; языком бервяна не ачэшаш; біты сабака здалёк бачыць кіёк; двор, як пані сесці; харошая, хоць малюй…

Прыгадваецца мне яшчэ адна прымаўка ад Янкі Саламевіча: паедзем, бабка, у чужое сяло, то будзем ведаць, што робіцца ў нашым. Нам сёння не трэба ехаць у чужое сяло, у чужыя краіны. Нам добра дома, дзе ўсё такое блізкае нам і зразумелае.

*2013*



## Каб цябе сонца не грэла

Люблю сваю Слонімшчыну. Ды і як яе не любіць?! Некалькі гадоў таму надарылася мне неяк па сваіх краязнаўчых справах завітаць у адну з аддаленых вёсак Слонімскага раёна. І хоць мяне, як Шурыка з камедыі «Каўказская палонніца», фальклор у дадзенай сітуацыі зусім не цікавіў, устрымацца, каб не запісаць усё, што пачуў, я проста не мог. І гэта не выдуманая мною гісторыя, а быль. Быль, якую я памятаю да сённяшніх дзён.

Аўтобус спыніўся на вясковым прыпынку, і праз нейкую хвіліну я ўжо крочыў па зялёнай і пахучай ад бэзу вуліцы. І раптам вясковую цішыню і мае думкі парушылі жаночыя галасы. Падыходжу бліжэй і бачу, як дзве мажныя загарэлыя жанчыны, як быццам хто іх кіпенем апарыў, з'едлівымі і звонкімі галасамі крычалі адна на адну. На суседзяў і незнаёмых людзей яны ўвагі не звярталі. Галоўнае, каб іх усе чулі. Адна стаяла на вуліцы каля сваіх веснічак, другая — каля сваіх. І крычалі яны, сварыліся так гучна, што пачалі збірацца недалёка ад іх вяскоўцы і слухаць, глядзець, што адбываецца.

Падышоўшы да жанчын, я зразумеў, што трапіў на самы пачатак сваркі. Сапраўды, прэлюдыя ўжо закончылася і пачалося самае яркае — праклёны. Першая кабета, з барадаўкаю на шчацэ, гучна заявіла: «Каб твае дзеці на ліхтар гаўкалі». Другая пісклявым голасам у адказ: «Каб ты на лямпачку глядзела, як на сліву…» Я хуценька дастаў блакнот і толькі паспяваў запісваць: «Каб у тваіх свіней рогі павырасталі», «Каб цябе калхозны бык убрыкнуў», «Каб цябе ў лыжцы ўтапілі», «Каб з цябе вантробы вытрыбушыла», «Каб з цябе чэрці вяроўкі вілі», «Каб у цябе калом язык стаў», «Каб табе на тым свеце дна не было», «Каб ты на беразе ўтапілася», «Каб цябе пярун калядны спаліў», «Каб цябе сонца не грэла», «Каб цябе ў чыстым полі дзверы прыцiснулі», «Каб ты да гэтых веснічак прырасла», «Каб…». О, яшчэ многа было гэтых «каб». Я нават і не паспеў усё запісаць.



Нарэшце запас усіх праклёнаў скончыўся. Праўда, адна з жанчын яшчэ паспела сказаць: «Крычы-крычы, на лета за пастуха згодзіш». Але далей пачалося самае арыгінальнае, бо ў сварцы, вы ж ведаеце, шаноўныя сябры, перамагае цярпенне: хто даўжэй застанецца на вуліцы — той пераможца. Першай з іх у хату ісці ні адна не хацела — людзі ж глядзяць, падумаюць — прайграла. Таму жанчына з барадаўкай на шчацэ, не саромеючыся сваіх аднавяскоўцаў, падняла спадніцу і закрычала: «Любуйся, любуйся, вось табе люстэрка!» Для другой гэта было, як гром з яснага неба. Але яна не разгубілася. Пасля слоў «каб цябе ў сук сагнула» яна таксама стала ракам і зрабіла тое ж самае.

Пэўны час ішла «перастрэлка» задніцамі. Вяскоўцы ад смеху аж за жываты ўзяліся. Здавалася, што такога «канцэрта» ў іх вёсцы не было ніколі. І невядома, чым усё скончылася б, калі б, скуль ні вазьміся, муж адной з іх не прыйшоў на абед. «Чаго стаіш збоку прыпёку: здымай штаны і пастой замест мяне, а я пайду карову падаю», — сказала кабета і імгненна спусціла мужу штаны да каленяў…

Вяскоўцы анямелі ад убачанага. А суседка, якая стаяла насупраць, адвярнулася і глянула на свайго «ворага». Але, нічога не зразумеўшы, на ўсю вуліцу пераможна заявіла: «Людцы добрыя, глядзіце, глядзіце, хацела мяне запрэгчы ў хамут. У яе ўжо кішкі паміж ног целяпаюцца, а яна ўсё стаіць. Дабрахалася да ліхога канца…»

Што было далей, я не ведаю, хоць у народзе кажуць, што ад сварак не баліць карак. Прызнаюся толькі, што мне было ўжо не да краязнаўчых пошукаў. Пад шчыры і вясёлы рогат жыхароў вёскі я вяртаўся на аўтобусны прыпынак. Вяртаўся і думаў, што яшчэ жыве наш беларускі фальклор, а значыць жыве і вёска.

Што мяне тады здзівіла, дык гэта тое, што жанчыны не сказалі ніводнага мата. А вось праклёнаў адна на адну вылілі шмат. Вядома, праклёны я з маленства чуў у сваёй роднай вёсцы, асабліва іх шмат вяскоўцы казалі на хатніх жывёл. Самым такім яркім праклёнам заўсёды быў такі:

каб цябе калядны пярун забіў. З маленства памятаюцца на сабак, коней і катоў такія праклёны: куды ты гоніш, каб з цябе вантробы выгнала; калі шматану, дык ты як жыкаўка акруцішся; каб ты выстагнаў тоя, што паеў чужоя; каб ты трасцу наспаў, як ты дзень пры дні спіш; што ты круцішся, як вужака; што ты ляпу расхляпіў, хоць ты калясьмі ўязджай; Поскудзь ты! Паскуднік ты!

На людзей пасылаліся іншыя праклёны, асабліва на п'яніц, зладзеяў, гультаёў. Памятаюцца такія: каб табе праз бок вылезла тое, што ты маё з'еў; каб табе адсохла рука пад самы локаць; каб цябе скула ела, як ты мой хлеб еў; каб цябе на вяроўцы вадзілі, як ты маёго коніка павёў; каб цябе лучынай змерылі, як ты маю зямельку мерыш; каб ты апошні раз крычаў, як ты крычыш на маіх дзетак.

Праклёны бываюць розныя. Бываюць жартаўлівыя, вясёлыя і чулліва-балючыя. Нядаўна гісторык Алесь Смалянчук у інтэрв'ю Міхасю Скоблу расказаў, як зневажалі беларусы расейскага імператара. Гісторык прааналізаваў следчыя справы аб знявазе з 1868 па 1893 год. І самым страшным праклёнам быў: каб зямля яго косткі выкінула — так беларусы пракліналі Аляксандра II.

## Старыя прыпеўкі са слонімскіх вёсак

З маленства заўсёды мне прыгадваецца мой вясковец з вёскі Хадзявічы Слонімскага раёна Іван Апанасавіч Рагозік. Працаваў ён у Слоніме на мясакамбінаце простым рабочым. Ездзіў з вёскі ў Слонім на ровары, а часцей за ўсё на мапедзе. Адлегласць невялікая — усяго 10 кіламетраў. Быў ён, як казалі ў вёсцы, гарадскім чалавекам.

Бачу і сёння, уяўляю, як ён праз лес едзе на сваім мапедзе, бо сядзеў на ім неяк важна, ганарыста. Але больш за ўсё прыгадваецца, як Іван Апанасавіч іграў на гармоніку. Асабліва любіў браць яго ў рукі, калі трохі вып'е, а выпіць ён любіў. Праўда, далёка не так, як сёння ў вёсках і гарадах беларусы хлепчуць сівуху, як ваду. Ён піў па выхадных днях.



А потым браў у рукі гармонік, неяк хіліў на бок сваю галаву і іграў, а таксама прыгожа спяваў. Што ён спяваў — сёння ніяк не магу прыпомніць. А вось адну прыпеўку запомніў на ўсё жыццё:

Эх, мілка мая,
Закінь ножку на міня,
Закінь ножку правую —
Пакажы кудравую.

Свой «канцэрт» ён заўсёды пачынаў з гэтай прыпеўкі. Але тады я, маленькі хлопчык, хоць і запомніў прыпеўку дзядзькі Івана, ды ніяк не мог зразумець: што за «кудравую» прасіў паказаць музыкант у сваёй мілкі?.. Я так хацеў даведацца, але саромеўся ў кагось пытацца, а ў дзядзькі Івана тым больш.

Спявалі прыпеўкі ў вёсцы і іншыя дзядзькі і цёткі. Але тыя прыпеўкі неяк пераклікаліся адна з другой. Праўда, некаторыя з іх таксама засталіся ў памяці:

* * *

Я, бывала, ўсім давала
Па чатыры разы ў дзень,
А цяпер мая давалка
Атрымала бюлецень.

* * *

Я прыпеўкі прыпявала —
Захваціў мяне ацец:
На работу дочкі нету…
Но за гэта маладзец!

* * *

Трактар паша, трактар паша —
Трактарыст платочкам маша,
Ты платочкам не машы,
А лепей полюшка пашы.

* * *

Дарагая ты падруга
У каго ж ўлюбілася?
Адна хата на тры брата —
І тая развалілася.

* * *

Што ты мілы задаешся —
Сволач ты паршывая,
Твае ножкі як у кошкі,
Шыя петушыная.

* * *

Палюбіла лейтэнанта,
І маёра хочацца.
Гавараць, што у маёра
Па палу валочыцца.

* * *

Дарагая ты падруга,
Прашу не указываць.
Тваім доўгім языком
Скварадy падмазываць.

* * *

Пасадзіла пятуха,
Пасаджу і курыцу.
Дзеда спаць палажу —
Сама пайду на вуліцу.

У 1994 годзе рэдакцыя газеты «Звязда» вырашыла правесці конкурс прыпевак. Якое было здзіўленне, калі на гэты конкурс адгукнулася больш людзей, чым рэдакцыя магла нават уявіць. Пісалі практычна з усіх куткоў Беларусі. Здавалася, што конкурс прыпевак абудзіў прытоены, незапатрабаваны народны талент. Потым гэтыя прыпеўкі рэдакцыя



выдала асобнай кніжачкай. Пісалі ў «Звязду» на конкурс і людзі са Слонімшчыны. Актыўнай была Наталля Кніга з вёскі Касцяні. Памятаю да сённяшніх дзён яе прыпеўкі:

Кофту модную пашыла
І спаднічку вузкую.
Не чапайце маю мову,
Мову беларускую.

* * *

Прыбіральшчыцай Марыля
Прарабіла адзін год.
За бутэлькі прыкупіла
Новай маркі самалёт.

Але найбольш прыпевак ведаў мой зямляк, кандыдат філалагічных навук, фалькларыст і энцыклапедыст Янка Саламевіч, вечная яму памяць. Як было весела і цікава з ім сустракацца, вы нават і ўявіць не можаце. Ён ведаў усё і ўсіх, здавалася, на свеце. Але найбольш спадар Янка ведаў беларускі фальклор. Ён мог без адпачынку суткамі спяваць беларускія прыпеўкі, якія запамінаў адразу. Ён памятаў нават тыя, якія ў ягонай вёсцы Вялікая Кракотка спявалі ў 1940–1960-х гадах. Ён прыпеўкі не проста расказваў, а спяваў, а таксама да кожнай прыпеўкі меў свой каментар. Напрыклад, ягоны дваюрадны брат Сяргей у 1947 годзе спяваў:

Пайшоў дзед вальца,
Пайшоў дзед вальца.
Вывернуў капусту,
Апарыў яйца.

Ці пра нейкую Палагею:

Пайшла танцаваць
Наша Палагея:
Спераду барабан,
Ззаду батарэя.

А сябар Янкі Саламевіча Валодзя Сацута ўспамінаў, як адна жанчына выказвала сваю адзіноту:

Наварыла, напякла —
Няма каму есці.
Лягла, ногі развяла —
Няма каму лезці.

Ну і яшчэ адну, якую Янка Саламевіч пачуў ад свайго сябра Анатоля Валахановіча:

Мяне мілы тузаў, тузаў,
Думаў, што я без рэйтузаў.
— Дурань ты, не рві штаны,
Гузік з левай стараны!

Некалі беларускі кампазітар Рыгор Шырма казаў: «Песня — душа народа». Дык давайце разам шанаваць нашы песні, нашы прыпеўкі!

*2013*



# Пра выданні

## Кніга пра Беларусь і беларусаў




Напрыканцы 2012 года з друку выйшаў ладны том артыкулаў беларускага праваабаронцы, гісторыка і літаратара Алеся Бяляцкага пад назвай «Асвечаныя Беларушчынай». Гэтае выданне сам аўтар задумаў ажыццявіць да свайго 50-годдзя (25 верасня 2012 года). Але 4 жніўня 2011 года Алесь Бяляцкі быў арыштаваны беларускімі сілавымі структурамі па абвінавачванні ва ўхіленні ад выплаты падаткаў (утойванне прыбыткаў у асабліва буйным памеры, артыкул 243, частка 2 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь). Гэты артыкул уключае ў сябе пакаранне да 7 гадоў пазбаўлення волі і канфіскацыю маёмасці. А 24 кастрычніка 2011 года Алесь Бяляцкі быў асуджаны да чатырох з паловай гадоў зняволення за «ўтойванне прыбыткаў у буйным памеры». Цяпер ён адбывае тэрмін у папраўчай калоніі ў Бабруйску.

На прэзентацыі кнігі Алеся Бяляцкага ў Мінску пісьменнік Генадзь Бураўкін сказаў: «Настолькі сумленны, настолькі чысты і светлы чалавек Алесь, што немагчыма не любіць яго. Кніга выдадзеная вельмі дастойна, афармленая Уладзімірам Вішнеўскім — сціпла, інтэлігентна і таленавіта. І выданне вартае самых добрых навуковых ацэнак…»

Алесь Бяляцкі сам не паспеў падрыхтаваць выданне да друку, таму за гэту справу ўзялася літаратуразнавец Паліна Сцепаненка. І яна склала кнігу хутка і выдатна. Паліна Сцепаненка нават напісала да кнігі прадмову «Іншадумства ў літаратуры», дзе падкрэсліла, што «на жаль, у Беларусі няма ні незалежнага следства, ні незалежнай пракуратуры, ні, тым больш, незалежнага суда — суд ператварыўся ў палітычную расправу над беларускім праваабаронцам і літаратуразнаўцам. Яго прызвалі вінаватым у нясплаце



падаткаў. Праваабаронца сваёй віны не прызнаў і заявіў, што ўсе грошы, атрыманыя на ягоныя рахункі, ішлі на праваабарончую дзейнасць…».

Кніга Алеся Бяляцкага распачынаецца лістамі «Пра беларускую «турэмную» літаратуру. Гэтыя лісты аўтар адрасуе Уладзіміру Някляеву. Бяляцкі аналізуе зборнік Уладзіміра Някляева «Лісты да Волі» з паэмай «Турма», параўноўваючы яго паэзію з Купалавай, ды і не толькі гэта. Алесь Бяляцкі, наогул, праглядвае шлях беларускай «турэмнай» літаратуры, пачынаючы ад Кастуся Каліноўскага да сённяшніх дзён. Да «турэмных» аўтараў належаць Ядвігін Ш., Францішак Аляхновіч, Сяргей Новік-Пяюн, Тодар Лебяда, Ларыса Геніюш, Васіль Супрун, Пятро Бітэль, Браніслаў Тарашкевіч, Барыс Мікуліч ды сотні іншых беларусаў. І, вядома ж, «Турэмны дзённік» Славаміра Адамовіча і «Лісты да Волі» Уладзіміра Някляева. Дарэчы, «турэмную» беларускую літаратуру трэба яшчэ даследаваць, пісаць пра яе, шырока вывучаць у школах. Бо беларусам заўсёды хапала бяды — войнаў, арыштаў, рэпрэсій, высяленняў, кратаў. Магчыма, Алесь Бяляцкі першым з нас распачаў даследаваць, аналізаваць, прыгадваць пра беларускую «турэмную» літаратуру.

Кніга «Апошні рэйс» Хвядоса Шынклера, адна з нешматлікіх беларускіх кніг з бібліятэкі жодзінскай турмы № 8 (там спачатку аўтар апынуўся да разгляду касацыйнай скаргі. — *С. Ч.*), стала для аўтара нагодай скласці нарыс пра гэтага забытага пісьменніка 1920–1940-х гадоў. Паказаць праз лёс інтэлігента гісторыю запрыгоньвання літаратуры, маральнага, а пасля і фізічнага знішчэння асобы ў сталінскія часы. Алесь Бяляцкі напісаў нарыс пра Хвядоса Шынклера цікава, шмат новых, раней невядомых фактаў з жыцця літаратара згадаў аўтар. Хаця не сказаць, што пра Шынклера ў Беларусі забыліся. Ды не. Лідзія Арабей пра яго жыццё і творчасць напісала і выдала цэлую кнігу ў 1959 годзе. Калі выходзілі кнігі Хвядоса Шынклера — у друку з’яўляліся рэцэнзіі, якія пісалі Якаў Герцовіч, Міхась Ларчанка, Міхась Клімковіч, Марыя Барсток, Янка Казека, Іван Кудраў-

цаў. Многія з іх адзначалі ў творчасці Хвядоса Шынклера дакладнасць слова, трапнасць мастацкай дэталі і г. д. Але, здаецца, грунтоўнай згадкі пра Хвядоса Шынклера не было з 1980-х гадоў. Алесь Бяляцкі выправіў гэту памылку, тым больш, што сёлета ў верасні спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння Хвядоса Шынклера і 70 гадоў з дня гібелі яго сына Юрыя пад Сталінградам.

Вялікае месца ў кнізе Алеся Бяляцкага займаюць радкі пра Максіма Багдановіча, Янку Купалу, Францішка Аляхновіча. Пра Францішка Аляхновіча аўтар напісаў нарыс у 1990 годзе і апублікаваў у часопісе «Маладосць». Ён адкрываў тады чытачам-беларусам вялікага і забытага драматурга і празаіка Аляхновіча. Гэта цяпер мы пра яго шмат ведаем, бо выдадзены «У кіпцюрах ГПУ», п’есы, многія з якіх пастаўлены на сцэнах беларускіх тэатраў і рыхтуюцца да пастановак. А напачатку 1990-х мы ўпершыню чыталі пра гэтага чалавека, жыццё якога «ўздымала яго ўгару і кідала ў прадонне, не пытаючы ягонае згоды».

Жыццё і творчасць Максіма Багдановіча Алесь Бяляцкі ведае не менш за Ніну Ватацы (1908–1997), якая пры жыцці жыла Багдановічамі. Алесь быў дырэктарам музея Максіма Багдановіча ў Мінску. І пра Максіма ён напісаў хораша, светла, пранікнёна. Вядома, усіх жыццёвых тайнаў Максіма Багдановіча і яго бацькоў ён не раскрыў, хаця адчуваецца, што ведае іх. Асабліва пра ўзаемаадносіны Максіма з бацькам Адамам Багдановічам, а яны былі няпростымі. Але аўтар кнігі застаецца на баку Адама Ягоравіча: «Недаацэньваць ролю Адама Багдановіча ў выхаванні Максіма, ягоным доглядзе, разуменні сына — не варта. Гэтая роля была вялізнай. Мала хто з бацькоў даў столькі сваім дзецям, як Адам Багдановіч — Максіму. Ён быў той сцяною, за якой спакойна развіваўся і квітнеў талент Максіма Багдановіча, дык будзем яму ўдзячны за гэта».

Разважае Алесь Бяляцкі пра Янку Купалу і рэвалюцыю, а таксама пра энцыклапедыю «Янка Купала» (1986). Розныя гэтыя разважанні, але аўтар жыве надзеяй: «Будзем чытаць Купалу. Нам не стае слоў прарока. Ну не ўчарашнія ж недавучкі будуць вучыць нас жыць…»



У 1996–1997 гадах Алесь Бяляцкі вёў калонкі ў тыднёвіку «Літаратура і мастацтва», дзе выкладаў свае думкі пра наша жыццё, літаратуру, кнігі, пісьменнікаў. Розныя яны — суб’ектыўныя і аб’ектыўныя, сціплыя і адкрытыя, але ў іх аўтар тактоўна падкрэслівае, што варта нашага часу, а што не. Найперш пісаў пра вартае, бо кволае, нікчэмнае ён не чапаў, ён пісаў пра тое, што заслугоўвае ўвагі крытыка і чытача. А гэта сур’ёзныя выданні 1990-х гадоў. І іх было шмат. Алесь Бяляцкі «гартае» ўспаміны Юльяны Вітан-Дубейкаўскай, «Адзінокую зорку» Леры Сом, зборнік інтымнай лірыкі Адама Глобуса, тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы Судніка і Крыўко, «Стодзівы» Анатоля Дэбіша, знаёміцца з уладарамі Вялікага Княства Літоўскага Вітаўта Чаропкі, з вершамі Наталлі Арсенневай, захапляецца гісторыяй Уладзіміра Арлова, Калядамі Эдуарда Акуліна, беларускім студэнцтвам на чужыне Барыса Рагулі і г. д.

Піша аўтар кнігі, успамінае студэнцкія гады, а таксама той час, калі ён быў маладым побач з Сержуком і Анатолем Сысамі і Эдуардам Акулінным. Ведаў і я добра Анатоля Сыса, які, калі мяне прымалі ў Саюз пісьменнікаў, укленчыў на калені перад старшынёй Саюза пісьменнікаў Вольгай Іпатавай у Доме літарататараў і казаў: «Волечка, не марнуй хлопца, не трэба яму гэты саюз!» А потым крычаў мне: «Сярожка, я табе свой членскі пісьменніцкі білет аддам, толькі не ўступай у саюз…» Чаму ён так казаў — не ведаю… Але шчыра прызнаюся, мне шкада Анатоля Сыса. Вельмі шкада. Ён быў з маіх равеснікаў — хто нарадзіўся ў канцы 1950-х — напачатку 1960-х гадоў — самым таленавітым, але па характары — самым неспакойным. Тым не менш Алесь Бяляцкі напісаў праўду пра Анатоля, дадаўшы, што «паэтычны феномен Анатоля Сыса, вялікага паэта канца XX стагоддзя, патрабуе ўважлівага і сур’ёзнага вывучэння». Пагаджаюся.

Над кнігай «Асвечаныя Беларушчынай» можна разважаць доўга. У нечым пагаджацца і не пагаджацца з яе аўтарам. Вядома, у ёй ёсць і недакладнасці. Але асаблівай увагі над імі засяроджваць не хочацца. Тым не менш пра адну скажу. На старонцы 307, аналізуючы энцыклапедыю «Янка Купала», Алесь Бяляцкі піша, што ў энцыклапедыі няма артыкула «пра даследчыка А. Бергман, пяру якога належыць манаграфія «Беларускі штотыднёвік «Наша Ніва»…». А. Бергман — гэта не ён, а яна — Аляксандра Бергман (1906–2005) — беларуска-польская даследчыца жыцця і дзейнасці Браніслава Тарашкевіча, Максіма Бурсевіча, Ігната Дварчаніна, Сымона Рак-Міхайлоўскага і іншых дзеячаў Заходняй Беларусі. Яна таксама даследавала і «Нашу Ніву», «Вольны сцяг», «Змаганне», Беларускае навуковае таварыства ў Вільні…

І яшчэ. У артыкуле «Нашыя дзеці» чытаю: «Мой сын гаворыць па-беларуску… Ён ведае, хто такая Рагнеда і хто такі Вітаўт. Ён вучыць беларускія вершы і спявае беларускія песні…». Гэтыя словы літаратуразнаўца, грамадскага і культурнага дзеяча, віцэ-прэзідэнта FIDH, кіраўніка незарэгістраванага праваабарончага цэнтра «Вясна» ў Беларусі Алеся Бяляцкага можна смела ставіць эпіграфам да ўсёй яго кнігі. Менавіта гэтыя, а не іншыя.

*2013*

## У «Новым Замку» — літаратурная Гродзеншчына

Нарэшце дачакаліся сябры Гродзенскага абласнога аддзялення грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» свайго літаратурнага выдання. Пісьменнікі вырашылі назваць яго «Новы Замак». Пад такім загалоўкам і выйшаў з друку першы нумар літаратурнага альманаха ў Мінску ў выдавецтве «Кнігазбор».



Назва альманаха «Новы Замак» мае ўвасабляць духоўныя каштоўнасці Наднёмання: у Новым каралеўскім замку захоўваюцца музейныя зборы, калекцыі старадрукаў і фонды Гродзенскай абласной бібліятэкі імя акадэміка Яўхіма Карскага.

Гартаючы «Новы Замак», прыгадаў я выпуск кнігі літаратурнай Гродзеншчыны «Краю мой — Нёман» (Мінск, 1986) з прадмоваю Васіля Быкава. Народны пісьменнік Беларусі тады пісаў: «У багатым і разнастайным культурным жыцці Беларусі Гродзеншчына займае, мабыць, адно з самых адметных месцаў. Вядома, найперш тут шмат значыць традыцыя, якая цягнецца здаўна і звязана з многімі славутымі імёнамі ў духоўным набытку народа… Бурны пасляваенны росквіт літаратурных талентаў Гродзеншчыны працягваецца да гэтага часу, усё буйнеючы па значэнню і шырачыся па маштабу…».

Але гэтым талентам сёння няма дзе друкавацца і не было на працягу шматлікіх гадоў. Калі рэдактарам «Гродзенскай праўды» быў Іосіф Багіна, а літсупрацоўнікам там працаваў паэт Юрка Голуб, то ў 2002–2005 гадах пры абласной газеце выходзіў літаратурны штогоднік «Галасы», дзе змяшчаліся творы літаратараў Гродзеншчыны. Калі рэдактарам «Гродзенскай праўды» паставілі Алену Берасневу (цяпер яна прызначана дэпутатам Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь), то яна ліквідавала са старонак «Гродзенскай праўды» літаратуру і спадчыну, а таксама знішчыла «Галасы». Таму, лічыце, з 2005 года гродзенскія літаратары не маюць свайго ўласнага папяровага выдання. Калі не лічыць, што свой альманах выпускае Гродзенская філія Саюза пісьменнікаў Беларусі, якім кіруе Мікалай Чаргінец. І двойчы ў Гродне — у 1956 і 1958 гадах — выдаваўся абласны літаратурны альманах «Нёман». Вось і ўсё. Таму сёння выхад «Новага Замка» — сапраўды свята, радасць, надзея і падзея.

У альманаху «Новы Замак» апублікаваны творы 21 аўтара з розных рэгіёнаў Гродзеншчыны. Яго адкрывае паэзія

Ганны Аўчыннікавай, Дануты Бічэль, Анатоля Брусевіча, Анатоля Валюка, Уладзіміра Васько, Юркі Голуба, Міхася Губернатарава, Алеся Жамойціна, Міколы Канановіча і іншых таленавітых паэтаў. Даўно я не чытаў вершаў Алеся Жамойціна, які сціпла жыве ў Кушлянах — на радзіме Францішка Багушэвіча. І вось у альманаху прачытаў яго новыя паэтычныя радкі. І, вядома ж, яны пра Кушляны, якія для паэта «святло душы маёй», дзе аўтар прызнаецца:

На гэтым сонечным узвышшы
Я буду хлеб свой здабываць,
І да чужых, і да найблізшых —
Па-беларуску прамаўляць!..

Не проста жывецца сёння паэту ў глыбінцы, у вёсцы. Ды і заўсёды там ім жылося не так файна, як у абласных гарадах ці ў сталіцы. Але Алесь Жамойцін аптыміст, ён заклікае ўсіх нас — хлопцаў і дзяўчат з правінцыі — не падаць духам, а «покуль словы ў нас не ўмёрлі, — вершам біцца на мяжы!..».

Калі Алесь Жамойцін у сваіх вершах аптыміст, то Анатоль Брусевіч рэальна глядзіць на жыццё, ад якога ён асаблівых адкрыццяў не чакае. Маўляў, хто нарадзіўся, той павінен памерці:

Я проста жыву.
Пасля проста здохну.
А трэцяй дарогі
Ніхто з нас не мае.

Добрая і арыгінальная падборка вершаў Анатоля Брусевіча — філасофскі роздум паэта над сённяшнім жыццём, першароднасць данесенага перажывання, заглыбленасць душы і нейкая ўстрывожанасць. Вядома, паэт мае права на свае, найбольш улюбёныя інтанацыі, прыёмы, вобразы, якія робяць больш выразнай індывідуальную манеру пісьма. І ўсё гэта яму ўдаецца. І вершы Анатоля Брусевіча запамінаюцца і адрозніваюцца сваім бачаннем свету, дзе «гуляюць чужыя дзеці і мой ненароджаны сын».



У «Новым Замку» цікава пазнаёміцца з вершаванымі прысвячэннямі сяброўкам і сябрам Дануты Бічэль. Гэта прысвячэнні Зосьцы Верас, Ларысе Геніюш, Кастусю Тарасаву, Адаму Станкевічу, Уладзіміру Конану, Хрысціне Лялько, Ніне Мацяш, Святлане Варонік і іншым асобам. У «Калыханцы Ніне Мацяш» паэтка ўздыхае:

Усе болесці твае адбаleліся…
Пчолкі мёдзікам адгавеліся…

Цудоўная паэтка, якая пры жыцці была прыкавана да ложка і якая пісала добрыя вершы, пайшла нядаўна з жыцця. Таму, сапраўды, усе болесці адбаleліся…

З прозаю ў альманаху чытачоў знаёмяць Сяргей Астравец, Валянцін Дубатоўка, Стас Ільін, Ала Петрушкевіч. Станіслаў Суднік прапанаваў альманаху свае пераклады з польскай мовы Аляксандра Макрэцкага, Антонія Масліцкага, Чэслава Сэнюха.

Прафесар Аляксей Пяткевіч цікава напісаў «Крэскі з мае дарогі» — дзённікі 1980–1990-х гадоў. Давайце пачытаем некаторыя.

Крэска ад 4.07.1989. 27 чэрвеня адбыўся ўстаноўчы з’езд Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Я быў дэлегатам… Загадчыца дзіцячага сада Прыма (Мінск) запатрабавала аб’явіць урад БССР палітычным банкрутам. А. Белакоз пераканаўча гаварыў пра русіфікацыю Беларусі…

Крэска ад 31.10.1989. Учора вярнуўся з Беластока. Быў з дакладам на семінары «белавежцаў», аналізаваў іх творчасць. Казалі, было гэта зроблена прафесійна ўпершыню. Але арганізавалі яны семінар сяк-так, і прайшоў ён досыць фармальна…

Крэска ад 28.10.1990. Сёння выступаў у Гродне на мітынгу-рэквіеме «Дзяды». Гаварыў пра вялікіх людзей Беларусі нашага стагоддзя, забітых савецкім рэжымам…

Крэска ад 19.09.1991. Пачынаецца новы адлік гісторыі на маёй зямлі. Сёння Беларусь перастала быць савецкай.

Яе афіцыйная назва — Рэспубліка Беларусь, яе сцяг — бел-чырвона-белы, яе герб — «Пагоня»…

Каментаваць напісанае прафесарам Аляксеем Пяткевічам няма сэнсу. Ёсць толькі спадзяванне, што ягоныя дзённікі некалі пабачаць свет асобным выданнем і будуць цікавыя нашчадкам.

У альманаху шмат іншых чытэльных матэрыялаў, якія вартыя ўвагі не толькі крытыкаў, але і простых чытачоў. Верыцца, што літаратурны альманах «Новы Замак» стане выдавацца значна часцей, чым адзін раз у год. І ён працягне добрыя выдавецкія літаратурныя традыцыі Гродзеншчыны, якія існавалі раней.

## Максім Танк і польская літаратура



*Малады Максім Танк*

Выдавецтва «Беларуская навука» ў Мінску выпусціла з друку кнігу Анатоля Вераб'я «Максім Танк і польская літаратура». Гэта другое выданне, значна выпраўленае і дапоўненае.

Пра Анатоля Вераб'я беларускія чытачы і літаратары найбольш ведаюць як пра даследчыка творчасці Уладзіміра Караткевіча. Гэта спадар Анатоль шмат зрабіў і робіць дзеля пошукаў спадчыны выдатнага беларускага пісьменніка. Дзякуючы Анатолю Вераб'ю ў бліжэйшыя гады будзе выдадзены збор твораў Уладзіміра Караткевіча ў 25 тамах. А яшчэ Анатоль Верабей даследуе творчасць Максіма Танка і сувязі яго з польскай літаратурай. Па гэтай тэме ён некалі абараніў і кандыдацкую дысертацыю.

Наогул, беларуская літаратурная навука сёння дасягнула прыкметных поспехаў у галіне паланістыкі. Больш поўна вывучаны сувязі беларускай і польскай літаратуры XIX і пачатку XX стагоддзя, у меншай ступені — 1920–1930-х гадоў, кантакты гэтых літаратур у 1940-я гады і ў другой палове



XX стагоддзя. Таму вывучэнне творчасці Максіма Танка ў параўнальным плане з польскай літаратурай набывае асаблівую актуальнасць і значнасць.

Анатоль Верабей сваю манаграфію падзяліў на некалькі раздзелаў. У першым раздзеле ён распавёў пра традыцыі польскага рамантызму XIX стагоддзя ў творчасці Максіма Танка. Наогул сувязі Максіма Танка з польскай літаратурай маюць глыбокія карані. Так, у 1922–1926 гадах ён вучыўся ў Шкленікоўскай і Сваткаўскай польскіх пачатковых школах, за час вучобы «прачытаў амаль усе кнігі ў школьнай бібліятэцы: Міцкевіча, Славацкага, Сянкевіча, Крашэўскага, Ажэшкі, Канапніцкай».

Максіму Танку вельмі блізкай была творчасць польскіх рамантыкаў А. Міцкевіча і Ю. Славацкага. Толькі адносіны паэта да творчасці польскіх рамантыкаў XIX стагоддзя, як піша Анатоль Верабей, былі шмат у чым крытычныя. З аднаго боку, Максіма Танка прываблівала мастацкая і агульначалавечая каштоўнасць твораў гэтых аўтараў, у якіх яны глыбока выявілі думкі і мары польскага народа, дух свайго часу, з другога — на шляху да стварэння новых форм мастацтва ён свядома адштурхоўваўся ад традыцыйнай паэтыкі. Максім Танк усё ж быў і застаўся рэвалюцыйным паэтам, ён не мог поўнасцю прыняць ідэі польскага рамантызму XIX стагоддзя, таму што ён не ставіў, як польскія паэты-рамантыкі, нацыянальную свабоду вышэй за сацыяльную. У сваёй творчасці 1930-х гадоў паэт выступаў за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне народа Заходняй Беларусі.

Творы польскіх рамантыкаў былі для Максіма Танка ўзорам мастацкай дасканаласці, патрыятычныя матывы іх паэзіі былі сугучныя і блізкія заходнебеларускай творчасці Максіма Танка. Беларускі паэт выказваў пастаянную зацікаўленасць да паэтычнай спадчыны Адама Міцкевіча. Гэта абумоўлена не толькі тым, што творчасць польскага паэта з'яўляецца глыбока народнай, вызначаецца паўнатой адлюстравання рэчаіснасці, чалавечых думак і пачуццяў, але і тым, што ён нарадзіўся ў Беларусі, тут правёў дзіцячыя і

юнацкія гады. Максім Танк для ўвасаблення сваіх задум знаходзіў у творчасці Адама Міцкевіча ідэі, блізкія яго ўласным імкненням. «Кожны пісьменнік, — піша Анатоль Верабей, — становіцца сапраўды вялікім мастаком, калі яму ўдаецца найбольш поўна выказаць думкі і мары свайго народа, дух свайго часу». І Максім Танк здолеў гэта зрабіць.

З 1960-х гадоў, як лічыць крытык, назіраецца паглыбленне філасофскіх прынцыпаў у паэзіі Максіма Танка. І адсюль узнікла ў яго зацікаўленасць філасафічнай, інтэлектуальнай творчасцю Ц. Норвіда. Традыцыі гэтага вялікага польскага паэта XIX стагоддзя ўзбагацілі лірыку Максіма Танка 1960–1990-х гадоў. Таму заканамерны быў зварот беларускага паэта ў сярэдзіне 1960-х гадоў да перакладу верша Я. Бжастоўскай «Норвід». У 1975 годзе Максім Танк напісаў пранікнёны, змястоўны і глыбокі верш «Ц. Норвід», дзе расказаў пра трагічнае, адзінокае, поўнае нястач жыццё польскага паэта, пра яго непрызнанасць пры жыцці і пра яго славу пасля смерці.

Паэзія М. Танка, як і паэзія Ц. Норвіда, вызначаецца глыбінёй заключанага ў ёй зместу, гібкасцю стылю, багаццем рытмікі і разнастайнасцю строфікі.

Другі раздзел кнігі Анатоль Верабей прысвяціў сувязям Максіма Танка з польскай паэзіяй у 1920–1930-я гады. Мне здаецца, што гэты раздзел кнігі значна састарэў. Справа ў тым, што Анатоль Верабей у 1979 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму «Максім Танк і польская літаратура». Першае выданне кнігі з такім загалоўкам пабачыла свет у 1984 годзе. Аўтар піша: «На паэзію Танка вялікі ўплыў зрабіла Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 года». Ды ніякі бальшавіцкі пераварот на творчасць Танка ўздзеяння не зрабіў. Танку тады было 5 гадоў. Які можа быць уплыў?.. Вядома ж, калі пісалася дысертацыя і кніга (першае выданне), тады абавязкова павінен быў быць нейкі бальшавіцка-савецкі ўплыў, бо без яго не выйшла б кніга. Але насамрэч гэта не так. Максім Танк быў папулярным сярод паэтаў Польшчы. Яны яго ведалі, сур’ёзна ўспрымалі, хоць пісаў ён па-беларуску, а не па-польску. Многія польскія паэты ў 1930-х гадах з ім шчыра сябравалі. Часопіс «Беларускі летапіс» (1937. Красавік. С. 110–111) у артыкуле «Польская прэса аб Максіму Танку» паведамляў: «Памінаючы ўсе дробныя зацемкі аб нашым маладым песняры, звернем увагу на вялікі і фаховы артыкул аб творчасці Танка, напісаны ведамы польскім літаратарам Е. Путрамантам п. н. «Mikrokosmos Literacki», а змешчаны ў варшаўскім літаратурна-грамадскім тыднёвіку «Pion» (орган Акадэміі Польскай Літаратуры) з дня 15.04.37 г.». Далей часопіс паведамляе, што Путрамант трапна «падчыркнуў, што Танк першы ў беларускай літаратуры патрапіў глыбака ўнікнуць у стыхію беларускае мовы і тварыць з яе высокія мастацкія вартасці».

Вельмі прыхільна адклікнуўся пра Максіма Танка ў 1937 годзе польскі варшаўскі часопіс «Głos Powszechny», які 21 сакавіка пісаў: «Танк апошнім часам закончыў вялікую паэму «Нарач», каторая з гледзішча сучаснай эпіцкасці не мае сабе роўных не толькі ў беларускай літаратуры, але і ў польскай».

Пра сяброўства Е. Путраманта з М. Танкам згадвае ў сваёй кнізе і Анатоль Верабей. Путрамант нарадзіўся ў Мінску, жыў на хутары Банева каля Ліды. У 1935–1936 гадах разам з Танкам супрацоўнічаў у газетах «Poprostu» і «Karta». Ён быў першым перакладчыкам твораў Танка на польскую мову. Пачынаючы з сярэдзіны 1930-х гадоў М. Танк і Е. Путрамант усё жыццё шчыра сябравалі.

Асобны раздзел у сваёй кнізе Анатоль Верабей прысвяціў Максіму Танку як перакладчыку польскай літаратуры. У 1930-я гады Максім Танк перакладаў у асноўным польскіх паэтаў міжваеннага дваццацігоддзя: як з традыцыйнай паэтыкай, так і з наватарскай. Яго творчасці той пары былі ўласцівы многія характэрныя рысы паэтыкі класічнай і новай паэзіі.

Але найбольш і заўсёды Максіма Танка прыцягвала паэзія Адама Міцкевіча. Першыя пераклады Максіма Танка з Адама Міцкевіча з’явіліся ў друку да 85-годдзя з дня смерці

польскага паэта. Гэта санет «Акерманскія стэпы», урывак «Не дбаю, якое пракляцце» з трэцяй часткі паэмы «Дзяды» (Полымя рэвалюцыі. 1940. № 11), санеты «Бура» і «Выгляд гор са стэпаў Казлова» з «Крымскіх санетаў» (Літаратура і мастацтва. 1940. 16 лістапада). Напярэдадні вайны быў надрукаваны пераклад урыўка з чацвёртага раздзела «Пана Тадэвуша» пад назвай «Звярыны лог» (Вольная праца. 1941. 11 чэрвеня) і г. д.

Пераклады твораў Ю. Славацкага не маюць у беларускай літаратуры такой багатай гісторыі, як пераклады Адама Міцкевіча. Максім Танк на беларускую мову пераклаў яго паэму «У Швейцарыі». Гэта паэма — адзін з шэдэўраў не толькі польскай, але і сусветнай літаратуры. У значнай ступені гэты твор аўтабіяграфічны. Ён прасякнуты рамантыкай першага кахання, трагізмам незваротных страт. Яна з'яўляецца гімнам каханню. Максім Танк перадаў разнастайнасць і вобразнае багацце твора Ю. Славацкага, захаваў яго рамантычны пафас. Перакладчык плённа выкарыстаў вобразна-выяўленчае багацце беларускага фальклору. У паэме дадзены цудоўныя карціны альпійскай прыроды, паказана ўзвышанае чыстае каханне, раскрыты праніклёны сум закаханага сэрца. Максім Танк узнавіў дух арыгінала, захаваў ідэйную задуму аўтара — і ў гэтым каштоўнасць яго перакладу.

Народны паэт Беларусі актыўна перакладаў іншых польскіх паэтаў на беларускую мову. Творчы дыяпазон ягоных перакладаў даволі вялікі: Л. Стаф, Ю. Тувім, У. Бранеўскі, К. Галчынскі, Я. Івашкевіч, М. Паўлікоўская-Яснажэўская, А. Сланімскі, Я. Лехань, С. Дабравольскі, В. Слабоднік, Л. Пастарнак, С. Пентак, Т. Ружэвіч і многія іншыя. Максім Танк пры жыцці стварыў своеасаблівую анталогію польскай паэзіі XX стагоддзя.



## Алесь Белакоз напісаў пра свой музей

У Мінску ў выдавецтве «Кнігазбор» выйшла з друку кніга «Музей у Гудзевічах» (2012). Яе напісаў заслужаны работнік культуры Беларусі Алесь Мікалаевіч Белакоз — чалавек, якога ў Беларусі ведаюць усе. Не бывае дня, каб людзі не тэлефанавалі яму альбо не прыехалі да яго ў Гудзевічы, што на Мастоўшчыне, каб асабіста пабачыцца і пагутарыць з ім. Гэта кніга не толькі пра лёс дзяржаўнага літаратурна-краязнаўчага музея, створанага на базе школьнага музея ў Гудзевічах. Гэта кніга пра тыя падзеі, якія адбываліся ў вёсцы на працягу некалькіх стагоддзяў, пра тых людзей, якія дапамагалі і стваралі разам з Алесем Мікалаевічам і вучнямі гэты музей. А таксама пра тых, хто шкодзіў музею, хто не хацеў, каб ён быў, існаваў, дзейнічаў.

Школьны музей у Гудзевічах прыняў сваіх першых наведвальнікаў 2 лютага 1968 года. Яго адкрыццё было прымеркавана да 130-годдзя з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага. Першыя экспанаты датуюцца 1965 годам. Менавіта тады дзеці пад кіраўніцтвам Алеся Мікалаевіча Белакоза пачалі пісаць лісты пісьменнікам, мастакам, дзеячам навукі і культуры з просьбай даслаць выказванне пра беларускую мову, чарнавік ці рукапіс свайго твора, кнігу з аўтографам. Калі назбіралася многа матэрыялаў — і быў адчынены школьны літаратурна-краязнаўчы музей. Спачатку музей размяшчаўся толькі ў адным пакойчыку, а калі ў 1981 годзе пабудавалі новую двухпавярховую школу, тады пад музей аддалі цэлы будынак старой школы, які размясціў чатыры экспазіцыйныя залы і калідор. Яны былі адчынены ў 1984 годзе.

Яшчэ ў 1980 годзе мясцовы калгас дапамог перавезці з вёскі Семярэнкі да музея хатку, пабудаваную ў канцы XVIII стагоддзя. Першая экскурсія ў ёй была праведзена 6 студзеня 1981 года. А пазней калгас дапамог перавезці да хаткі свіронак. У 1990 годзе загадам Гродзенскага ўпраўлення культуры ад 12 лютага 1990 года № 10 на аснове рашэння Мастоўскага раённага Савета народных дэпутатаў

ад 17 студзеня 1990 года № 269 музей у Гудзевічах стаў дзяржаўным. Тады ж пад музей быў перададзены другі школьны будынак, дзе ў гэты ж год была адчынена зала «Народная медыцына», праект якой бясплатна зрабіў мастак Алесь Ступень. У гэтым жа будынку ў 1990 годзе былі афармлены дзве залы «Лёну і народнага ткацтва», дзе сабраны ўсе прылады, якія патрэбны для таго, каб лён ці воўна ператварыліся ў тканіну, паказаны ўсе ўзоры тканін, якія выраблялiся ў тамтэйшай мясцовасці, а таксама ўнікальная калекцыя падвойных дываноў. Потым адчыніліся экспазіцыйныя залы. А ў 1997 годзе была зроблена зала «Гісторыя Гудзевіч у дакументах і фотаздымках» і г. д.

Так паціху музей пашыраўся і жыў. Хаця ў стварэнні яго, у пошуках матэрыялаў існавала нямала перашкод. Але іх змог адолець няўрымслівы і апантаны справай Алесь Белакоз. Чалавек-легенда, якім мы павінны заўсёды ганарыцца. І мы ганарымся ім — народным настаўнікам, збіральнікам, музейшчыкам, краязнаўцам, літаратарам, вялікім беларусам XX — пачатку XXI стагоддзя. Алесь Мікалаевіч — шчыры і мужны беларус, патрыёт, чалавек, для якога Беларусь — сэнс усяго жыцця.

Кніга «Музей у Гудзевічах» — доказ таго, як няпроста і нялёгка ствараліся падобныя беларускія музеі. Колькі папахадзіў, паабіваў парогаў Алесь Мікалаевіч дзеля свайго музея. Яму запісвалі вымовы, наладжвалі ў школе праверкі, абзывалі нацыяналістам, цягалі ў КДБ, а ён рабіў сваю справу, рабіў упарта і натхнёна, спакойна і… заўсёды. Не ўсё задуманае ім спраўдзілася, адбылося, захавалася для нашчадкаў. Але ён вытрымаў, пераважыў, адолеў.

Гэта кніга — жменька праўдзівых успамінаў мудрага настаўніка з Гудзевічаў. Каб мы жылі, каб жыла ў свеце Беларусь, каб жыла наша мова, каб захавалася наша багатая спадчына. Верыцца, што кніга Алеся Белакоза прачытаецца з цікавасцю. Яна навучыць многіх з нас не спыняцца перад цяжкасцямі, перад сваімі марамі і задумкамі, не здавацца перад тымі, хто хоча знішчыць нашу беларускасць.



# Пра Янку-парадыста і яго кнігу «Партрэты ў інтэр'еры Гародні»

Ніколі не ведаў, што культуролаг, дацэнт кафедры беларускай культуры і рэгіянальнага турызму Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, загадчык навучальна-даследчага сектара этнічнага турызму пры факультэце турызму і сэрвісу Янка Трацяк добры парадыст і гумарыст. Мне заўсёды здавалася, што ён «смяяцца не ўмее», бо яго навуковыя працы і даследаванні вельмі далёкія ад гумару — ён даследуе біблію ў кантэксце беларускай культуры, абараніў кандыдацкую дысертацыю на ступень кандыдата культуралогіі па тэме «Культурна-асветніцкая дзейнасць беларускіх каталіцкіх святароў (пачатак XX ст. — 1939 г.)», з'яўляецца аўтарам больш як ста публікацый на тэмы гісторыі беларускай культуры, гісторыі рэлігіі, канфесійнага руху і хрысціянскай культуры ў Беларусі.

Таму які тут можа быць гумар?..

І раптам з друку выходзіць у Гродне арыгінальная кніжка Янкі Трацяка «Партрэты ў інтэр'еры Гародні», куды ўвайшлі пародыі і эпіграмы на гродзенскіх літаратараў, гісторыкаў, філолагаў, палітыкаў. Наогул, у апошні час у Беларусі мала хто займаецца пародыямі і эпіграмамі. Хаця не. Ёсць і ім месца ў нашай літаратуры. Дый існаванне пародый і эпіграм у беларускай літаратуры мае вялікую гісторыю. Элементы парадыйнага эпасу сустракаюцца ў ананімнай паэме «Прамова Мялешкі», а гэта XVII стагоддзе, у «Тарасе на Парнасе» і «Энеідзе навыварат» (XIX стагоддзе), блізкія да пародый многія вершы Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа. Пародыі і эпіграмы пісалі ў XX стагоддзі Сяргей Дзяргай, Сяргей Дарожны, Анатоль Вялюгін, Міхась Скрыпка, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Васіль Вітка, Пятрусь Макаль і іншыя беларускія літаратары. Час ад часу да літаратурных пародый сёння звяртаюцца Георгій Юрчанка, Міхась Скобла, Павел Саковіч, Анатоль Зэкаў, а таксама нашы народныя паэты Беларусі Ніл Гілевіч

і Рыгор Барадулін. Да гэтых аўтараў смела можна далучаць і Янку Трацяка з Гародні. Ён, праўда, абмяжоўваецца толькі пародыямі і эпіграмамі на сваіх сяброў, знаёмых, на тых, хто жыве і працуе з ім побач у абласным наднёманскім горадзе.

Кніга пародый і эпіграм «Партрэты ў інтэр'еры Гародні» Янкі Трацяка распачынаецца з пародыі на цікавага і арыгінальнага гродзенскага паэта Анатоля Брусевіча, які, дарэчы, сёлета выдаў свой зборнік вершаў пад назвай «Апошні дзень». Назва кнігі адразу выклікае нейкія змрочныя асацыяцыі. У гэтых «змрочных вершах» Янка Трацяк знайшоў вельмі шмат аднолькавых слоў: «чорны», «чорная», «чорную», «чорным» і напісаў хвосткую пародыю «Ілюзія дзяцінства». Вось як гучыць адна страфа з гэтай пародыі:

І чорны аловак
На чорнай паперы
Выводзіць абрысы
Дум чорных і слоў.
І чорныя лікі,
І чорныя дзверы,
І чорная існасць
Счарнелых асноў…

А вось наступная пародыя на Віктара Варанца хоць і выклікае ўсмешку, але яна таксама сумная для беларусаў, бо яна пра беларуса, які знайшоў долар. Аўтар пародыі заклікае таго, хто долар знайшоў, каб аддаў яго ў банк і памяняў на беларускі рубель. Маўляў, беларускі рубель — гэта надзейная валюта… Гм, як тут не заўсміхацца…

Вельмі шмат літаратурных пародый Янка Трацяк напісаў на вершы гродзенскага паэта Браніслава Ермашкевіча. Я ведаю вершы гэтага паэта, пісаў на яго кнігу «Зямлі маёй нераўнавага» (Мінск, 2007) рэцэнзію. Парадыст знайшоў у вершах Ермашкевіча вельмі шмат смешных радкоў, на якія лёгка напісаліся пародыі. Мне найбольш спадабалася пародыя «Паэзія ражна». Паэт Ермашкевіч раіць у сваім вершы сядзець дома, не ездзіць за мяжу — «не перціся на ражон».



Прачытаўшы гэтыя радкі, Янка Трацяк імгненна зрэагаваў дасціпнай і вострай пародыяй:

Зямля тут ражном як зрыта,
Зямлі верш тарчыць ражном,
Ражон тут ражном пакрыты,
Ражон так і прэ ражон!..

Смешнай атрымалася і пародыя на верш Браніслава Ермашкевіча «Дзядзька Колас», асабліва запомнілася апошняя страфа:

«З плеч сваіх не здымаю сярмяжку…»
Тут для рыфмы салгаў трохі, братцы,
Дзядзька Колас заплакаў, зняў дзяжку,
Лупцануў Браніслава па ср…

Добра «лупцануў» пародыямі Янка Трацяк і яшчэ адну гарадзенскую паэтку Людмілу Кебіч. У кнізе змешчана ажно 9 літаратурных пародый на яе вершы. У вершах Людмілы Кебіч парадыст знайшоў такія радкі: «Я такая хваравітая — западаю на душу, да паэзіі прывытая — паміраю, а пішу». Атрымалася пародыя, спадзяюся, што спадарыня Людміла не пакрыўдзілася на парадыста, асабліва калі прачытала апошнія радкі пародыі:

Як у вершы ёсць што лішняе, —
Богам можна апраўдаць.
Напішу пра нешта іншае,
Дык няма каму чытаць.

Сказаць, што Янка Трацяк укладвае ў свае пародыі негатыўны сэнс, нельга. Ён проста па-мастацку лёгка піша іх, таму ў яго «злых» пародыяў няма. Для аўтара пародыя — гэта, як казаў Павел Саковіч, гумарыстычны твор, у якім аўтар па-сяброўску, іранічна пасміхаецца з нейкіх аўтарскіх хібаў, а іншы раз парадыст жадае «паглыбіць» узнятую аўтарам тэму. Вельмі дасціпна і смешна парадыст «паглыбляе» тэму вершаў паэтаў Святланы Куль, Віталя

Клунейкі, Мечыслава Курыловіча, Фёдара Чычкана і іншых. Нeяк рыхтуючы кніжку сваіх пародый «Вярхом на вожыку», Георгій Юрчанка вырашыў зняць пародыю на рэдактара кніжкі Хведара Жычку, лічачы, што няёмка крытыкаваць рэдактара кніжкі. Але той катэгарычна запярэчыў: я на сябе прапускаю пародыю, а таму з чыстым сэрцам падпісваю ў свет пародыі на іншых літаратараў. Хочацца спадзявацца, што не пакрыўдзяцца на Янку Трацяка і тыя асобы, на якіх ён напісаў эпіграмы. Наадварот, як прызнаецца сам аўтар, ён робіць ім рэкламу:

Тут хацеў бы падарыць
Шаржы, эпіграмы —
Не павінна крыўды быць,
Бо раблю рэкламу.

Некалі Юрка Голуб, калі працаваў літкансультантам у «Гродзенскай праўдзе», выдаваў з добрай рукі рэдактара газеты Іосіфа Багіна чатыры выпускі літаратурнага штогодніка «Галасы». Пра гэта згадаў у эпіграме на Юрку Голуба парадыст. Усё ж у сваіх эпіграмах аўтар застаецца гісторыкам-парадыстам. А ў эпіграме на Анжэлу Д. парадыст сказаў, што «жыць паэту з паэткай не проста», на Ігара Жука: «Жук насустрач — будзе рух», а ў эпіграме на старшыню Гарадзенскай філіі Рады БНФ Сяргея Мальчыка даў слова, што «мы будзем на танкі кідацца, каб толькі жыла Беларусь».

Смешнымі, фактычна-арыгінальнымі атрымаліся эпіграмы на грамадскіх актывістаў Гародні Віктара Сазонава і Уладзіміра Хільмановіча. Аўтар пародыі заклікае, каб гарадзенцы лепш слухалі Сазонава, чым расійскага спевака Кабзона. А пра Хільмановіча Уладзіміра з эпіграмы я даведаўся, што для яго ў дзесяць гадзін раніцы — гэта вельмі рана, бо ён любіць паспаць, але позна кладзецца.

Вельмі прыгожымі і праўдападобнымі атрымаліся сяброўскія шаржы-малюнкі таленавітай мастачкі Марыі Кулакоўскай, якія значна дапаўняюць тэкст кнігі. Адразу можна на малюнках пазнаць гарадзенскага гісторыка Вячаслава Шведа, грамадскага актывіста і краязнаўцу Уладзіміра Хільмановіча, намаляванага на першай старонцы тыднёвіка «Ніва», паэта і публіцыста Юрася Пацюпу, паэта Анатоля Брусевіча з пэндзлем і чорнай фарбай, гісторыка Сяргея Токця з рыдлёўкай, якой ён капае архівы Беларусі, гарадзенскага каваля Юрася Мацко і іншых славутых гарадзенцаў.



Кніга пародый і эпіграм Янкі Трацяка «Партрэты ў інтэр'еры Гародні» — гэта своеасаблівы, вясёлы гарадзенскага-інтэлігентны і творчы вернісаж Наднёмання. Застаецца нам чакаць ад аўтара новых творчых партрэтаў.

*2013*

## Філалагічнае краязнаўства Гродзеншчыны

У Гродне выйшла з друку кніга матэрыялаў і даследаванняў «Філалагічнае краязнаўства Гродзеншчыны». Кніга прысвечана памяці народнага паэта Беларусі Максіма Танка, стагадовы юбілей якога адзначаўся ў 2012 годзе.

Лёс славутага паэта быў цесна звязаны з Гродзеншчынай. У 1930-я гады, калі Заходняя Беларусь знаходзілася пад Польшчай, Максім Танк быў у цэнтры беларускага нацыянальна-вызваленчага руху і літаратурнага жыцця краю над Нёманам. Цесную сувязь з Гродзеншчынай і яе людзьмі Максім Танк падтрымліваў да самай смерці.

Таму кніга «Філалагічнае краязнаўства Гродзеншчыны» распачынаецца артыкуламі пра Максіма Танка, а таксама пра пісьменнікаў Гродзеншчыны. Цікава чытаюцца артыкулы пра Элізу Ажэшку, Максіма Багдановіча, Лейбу Найдуса, Аляксея Карпюка. Запомніўся факт, які згадаў у сваім артыкуле І. Сухоцкі. На ўласным 70-годдзі Аляксей Карпюк, пасля ўсіх віншаванняў і зычлівых прамоў, тады сказаў: «Ля крыжа сядзеў жабрак. Усе веруючыя праходзілі, кланяліся і маліліся. Жабрак думаў, што людзі аддаюць такую павагу яму. Аказалася, людзі кланяліся не яму, а крыжу. Так і на

мяне не трэба маліцца. Я не Бог, я звычайны пісьменнік, пішу аб тым, што бачу і чую. Змагаюся, каб Беларусь была суверэннай, вольнай краінай».

Другі раздзел кнігі «Лінгвістычнае краязнаўства» складаецца з індывідуальных слоўнічкаў, у якіх змешчана лексіка, фразеалогія, тапанімія, антрапанімія з розных куткоў Гродзеншчыны. Напрыклад, вось некалькі мікратапонімаў, сабраных у Карэліцкім раёне: *Кляпча* — поле каля вёскі Руднікі, *Сціжаўка, Чалілуг* — урочышчы каля вёскі Селішча. А вось як гучаць мікратапонімы вёскі Гудзевічы Мастоўскага раёна: *Ганасаўшчына* — зямля, купленая ў канцы XX стагоддзя ў пана Гануса, *Плянт* — палетак насупраць вёскі Ляткі, *Зарэка* — палетак паміж Верацейкай і Пачуйкамі. Цікава чытаюцца і аграонімы, аронімы, запісаныя ў вёсцы Капцёўка Гродзенскага раёна: *Чарзеля* — поле па дарозе з вёскі Капцёўка, *Строкі* — хутар і зямля пры ім, названая паводле мянушкі былога гаспадара, *Жвіроўня* — узвышша, дзе бралі жвір.

Разнастайныя мікратапонімы запісала А. Лапкоўская ў Шчучынскім раёне. Найбольш дасведчанымі па захаванні мікратапонімаў аказаліся жыхары, якія нарадзіліся ў 1930–1940-х гадах. Спынімся на некаторых шчучынскіх мікратапонімах: *Каптуны* — хутар, што размешчаны каля вёскі Стадаляны, *Масяўня* — поле, што размешчана на правы бок ад дарогі Астрына–Васілішкі, *Паратушчыха* — выган каля вёскі Ліпічанка, *Мачула* — частка ракі Даніроўка, дзе мачылі каноплі, *Цімпічы* — неафіцыйная назва левай часткі вёскі Трудавая.

Вёска Нагорнікі Дзятлаўскага раёна невялікая. У XIX стагоддзі там знаходзіўся маёнтак з прыгожай назвай Страла. Гэты маёнтак належаў беларускаму польскамоўнаму паэту Юльяну Корсаку, які перакладаў на польскую мову Гарацыя, Дантэ, Байрана, Гётэ, Шылера. А на беларускую мову Юльяна Корсака перакладаў Уладзімір Мархель. Добрыя пераклады! Адна страфа Корсака ў перакладзе Мархеля



прыгадалася мне, калі прачытаў у кнізе пра дзятлаўскую вёску Нагорнікі:

Нас нябеснае узрушыць,  
Дух спазнае, скуль паходзіць:  
Хараство мудрэйшых душаў  
Неба і зямлю пагодзіць.

Мікратапонімы вёскі Нагорнікі Дзятлаўскага раёна, магчыма, добра ведаў і паэт Юльян Корсак: *Грумарава* — балота каля лесу Боркі, *Жорнаўка* — балота каля вёскі Нагорнікі, *Ківулішкі* — балоцістая мясціна на ўсход ад вёскі Нагорнікі, *Сірбітут* — лес каля вёскі Мельнікі, недалёка ад Нагорнікаў…

Доктар філалагічных навук, прафесар Гродзенскага ўніверсітэта Павел Сцяцко, які родам з Зэльвеншчыны, змясціў у кнізе свае даследаванні прозвішчаў Зэльвеншчыны, а таксама напісаў пра адапелятыўныя прозвішчы жыхароў Зэльвеншчыны. Адапелятыўныя прозвішчы Зэльвеншчыны, на думку аўтара, складаюць самую вялікую і разнастайную групу ўнутрысямейных найменняў асобы. Яны паходзяць ад былых дахрысціянскіх імёнаў — ад празванняў асоб (мянушкі, клічкі) па самых розных прыметах: вонкавы выгляд (Белы, Кульгавы), род дзейнасці, заняткаў (Каваль, Кравец), паходжанне, месца пражывання (Татарын, Швед, Ліпскі), падабенства да прадметаў, жывых істот, раслін (Качарга, Лапата, Заяц, Бурак), сувязь з пэўнымі паняццямі (Вайна, Зіма, Мароз) і г. д.

На жаль, мікратапаніміка ў апошні час прыкметна страчваецца па прычыне разбурэння традыцыйнай беларускай вёскі. Таму, сабраныя ў кнізе навукоўцамі, яны для нас сёння — вялікі скарб.

Раздзел «Фальклорнае краязнаўства» пабудаваны з артыкулаў пра малыя формы фальклору, пра легенды і паданні, якія тлумачаць паходжанне назваў населеных пунктаў і іншых тапанімічных аб'ектаў. Напрыклад, М. Даніловіч і Н. Памецька змясцілі ў кнізе падборку дражнілак, зана-

таваных імі за апошнія дваццаць гадоў на Гродзеншчыне. Давайце трохі падражнімся: *У Антона на насу елі чэрці каўбасу* (Смаргонскі раён), *Андрэй-верабей на кадушцы сядзеў, усіх жаб пераеў, адну не даеў, і жывот забалеў* (Навагрудскі раён), *Вандзя-піндзя — папяроса, выйшла замуж за матроса* (Астравецкі раён), *Гаўрыла замазаў рыла* (Свіслацкі раён), *Жэнька-пенька-каўбаса, на вяровачцы аса, а аса шавеліцца, заўтра Жэнька жэніцца* (Зэльвенскі раён), *У Мацея пуп пацея* (Гродзенскі раён), *Піянер — засраны каўнер* (Гродзенскі раён), *Зінка — дзераза, цераз пуза каўбаса* (Ашмянскі раён) і іншыя.

З легендамі і паданнямі вёсак Навагрудчыны чытачоў у кнізе знаёміць Р. Казлоўскі. Гэтыя паданні былі запісаны на Навагрудчыне пару гадоў таму. Напрыклад, вёска Шатараўцы раней называлася Кусціна. Перайменавалі, таму што тут шаткавалі капусту. Ад слова «шаткаваць» пачалі так называць вёску Шатараўцы.

Варта згадаць у кнізе і падборку прыказак, якія былі запісаны ў вёсцы Дуляўшчына Мастоўскага раёна. Розныя гэтыя прыказкі, але ёсць, якія запомніліся: *Твая мама ласа, з'ела яблычка да спаса* (Да Спаса нельга есці яблык), *Німа тых грабель, каб граблі ад сябе* (Гаворыцца пра тых, хто ўсё робіць толькі на сваю карысць), *Што кепска, то не мы* (Кажуць жартаўліва госці пры развітанні з гаспадарамі), *Які палец ні парэжаш, усякі баліць* (Бацькі шкадуюць сваіх дзяцей аднолькава, незалежна ад таго, якія яны) і іншыя.

У апошні раздзел «Лінгвакультуралагічнае краязнаўства» ўвайшлі артыкулы, у якіх акрэсліваюцца аспекты вывучэння традыцыйнай народнай культуры. Прафесар Аляксей Пяткевіч знаёміць чытачоў з традыцыйнай народнай культурай як актуальным прадметам краязнаўства, Алесь Крой і Іван Буднік прапануюць прайсціся шляхамі Карскага ў Прынямонні, а Уладзімір Козыраў у лінгва-гістарычных нататках распавядае пра багацце роднага краю.

Зборнік «Філалагічнае краязнаўства Гродзеншчыны» падрыхтавалі да друку навукоўцы кафедры беларускага



і тэарэтычнага мовазнаўства Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Выданне прынясе пэўную асалоду тым, хто цікавіцца родным словам, духоўнай культурай Гродзеншчыны.

*2012*

## Драматургія паэзіі прозы

*Некалькі абзацаў пра новую кнігу Віктара Сазонава*

Таленавіты гэты хлопец, Віктар Сазонаў. І цікавыя піша ён апавяданні, дзе па-дзедаўскі мудра разважае, думае, павучае. Калі я прачытаў яго новую кнігу «Паэзія прозы» (Гародня, 2013), то падумаў, які ж добры, цікавы, адукаваны настаўнік атрымаўся б з яго ў якой-небудзь гарадзенскай школе. Сотні дзяцей хадзілі б за ім чарадой, слухалі б яго, вучыліся б мудрасці ў свайго настаўніка Віктара Паўлавіча. Памятаецца, калі быў школьнікам, прачытаў у адной вучнёўскай газеце такую параду: дзеці пытаюцца ў свайго настаўніка, чаму ў чалавека адзін рот і два вухі. А таму, кажа настаўнік, каб больш слухаць іншых, а менш казаць самому. Віктара Паўлавіча дзеці слухалі б заўсёды.

На вялікі жаль, Віктар Сазонаў настаўнікам у сённяшняй школе працаваць не будзе. Не такую школу ён хоча бачыць у сучаснай Беларусі. Вядома ж, педагогіка яго заўсёды хвалявала і хвалюе. І не толькі школьная, а педагогіка ўсяго нашага жыцця. Але ж у сённяшняй Беларусі педагогіка нацыянальнай школы адсутнічае. Але гэта іншая тэма. Таму вернемся да выдання аўтара.

Кніга Віктара Сазонава «Паэзія жыцця» — унікальная. Унікальнасць яе заключаецца ў тым, што апавяданні і мудрасці Віктара Сазонава вельмі драматургічныя, дзе ў большасці з іх пераважае дыялог. У апавяданні «Паэзія прозы», якое стала і загалоўкам кнігі аўтара, адразу відаць сцэнічныя дыялогі галоўнага героя апавядання Сяргея Касцюкевіча з Пятром і з жонкай. У гэтых дыялогах раскрываюцца воб-

разы герояў яго апавядання, як у п’есе. У творчым пошуку Сяргей Касцюкевіч, які некалі быў сябрам руху БНФ «Адраджэнне», а цяпер п’е гарэлку і марыць знайсці формулу паэзіі прозы, гэта значыць, каб проза чыталася так, як паэзія. «Я павінен гэта зрабіць. Як не, то лепей здохну!» — прызнаецца Сяргей. Ды і раздзел «Дзедавы мудрасці» напісаны на дыялогах яго герояў. Гэтыя дыялогі вельмі цікава і хутка чытаюцца. Кожны твор аўтара, на маю думку, нясе ў сабе нейкі вынік, мараль. Аўтар амаль ва ўсіх сваіх абразках і апавяданнях хараша паказвае чалавечы характар. І гэты характар раскрываецца менавіта ў гутарцы герояў. А сэнс моўнага майстэрства Віктара Сазонава заключаецца ў тым, што аўтар умее знайсці самае дакладнае, адзінае слова ці выраз для самавыяўлення героя. «Ухо поразительно чуткое», — так ахарактарызаваў некалі гэта майстэрства рускі паэт беларускага паходжання Аляксандр Твардоўскі. Таму, на маю думку, з Віктара Сазонава мог бы атрымацца добры драматург, які пісаў бы для нашых тэатраў вартыя ў сённяшні час камедыі ці трагікамедыі — такія вымалёўваюцца па апавяданнях жанры яго драматургіі. Але гарадзенскі аўтар піша прозу — сучасную, разважлівую і далікатную, чытаючы якую трэба думаць.

У беларускай літаратуры жанр вясковай прозы значна адрозніваецца ад усіх астатніх. У чым прычына такога адрознення? Пра гэта можна разважаць доўга, але ўсё ж немагчыма будзе прыйсці да нейкага агульнага выніку. Мне здаецца, гэта адбываецца таму, што рамкі гэтага жанру могуць і не змяшчацца ў межах апісання аднаго вясковага жыцця. Пад гэты жанр могуць падыходзіць і творы, у якіх галоўны герой зусім не вясковец, але па духу і па ідэі твор з’яўляецца менавіта вясковай прозай. Гэта датычыць і прозы Віктара Сазонава. У яго самымі мудрымі героямі амаль заўсёды з’яўляюцца вяскоўцы, асабліва старыя людзі, якія пражылі шмат гадоў і на сваім вяку многа чаго рознага пабачылі. Вось, напрыклад, чаму людзі сёння шмат п’юць? Га? А дзед Валодзя — герой абразка «Чаму людзі п’юць» — ведае. «А людзі п’юць па прычыне простай. Таму што гэты свет на цвярозыя вочы не выглядае і не здаецца ім лепшым», — разважае ён. Ці дзед Яська ўсім дае свой мудры адказ-параду: «Ляжаць буду столькі, колькі змагу. Бо чым пазней падымуся, тым меней награшу».

Праўда, я не магу прозу Віктара Сазонава назваць цалкам вясковай, бо гэта будзе памылкай. Магчыма, гэта вясковагарадская філасофская проза. Тым не менш вёска скразною лініяй праходзіць праз усю кнігу аўтара. Праходзіць сваёй мудрасцю і філасофскай прастатой. Аўтара сёння хвалююць пытанні маральнасці, любові да роднай зямлі, добрых адносін да людзей, да сваёй гісторыі, да сваёй Бацькаўшчыны. І мае рацыю Уладзімір Хільмановіч, які ў прадмове да кнігі сказаў, «што гэта погляд аўтара ў нядаўнюю мінуўшчыну, дзе жыццёвы досвед і народная мудрасць перадаваліся вусна, ад спрактыкаваных дзядоў да малых унукаў…».

Сазонаўскі герой — мудры, рахманы, разважлівы. А зямля — паэтычны шматзначны вобраз у мастацтве Сазонава: дом родны, хата, зямля, сям’я, Бацькаўшчына. Народнавобразныя асацыяцыі і ўспрыняцці ствараюць суцэльную сістэму паняццяў нацыянальных, гістарычных, філасофскіх і духоўных: пра жыццё, праблемы, п’янства, розум і вопыт. Але вобраз Радзімы, любові да яе становяцца цэнтрам прыцягнення ўсяго зместу кнігі празаіка: асноўных калізій, мастацкіх канцэпцый, маральна-эстэтычных ідэалаў і паэтыкі. Чытаю «Камяні». Супер! Моцнае параўнанне, ёсць над чым паразважаць і падумаць. І ўсё ж не толькі — «абы бульба была» для беларусаў. Для нас важна, каб мы не забывалі сваёй маленькай радзімы, каб мы дома былі і заставаліся на сваёй зямлі не толькі бульбашамі, а беларусамі. Хаця «Камяні» — гэта маленькі гімн нашай бульбе, нашай вёсцы, дзе камяні імкнуцца падтрымліваць баланс. А ён таксама павінен аднаўляцца. Хораша разважае аўтар. Таму да гэтых разваг можа шчыра далучацца кожны беларус, кожны чытач, хто хоча зразумець аўтара і з ім пагадзіцца ці не пагадзіцца. Беларусы напісалі пра бульбу шмат, як украінцы пра сала.

Памятаю ў Алега Лойкі радкі: не сагнешся ў кульбу — не скапаеш бульбу. А Міхась Скобла нават напісаў цэлую оду баразне, дзе

Пнецца ў сваю баразну маладзён.
Пнецца дзядок, хоць і ўспёрся на кульбу.
Хоць над ляском ужо месяц відзён,
Людзі шукаюць, як золата, бульбу…

Але пры чым тут бульба, калі галоўнае — быць і заставацца на гэтай роднай зямлі людзьмі і гаспадарамі, каб на нашых сталах заўсёды былі не толькі бульба і цыбуля, хлеб, малако, а таксама лемантар на роднай мове.

У творах Віктара Сазонава, якія склалі «Паэзію прозы», усё часцей гучыць гарачы, шчыры аўтарскі голас, звернуты да чытачоў. Аўтар стараецца пачаць гутарку пра самае галоўнае, пра тое, што набалела. Ён нібы адчувае, што яго героі не ўсе могуць выказаць тое, аб чым трэба абавязкова сказаць. Таму яго мудрасці і апавяданні — гэта аўтарскае слова пра сэнс нашага сённяшняга жыцця. Хаця адны загалоўкі яго празаічных твораў «Суткі стажора», «Паштоўка палітвязню», «Навука для галодных», «Нехта лжэ, а дурні вераць» і іншыя наводзяць на думку, што жывецца нам няпроста. Хаця мастацтва ўсё ж павінна вучыць дабру. І яно некалі дапаможа перамагчы зло.

*2013*





## Польска-беларускі тэматычны слоўнік

У Мінску ў выдавецтве Зміцера Коласа выйшаў з друку «Польска-беларускі тэматычны слоўнік» для школьнікаў і студэнтаў. Яго падрыхтаваў кандыдат філалагічных навук, вядомы беларускі перакладчык Лявон Баршчэўскі. Слоўнік выйшаў з друку дзякуючы фінансавай дапамозе Пасольства Рэспублікі Польшча ў Беларусі, налічвае ён звыш 17,5 тысячы слоўнікавых артыкулаў. Наклад выдання — 500 асобнікаў.

Наогул, у Беларусі, а таксама ў Польшчы ў апошнія дзесяцігоддзі з друку выйшла нямала розных беларуска-польскіх і польска-беларускіх слоўнікаў. Адразу прыгадваюцца наступныя выданні. Гэта — «Польска-беларускі слоўнік» (Мінск, 2004), які ўклалі Яўгенія Волкава і Валянціна Авілава. Слоўнік налічвае звыш 40 тысяч слоў. «Польска-беларускі, беларуска-польскі слоўнік» (Варшава, 1996, 2007) — даведнік змяшчае ў абедзвюх частках каля 20 тысяч слоў, у тым ліку ўстойлівыя выразы і фразеалагізмы. Аўтарамі-ўкладальнікамі слоўніка з'яўляюцца Тэрэса Ясіньска і Альберт Барташэвіч. Цікавым і карысным атрымаўся і «Беларуска-польскі і польска-беларускі дзіцячы слоўнік» (Мінск, 2006) Валерыі Ждановіч і іншыя выданні. Дарэчы, Лявон Баршчэўскі плённа працуе на карысць польска-беларускіх сувязей. У 2008 годзе ён выдаў «Кароткую граматыку польскай мовы». А ў 2011 годзе ў кнігарнях Беларусі з'явіўся ягоны «Беларуска-польскі размоўнік-даведнік» і г. д.

І гэта не выпадкова, а звязана з тым, як піша ва «Уводзінах» да слоўніка Лявон Баршчэўскі, што ў апошнія гады павялічваецца колькасць маладых беларусаў, якія становяцца навучэнцамі сярэдніх навучальных установаў або студэнтамі ўніверсітэтаў Польшчы. Так ці інакш, дзеля добрай вучобы ў Польшчы беларускім юнакам і дзяўчатам даводзіцца ў надзвычай кароткі час засвойваць базавую тэрміналогію з самых розных галін ведаў, вучыцца чытаць і разумець вучэбную, мастацкую і грамадска-палітычную літаратуру.

«Польска-беларускі тэматычны слоўнік» для школьнікаў і студэнтаў мае дыферэнцыяльны характар. Сюды ўключаны толькі тыя паняцці і тэрміны, пераклад якіх можа ўяўляць складанасць для асобы, якая ў дастатковай меры валодае беларускай мовай. Таму ў складзе слоўніка адсутнічае значная колькасць інтэрнацыяналізмаў, агульных для беларускай і польскай моў тэрмінаў, запазычаных з лацінскай, англійскай, нямецкай, французскай і іншых моў, а таксама тэрмінаў, якія наогул, паводле свайго гучання і напісання, лёгка зразумелыя носьбіту беларускай мовы, навучэнцу або студэнту.

Слоўнік складаецца з дзвюх частак. Першая частка прысвечана агульнай і агульнадыдактычнай лексіцы. Вось як, напрыклад, гучаць словы па-польску і ў перакладзе на беларускую мову з гэтага раздзела:

Akomodacja — прыстасоўванне, гнуткасць.

Dosyt — сытасць, перанасычэнне.

Kop — выспятак.

Jednoraki — аднатыпны.

Interakcja — узаемаўплыў, узаемадзеянне.

Mruk — маўчун.

Otucha — бадзёрасць, дух… і г. д.

У другую частку слоўніка ўвайшлі словы спецыяльных тэрміналогій. Гэта тэрміны з філалогіі (літаратура, мова) і мастацтвазнаўства, тэрміны, паняцці і назвы з гісторыі і грамадазнаўства, геаграфічныя тэрміны, тэрміны з біялогіі і экалогіі, хімічныя тэрміны, тэрміны з фізікі і астраноміі, матэматыкі і інфарматыкі. Напрыклад:

Upstrzony — спярэшчаны, заплямлены.

Grupa odniesienia — рэферэнтная група.

Haracz — даніна, падатак.

Sep — адсыпны падатак.

Wodzian — гідрат… і г. д.

Для беларускіх карыстальнікаў слоўнікам Лявон Баршчэўскі робіць і пэўныя ўдакладненні ва «Уводзінах». Ён піша, што польскія дзеясловы звычайна падаюцца ў форме



аднаго — незакончанага або закончанага — трывання, з улікам ужывальнасці той або іншай формы ў адпаведным корпусе тэкстаў. Зваротныя формы дзеясловаў падаюцца ў слоўніку толькі ў тых выпадках, калі іх пераклад наўпрост не выводзіцца з незваротнай формы. Ёсць і іншыя пэўныя каментарыі для тых, хто будзе карыстацца гэтым неабходным і цікавым слоўнікам.

«Польска-беларускі тэматычны слоўнік» для школьнікаў і студэнтаў будзе карысным не толькі для тых беларусаў, якія вучацца ў навучальных установах Польшчы, але і для ўсіх настаўнікаў і педагогаў школ, навучальных устаноў з польскай і беларускай мовамі навучання, а таксама для ўсіх, хто цікавіцца польскай і беларускай тэрміналогіяй, гісторыяй добрасуседскіх узаемаадносін Польшчы і Беларусі.

*2013*

## «Каранацыя Міндоўга» завяршае трыпціх драматычных паэм

Доктар філалагічных навук, выдатны беларускі паэт, літаратуразнавец і перакладчык Мікола Арочка (1930–2013) — мой зямляк. Нарадзіўся ён у вёсцы Вецявічы Слонімскага раёна. Там пражыў апошнія свае 23 гады. Там яго і правялі ў незваротны шлях на мясцовы пагост, правялі да сыноў, да вяскоўцаў.



*Мікола і Марыя Арочкі, жнівень 1952 г.*

Вярнуўшыся з Мінска ў родную вёску Вецявічы, Мікола Арочка задумаў і ўсе гэтыя гады выношваў свой чарговы, пасля «Крэва» і «Суднага дня Скарыны», эпічны твор, прысвечаны Міндоўгу (1195–1263) — заснавальніку і пер-

шаму вялікаму князю Вялікага Княства Літоўскага. Наогул паэтычны дар Міколы Арочкі, на мой погляд, заўсёды быў моцны найперш канкрэтнасцю паказу, ёмістасцю паэтычных дэталяў. У яго творах пераважна пануе эпічны спакой, а эмацыянальную рэакцыю чытачоў выклікае якраз спалучэнне з канкрэтнымі вобразамі, з'явамі, падзеямі гуманістычнага пафасу, як гэта, напрыклад, у ягоных баладах, драматычных творах, многіх вершах.

Сваю новую драматычную паэму Мікола Арочка назваў «Каранацыя Міндоўга». Пісаў яе ў Вецявічах і закончыў у 2003 годзе. Унук паэта Валерык Арочка набраў паэму на камп'ютары і сам сшыў некалькі асобнікаў паэмы. Адзін асобнік я неяк завёз у часопіс «Маладосць», дзе рэдактар выдання Раіса Баравікова абяцала надрукаваць усю паэму. Але надрукавалі ў верасնёўскім нумары за 2007 год толькі ўрывак з яе. Калі я прыехаў у Мінск забраць Валерыкаў асобнік «Каранацыі Міндоўга», то кніжачкі нідзе не знайшлі. Але, дзякаваць Валерыку Арочку і жонцы Міколы Арочкі Марыі Іванаўне, знайшоўся яшчэ адзін асобнік выдатнай паэмы.

Я памятаю, як пачынаў пісаць «Каранацыю Міндоўга» Мікола Арочка. Калі я бываў у яго ў Вецявічах, ён шмат мне пра Міндоўга распавядаў, разважаў, спрачаўся са мной. З яго слоў я даведаўся, што ў пачатку 1970-х гадоў беларускага паэта дужа ўразіла драматычная паэма «Міндаўгас» літоўскага паэта і сябра Міколы Арочкі Юсцінаса Марцінкявічуса (1930–2011). Яна яго так захапіла, што мой зямляк нават напісаў пра яе ва ўсесаюзным друку, бо быў проста захоплены велічнай постаццю галоўнага персанажа.

Юсцінас Марцінкявічус, у знак падзякі за гэта, даслаў Міколу Арочку свайго «Міндаўгаса», выдадзенага асобнай кніжкай, з зычлівым аўтографам. Мой зямляк быў шчаслівы такім падарункам. Ён нават сваім уражаннем падзяліўся з выдатным нашым літаратуразнаўцам Віктарам Каваленкам (1929) «Дай пачытаць», — папрасіў пасля гутаркі Каваленка. Прайшло некалькі дзён, і Віктар Каваленка вярнуў «Міндаўгаса» Міколу Арочку. Але паэт быў здзіўлены, калі Віктар



Антонавіч аднёсся да твора літоўца стрымана-крытычна, без ніякай ухвалы. Маўляў, зашмат наўмысных адступленняў ад гістарызму, літоўскай падгонкі пад старую канцэпцыю заваёўніцкай місіі князёў Літвы. Аднак у такога самабытнага мастака слова, як Юсцінас Марцінкявічус, было і бясспрэчнае права на сваё асабістае гледжанне на ходу гістарычных падзей і шляхоў станаўлення нацыі.

Тым не менш да канца свайго жыцця Мікола Арочка застаўся ўдзячны літоўскаму сябру ўжо за тое, што ён далучыў яго да шырока распачатага ім узнаўлення нашага агульнаадзінага гістарычнага Дома — Вялікай Літвы. Удзячны, што ён падбіў майго земляка на «звышзадачу» — стварыць свой паэмны эквівалент палітычнай і духоўнай драмы роднай зямлі («Крэва», «Судны дзень Скарыны») з нахілам да ўсё большага трагізму. І ўсе гэтыя гады ў Міколы Арочкі несціхана тачылася, як незагойная рана, балючая задума каранацыі — ідэі, што працягнулася ў наступнасць на многія стагоддзі. І вось атрымаўся ўдачны вынік асэнсавання. Мікола Арочка адолеў выдатны эпічны твор, які з'яўляецца вартасным завяршэннем трыпціха гістарычных паэм — «Крэва», «Судны дзень Скарыны», «Каранацыя Міндоўга».

Пасля «Міндаўгаса» Марцінкявічуса ў нашага літаратара ўзнікла неабходнасць палемічнай скіраванасці ягонай новай паэмы, тэматычна блізкай з «Міндаўгасам» Марцінкявічуса, якой у свой час ён захапляўся. Міндоўг у «Каранацыі» выглядае ўжо не як заваёўнік накшталт Аляксандра Македонскага з пустой далонню, якая ў дарозе расшчэмлена высунулася з труны. Гэта зусім не захопнік беларускіх земляў, а ўстурбаваны Гаспадар, які збіраў іх да купы, ратуючы ад загубення, вынішчэння, асіміляцыі. Ён нястрымна апантаны ў мэце. Ажно дзівіць, чаму ім так завалодала ідэя задзіночання не толькі этнічна блізкіх, але і разрозненых плямёнаў вакол Наваградка, які, дзякуючы волі фактычна аднаго чалавека, пакліканага сюды на княжанне, стаў урэшце яго рэзідэнцыяй, збройнай мышцай, кіпучым сэрцам новай дзяржавы. Перамяніўся вектар у гістарычным часе… Падупаў слынны Полацк пад націскам мечаносцаў на Дзвіне… Асіміляванае

патаптанае тэўтонцамі племя прусаў… Балцкія орды, наезды стэпавічоў… Ваяўнічыя прэтэнзіі на аднаўленне былога ўладарства Данілы Галіцкага… Усё гэта вядома. Але як можна бясконца адчуваць сябе пушчай, падпаленай з усіх бакоў? Дзеля ўласнай зверхнасці ўладарства? І, можа, найгорш і найбольш небяспечна, што драматызм і трагізм становішча наклікала і ўзмацняла далёкая і блізкая язычніцкая радня, што закаранела трымалася паганства, няўступна патрабуючы адрачэння ад выбару шляхоў і спосабаў утрывалення незалежнасці. Вымогі і не пустыя просьбы адрачэння ад Хрыстовай веры, ад каралеўскага вянца… Язычніцкіх князькоў і верхаводаў, зрэшты, можна было зразумець — сваёй сляпой няўступнасцю, веранязрушанасцю яны хацелі ўратавацца ад бураломнасці часу, пазбегнуць гаркамыснага лёсу некаторых суседзяў патаптаных плямёнаў.

І вядома ж, не любоўна-інтымныя жарсці ўплывовых каралёў пускалі ўзаемазабойчыя стрэлы вынішчэння супраціўнікаў, а прычыны, пэўна, больш глыбокія, кроўна-жыццёвыя, спароджаныя няўмольнымі акалічнасцямі суравейшай хады гісторыі.

Дужа паказальна, што ў новай паэме «Каранацыя Міндоўга» ўсё гэта даводзіцца не публіцыстычна аголенымі сродкамі, а пераважна як бы апранута ў мастацкія шаты, увасоблена праз напругу супярэчлівых сутыкненняў, учынкі і злопамеры характараў, праз драматычны напор спрэчак, а то і вузлавата-крута паважнага дзейства.

Аўтару, падобна, сама важна было паказаць галоўнага героя як чалавека жывога, духова адоранага ў псіхалагічным багацці пачуццяў, не бяздумна-безагляднага ва ўчынках, любоўных сваіх жарсцях, а інтымна надзвычай чуйным. Пра гэта сведчаць яго пранікнёныя маналогі, звернутыя да Марты, размовы з яе прывідам, дачыненні з Міртай. Уражлівую ролю спаўнялі сродкі прамаўлення на грані самазабыцця падчас сцішанай споведзі з высокімі носьбітамі Боскага духу на жэглішчы. Такія моманты запамінальныя, яны сапраўды спрыяюць, так бы мовіць, жывому «ўчалавечанню» Міндоўга. Яго высакагоднасць не дэкларававаная,



а выяўленая чуйна, нібы на жывы дотык, на судакрананне з духова прыгожымі пачаткамі; таму герою і давяраешся, унутрана прымаеш яго нялёгкі свет.

Падкупае як бы сама ментальнасць натуры галоўнага героя, менавіта вялікасць князя-караля з душой беларуса. Такім, відаць, і наканавана яму быць з няўмольнымі скарбамі на далоні, працягнутай да нас праз стагоддзі. Не скіньце неасцярожна з гэтай далоні ўзнятыя з народных глыбінь перліны яго кароны і душы. Таму вельмі і вельмі шкода: заўчаснага трагізму буйнай дзяржаўнай асобы, да якой гэтак няшчасна і марнатраўна аднёсся акаянны свет — усе носьбіты наўмыснага загубення. А сабе ж на страту!..

«Каранацыя Міндоўга» Міколы Арочкі яшчэ выдасца асобнай кніжкай. Да слёз шкада толькі, што аўтар не зможа ніколі даслаць яе свайму сябру-літоўцу Юсцінасу Марцінкявічусу, а той у сваю чаргу ніколі не зможа выказаць свае ўласныя думкі наконт беларускай «Каранацыі Міндоўга». Але іх паэмы — гэта, бясспрэчна, агульны ўклад у гісторыю даследавання Вялікага Княства Літоўскага.

*2013*

## З вышыні белага маладзіка

Паэты з Магілёўшчыны любяць белы колер. Прыгадваюцца радкі Анатоля Сербантовіча:

Сняжынкі — белыя агні,
Кусты малочныя, алеі —
І эталонам чысціні
Мая каханая бялее.

А ў Алеся Пісьмянкова, наогул, белы колер скразною лініяй праходзіць праз усю яго паэзію. І свой першы зборнік паэт так і назваў «Белы Камень»:

Проста ў вёсцы Белы Камень
Самы белы ў свеце снег.

Белы колер прысутнічае і ў вершах Віктара Бяляцкага, чый зборнік пабачыў свет у выдавецтве «Кнігазбор» (2013). Дый назваў аўтар яго — «Белы маладзік». Белы маладзік паэта з Кругляшчыны свеціць над Белым Каменем паэта з Касцюковіччыны. У Алеся Пісьмянкова чытаю:

Любіць прызначана мне лёсам:
Я не памру, пакуль люблю.

Віктар Бяляцкі нібы працягвае думкі Алеся Пісьмянкова:

Я буду жыць пад белымі снягамі
І не памру, пакуль жыве любоў.

З Віктарам Бяляцкім я пазнаёміўся даўно, яшчэ ў канцы 1970-х гадоў, калі разам вучыліся ў Магілёўскім культасветвучылішчы. Праўда, ён быў старэйшы за мяне і па гадах, і на курс, бо паступіў туды пасля дзесяцігодкі. Дый друкавацца ён пачаў проста і лёгка, трапіўшы пад крыло Аляксея Пысіна. Памятаю яго падборку ў «Магілёўскай праўдзе», асабліва ў памяці засталіся радкі пра маці і дзіцятка:

Матулі радасць не ўтаіць, —
Дзіцятка бегаць пачынае.
Яна яго ў руках люляе,
І яно да сонейка ляціць.

Пасля Магілёва нас лёс раскінуў па розных кутках былой савецкай краіны. Ён мне пісаў лісты ў войска, бо служыў я далёка ў Забайкаллі. Потым наша перапіска спынілася. Аднойчы я ўбачыў яго добрую падборку вершаў у часопісе «Маладосць», радкі з'яўляліся ў «ЛіМе», у «Беларусі». Але найбольш аўтар публікаваўся ў мясцовым раённым і абласным друку. Праўда, з-за сваёй сціпласці Віктар пісаў для сябе. І аказалася, што з гадамі напісалася шмат. Я неяк угаварыў яго дастаць са сваёй шуфлядкі вязанку вершаў і выдаць іх асобным зборнікам. Ён урэшце пагадзіўся.

«Белы маладзік» — першы зборнік паэта Віктара Бяляцкага. Вершы, якія яго склалі, далёка не мудрагелістыя,



а простыя і зразумелыя чытачам. Ён пісаў і піша пра тое, што бачыць, што добра ведае, што перажыў і што хвалюе. А гэта — вёска, маці, прырода, згадкі пра вялікіх людзей, рэха Другой сусветнай вайны, а таксама каханне. Пра каханне аўтар піша неяк асцярожна, з крыўдай на сваю лірычную гераіню, наіўна і нават смешна:

Цалавала, мілавала —
Не са мной пайшла ў павець,
А мне сэрцайка сказала:
Заманіх не трэба мець.

Значна шырэй і смялей Віктар Бяляцкі апісвае вёску, куды любіць прыязджаць, дзе туліцца «да шчок паветра», дзе «белы снег — як з палёў папера», дзе «з галінкі яблыкі ля плота збівае ціха лістапад». Хораша і чулліва паэт прыгадвае дзеда Адася, калі «ўсё сяло з ягонымі граблямі некалі ішло на сенажаць». То сумуе па цётцы Марыі, якая ў вёсцы жала спрытна, але гэта было даўным-даўно. Вельмі шкадуе аўтар таго вясковага жыцця, настальгуе па ім, бо вясковае жыццё разам з маленствам хутка прайшлі. Цяпер паэт туды толькі вяртаецца з дарог, вяртаецца да маці, да землякоў:

Буду я маліцца, буду мілаваць
Гэтыя дарогі, гэту сенажаць…

Сёння пра вёску мала пішуць, асабліва маладыя аўтары. Дый яны не ведаюць вёскі, калі «расчыніўшы насцеж дзверы хаты, хлапчук вясёлы ў вясну пабег», вёскі, дзе заўсёды чакала маці, бо «шлях да маці — самы родны шлях». Віктару Бяляцкаму гэтая тэма знаёмая з маленства, таму ён хораша яе апісвае і шчыра выказвае свае пачуцці. Першае, што кідаецца ў вочы ў лірыцы паэта з Кругляншчыны, — гэта прыгожая чалавечая сціпласць, самапаглыбленне, якое сваімі балючымі перажываннямі і нават радасцю баіцца парушыць душэўную раўнавагу. Аўтар імкнецца перадаць багацце душы нашага чалавека, яго шматстайныя адносіны з грамадствам, складаныя ўзаемадачыненні са светам пры-

роды, з той першароднай гармоніяй і красой, якім заўсёды няпроста самасцвярджацца.

На высокай публіцыстычнай ноце гучаць у кнізе вершы, прысвечаныя Беларусі, Магілёўшчыне, Кругляншчыне. Яны авеяны шчырым лірызмам і філасофскай задуменнасцю, напоўнены сыноўняй любоўю да сваёй зямлі, да людзей на ёй. Нідзе больш, толькі на Кругляншчыне «неба ў азёрах умываецца ў чыстай вадзе», а Беларусь для аўтара з'яўляецца «надзейным берагам».

Ёсць у зборніку Віктара Бяляцкага і вершы-прысвячэнні Аляксею Пысіну, Максіму Багдановічу, Янку Купалу, Якубу Коласу, Канстанціну Сіманаву, Яўгеніі Янішчыц і іншым асобам. Паэт сцвярджае, і з ім можна пагадзіцца, што «песня Максіма Багдановіча льецца на ўсю Беларусь» і «пысінская свеціць вышыня». З гэтай пысінскай вышыні, з вышыні белага маладзіка бачна, як жыве і плённа працуе паэт Віктар Бяляцкі, у полі зроку якога — дарагія вобразы роднай зямлі, сляды далёкіх і блізкіх падзей часу. Таму хочацца пажадаць яму і надалей плёну, здароўя і новых кніг!

*2013*

## Імёны і помнікі свіслацкай зямлі

Паштальёнка прынесла мне дамоў тры краязнаўчыя кнігі з розных куткоў Беларусі. Ад Міхася Карпечанкі з Бялынічаў атрымаў цудоўны краязнаўчы энцыклапедычны даведнік «Бялыніччына». Барыс Брацук з Маладзечаншчыны даслаў сваю першую краязнаўчую кнігу «Дарагія мае землякі…», куды ўвайшлі артыкулы аўтара пра людзей, якія ўклалі свой унёсак у гісторыю Беларусі. Са Свіслаччыны з аўтографам атрымаў краязнаўчы даведнік ад яго ўкладальніка Мікалая Пакутніка «Імёны і гістарычныя помнікі свіслацкай зямлі». Пра яго і хочацца сказаць пару слоў.

Задумка выдання арыгінальная: пад адну вокладку ўкладальнік сабраў усіх сваіх знакамітых землякоў і тых людзей, лёс якіх быў звязаны са Свіслаччынай. Сюды ўвайшлі і помнікі свіслацкай зямлі. Як паведамляе Мікалай Пакутнік, найбольш шкоды свіслацкай зямлі, яе помнікам, людзям нанеслі войны са шведамі, расейцамі, французамі і немцамі. Але, напрыклад, захаваліся архітэктурныя помнікі — гэта царква ў вёсцы Грынявічы, у вёсцы Дабраволя, Міхайлаўскі касцёл у Поразаве і іншыя. Тая ж царква Іаана ў цэнтры вёскі Дабраволя была пабудавана ў 1840 годзе з дрэва, трохзрубная, на падмурку. Гэта помнік драўлянага дойлідства. А царква імя Святой праведнай Ганны ў вёсцы Харашэвічы з'явілася ажно ў 1790 годзе…



Згадвае Мікалай Пакутнік і пра архітэктурны комплекс XIX–XX стагоддзяў, дзе месцілася Свіслацкая гімназія. Гімназія ў Свіслачы была заснавана на сродкі графа Вінцэнта Тышкевіча. У галоўным корпусе было 6 лекцыйных залаў, 2 кабінеты, капліца, якая адначасова выкарыстоўвалася і як актавая зала, бібліятэка, 11 пакояў, 2 кухні, 2 кладоўкі. Абапал галоўнага корпуса тарцом да яго былі пабудаваны 2 флігелі. У флігелях месціліся пакоі гімназістаў і кватэры настаўнікаў. У глыбіні пляца насупраць галоўнага корпуса была мураваная стайня і склады… Пасля закрыцця гімназіі ў будынках знаходзілася настаўніцкая семінарыя. Але падчас Другой сусветнай вайны галоўны корпус быў пашкоджаны, а потым людзі будынак разабралі на цэглу, а на яго месцы была збудавана раённая бальніца, пры будаўніцтве якой быў знішчаны левы флігель. Захаваўся правы флігель, але пасля будаўніцтва бальніцы ён страціў сваё значэнне ў фармаванні архітэктурнага асяроддзя Свіслачы. У 1979 годзе на будынку была ўстаноўлена мемарыяльная шыльда на ўшанаванне знакамітых людзей, якія там працавалі і вучыліся. Наогул, пра Свіслацкую гімназію даўно пара напісаць і выдаць добрую кнігу, кнігу пра настаўнікаў, гімназістаў, пра той час, калі існавала там гэта навучальная ўстанова. А існавала яна ў Свіслачы з 1804 года да 1865-га. Ды і пра Свіслацкую настаўніцкую семінарыю (1876–1921) таксама варта зрабіць добрую манаграфію. Але хто гэта і калі адужае? Таму свіслацкім краязнаўцам і гісторыкам, шчыра кажучы, работы непачаты край.

У краязнаўчым даведніку Мікалая Пакутніка ёсць згадкі пра асоб, далёка не ўсіх праўда, якія атрымлівалі першую адукацыю ў свіслацкіх гімназіі і настаўніцкай семінарыі, пра некаторых выкладчыкаў, якія там працавалі. Напрыклад, нямецкі славіст Рудольф Абіхт (1850–1921) у 1917–1918 гадах у Свіслацкай настаўніцкай семінарыі выкладаў беларускую мову. Дарэчы, Рудольф Абіхт з'яўляецца аўтарам працы «Паказальнік крыніц Супрасльскага рукапісу» (1893–1898). Ці Адольф Белакоз (1826–1895), які таксама вучыўся ў Свіслацкай гімназіі, а ў пачатку 1860-х гадоў жыў у Беластоку, даваў урокі музыкі. Надрукаваў разам з Б. Шварцэ ў беластоцкай падпольнай друкарні некалькі выданняў, у тым ліку і «Гутарку старога дзеда». Пасля паўстання 1863 года быў высланы ў Сібір. Няпросты лёс быў і Эдуарда Гойліка (1914–1979). Ён вучыўся ў Свіслацкай настаўніцкай семінарыі. Ваяваў. Працаваў на факультэце педагогікі Варшаўскага ўніверсітэта ў Беластоку. У Свіслацкай настаўніцкай семінарыі вучыліся і нашанівец Янук Дарашкевіч (1890–1943) з Меляшкоў, і беларускі вайсковец і дзеяч на эміграцыі Мікола Дзямідаў (1888–1967) з Ломжы, і іншыя.

Прозвішчаў згадваецца ў краязнаўчым даведніку нямала. Да некаторых тэкстаў далучаны фотаздымкі. Але ж добра было б, каб партрэцікаў надрукавалася як мага больш, да кожнага вядомага чалавека свіслацкай зямлі. Няма здымкаў і тых людзей, якія сёння жывуць, працуюць у іншых рэгіёнах Беларусі, хаця родам са Свіслаччыны. Гэта недаравальна, калі ў такім важным і неабходным людзям выданні няма партрэтаў паэтаў Анатоля і Васіля Дэбішаў з Брэста. Ці здымкаў журналіста і публіцыста Юрася Залоскі, які жыве ў Мінску, вучонага Валерыя Раманоўскага. Лёгка можна было б знайсці фота таго ж Янука Дарашкевіча, Кандрата Лейкі, Уладзіміра Міхнюка, Восіпа Кісяля, Юрыя Акудовіча і г. д.

Мае рацыю аўтар кнігі, калі ў прадмове да яе кажа, што «самым вялікім багаццем нашага краю ёсць людзі, якія тут нарадзіліся, вучыліся, працавалі, наведвалі яго. Кожны чалавек, які прыходзіць на гэты свет, мусіць пакінуць пасля



сябе след». Гэта так. Але яшчэ вельмі важна, каб пра такога чалавека ведалі людзі, шанавалі яго, памяталі пра яго. І гэта задача мясцовых краязнаўцаў, гісторыкаў, журналістаў. Яны павінны па драбнічках усё збіраць пра іх, занатоўваць, пісаць і выдаваць кнігі, старонкі ў інтэрнэце. Краязнавец са Свіслачы Мікалай Пакутнік гэтым на сваёй маленькай радзіме займаецца. І першыя вынікі ягонай працы — даведнік «Імёны і гістарычныя помнікі свіслацкай зямлі». І праца на гэтым не спынілася. Бо пра Свіслаччыну можна пісаць бясконца.

*2011*

## Часопіс «Беларускі летапіс»



*Вокладка часопіса*

У траўні 2013 года споўнілася 80 гадоў з дня выхаду першага нумара штомесячнага культурна-грамадскага і літаратурнага часопіса дэмакратычнага накірунку ў Заходняй Беларусі «Беларускі летапіс». Выйшла ўсяго 19 нумароў (асобныя нумары былі здвоеныя). У сваім хатнім архіве маю не ўсе нумары, а толькі 15. Напярэдадні 80-годдзя выдання вырашыў пагартаць часопіс, паглядзець, пачытаць. Бо, шчыра скажу, там ёсць што пачытаць, даведацца шмат цікавага і новага з тых падзей, якія 70–80 гадоў назад адбываліся ў Заходняй Беларусі.

«Беларускі летапіс» пачаў выдавацца з траўня 1933 года як орган Таварыства беларускай школы (ТБШ). Выдаваўся да верасня 1939 года. Праўда, у 1934–1935 гадах часопіс не выходзіў у сувязі з рэпрэсіямі польскіх улад. Спачатку ён называўся «Летапіс Таварыства беларускай школы», а са снежня 1936 года выходзіў пад назвай «Беларускі летапіс».

Рэдактарам-выдаўцом часопіса быў Фелікс Стацкевіч (1879–1967). Цікавая асоба, мала даследаваная, амаль за-

бытая. Ён нарадзіўся ў Шчучыне, скончыў Пецярбургскі ўніверсітэт. Быў знаёмы з многімі беларускімі дзеячамі, у тым ліку з Цёткай, Алесем Бурбісам, Максімам Танкам і іншымі. Уваходзіў у Беларускую сацыялістычную грамаду, быў дырэктарам Радашковіцкай беларускай гімназіі. У 1949 годзе Фелікса Стацкевіча рэпрэсіравалі.

Пасля вяртання на радзіму жыў у Вільні, склаў «Эсперанта-беларускі слоўнік», перакладаў з мовы эсперанта і на мову эсперанта, напісаў успаміны. Многае ім напісанае (рукапісы захоўваюцца ў архівах) даўно просіцца пад адну вокладку, але хто гэта сёння ўсё збярэ, падрыхтуе і выдасць?

Менавіта Фелікс Стацкевіч у 1930-я гады ў Вільні выдаваў і рэдагаваў «Беларускі летапіс». Часопіс друкаваўся ў друкарнях Я. Баеўскага на Татарскай вуліцы, 13, М. Багаткевіча і Б. Тручко на вуліцы Міцкевіча, 22, а таксама ў друкарні Я. Левіна на Нямецкай вуліцы, 22. У склад рэдакцыі, акрамя рэдактара, уваходзілі таксама Сяргей Паўловіч, Максім Танк, Рыгор Шырма і Вітаўт Тумаш.

Як адзначае Арсень Ліс у «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (Мінск, 1993. Т. 1. С. 436), «вакол «Беларускага летапісу» гуртаваліся прагрэсіўныя мастацкія, педагагічныя і грамадскія творчыя сілы». Гэта так. У кожным нумары часопіса друкаваўся Максім Танк. А № 2–3 «Беларускага летапісу» за 1937 год амаль цалкам быў прысвечаны таленавітаму паэту. У нумары быў змешчаны фотаздымак Максіма Танка на вокладцы часопіса. А на старонцы 51 Максім Танк сфатаграфаваны з Наталляй Арсенневай пасля дыскусіі ў літаратурна-мастацкай секцыі Беларускага навуковага таварыства. Часопіс публікуе вялікі артыкул «Наталля Арсеннева ў Вільні». А Максім Танк прысвяціў ёй верш «Нашы дарогі». Апошняя страфа верша гучыць так:

Дзіўна песні твае расцвітаюць далёка сузор’ямі,
Над другімі палямі яны сіратліва мігцяць,
І таму яны, пэўна, над роднымі сёння разорамі
Асыпаюцца золатам восені, асыпаюцца шумам трысця.



Справа ў тым, што 14–29 студзеня 1937 года Наталля Арсеннева гасціла ў Вільні. З нагоду яе прыезду беларуская студэнцкая моладзь — Беларускі студэнцкі саюз і Таварыства прыяцеляў беларусаведы пры ўніверсітэце Стэфана Баторыя наладзілі ёй 17 студзеня вялікі творчы вечар. Як пісаў «Беларускі летапіс», «моладзь вельмі цёпла, воплескамі поўная зала спаткала аўтарку і яе мастацкія творы».

«Беларускі летапіс» у кожным нумары друкаваў вершы паэтаў Заходняй Беларусі. Акрамя Максіма Танка часта на яго старонках выступалі Міхась Машара, Анатоль Іверс, Ніна Тарас, Міхась Васілёк, Якуб Колас, Сяргей Хмара, Алесь Дубровіч, Міхась Явар, Ганна Новік і іншыя. Многія з гэтых аўтараў пісалі рэцэнзіі пра кнігі паэтаў Заходняй Беларусі. Вядома ж, не мінаў часопіс і літаратараў з Усходняй Беларусі. Пра ўсе цікавыя падзеі адтуль часопіс паведамляў у «Нашай хроніцы». У гэтай рубрыцы, якая цікава чытаецца і сёння, часопіс пісаў і пра ўсе беларускія падзеі Вільні і далёка за яе межамі.

У № 2 за 1938 год «Беларускі летапіс» паведамляў пра тое, што з Друі высяляюць айцоў марыянаў — Я. Дашуту, К. Смульку, В. Хамёнка і Ю. Кашыру. А пасля высялення айцоў марыянаў, 8 ліпеня 1938 года з Друі выселілі яшчэ пяцёх марыянскіх клерыкаў: А. Падзяву, Ч. Сіповіча, К. Сарулю, Б. Сарулю і К. Анісковіча.

У гэтым самым нумары змешчана інфармацыя з Балгарыі. У ёй паведамляецца, што ў Сафіі — сталіцы Балгарыі — даўно існуе група беларускай эміграцыі (больш за 10 чалавек). Гэта старыя паваенныя беларускія эмігранты, якія паходзілі з Магілёўшчыны і Віцебшчыны. Яны тады, як паведамляў часопіс, знаходзіліся ў цеснай лучнасці з мясцовай арганізацыяй украінскіх студэнтаў.

Часопіс «Беларускі летапіс» (1937. № 10–11) пісаў аб тым, што 9 верасня адбыўся акружны суд над паэтам Максімам Танкам і выдаўцом В. Труцько за зборнік паэзіі «На этапах» Гэты зборнік польская ўлада канфіскавала 25 ліпеня

1936 года за некаторыя вершы, у якіх адчуваецца «адарванне ад Польшчы».

У № 1–3 «Летапісу таварыства беларускай школы» за 1936 год паведамлялася аб тым, што 21 кастрычніка 1935 года была забаронена віленскім гарадскім старастам лекцыя «Аб змаганні за беларускую школу», якую планаваў прачытаць старшыня гуртка ТБШ В. Склубоўскі.

На старонках «Беларускага летапісу» друкавалася шмат інфармацый аб забароне беларускіх кніг, газет, часопісаў, літаратурных вечароў, сустрэч, пісалася пра суды, дзе судзілі беларусаў за беларушчыну.

«Беларускі летапіс» змяшчаў на сваіх старонках шмат розных дэкларацый ТБШ, зваротаў, заклікаў у справе дамагання роднай школы. Друкаваў тады часопіс і артыкулы-палемікі з польскім і беларускім клерыкальным друкам, інфармаваў чытачоў пра дзейнасць Беларускага студэнцкага саюза.

Вельмі часта на старонкі «Беларускага летапісу» траплялі матэрыялы, якія расказвалі пра музычную дзейнасць на карысць беларускай песні кампазітараў К. Галкоўскага, Р. Шырмы, А. Грачанінава, А. Кошыца, М. Гайваронскага, спевака Міхася Забэйды-Суміцкага.

Друкаваў часопіс на сваіх старонках і творы Івана Франко, Оўна Мацютэ, Ёзаса Кекштаса ў перакладзе Максіма Танка, вялікую серыю нарысаў Уладзіміра Пігулеўскага па гісторыі цывілізацыі і культуры, успаміны « З мінуўшчыны беларускага руху» пад псеўданімам Аганёк самога рэдактара часопіса Фелікса Стацкевіча і многія-многія іншыя.

Часопіс «Беларускі летапіс» у той час актыўна асвятляў культурна-грамадскі і літаратурны рух у Заходняй Беларусі. Шчыра кажучы, нам сёння так не хапае падобных выданняў, якія адкрывалі б Беларусь у глыбінцы.

*2013*

# Гутаркі



# Захаваная размова з Марыляй Пецюкевіч



*Марыля Пецюкевіч з дачкой Анджалікай у пустыні Гобі, 2008 г.*

6 лістапада 2013 года ў Рыме памерла Марыля Пецюкевіч — дачка вядомага беларускага дзеяча Мар'яна Пецюкевіча (1904–1983). Усё жыццё спадарыня Марыля прысвяціла захаванню і папулярызацыі спадчыны свайго бацькі. За ўласныя грошы яна выдала некалькі яго этнаграфічных кніг, кніг успамінаў і лістоў. Сабрала і захавала багаты матэрыял аб жыцці і дзейнасці Мар'яна Пецюкевіча і яго братоў.

Нарадзілася Марыля Пецюкевіч у 1943 годзе ў Вільні. Маленькай зведала ГУЛАГ. Разам з бацькам была рэпрэсіравана ў 1949 годзе. А пасля вызвалення сям'я пераехала ў Польшчу. Пазней — Марыля Пецюкевіч выехала ў Рым, дзе пражыла 45 гадоў, працавала на Ватыканскім радыё да выхаду на пенсію.

Я шмат гадоў сябраваў з Марыляй Пецюкевіч, перапісваўся з ёю, пісаў пра яе бацьку, пра яе дзядзькаў. Яна была вельмі задаволена, што на Беларусі ведаюць і памятаюць пра Пецюкевічаў. Асобныя артыкулы пра братоў Пецюкевічаў я ўключыў у свае кнігі «З беластоцкай зямлі» (Беласток, 2008) і «Беларуская Беласточчына» (Мінск, 2008).

У 2008 годзе з Марыляй Пецюкевіч я зрабіў інтэрв'ю, якое вырашыў уключыць у сваю кнігу.



*— Спадарыня Марыля, як так склаўся лёс, што вы ў 1960-х гадах з Польшчы трапілі ў Італію, дзе шчасліва пражываеце і сёння?*

— У апошнія гады майго жыцця ў Польшчы я выкладала рускую мову і літаратуру ў старэйшых класах аднаго з варшаўскіх ліцэяў. У сакавіку 1968 года пачаліся вядомыя ва ўсім свеце масавыя дэманстрацыі пратэсту супраць дыктатуры, фактычна, адзінай партыі ПАРП і палітыкі ўрада, які паставіў Польшчу ў становішча васала СССР. У хваляваннях у асноўным прынялі ўдзел студэнты варшаўскіх ВНУ і інтэлігенцыя. Я вельмі свядома далучылася да супраціўлення, будучы глыбока ўпэўненай у яго неабходнасці. Польшча тады была культурна зняволеная, жыла нібы ва ўдушлівай і смярдзючай турэмнай камеры, нарастаў гнеў і незадаволенасць у розных слаях грамадства. Апошнім штуршком для хваляванняў стала зняцце са сцэны паэмы Адама Міцкевіча «Дзяды» па загадзе… савецкага пасла ў Варшаве, які на польскай зямлі адчуваў сябе гаспадаром. Супраць тых, хто пратэставаў, былі пасланыя атрады АМАПа. Я, дарэчы, такіх чалавекападобных малпаў яшчэ ніколі ў жыцці не бачыла. АМАП увайшоў нават на тэрыторыю Варшаўскага ўніверсітэта, пасягнуў на яго імунітэт. Я сама чула, як адзін амапавец збіў варшавяка і казаў: «Вось вам (далей рускі мацюк), інтэлігенцыя, мы зараз вам пакажам…» Але АМАП не набраўся смеласці ўварвацца ў храмы, дзе мы хаваліся ад гумовых дубінак і слёзатачывага газу.

Хачу сказаць і вярнуцца яшчэ да культурнага ўдушша ў тагачаснай Польшчы. На факультэце рускай філалогіі, на якім я вучылася, былі практычна забаронены такія класікі рускай літаратуры, як Ахматава, Гумілёў, Пастарнак, Мандэльштам, Цвятаева і многія іншыя празаікі і паэты рускай літаратуры, пра якіх нашы няшчасныя выкладчыкі былі вымушаны амаль не згадваць.

*— Ці страшна было вам, маладой дзяўчыне, ісці тады супраць амапаўцаў?*

— У час адной з дэманстрацый мяне збілі і забралі пасведчанне асобы. На другі дзень у школе мае вучні спыталі, што адбываецца ў краіне. Я расказала ім праўду, бо лічу, што сваім падапечным настаўнік маніць не мае права. У класе была група дзяцей наменклатуры. Адным словам, на мяне данеслі, а сам дырэктар ліцэя пагразіў аддаць мяне ў рукі «бяспекі». Праз некалькі дзён прыйшла павестка з'явіцца ў злавесны Палац Мастоўскіх. Мяне дапытвалі больш за чатыры гадзіны, але мне ўдалося неяк выкруціцца і пераканаць следчых у маёй прававернасці. Яны мяне выпусцілі, але сказалі, што ў Варшаве і ў іншых гарадах Польшчы мяне ўжо не прымуць на працу, хіба што толькі ў вёску. З гэтым «воўчым білетам» мне было дазволена адпрацаваць да канца навучальнага года. Таму нічога больш не заставалася рабіць, як паехаць за мяжу. Мае знаёмыя запрасілі мяне ў Італію, а маці адной з маіх вучаніц, якая працавала ў МУС, параіла, каб мне выдалі пашпарт, тым больш, што ў гэтым міністэрстве ў постсакавіцкі перыяд панавала поўная блытаніна. Атрымаўшы пашпарт, 20 ліпеня 1968 года я перасякла італьянскую мяжу, апынуўшыся на волі, пасля 25 гадоў сібірскай ссылкі і жыцця ў Польшчы, прыгнечанай саветамі.

*— І як вас сустрэла Італія?*

— Першыя месяцы ў Рыме былі вельмі цяжкімі, магчыма з-за таго, што я не хацела злоўжываць дадзенай мне гасціннасцю і знайшла сабе працу ў настаўніцы-пенсіянеркі, а таксама давала прыватныя ўрокі рускай мовы. Грошай не было не толькі на харчаванне, але нават і на білеты на гарадскі транспарт. Такім чынам я абыходзіла старажытны Рым пяшком, а апухлыя ад хадзьбы ногі мачыла ў халоднай вадзе фантана.

Праз некалькі месяцаў, зусім выпадкова, знаёмыя прапанавалі мне працу ў рускай секцыі Ватыканскага радыё ў якасці перакладчыка, дыктара і памочніка ў апрацоўцы і рэдагаванні матэрыялаў для радыёперадач. Адначасова я паступіла на факультэт сучасных замежных моў і літаратур і пачала збіраць матэрыялы для дыпломнай працы па Восіпу Мандэльштаму, геніяльнаму паэту, які загінуў у 1938 годзе ў чаканні этапа на Калыму. Мне прыйшлося здаць толькі некалькі дадатковых экзаменаў. Сваю дыпломную працу, пад кіраўніцтвам выдатнага славіста прафесара Анджэла Марыі Рыпелліна, я прысвяціла свайму бацьку, таксама быламу вязню сталінскіх лагераў, і абаранілася ў 1973 годзе, атрымаўшы самую высокую адзнаку.



*— А ці была для вас карыснай праца ў рускай рэдакцыі Радыё Ватыкана?*

— Шчыра скажу, праца на радыё ў значнай ступені пашырыла мае веды ў галіне багаслоўя і паглыбіла веру ў Бога. Я працавала ў асяродку інтэлектуальных і адукаваных людзей. Маю на ўвазе перш за ўсё айцоў езуітаў. Мой бацька штодзённа слухаў мяне ў Польшчы ў эфіры і быў шчаслівы. Слухалі мяне таксама іншыя сваякі. Двума гадамі пазней я перайшла ў рускую рэдакцыю RAI International, якое перадавала італьянскія навіны на 26 мовах свету. Там я адпрацавала да канца студзеня 2007 года і пасля пайшла на пенсію. За гэты час мне таксама ўдалося выпусціць у свет некалькі кніг майго бацькі Мар'яна Пецюкевіча, аб'ездзіць шмат краін свету, бо люблю падарожнічаць, выгадаваць дачку і займацца дабрачыннай дзейнасцю.

*— Якія кнігі Мар'яна Пецюкевіча вы маеце на ўвазе?*

— Апублікаваныя ўсе кнігі мемуараў майго бацькі. Гэта выданні «У пошуках зачараваных скарбаў» (Вільня 1998), «Кара за службу народу» (Беласток 2001), «Трагічныя ніткі лёсу беларускага патрыёта» (Вільня 2003), дзе змешчаны выбарка з пратаколаў допытаў у Лукішскай палітычнай турме ў Вільні ў 1952 годзе і тэкст прысуду да 25 гадоў катаргі. Кнігі «Лісты (1956–1982)» (Беласток 2005), «Сляды незабыўныя продкаў» (Мінск 2007) і «Мой дзённік» (Вільня 2007). Засталася яшчэ неапублікаванай перапіска з пляменнікамі Уладзімірам і Мар'янам — ваеннымі сіротамі, сынамі Генрыха. Мне толькі вядома, што ў этнаграфічным музеі ў Торуні зберагаецца дыпломная праца майго бацькі аб стараверах, напісаная пад кіраўніцтвам вядомага этног-

рафа Казіміра Машынскага, а таксама манаграфія аб роднай вёсцы бацькі Цяцеркі Браслаўскага раёна, якую ён не паспеў апрацаваць. Некаторыя вучоныя з Беларусі і Польшчы лічаць, што многа матэрыялаў са спадчыны Мар'яна Пецюкевіча яшчэ не апублікавана.

*— Спадарыня Марыля, а ці расказваў вам бацька пра сваіх родных братоў? І, наогул, што вы ведаеце пра іх лёс?*

**—** Так, тата часам успамінаў пра іх, але з вялікай любоўю і павагай, а ў яго голасе чуліся слёзы. Ён сваіх братоў заўсёды аплакваў. З тымі, хто застаўся пасля вайны ў жывых, а гэта — з братам Баляславам, які быў ранены на вайне, з сястрой Янінай і яе мужам — таксама беларускім патрыётам Ігнатам Данусевічам, падтрымлівалі цесныя эпісталярныя кантакты, і тата наведваў іх, калі мог, хаця заўсёды былі вялікія праблемы з візай. Мой бацька знайшоў брацкую магілу ў горадзе Ліепая (Латвія), дзе пахаваны мой дзядзька Генрых, які загінуў у канцы снежня 1944 года. Шукаў таксама магілу дзядзькі Уладзіслава. Пасля смерці бацькі я знайшла ў яго дакументах сіні канверт з надпісам: «Зямля з магілы Уладзіслава». Яшчэ пры жыцці бацька мне казаў, што дзядзька Уладзіслаў быў забіты нямецкай куляй у Баранавічах. На месцы могілак там цяпер знаходзіцца гарадскі парк. Яшчэ адзін брат таты — Алёйзы — быў застрэлены немцамі ў Аўгустоўскіх лясах, калі вырашыў бегчы з калоны палонных, якіх гналі з аднаго канцлагера ў другі. Пра гэта мне казаў тата.

*— Ведаю, што браты Пецюкевічы заўсёды былі шчырымі беларусамі...*

**—** Пацвярджаючы патрыятызм братоў Пецюкевічаў, мой стрыечны брат Мар'ян — кампазітар і выкладчык музыкі, сын Генрыха, напісаў мне наступнае, дазволіўшы спаслацца сёння на яго ліст. Брат напісаў: «Усе браты Пецюкевічы заўсёды і моцна перажывалі за Беларусь. Генрых быў кіраўніком гуртка ў роднай вёсцы Цяцеркі ад Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры ў Вільні. У дзяцінстве я знайшоў у нашым доме дзве афіцыяльныя пячаткі гуртка з надпісам на беларускай мове. На адной было напісана “Бібліятэка імя Францішка Скарыны”, а на другой — “Гурток у Цяцерках”». Далей Мар'ян пісаў: «Трое братоў Пецюкевічаў загінулі ў жорсткай неразбярысе вайны. Найбольш асцярожным быў Баляслаў, хаця ён заўсёды заставаўся патрыётам сваёй Бацькаўшчыны. Была патрыёткай і цётка Яніна. Яна мне перадала кнігу Язэпа Найдзюка «Беларусь учора і сёння». Мой сябра яе перапісаў ад рукі і выдаў у 1990-х гадах. Боль за Беларусь была і застаецца ў нармальных беларусаў».

*— Ці не Баляслаў Пецюкевіч быў пасля вайны нават старшынёй калгаса?*

**—** Так, пасля вайны дзядзька Баляслаў аднавяскоўцамі быў выбраны ў роднай вёсцы старшынёй калгаса. Людзі ведалі яго як шчырага і прыстойнага чалавека, добрага гаспадара і працаўніка. Але дзядзька Баляслаў не захацеў уступаць у кампартыю, таму яго хутка знялі з пасады старшыні калгаса, і ён з сям'ёй пераехаў жыць у Латвію. Яшчэ хачу дабавіць, што браты Пецюкевічы размаўлялі дома толькі па-беларуску, умелі добра пісаць лацінкай і кірыліцай, ігралі на розных музычных інструментах. Дзядзька Алёйзы выдатна іграў на старой і дарагой скрыпцы, а цётка Яніна мела цудоўны голас і спявала ў касцельным хоры. Мне, выйшаўшы з такой сям'і па лініі таты Мар'яна Пецюкевіча, застаецца толькі дзякаваць Богу і свята берагчы ў сэрцы памяць пра маіх продкаў.

*2008*



# Сакрат Яновіч: «Крынкі — мой свет»



*Сакрат Яновіч*

Беларускі пісьменнік Польшчы Сакрат Яновіч (1936–1913) быў не частым госцем метрапольных выданняў і розных фэстаў. Але на 50-годдзі літаратурнага аб'яднання «Белавежа» я пабачыўся з ім у Беластоку. Гэта быў 2008 год. Мы гутарылі пра ўсё: палітыку, літаратуру, жыццё і г. д. З дазволу спадара Яновіча ўключыў тады дыктафон і сёе-тое занатаваў. Прапаную некаторыя фрагменты з той гутаркі.

*— Спадар Яновіч, скажыце, калі ласка, чаму вашыя бацькі далі вам такое рэдкае імя — Сакрат? Можа, гэта ў гонар старажытнагрэчаскага філосафа Сакрата? Ці ведалі вашы бацькі пра грэчаскую філасофію?*

— Гэта мяне маці так назвала. Яна была ў бежанстве ў Расіі за Самараю. Там пэўны час хадзіла ў расійскую школу. І аднойчы яе настаўніца пасадзіла са сваім сынам за адну парту. А таго сына звалі Сакрат. Мама дрэнна вымаўляла словы па-расійску, дык ёй заўсёды дапамагаў сын настаўніцы. І калі мае бацькі вярнуліся з тае няшчаснае Расіі на радзіму, і калі мама выйшла замуж і нарадзіўся я, то яна заўпарцілася і ахрысціла мяне Сакратам. Хаця яна зусім не разумела і не ведала пра Сакрата нічога. Але ў яе памяці заўсёды быў той расійскі хлопчык Сакрат.

*— А бацька не быў супраць, каб яго сын насіў такое імя?*

— А бацька ўвогуле не ведаў, у чым справа. Ды яго гэта мала цікавіла. Як назвала жонка — так і добра.

*— А ў школе з вас не смяяліся?*

— Спачатку смяяліся, бо не разумелі майго імя. Называлі мяне — крот. Але аднойчы святар Антон Савіч у сваёй прапаведзі згадаў, што быў такі грэчаскі філосаф, які пацвердзіў, што чалавек мае душу, што мудрасць — аснова высокамаральных учынкаў. Тады ўсе ад мяне адсталі.



*— А цяпер вы, мабыць, з гонарам носіце імя Сакрата? Дый гучыць — Сакрат Яновіч! А не Юрка Яновіч ці Міхась Яновіч...*

— Пэўна так! Бо гэта імя не штодзённае. Дый Юркаў і Міхасёў цэлыя копы, а Сакрат у Беларусі адзін.

*— Вы казалі, што маеце ўжо ўнучку і ўнука. А на якой мове вы з імі размаўляеце? І ці ведаюць яны родную мову?*

— Я маю двух сыноў, двух унукаў і дзве ўнучкі. Сыны выключна добра размаўляюць па-беларуску. Унучка, якая жыве са мною, паступае так: калі ёй трэба грошы і хоча да мяне падлашчыцца, гутарыць са мной па-беларуску, размаўляе на роднай мове, а калі спрачаецца са мной, то па-польску.

*— Спадар Сакрат, вы напісалі і выдалі шмат добрых кніг. Які ўплыў на вашую творчасць аказала літаб'яднанне «Белавежа»? І наогул, што дала вам «Белавежа»?*

— «Белавежа» дала мне шмат, дзякуючы Георгію Валкавыцкаму, першаму кіраўніку. Ён на пачатку існавання аб'яднання быў адзіным чалавекам, які добра арыентаваўся ў літаратуры. А я меў тэхнічную адукацыю, я — электратэхнік. Але дзякуючы Валкавыцкаму і майму швагру, які некалі прывёз кніжку Бабеля на польскай мове, я стаў пісьменнікам. Я прачытаў кнігу Бабеля з цікавасцю. Валкавыцкі даў паняцце, што такое літаратура, а Бабель паказаў мне, што можна пісаць не пад Пушкіна, не пад Міцкевіча, а пад маё мястэчка Крынкі.

Крынкі — гэта мой свет. Крынкі для мяне — адкрыццё. Крынкі — адкрыццё вялікай гісторыі. Гэта могілкі: каталіцкія, праваслаўныя, жыдоўскія, нямецкія. Цяпер мне зразумела, чаму мой дзед умеў размаўляць на пяці мовах, хоць сам не ведаў нават літар. Але ён чуў гэтыя мовы, таму і навучыўся на іх гаварыць.

*— З Крынак быў родам Янка Генюш — муж Ларысы Генюш. Ды і род Ларысы Міклашэвіч (Генюш) паходзіць таксама з Крынак. Вы кантактаваліся з Ларысай Генюш?*

— Я двойчы з ёю сустракаўся. Першы раз, дзякуючы Аляксею Карпюку з Гродна, мы наведалі ў Зэльве Ларысу і

Янку Геніюшаў. А пасля яна была тут у Беластоку ў сына, дзе мы таксама мелі сустрэчу.

— *Аб чым вы гутарылі?*

— Гэта была такая гутарка трагічная. Бо яе жыццё было трагічным… У Беласток яна прывезла мне стэнаграму выступлення Аляксея Карпюка на V з'ездзе Саюза пісьменнікаў БССР у Мінску 13 мая 1966 года. Паэтка была ўзрушана гэтым выступленнем. І я напісаў ліст Аляксею, выказаў сваю згоду з яго меркаваннямі і падтрымку. Але ж Аляксей Карпюк быў наіўным чалавекам і пачаў гэтым пісьмом хваліцца, што, маўляў, малады аўтар з Беласточчыны падтрымлівае яго. І тады зацікавілася мною савецкае КДБ. І я з-за гэтага страціў працу, быў беспрацоўным. Але мне шмат дапамагалі палякі.

— *Калі мы згадалі сына Ларысы Геніюш — Юрку, дык скажыце, калі ласка, пра вашыя агульныя творчыя ўзаемаадносіны. Вы некалі разам выдавалі кнігі п'ес. Так?*

— Было такое. Бо Юрка Геніюш у Беластоку жыў са мною побач. А я ў Беластоку пражыў 50 гадоў. Пазнаёміліся мы праз тыднёвік «Ніва», я працаваў журналістам, а ён туды часта заходзіў.

— *А з Валянцінай Геніюш — жонкай Юркі Геніюша і іх сынамі вы сёння кантактуеце?*

— Не, на жаль. Яны цяпер жывуць у іншым свеце з іншымі інтарэсамі і справамі. Дый я ўжо ў Беластоку не жыву, а ў Крынках.

— *Спадар Сакрат, і чым вы зараз займаецеся ў сваіх Крынках?*

— Я найперш ратуюся ад смерці, бо моцна хварэю. А яшчэ пішу. Пішу вельмі марудна. Але пішу прозу і вяду свае дзённікі. Бо заўважыў, што дзённікаў ніхто не піша. Нашае сялянскае асяроддзе не любіць пісаць дзённікаў.

— *І што вам дае напісанне дзённікаў?*

— Я запісваю факты, якія адбываліся і адбываюцца цяпер, яны хутка знікнуць, і пра іх ніхто не будзе нічога ведаць. А для нашчадкаў жыццёвыя факты трэба захаваць.



— *Янка Брыль пакінуў багатыя і цікавыя дзённікі — з запаветам, каб апублікавалі іх праз 5 гадоў…*

— Я не чуў пра гэта… Але калі тое праўда, то яна вельмі добра сведчыць пра Янку Брыля, бо дзённікаў у нас пераважна не пішуць, таму што беларуская літаратура — гэта літаратура мужыкоў, а мужыкі гэтым не займаюцца. Дзённікі пішуць людзі горада…

Акрамя пісьменства штогод арганізоўваю «Беларускі дыялог». Бо я заўважыў, што цяпер лёгка выдаваць штогоднік для Еўропы. У Еўропе ёсць людзі, якія цікавяцца беларускай літаратурай. І я дзясяты год выдаю «Год беларускі» на мовах Еўропы. Гэта значыць, штогадовы том, які выходзіць па прынцыпе: беларуская літаратура на мовах Еўропы, а еўрапейская літаратура — на беларускай. Справа ў тым, што нашу літаратуру трэба еўрапеізаваць. Яна ўвесь час з'яўлялася філіяй расійскай, а гэта так не павінна быць. Ды і расійская літаратура ўзнікла пад уплывам еўрапейскай. Скажам, каб зразумець Пушкіна, трэба ведаць французскую літаратуру. Калі яе не ведаеш, то Пушкіна дасканала не зразумееш. Бо Пушкін рос у асяроддзі французскай культуры. Яго маці ненавідзела расійскую мову. Яна Сашу Пушкіна, калі ён размаўляў па-расійску, нават біла! І напачатку ён пісаў выключна па-французску. Але хто аб гэтым сёння і пры бальшавіках казаў? Ніхто… У Савецкім Саюзе пераважаў расійскі шавінізм…

— *Які працягваецца да сённяшніх дзён…*

— Так. Дык я сабе падумаў, што для Еўропы, пры сённяшніх тэхналогіях, штогоднік можна выдаваць нават у гумне.

— *Правінцыі сёння не існуе?*

— Што Крынкі, што Варшава — усюды можна выдаваць добрыя і неабходныя кнігі. А тым больш пра Беларусь для Еўропы. Сёння ў Беларусі неабходна выдаваць літаратурны часопіс для Еўропы, каб нас чыталі, каб пра нас ведалі, каб прапагандаваць нашу літаратуру, каб беларуская літаратура знаходзіла сваё месца ў Еўропе.

*— Тым больш нам ёсць што даць пачытаць еўрапейскаму чытачу. А вы, спадар Сакрат, што чытаеце, перачытваеце з беларускай літаратуры?*

— Я чытаю і перачытваю Максіма Багдановіча. Яшчэ люблю чытаць геніяльнага паэта Уладзіміра Жылку, а таксама зачытваюся мініяцюрамі Янкі Брыля. Вельмі люблю чытаць прозу Змітрака Бядулі.

З сённяшняй літаратуры мне даспадобы творчасць Уладзіміра Някляева, Дануты Бічэль, Лявона Баршчэўскага… А з прозы кагосьці назваць пасля Васіля Быкава я нават і не асмелюся. Пасля Васіля Быкава ў нас доўга-доўга не будзе роўнага яму. Бо гэта зусім іншае майстэрства. Ён меў літаратурны інстынкт, вялікі талент.

*— Якія планы ў 72-гадовага Сакрата?*

— Рыхтую дзясяты том «Году беларускага». І спадзяюся яшчэ некалькі падрыхтаваць і выдаць, бо, дзякаваць Богу, палякі мне дапамагаюць. З палякамі лёгка гутарыць, дамовіцца пра канкрэтную справу, а вось з беларусамі — цяжка. Палякі цяпер выдаюць цэлую бібліятэку беларускай літаратуры, а з боку ўладна-савецкай Беларусі ідзе толькі хамства… На вялікі жаль…

*2008*

## Аляксей Пяткевіч: «Мяне хвалюе масіраваная русіфікацыя Рэспублікі Беларусь»

Выдатны і таленавіты чалавек жыве ў Гродне і працуе на кафедры беларускай культуры Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Гэта прафесар Аляксей Пяткевіч — сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, навуковец, актывіст грамадскага жыцця.

Нарадзіўся ён у 1931 годзе ў вёсцы Новы Свержань на Стаўбцоўшчыне. Скончыў аддзяленне беларускай і рускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта БДУ (1954) і аспірантуру (1957). Кандыдат філалагічных навук. Тэма дысертацыі «Псіхалагічны аналіз і праблема характару ў прозе Кузьмы Чорнага».



*Аляксей Пяткевіч, 1971 г.*

Жыве ў Гродне з 1957 года. Быў адным з ініцыятараў і актыўным змагаром за наданне Гродзенскаму ўніверсітэту імя выдатнага класіка беларускай літаратуры Янкі Купалы, стварэння кафедры беларускай культуры. Выступае як крытык і літаратуразнавец з 1958 года. Выдаў шэраг кніг па гісторыі беларускай літаратуры і культуры.

*— Аляксей Міхайлавіч, як вы прыйшлі ў літаратуру, хто вас сюды «прывёў», дапамог?*

— У літаратуру мяне «прывёў» бацька, як гэта ні дзіўна. Любоў да чытання, захапленне чароўнасцю мастацкага слова пачаліся ад яго. Бацька, Міхаіл Антонавіч, не меў вялікай адукацыі, ён вымушаны быў пакінуць гімназію, каб ісці працаваць. Але шмат чытаў. І вельмі любіў спяваць. Часцей спяваў у хаце, для сябе, спяваў беларускія, украінскія, рускія песні, песні-рамансы. Быў ён і артыстычным апавядальнікам, валодаў інтанацыяй, жэстам, мімікай. Нават выступаў на аматарскай сцэне, калі быў маладзейшым. Бацька меў абвостранае пачуццё справядлівасці, маральнасці. Таму, мабыць, мяне рана павярнула да літаратуры, дзе маральныя ісціны жыцця разглядаюцца ў самых розных ракурсах. Ну і, вядома, адыгралі сваю ролю школьныя настаўнікі літаратуры, на якіх мне проста пашанцавала. Гэта К. Ф. Самахвал і М. А. Бутанаў у маёй мястэчковай сямігодцы, К. А. Жадоба і Н. М. Канстанціноўская — у стаўбцоўскай сярэдняй школе № 1. Затым быў філфак Белдзяржуніверсітэта з яго таленавітымі літаратуразнаўцамі, а гэта — М. В. Саўсун, І. В. Гутараў, Ю. С. Пшыркоў, М. Р. Ларчанка, аспірантура і выкладанне беларускай літаратуры ў Гродзенскім тады інстытуце (цяпер універсітэт). З 1990 года я працую на

кафедры беларускай культуры, але літаратура для мяне і зараз, нібы маці для сына.

*— Ваша родная вёска Новы Свержань на Стаўбцоўшчыне даволі вядомая не толькі ў межах раёна, але і ў Беларусі. Ці бываеце там цяпер? Ці цягне дамоў да землякоў? Ці вы ўжо сталі гарадскім філолагам, якога вёска не цікавіць?*

— Свой родны куток Новы Свержань я называю не вёскай, а мястэчкам. Тым больш, што гэты статус быў нададзены яму афіцыйна ў 1568 годзе. Сёння ж гэта буйное паселішча — 15 вуліц, больш за дзве тысячы жыхароў. Для мяне гэта найдаражэйшая ў свеце мясціна, яна мяне выгадавала. Адсюль ад'ехаў на вучобу ў Мінск. У маладосці наведваўся ў Новы Свержань часта, то адзін, то з сям'ёй. Асабліва калі жывыя былі бацькі. Цяпер — рэдка: адзін-два разы ў год. Адзін раз — абавязкова, бо збіраемся, папярэдне дамовіўшыся, як правіла ў жніўні, у бацькоўскай хаце ўсе блізкія і далёкія родзічы з малымі дзецьмі. Вытрымліваючы рытуал, садзімся за стол. Затым ідзём на Нёман, які тут зусім блізка, пасля — на могілкі. Трымаю сувязі з землякамі, тэлефаную ім. Яны таксама. Стараюся сачыць за жыццём роднага мястэчка. Супрацоўнічаю на гэтую тэму з рэдакцыяй стаўбцоўскай раённай газеты «Прамень» — пішу пра гісторыю Свержня, пра яго сённяшнія складаныя праблемы. Чым далей коцяцца гады, тым мацней кліча да сябе мая дарагая мясціна, тым мацней шчыміць туга па ёй. Але ёсць у гэтай тузе і высокая светлая нота далучанасці да роду, да зямлі маленства. Таму вельмі часта цяпер вяртаюся «дадому», бачу сваю хату з двума вокнамі на фасадзе, высокай вішняй у палісадніку, рэчачку перад хатай і таўшчэзны магутны топаль на супрацьлеглым беразе. Чую скрып веснічак, што вядуць у двор, і галасы дзяцей — унукаў мае пляменніцы, што жыве з сям'ёй у гэтай хаце. Мне здаецца часта, што адрозніваю тут і свой колішні голас.

*— З кім вы ў жыцці добра, доўга і шчыра сябравалі і сябруеце?*



— Многія, з кім сябраваў, адышлі ўжо ў лепшы свет. Нядаўна не стала Міколы Мельнікава, калегі па універсітэце, стваральніка музея Васіля Быкава ў Гродне. Сваё рэпрэсаванае дзяцінства ўвасобіў у трох кніжках мемуараў. Мы ішлі праз жыццё побач больш за паўвека, разам сябравалі сем'ямі, мелі аднолькавыя погляды. І дзіўна, што ў 1990-я гады разышліся: не змаглі сумясціцца яго празмерная тагачасная радыкальнасць і мая этычнасць педагога вышэйшай школы. Але ў апошнія часы ягонага лёсу мы ўсё ж вярнуліся адзін да аднаго і сардэчна абняліся. Ганаруся сяброўствам, таксама вельмі даўнім, з Алесем Белакозам, чалавекам беларускай ідэі, настаўнікам, краязнаўцам. Яго ведаюць як стваральніка ўнікальнага дзяржаўнага музея ў вёсцы Гудзевічы на Мастоўшчыне. Ён выпакутаваў гэты музей цаной усяго жыцця і здароўя. Выстаяў, праявіўшы сапраўдную сілу духу. Стараўся яму дапамагаць з самага пачатку яго барацьбы з ідэалагічнымі «апекунамі», але больш падтрымліваў маральна. Усё ж жылі на адлегласці. Праўда, сустрэчы ў маладыя гады былі частымі. Цяпер жа — тэлефанаванне, паштоўкі. І прыемна знаць, што ён знаходзіцца блізка і такі ж мужны. Праўда, зведаў нядаўна вялікую бяду — страціў малодшага сына.

Сёння ў Гродне найбліжэйшы мне чалавек — Ігар Жук, доктар філалогіі, таленавіты беларускі літаратуразнавец, інтэлектуал. Мы з ім добра і лёгка разумеемся. І душы нашы, здаецца, на нейкай адной хвалі сённяшняй цяжкай беларускай рэальнасці. Ёсць нямала іншых прыгожых постацяў, што знаходзяцца далёка. Але гэты фактар не перашкаджае, мне здаецца, чуць іх прысутнасць у маім жыцці. Гэта Адам Мальдзіс і Ар-



*Зоська Верас, Аляксей Пяткевіч і Генадзь Каханоўскі ў Вільні, 1982 г.*

сень Ліс у Мінску, Мікола Нікалаеў у Пецярбургу, Аляксей Каўка ў Маскве, Вячка Целеш у Рызе, Сакрат Яновіч у Крынках на Беласточчыне… Нас лучыць шмат пройдзенага і перажытага.

*— Што вас сёння хвалюе?*

— Мяне, як і кожнага сумленнага і па-грамадзянску адказнага беларуса, хвалюе рэзкае выцясненне з афіцыйнага ўжытку беларускай мовы, масіраваная русіфікацыя Рэспублікі Беларусь і, адпаведна, звужэнне жыццядзейнасці нацыянальнай культуры. Пра гэта можна доўга гаварыць, але ўсё гэта навідавоку. Страты беларускасці хвалююць мяне тым больш, што праз усё сваё жыццё выкладчыка ўніверсітэта я стараўся выхоўваць у студэнтаў нацыянальную свядомасць, пачуццё роднага, без чаго не можа скласціся духоўна паўнацэнны чалавек.

Трэба вяртаць велізарную духоўную спадчыну краю нашым сучаснікам, адраджаць яе. У прыватнасці, мяне трывожыць праблема ўшанавання вялікіх асоб Гродзеншчыны: у назвах вуліц, у адкрыцці помнікаў і мемарыяльных дошках. Пара, напрыклад, паставіць у Гродне помнікі такім асобам, як Антоні Тызенгаўз, Яўхім Карскі, Максім Багдановіч, Васіль Быкаў. У гэтым напрамку — мноства працы.

*— Аляксей Міхайлавіч, вы сапраўды шмат зрабілі для беларускай культуры, адукацыі, літаратуры, а чаго яшчэ не паспелі зрабіць?*

— О, вельмі многае не зрабіў, што хацелася. Жыццё такое кароткае. Хацеў выдаць кніжку пра гісторыю друку і літаратуры ў Гродне. Хацеў сабраць для асобнага выдання аўтографы на кнігах (іх сотні) з мае бібліятэкі. Хацеў напісаць успаміны… Можа, яшчэ нешта паспею…

*— Вядома, паспееце, Аляксей Міхайлавіч. Скажыце, калі ласка, а якая цяпер моладзь вучыцца ў вышэйшых навучальных установах Беларусі? Ці ёсць сярод іх шчырыя беларусы?*

— Ва ўсе часы студэнцкая моладзь была прыгожай, чулай да прагрэсу, да ўсякіх навацый. Заўсёды яна была чулай і да Бацькаўшчыны, добра і натуральна адгукалася на пытанні беларускасці ў Беларусі, ідэі нацыянальнага патрыятызму. Не з’яўляецца выключэннем і сённяшняе пакаленне. Праўда, яно больш прагматычнае і аддае перавагу рацыянальным каштоўнасцям. Ды і ва ўмовах татальнай русіфікацыі рана навучылася арыентавацца на рускую мову як надзейны сродак камунікацыі. Але гэта паверхня, прычым слабая. «Шчыры беларус» застаецца жыць у студэнцкай душы Гродзенскага краю.

*— І ўсё ж будзем спадзявацца на лепшае, на беларускае. Скажыце, Аляксей Міхайлавіч, а што сёння ляжыць на рабочым стале беларускага даследчыка Аляксея Пяткевіча?*

— Рыхтую з калегамі даследаванне пад умоўнай назвай «Класіфікацыя матываў у творчасці Янкі Купалы». Працуем таксама над калектыўнай працай «Асобы гродзенскага рэгіёна як прадмет турысцкіх інтарэсаў». І асабіста я паціху займаюся тым, пра што казаў вышэй.

*2013*



## Вячаслаў Рагойша: «Такі ўжо мой лёс…»

Застаць дома Вячаслава Пятровіча Рагойшу не так проста. Ён вельмі заняты чалавек. А яшчэ ён — доктар філалагічных навук, прафесар, акадэмік Міжнароднай Акадэміі навук Еўразіі, член вучонага савета філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта, намеснік старшыні Беларускага нацыянальнага камітэта школ міжнароднай супольнасці, сябра навукова-метадычнага савета па вышэйшай гуманітарнай адукацыі Рэспублікі Беларусь, загадчык кафедры тэорыі літаратуры Белдзяржуніверсітэта.



*Прафесар Вячаслаў Рагойша*

Магчыма, я не ўсё пералічыў, дзе працуе і чым займаецца гэты апантаны беларускай філалогіяй навуковец, руплівец, энцыклапедыст і проста цудоўны чалавек, якім я заўсёды ганарыўся і ганаруся, бяру з яго прыклад, вучуся ў яго быць працаголікам. І ўсё ж мне пашанцавала спаткацца з Вячаславам Пятровічам і пагутарыць пра яго творчасць, пра наша няпростае жыццё і месца літаратуры ў ім.

*— Вячаслаў Пятровіч, вас лічаць бацькам-заснавальнікам кафедры тэорыі літаратуры Белдзяржуніверсітэта. Ды і вы мяне вучылі на філфаку метрыцы, рытміцы, фоніцы, вучылі вершаскладанню, вучылі ўмець вывучаць і даследаваць родную літаратуру. Дзякуй вам за гэта.*

— Але перш чым пачаць нашу гутарку, Сяргей, дазвольце мне прадставіцца тым чытачам, якія мяне ведаюць далёка не так, як вы.

*— Вядома ж. І з гэтага, лічу, абавязкова трэба пачаць.*

— Нарадзіўся я ў ваенным 1942 годзе ў мястэчку Ракаў сённяшняга Валожынскага раёна Мінскай вобласці. У 1963 годзе скончыў аддзяленне беларускай мовы філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў Мінску па спецыяльнасці «Філолаг. Выкладчык беларускай і рускай мовы і літаратуры», затым — аспірантуру пры кафедры беларускай літаратуры гэтага ўніверсітэта. У 1967 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю (доктарскую — паводле польскай навуковай класіфікацыі) «Паэтыка Максіма Танка: Культура вобраза. Характар верша» і з таго часу выкладаю ў Белдзяржуніверсітэце. Дысертацыю на ступень доктара філалагічных навук (габілітацыйную) — «Беларуская паэзія ХХ стагоддзя ў кантэксце ўсходнеславянскіх літаратур: тыпалогія, рэцэпцыя, мастацкі пераклад» — абараняў у 1993 годзе ў Інстытуце сусветнай літаратуры імя Максіма Горкага ў Маскве. Такім чынам, я доктар габілітаваны, прафесар. З 1994 года загадваю кафедрай тэорыі літаратуры Белдзяржуніверсітэта. Працую ў розных галінах літаратуразнаўства. Асноўная сфера навуковых зацікаўленняў — тэорыя літаратуры, гісторыя беларускай літаратуры,



культуралогія, кампаратывістыка, вершазнаўства, перакладазнаўства, тэксталогія. Выявіў шэраг невядомых архіўных матэрыялаў па беларускай літаратуры XIX–XX стагоддзяў, прымаў удзел у напісанні шматлікіх энцыклапедычных артыкулаў, у стварэнні вучэбных дапаможнікаў для вышэйшых навучальных устаноў і старэйшых класаў агульнаадукацыйных школ. Перакладаю паэзію і прозу са славянскіх моў (найперш украінскай) на беларускую. Выдаў і ўласны зборнік вершаў «Полюс цяпла» (2007). З'яўляюся аўтарам звыш 20 асобных кніг і больш як 1000 розных публікацый у перыёдыцы і калектыўных зборніках.

*— Мне цяпер, пасля таго як вы сказалі пра сваю працу і плён у ёй, неяк няёмка і задаваць вам першае пытанне, якое падрыхтаваў загадзя. А пытанне гучыць так: скажыце шчыра, Вячаслаў Пятровіч, а вам асабіста падабаецца гэтым займацца? Ці проста вам няма выйсця — бо гэтага патрабуе праца ў Белдзяржуніверсітэце?*

— Мне сапраўды «падабаецца гэтым займацца». Праца ва ўніверсітэце — асаблівая праца. Яна сумяшчае абавязкі звычайнага выкладчыка (накшталт настаўніцкай працы ў школе) і вучонага. Тое, што ты як вучоны, даследчык адшукаў, выявіў, вынайшаў, тут жа, на лекцыі, можаш паведаміць сваім вучням, студэнтам, увесці адразу, як кажуць, у навуковы і культурны абыходак. «Чыстаму» вучонаму (скажам, супрацоўніку літаратурнага навукова-даследчага інстытута) гэтага трэба чакаць месяцы, а то і гады. Апрача таго, мы ж выхоўваем кадры для нацыянальнай асветы, культуры, навукі, узровень і патрыятычны запал якой залежыць і ад нас. Бадай, у кожным раёне Беларусі (ды і за яе межамі) працуюць дзясяткі маіх вучняў, якімі я вельмі ганаруся. Вось і вы адзін з такіх вучняў — разам з Уладзімірам Васілевічам, Ігарам Жуком, Уладзімірам Лайковым, Вольгай Русілкай, Іванам Штайнерам і многімі іншымі.

*— Вячаслаў Пятровіч, акрамя тэорыі літаратуры вы заўсёды займаліся і займаецеся даследаваннем узаемасувязей літаратур, асабліва беларуска-ўкраінскіх, беларуска-*

*польскіх. Чым мы, беларусы, можам сёння пахваліцца на ніве гэтых узаемасувязей? І ці задавальняюць яны вас як навукоўца альбо проста як беларуса? І ці патрэбны яны сёння?*

— Кажучы пра літаратурныя ўзаемасувязі, вы задалі рытарычныя пытанні, на якія можна рытарычна і адказваць: не, не задавальняюць; так, патрэбныя. Пры гэтым скажу: мы, беларусы, пра суседнія славянскія літаратуры — польскую, украінскую, не кажучы пра рускую, — ведаем намнога больш (хоць, зразумела, яшчэ недастаткова), чым ведаюць славяне-суседзі пра літаратуру беларускую. Пры гэтым знаёмства з літаратурамі суседзяў пачынаецца ў нас у сярэдняй школе, што цалкам зразумела і мэтазгодна. У беларускай сярэдняй школе існуе цэласны курс рускай літаратуры. Што да творчасці асобных украінскіх і польскіх пісьменнікаў, то яна вывучаецца ў курсах беларускай/рускай літаратур.

Скажам, у нашай дванаццацігодцы вучні паступова, з класа ў клас, знаёміліся з некаторымі празаічнымі і паэтычнымі творамі Тараса Шаўчэнкі, Івана Катлярэўскага, Івана Франко, Міхайла Кацюбінскага, Лесі Украінкі, Васіля Стафаніка, Паўло Тычыны, Максіма Рыльскага (украінская літаратура), Адама Міцкевіча (балады, паэмы «Пан Тадэвуш», «Гражына»), Юльяша Славацкага (вершы, паэма «У Швейцарыі»), Юзафа Крашэўскага («Паперы Глінкі»), Элізы Ажэшкі («Хам», «Зімовым вечарам», «Раманіха»). Мы з Таццянай Кабржыцкай нават выдалі для сярэдняй школы вялікую хрэстаматыю «Мае браты, мае суседзі: творы пісьменнікаў блізкага замежжа» (Мінск, 2008. 752 с.), куды ўвайшлі творы гэтых пісьменнікаў, а таксама латыша Яніса Райніса, літоўца Крысціёнаса Данелайціса, чэшкі Бажэны Немцавай, артыкулы пра іх творчасць. Перавод сярэдняй школы ў адзінаццацігодку, ліквідацыя класаў з пашыраным і паглыбленым вывучэннем прадметаў прывялі, на жаль, да скарачэння аўтараў і твораў. Аднак асобныя з іх усё ж засталіся. З другога боку, наколькі мне вядома, ні ў польскіх, ні ва ўкраінскіх школах ні з адным з беларускіх пісьменнікаў-класікаў вучні не знаёмяцца. А як жа дружыць з суседзямі, я ўжо не кажу пра павагу і любоў да іх, калі не ведаюць гэтых суседзяў?! А літаратура ж найлепш знаёміць народ з народам…



*Рыгор Барадулін, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Анатоль Наліваеў, Сяргей Панізьнік, 1992 г.*



*— Калі мы гутарку распачалі пра суседзяў, дык мне прыгадаўся вялікі беларускі публіцыст, празаік, літаратуразнавец Сяргей Палуян (1890–1910), які пражыў усяго 20 гадоў і пахаваны ў Кіеве. Вы разам са сваёй жонкай Таццянай Кабржыцкай у 1986 годзе сабралі і склалі адзіны зборнік твораў Сяргея Палуяна «Лісты ў будучыню». А ў 1990 годзе выйшла ваша сумесная кніга «Сляды знічкі: пра Сяргея Палуяна». Што за гэтыя 23 гады знойдзена новае пра Сяргея Палуяна? Ці ўжо немагчыма нечага новага пра нашага здольнага літаратара знайсці?*

— Нічога новага пра Сяргея Палуяна мы, на жаль, пакуль не адшукалі. Але, наколькі нам вядома, і іншыя даследчыкі нічога істотнага не знайшлі. Што застаецца? Трэба шукаць!

*— Трымаю ў руках вашу цудоўную кнігу «Мой Трыглаў», кнігу пра Купалу, Коласа, Багдановіча. Дзякуй вам за яе. Скажыце, калі ласка, а вы цікавіліся, пры якіх умовах і як загінуў у Маскве Янка Купала? Тым больш, што ў апошні час сяды-тады і з’яўляюцца публікацыі пра смерць Янкі Купалы.*

— Пра смерць Янкі Купалы цікавіўся і я. Як старшыня Міжнароднага фонду Янкі Купалы, я звяртаўся ў КДБ СССР. Вядомы ліст Берыі Сталіну пра гібель нашага песняра, які часта цытуецца. Нешта не верыцца, што іншых дакументальных сведчанняў пра смерць народнага паэта Беларусі не засталося, бо расследаванне акалічнасцей смерці вялі ажно тры інстанцыі: міліцыя, пракуратура, ваенная разведка. Відаць, час і ўмовы яшчэ не насталі, каб рассакрэціць гэтыя

дакументы. Але ж няма нічога тайнага, каб не стала яўным у рэшце рэшт…

*— Вячаслаў Пятровіч, чаму да сённяшніх дзён яшчэ не выдадзена энцыклапедыя «Якуб Колас», тым больш што ёсць ужо энцыклапедыі Скарыны, Купалы, Багдановіча?*

— Пытанне не да мяне. Хаця ведаю, што напісаць і выдаць сапраўдную энцыклапедыю не так лёгка і проста. Лягчэй сабраць, як у торбу, розныя артыкульчыкі з інтэрнэту, знайсці выдаўца і з камерцыйнымі мэтамі — пад выглядам энцыклапедыі — «ціснуць», ды яшчэ пад сваім прозвішчам. Як гэта і робіцца часам… Што да патрэбнасці энцыклапедыі «Якуб Колас», то ў гэтым няма сумневу.

*— Вячаслаў Пятровіч, шмат вашых сяброў ужо няма побач з вамі. Каго з іх вы найчасцей сёння прыгадваеце, шкадуеце, успамінаеце? Каго вам сёння не хапае?*

— Найчасцей згадваю свайго аднакашніка былога завуча Сваткаўскай сярэдняй школы на Мядзельшчыне Міколу Пашкевіча, якому прысвечана аповесць Васіля Быкава «Абеліск», Алега Лойку, майго ўніверсітэцкага настаўніка, затым калегу па працы і блізкага сябра, а таксама энцыклапедыста і фалькларыста Янку Саламевіча, які не так даўно пайшоў ад нас назаўсёды. Іх найбольш мне і не хапае.

*— Які час у вашым жыцці быў найцяжэйшым і які плённым і шчаслівым?*

— З вышыні свайго ўзросту бачу: найбольш плённыя і шчаслівыя гады — 1970-я — першая палова 1980-х гадоў, калі былі яшчэ жывыя мае і жонкі Таццяны бацькі, калі мы жылі ў адным доме і сем'ямі сябравалі з Уладзімірам Караткевічам, калі нашы дзеці, Усевалад, Максім і Пятрусь, яшчэ знаходзіліся пры нас, калі… А цяжкасці сустракалі, калі хварэлі дзеці (часам усе трое адначасова), калі Таццяна ачуньвала пасля пераломаў пазваночніка (прычым двойчы), калі маці пасля інсульту амаль 16 гадоў ляжала паралізаванай у кватэры свайго адзінага сына, г. зн. у мяне.

*— Так, у жыцці ўсяго хапала. А што сёння хвалюе доктара філалагічных навук, прафесара Вячаслава Рагойшу?*



— Хвалюе многае. Але трэба, нават хвалюючыся, працаваць, а не сядзець склаўшы рукі і хвалявацца. Працаваць, разумеючы, што толькі актыўна працуючы дзеля роднай культуры, мовы, літаратуры, выхоўваючы адукаваных і нацыянальна свядомых маладых працаўнікоў, мы ўрэшце «дойдзем да Беларусі». Як, зрэшты, працуеце і вы, Сяргей.

*— Вялікі дзякуй, Вячаслаў Пятровіч, за добрыя словы ў мой адрас. Жадаю вам здароўя, спакою, натхнення, новых кніг і здольных студэнтаў!*

*2012*

## Алена Васілевіч: «Пакуты я ведаю ад жыцця, а не ад літаратуры»



*Алена Васілевіч, Курск, 1949 г.*

Выдатная старэйшая беларуская пісьменніца Алена Васілевіч жыве ў Мінску. Нарадзілася яна ў 1922 годзе на Случчыне. Рана засталася без бацькоў, таму выхоўвалася ў сваякоў. У 1941 годзе скончыла Рагачоўскі настаўніцкі інстытут, а пасля Другой сусветнай вайны — Белдзяржуніверсітэт.

Працавала літкансультантам у Курскім абласным выдавецтве (Расія). У 1950 годзе вярнулася на радзіму. Працавала загадчыкам аддзела культуры ў часопісе «Работніца і сялянка», потым — у мінскіх выдавецтвах «Мастацкая літаратура» і «Юнацтва». Напісала і выдала дзясяткі кніг апавяданняў і аповесцей, нататак і эсэ. За тэтралогію «Пачакай, затрымайся…» атрымала Дзяржаўную прэмію Беларусі ў 1976 годзе.

*— Алена Сямёнаўна, гэта дзякуючы вам я стаў займацца літаратурай. Па суседству са мной у роднай вёсцы на*

*Слонімшчыне жыла такая баба Саня, дык я з яе ўнукам штодня бывалі ў яе хаце, а яна нам распавядала пра вашу Ганьку. Яна так любіла вашу Ганьку, што мне здаецца, яна нікога так не любіла і не шкадавала на свеце. Яна плакала, чытаючы яе, радавалася. І нам, дзеткам, пастаянна расказвала аб тым, што прачытала ў вашай кнізе. Расказвала ўсё да драбніц, і нават трохі дабаўляла свайго. А мы слухалі яе днямі і начамі. Ганька для нас была нейкай святой дзяўчынай, хоць кожны з нас па-свойму яе ўяўляў. Але баба Саня казала, што пісьменніца Алена Васілевіч піша працяг Ганькі. І яна чакала працяг кнігі. І дачакалася новага выдання і зноў чакала працяг… Яна і мы верылі, што ёсць Ганька, што яна будзе шчаслівай. Мне здаецца, баба Саня бачыла сябе ў вобразе Ганькі з такім нялёгкім лёсам. Вось менавіта ваша Ганька, калі я прыходзіў дамоў (а мама мяне гадавала адна), я садзіўся за стол і нешта пісаў, пісаў працяг Ганькі, працяг яе лёсу. Не атрымлівалася. Я тады пачаў пісаць вершы, дасылаў у часопіс «Бярозка» і газету «Піянер Беларусі». А сёння праз столькі гадоў (эх, жыла б баба Саня!) мне лёс выпаў з вамі пагутарыць. Гэта проста нейкі цуд!.. Мне здаецца, ваша Ганька, ваша тэтралогія «Пачакай, затрымайся…» зрабілі вас народнай пісьменніцай Беларусі. Я паўтараю — народнай, хоць гэтага звання ў вас няма. Але вы ўсё ж для майго пакалення, старэйшых і маладзейшых людзей былі і застаяцеся народнай пісьменніцай. Ды і Леанід Галубовіч летась пісаў пра вас і сказаў, што «Алена Васілевіч пачалася з Ганькі». Што значаць для вас кнігі пра беларускую дзяўчынку Ганьку?…*

— Што значаць для мяне мае кнігі «пра Ганьку» — тэтралогія «Пачакай, затрымайся…»? Леанід Галубовіч — таленавіты паэт і крытык (мой добры сябра) пісаў (і крыху памыліўся і… не памыліўся): «Алена Васілевіч пачалася з Ганькі». Але ж у мяне яшчэ былі і «Шляхі-дарогі», пасля выхаду іх з друку я раптам «прачнулася знакамітай»… На бязрыб’і і рак рыба. А як жа? Першай у беларускай літаратуры, пасляваеннай — жанчына-празаік. Ды яшчэ жыве ў Курску і піша… беларускую прозу! І мусіць жа, яшчэ маладая… Сенсацыя! Так часам невядома адкуль з’яўляецца «слава»… «Шляхі-дарогі» мае ў тыя 1948–1949 гады былі і праўда не з самых зарослых пустазеллем і чартапалохам «літаратурных дарог»…

А да гэтага ў мяне была яшчэ маленькая аповесць «У прастор жыцця» (якая «арыгінальнасць» назвы — ды пасля Якуба Коласа!). І за яе ў 1947 годзе мяне прынялі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў. Так што Лёня Галубовіч не быў «гістарычна» дакладны. Не скажу, каб ад усяго таго мяне апанавала «зорная» хвароба. Але ж усё роўна было прыемна. Хоць і дзіўна.

А Ганьку нарадзілі мне мае ўласныя дзеці — раскажы, як ты была малая. Бясконца мучылі яны мяне, і я расказвала. І неяк зусім няўзнак напісалася апавяданне «Радасці жыцця». Тады мне ўжо сапраўды не стала спакою. «Друкаваныя літары» пра Ганьку надалі маім дзецям як быццам уладу нада мною… «Напішы, што было далей!!!»

*— І вы пісалі?*

— Так. І я пісала, і я не магла развітацца з Ганькай, пакуль не напісала чатыры кнігі пра яе лёс.

*— А ці пастаўлены па вашай тэтралогіі мастацкі фільм? А можа, і ёсць, ды я не ведаю?*

— Не, мастацкага фільма не было. Быў тэлеспектакль, разыграны акцёрамі. Усё як мае быць… Але лепей бы яго не было. Атрымалася такая шэрая сумота, што я пазбягала страчацца са знаёмымі: а раптам глядзелі-бачылі. Дзякуй Богу, ён не доўга «ўпрыгожваў» тэлеэкран. Ды каб мяне забілі — сама б другі раз не зірнула б у яго бок! Сорам. Жах.

Затое беларускае радыё «ўзнесла» Ганьку! Восем частак радыёспектакля, пастаўленага Таццянай Аляксеевай. Ігралі (яшчэ ўсе былі жывыя!) лепшыя акцёры-купалаўцы залатога веку. Ганьку іграла тады яшчэ зусім маладая актрыса Тэатра юнага гледача Вера Кавалерава. Усіх не злічыць. І за гэта я

дзякую ім і сёння. Ганька гучыць штогод, і запіс захоўваецца на радыё ў залатым фондзе… Ну, то і хопіць пра яе, Ганьку.

*— Вы неяк сказалі, што ад літаратуры не ведаеце пакут. Але літаратура 1960–1980-х гадоў адрозніваецца ад літаратуры сённяшніх дзён, і дабрабыт пісьменнікаў адрозніваецца сёння ад дабрабыту пісьменнікаў другой паловы XX стагоддзя. Ці не так?*

— Не, пакуты я ведаю ад жыцця, а не ад літаратуры. Проста не пакутую тады, калі мне «не пішацца» (як у сапраўдных «стараннікаў»). Нават, мусіць, сам Леў Талстой не пакутаваў, калі «не пісалася», а шыў боты, сеяў і касіў… «Ні дня без радка» — гэта не пра мяне сказана. Што датычыць дабрабыту, дык ён залежыць не ад часоў — ад умельства, спрыту яго наладжваць. Ёсць гэты талент — будзе і дабрабыт. А няма — дык і дабрабыту не будзе. Будзе тое, што ёсць.

*— Алена Сямёнаўна, вы 22 гады адпрацавалі ў цікавым (!) часопісе «Работніца і сялянка» (цяпер, здаецца, гэта часопіс «Алеся»), я не чытаю яго. А раней чытаў. Раней «Работніцу і сялянку» выпісвалі амаль у кожны беларускі дом. Сёння — не ведаю. Што вам памятаецца з таго часу вясёлае, добрае, сумнае?*

— «Работніца і сялянка»! О, гэта быў самы ўдзячны, самы жыццядзейны і самы жыццядайны час. Я была ў рэдакцыі самая маладая, яшчэ не стомленая ні камандзіроўкамі, абавязковым штомесяц «прыгонам» напісаць і здаць гатовы нарыс, артыкул, фельетон, рэцэнзію, апавяданне, дыялог з героем гутаркі (У набор! У набор!). Калектыў быў добразычлівы, дружны. Перад рэдакцыяй і журналістамі лёгка адчыняліся нават самыя высокія службовыя дзверы. Ніводнае пісьмо чытачоў не заставалася без адказу, ніводная скарга — без увагі і дапамогі. Я ганарылася сваёй рэдакцыяй, сваёй працай і марыла, каб і дзеці мае былі журналістамі. Яны абралі іншую — кожны сваю — дарогу…

Верай і праўдай паслужыла я любай «Работніцы і сялянцы» 22 гады. І сёння ўспамінаю, як родную сястру. На змену маёй «старой сястры» прыйшла маладая «Алеся». Яна ўжо



зусім, зусім другая, іншая, з іншага ўжо свету. У яе свая, ужо сённяшняя харызма…

*— Адну са сваіх кніг вы назвалі «Люблю, хвалююся — жыву». Каго любіце, што хвалюе і чым жывяце сёння?*

— «Люблю, хвалююся — жыву» — так, была ў мяне такая кніга (яна і ёсць…). Невялікім выдавецкім памерам, але — для мяне асабіста — з вельмі вялікім эмацыянальным абсягам. Вядома, з часам, які мінуў з той пары, абсяг гэты звузіўся, на жаль… Намнога звузіўся… Больш за ўсё хвалюе мяне сёння лёс самых блізкіх мне людзей…

*— Ці ёсць сёння ў вас сябры, сяброўкі? Аб чым гутарыце пры сустрэчах?*

— Сябры і сяброўкі… У маім ужо «дапатопным» веку — гэта ўжо найбольш толькі ўспаміны з уздыхамі.

Все ушли, что любили, что ждали,
Утонули за дымкой печали…

Ну, а тыя, хто з маладзейшых, яны таксама ўжо часцей ходзяць па дактарах, па бальніцах і аптэках… Што ўспамінаем, пра што гутарым? Усё ж яшчэ чытаем, таксама дзякаваць Богу, кнігі. Што-што, а бібліятэкі (уласныя!) маем мы амаль усе. Так што ўцехі — кніжнай — хопіць нам усім «на всю оставшуюся жизнь». Выпісваем жа хто якую газету. Вось толькі наша бяздарнае беларускае тэлебачанне — вочы б яго не бачылі! — яго хто глядзіць, а хто — не.

*— Які лёс, на вашу думку, чакае Беларусь, беларускае Слова, беларускую Мову ў гэтым XXI стагоддзі?*

— У Беларусі дзеці амаль не вучацца ў беларускіх школах. Вось ужо колькі гадоў беларускія школы скарачаюцца, зачыняюцца… Няма вучняў? Няма выкладчыкаў? У лепшых выпадках застаюцца «беларускія» класы ў школах — абсалютна з навучаннем рускамоўным. А то і зусім, як у абласным Магілёве, вучыцца ў школе (зразумела, рускамоўнай) адна ўсяго дзяўчынка! Няцяжка ўявіць сабе гэтае навучанне і самаадчуванне яе самой і яе бацькоў, якія не жадаюць «зразумець», чаму іх дзіця не мае магчымасці (права) у

сваёй роднай дзяржаве вучыцца на роднай мове. У нашых універсітэтах студэнты таксама мала чуюць беларускую мову і рэдка ёю карыстаюцца. Заезджыя людзі дзівяцца: чаму ў Мінску на вуліцах не пачуеш гаворкі па-беларуску? Усе гавораць на чужой мове.

А як цудоўна гучыць беларуская песня! Але наша «тэлескрынка» ды і радыё таксама наровяць «адкормліваць» нас рускамоўнай папсою і замшэлымі шлягерамі. Што ўжо казаць пра наша «верхавенства»? (У нас же законом утверждено двуязычие? Так зачем же ещё ломать язык?) За амаль 20 гадоў свае прэзідэнцкае ўлады сам прэзідэнт рэдкія разы выступаў перад сваім народам з прамовамі на роднай мове. Праўда, калі падумаць, прэзідэнт жа нарадзіўся і гадаваўся ў беларускай вёсцы. Вучыўся ў беларускай школе. Але адразу ж, апынуўшыся за цяжкімі дзяржаўнымі дзвярыма, перасеў у чужыя сані.

Жыве Беларусь! Гэтыя два дарагія словы мы з аднолькавым пачуццём вялікай Надзеі паўтараем з клічнікам і без клічніка. Мы паўтараем іх з пачуццём непагаснай Веры. На святую беларускую зямлю прыйдзе новы надзейны і верны Сейбіт засяваць яе. Разумным. Добрым. Вечным.

*— Што яшчэ не напісалася, аб чым усё жыццё марылі напісаць?*

— Сёлета 25 верасня шырока і вельмі годна адзначалася 100-годдзе з дня нараджэння выдатнага беларускага паэта Сяргея Грахоўскага. Сама я, на жаль, не была на гэтай імпрэзе (быў мой сын). Па тэлефоне толькі прачытала я на памяць даўнія ўжо вершы Паэта яго дачцэ Тані:

Сцяжынка збягае з пагорка,
Унізе шуміць лістапад.
І крыўдна, і сумна, і горка,
Што ўжо не вярнуцца назад
У тое гарачае лета,
У водар духмяных суніц,
Дзе столькі гуло навальніц,
Дзе столькі яшчэ недапета…



…А мая ўласная «сцяжынка»?
А мае недапетыя старонкі?
Іх не будзе.

Напэўна, таму, што на апошнюю, недапісаную маю кнігу («Памерла Ганька…») ужо не хопіць сілы.

У нядобры дзень нядобра ўпала я (а «добра падаць» часта здараецца?), ужо каторы год не выходжу нават за дзверы ўласнай кватэры… І не пішу. Ёсць людзі, здольныя пры самых складанейшых абставінах заставацца дзейнымі: пісаць музыку, пісаць карціны, пісаць кнігі… Я — не здольная. Без жывога жыцця… А яшчэ — чытачы. Даўнія, самыя адданыя чытачы самых першых маіх кніжак — яны ўжо адышлі… У наступнай змены цяпер ужо часцей нагода шукаць лекі, чым шукаць новае чытанне — па кнігарнях і па бібліятэках. Новае «племя младое, незнакомое»? Дык маладым жа «продкі» зусім нецікавыя! Ні **як** яны і **чым** жылі, у **што** верылі, **што** пісалі, **што** пакінулі. У іх свой, ужо «свой час, свой век, свая эпоха». Як, дарэчы, было гэтак і ў «продкаў». І ў продкаў продкаў. І, мусіць, так і павінна быць. Павінна? Хоць «крыўдна і сумна, і горка, што ўжо не вярнуцца назад». Але такая дыялектыка чалавечага быцця.

*2013*

## Яўген Петрашэвіч: «Музыцы я ніколі не здраджваў»


*Яўген Петрашэвіч, 2013 г.*

З гарадзенскім кампазітарам, педагогам, паэтам, мастаком, кіраўнікам фальклорнага ўзорнага ансамбля «Гарадзенскія дударыкі» (1990–2002), выдатнікам адукацыі Рэспублікі Беларусь Яўгенам Петрашэвічам я пазнаёміўся ў 2009 годзе, калі збіраў матэрыялы пра беларускага кампазітара, дырыжора, хормайстра і педагога Антона Валын-

чыка (1896–1985). Яўген Петрашэвіч некалі шчыра сябраваў з Антонам Валынчыкам. Таму мне шмат цікавага распавёў пра яго, падараваў ноты песень кампазітара, дзве ягоныя скрыпкі. Адну я перадаў у Слонімскі раённы краязнаўчы музей імя Я. Стаброўскага, а другую скрыпку мяркую перадаць Клецкаму раённаму музею, бо ў Клецкай беларускай гімназіі ў пачатку 1930-х гадоў Антон Валынчык выкладаў музыку.

Мяне заўсёды здзіўляла і здзіўляе да сённяшніх дзён ягоная апантанасць жыццём, рухавасць, актыўнасць, цікавасць да жыцця, захапленне музыкай, мастацтвам, літаратурай спадара Петрашэвіча. А яшчэ Яўген Канстанцінавіч — шчыры беларус, найцікавейшы чалавек, якога я сёння ведаю ў Гародні, бо за свае пражытыя 83 гады ён шмат чаго бачыў, чуў, пабываў у многіх краінах свету.

У свой час Яўген Петрашэвіч быў узнагароджаны ганаровымі граматамі Міністэрства культуры СССР і БССР, Вярхоўнага Савета БССР, граматай Першага Усебеларускага фестывалю самадзейнай творчасці працоўных (1975), быў дыпламантам Шостага міжнароднага фестывалю народнай музыкі, уладальнікам дыплома абласнога конкурсу кампазітараў-аматараў Гродзеншчыны — за цыкл песень-балад на гістарычную тэму на вершы Яна Чачота (Гродзенскі клуб кампазітараў-аматараў). Ён з'яўляецца аўтарам скульптур для літаратурна-краязнаўчага музея ў Гудзевічах, аўтар надмагільных абеліскаў бацькам і роднай сястры, аўтар вакальна-харэаграфічных кампазіцый, музыкі да спектакляў, песень, рамансаў, гімнаў і г. д. Усяго зробленага Яўгенам Канстанцінавічам на ніве беларускай літаратуры і мастацтва немагчыма пералічыць. Даўно яму пара было надаць званне заслужанага дзеяча Рэспублікі Беларусь і ганаровага грамадзяніна горада Гродна. На жаль, сённяшняя ўлада ў Беларусі такіх асоб не дужа паважае, цэніць, шануе. Але Бог, як кажуць, ім суддзя. Затое мы вас любім і ганарымся вамі, шаноўны спадар Яўген. Дзякуй вам за ўсё і дзякуй, што пагадзіліся адказаць на мае пытанні.



*— Спадар Яўген, вы аднойчы сказалі: «Маё крэда — ствараць, але не вытвараць». Зразумелае крэда, але ў нас сёння найбольш вытвараюць…*

— Ствараць — гэта самае высокае, што дадзена чалавеку, таму да творчасці павінны ставіцца з вялікай адказнасцю. Бо перад самім сабой і перад усімі мы ў адказе, таму «што напісана на паперы, не высечаш і сякерай». А прафесар Д. Камінскі некалі казаў: «Галоўнае да справы прыставіць драбіну» і яшчэ: «Аўтара б'юць не за тое, што напісаў, а за тое, што паказваў». Кампазітар Юры Семяняка любіў паўтараць: «Паставіць подпіс пад творам — апошняя справа». Такім чынам, з гадамі і вопытам творчы чалавек прыходзіць да скутку, набывае характэрны почырк, накірунак, і ў лепшым выпадку — свой твар і самабытнасць. А наконт таго, што сёння вытвараюць, магу сказаць, што чалавек у сутнасці лянівая істота, а камп'ютарныя тэхналогіі падобныя да хадуляў, на якіх хутчэй не пабяжыш.

*— Вы родам з вёскі Падбараны Мастоўскага раёна. Раскажыце трохі пра сваю вёску.*

— Польшчы назвалі Podborany. А пры саветах — Подборяны. Беларусы цяпер называюць Падбараны. Такім чынам, назва вёскі выклікае перакошаную грымасу найменняў, але смеху не выклікае, а калі выклікае смех, то праз слёзы. Вёска Падбараны, якая раскінулася на левым беразе Нёмна ўніз на два кіламетры ад мястэчка Лунна, была некалі ажыўленая. Там за польскім часам хадзілі параходы, яны называліся «Баторы», «Ягайла», а ў 1939 годзе, калі прыйшлі саветы, іх перайменавалі ў «Пушкіна», «Сталіна». Плытагоны нас вучылі рабіць свісцёлкі, свістулькі з бярозавай кары, а турысты, што ад Стоўбцаў плылі, затрымліваліся, каб паслухаць іх свіст. А мы, дзеці, бегалі паслухаць у байдарачнікаў патэфон. З дзяцінства памятаю і ўкраінца Сямёна Крывашэя. Майстра быў на розныя штукі, рабіў цудоўныя куфэркі. Дзякуючы яму я меў магчымасць асвоіць украінскія песні, як свае. Вось дзе была мая кансерваторыя!

*— А хто вашы бацькі? Ці ведаеце што пра сваіх дзядоў, прадзедаў?*

— У маладосці маці хадзіла да Нёмана, не магла ніяк наспявацца. Казалі, што «кагосьці так накрычыць». Яна накрычала мяне. Мая маці Вольга Васільеўна была з роду Рамашкаў, скончыла гандлёвую школу ў Гродне, ёй дапамагаў бацька, мой дзед Рамашка Васіль. Дзед Васіль жыў у Амерыцы, быў цырульнікам, а потым меў уласную цырульню. Маці разам з бабуляй Фядорай таксама там былі ў Амерыцы, але вярнуліся з-за неспрыяльнага клімату. Бацька Канстанцін Канстанцінавіч Петрашэвіч у Харкаве атрымаў адукацыю і спецыяльнасць кваліфікаванага паштовага служачага. Служыў начальнікам пошты ў Лунне на Мастоўшчыне. У 1939 годзе, з прыходам савецкай улады, яго перавялі на работу ў Гродна, на пасаду галоўнага бухгалтара абласной пошты. Бацька прымаў удзел у конкурсе каліграфічнага напісання і атрымаў другую прэмію, таму што вельмі добра і прыгожа пісаў. Пры польскай уладзе працаваў са сваім старэйшым братам цесляром па традыцыях роду.

Бацька меў таксама матэматычныя здольнасці, быў строгім чалавекам і не раздзяляў захапленне сына музыкай, гэта быў дзіўны чалавек з дзіўным лёсам, калісьці іграў на гармоніку, вывучыў па нотах «Отче наш».

Бацькі мае былі рэпрэсіраваны як агітатар і шпіёнка за перапіску з матулiным бацькам Васілём і цёткамі Наталкай і Алесяй, якія жылі ў Амерыцы. Бацька на 15 гадоў, а маці на 25 гадоў былі адпраўлены ў ссылку. У іх дом пасялілі жыць кагэбістаў.

Бацька ў Ангарску, а маці ў Архангельску ў Расіі адбылі ў ссылцы па 5 гадоў. Аднойчы Канстанцін Канстанцінавіч убачыў сон, у якім былі лічбы, якія ён потым запісаў на накрыўцы чамадана. Гэтыя лічбы і з'явіліся датай вызвалення бацькоў. Пасля вяртання на радзіму мама і тата былі рэабілітаваны. Бацька памёр у 1979 годзе, а маці ў 1976-м.

У дзяцінстве ў мяне была мянушка «лупаты» за маю асаблівую прыхільнасць да губнога гарможіка. Жалезныя дэталі гэтага інструмента нагадвалі мне фольгу з-пад шакаладу. Калі я іграў, я адчуваў асалоду ад гукаў. У дзіцячым узросце я любіў ствараць аркестры з мясцовай дзетвары, дзе іграў на губным гармоніку. Пазней навучыўся іграць на баяне. Музычнай была наша сям'я. Дзядзька Грыша іграў на гармоніку, прадзед Піліп Мілашэвіч — на скрыпцы, а мая маці Вольга і сёстры Люда і Зіна спявалі. Людзі прыходзілі іх паслухаць, дзівіліся і плакалі. Гэта асяроддзе народнай музыкі, напэўна, аказала на мяне значны ўплыў.



*— Вы згадалі свайго прадзеда Піліпа Мілашэвіча. Раскажыце пра яго.*

— Мой прадзед Піліп Мілашэвіч, які іграў на скрыпцы, жыў у Кніжаводцах са сваёй Аўдоццяй-бабуляй. Іграў на вяселлях, вечарынках. Калі вяртаўся з вяселля, тры дні граўшы, яго запынілі хлопцы і змусілі іграць, свістаць і нагой тупаць для сваёй уцехі. «Грай або грошы аддай!» — казалі. Ён іграў і «перайграў» руку, а потым не змог іграць. І аднойчы, калі я ехаў на вяселле ў аўтобусе, іграў на баяне ўсю дарогу. А калі вярталіся з вяселля, п'яная кампанія стала да мяне прыставаць: грай тое, як мы ехалі на вяселле. Калі ім расказаў здарэнне з прадзедам, то нават п'яныя адчапіліся. Я памятаю прадзеда. Ён прыходзіў да нас у вёску Падбараны ў срэбнай кашулі з сінім-сінім гузічкам, як і яго вочы, садзіў мяне на калені, гладзіў ласкава па галоўцы…

*— А які ваш любімы музычны інструмент?*

— У школьным узросце я іграў на губным гармоніку. У Гродне, калі пераехалі, іграў на гармоніку венскага строю. А падчас вайны ў нас кватаравалі вайскоўцы, што мелі баян, тады я мог найграцца ўволю. Калі мой сусед заўважыў маю прыхільнасць, то параіў паступіць у музычную школу. Закончыў яе паспяхова і паступіў у Мінскую музычную вучэльню па класу баяна, дырыжыраванню аркестраваму. Там я палюбіў усе інструменты, бо кожны з іх мае свой тон, сваю адметнасць, фарбу. А калі працаваў у Гродзенскай музычнай школе, то першае пытанне паступаючаму вучню задаваў такое: музычны інструмент — гэта прадмет адушаў-

лёны ці неадушаўлёны? І неяк ад аднаго вучня пачуў адказ: «Адушаўлёны тады, калі на ім іграеш!» Я ўсе інструменты люблю.

*— Спадар Яўген, вы яшчэ добры паэт. З друку ў Гародні выйшлі два вашыя арыгінальныя зборнікі вершаў. Гэта — «Пасынкі» і «Віншаванкі». Мне падабаюцца вашы вершы. А скуль такая любоў да літаратуры?*

— Бацька мой Кастусь, бывала, вечарам пры лямпе чытаў нам Біблію або кніжку пра Ірму. І калі трапляўся выраз на рускай мове: «уж настал вечером…», я аж падскокваў і крычаў: «Тата, там уж». А бацька супакойваў і казаў, што гэта слова «ўжо». Слова «ўжо» я разумеў, а слова «уж» мяне палохала.

Неяк бацька склаў эпітафію на сястру Лёлю, якая пахавана ў вёсцы Гудзевічы на Мастоўшчыне:

На тваёй магілцы, Лёля,
Кветачак я пасаджу.
Вясна сагрэе іх уволю,
А я слязою акраплю…

Або аднойчы тата выдаў такія радкі:

А Божа ж мой, Божа мой,
Да чаго даждаўся…

А я чуў гэтыя словы, пахадзіў і дабавіў:

Баба сані прадала,
Што з печы спускаўся!

Стрыечны брат Кастусь мяне таксама вучыў рыфмоўцы:

Як прыедуць паны па падаткі,
Пазбіраюць каровы, цялякі…

А вяскоўцы часта спявалі, я запамінаў:

Ні трэба нічога баяцца,
Трымайцеся ўсе грамадой.



Як толькі вайна распачнецца,
Мы кінемся дружна ў бой…

Пасля ўсіх гэтых паэтычных «урокаў» я сам спрабаваў і працягваю спрабаваць пісаць вершы, страфы. Неяк пад уражаннем футбольнага дваровага матча напісаў экспромт:

За што б’яце так футбол
Неразумна, дзеці?
Як забілі першы гол,
Аж сталі пацеці…

Аднойчы прафесар Аляксандр Баршчэўскі з Варшавы выказаў мне сваю падзяку за вершы. Я яму даў тэкст песні «Пра каліну», схематычны варыянт, а ён склаў добрую песню і перадаў кампазітару Ігару Лучанку. Песня гучала нават па радыё. А калі Аляксандр быў у Гродне, я паказаў варыянт гімна Беларусі, які рыхтаваў на конкурс, ён мне трохі дапамог нават знайсці трапныя радкі. Але тады ўсе конкурсныя гімны ў Беларусі не прайшлі, бо паэт Карызна перапрацаваў савецкі гімн, які мы чуем сёння.

Нядаўна па запрашэнні наведаў на Беласточчыне дом Сцяпана Копа. Цікавы і таленавіты ён чалавек. У застоллі мы спявалі беластоцкія і гарадзенскія песні, якімі мы потым абмяняліся. Я Сцяпану падараваў песні сваёй роднай вёскі Падбараны, а ён — некалькі сваіх песень, у тым ліку і «Пакахала беларуса».

Я заўсёды шчыра сябраваў і сябрую з паэтамі. На іх вершы напісаў сотні песень. Пісаў песні на словы Уладзіміра Шурпы, Янкі Насуты, Дануты Бічэль, Ларысы Геніюш, Станіслава Судніка, Міхася Мельніка, Уладзіміра Васько, Пятра Макарэвіча, Апанаса Цыхуна, Міхася Губернатарава, Юркі Голуба, і на твае, Сяргей, вершы.

З цягам часу стаў і сам пісаць тэксты не толькі песень, але і сур’ёзныя вершы. Напісаў «Баладу пра Грунвальд», «Сказ пра Каложу», выдаў кнігі вершаў «Пасынкі» (Гродна, 2012) і «Віншаванкі» (Гродна, 2013). Калегі і сябры мае кажуць,

што запозна я пачаў пісаць вершы. А я ў адказ кажу, што зярняты, якія зарадзіліся ў маленстве, прараслі своечасова і як спелы яблык упалі на галаву Ньютона…

*— Вы яшчэ, спадар Яўген, і філосаф. Мусіць, любіце паразважаць, пажартаваць… Так?*

— З дзяцінства люблю афарызмы. І цяпер, у сталым узросце яны не супярэчаць маёй натуры. Бывае, ноччу штосьці будзіць, каб запісаць думку ці мелодыю, а калі запішу, то нібы чую: а цяпер можаш спаць.

Яшчэ ў студэнцкія гады мяне называлі дзіваком, бо быў я не як усе. А з цягам часу калі пабывалі мае сябры за мяжой, то казалі, што там усе такія дзівакі. Яшчэ мяне клікалі народным філосафам, а я казаў ім: філасоф, не кажуць філ**о**саф. Такім чынам, аналітычнаму мысленню, я лічу, спрыяла ўсё ж музыка і закваска ў маленстве, якая нават вылілася і ў сатырычныя вясёлыя творы, як, напрыклад, «Байкі-непазяхайкі».

*— Акрамя музыкі і літаратуры вы яшчэ, спадар Яўген, добры мастак, разьбяр…*

— У маленстве мы, падлеткі, рабілі цацкі самі. І гэта спрыяла самавыказванню сваёй фантазіі ў канкрэтных формах. А бацька займаўся цяслярствам і сталяркай. Калі ён пілаваў якую-небудзь дошчачку ці што рабіў, мы ўважліва сачылі, вучыліся. Ён любіў майстраваць параходы, самалёцікі, свісцёлкі. У дарослым узросце, калі бываў у дзіцячых летніках, я майстраваў дзецям з кары розныя фігуркі, скрыначкі з бяросты. Дзеці імі любяць гуляць, але цацкі павінны рабіць усё ж дарослыя. Так я стаў і мастаком. Зрабіў неяк Матку Боскую, якую Алесь Белакоз узяў для свайго Гудзевіцкага музея. Для Гудзевіч я яшчэ высек памятны знак на камені: «Гудзевічы, 1738». З граніту сам зрабіў помнік бацькам. А ў Даніі з драўлянага пня высек вікінга.

*— А скуль вы, спадар Яўген, усё жыццё чэрпаеце сілы для творчасці?*

— У маладыя гады аднойчы ў Беластоку набыў кніжку М. Міхальскай «Joga dla wszystkich». І потым часта займаўся стойкай на галаве і іншымі практыкаваннямі. Засвоіў глыбокае дыханне дыяфрагмай (ніжнім дыханнем). І цяпер, калі ў мяне пытаюцца: ці займаешся ёгай, адказваю: ёга цяпер займаецца мной. Вось гэта мая сіла.



*— І ўсё ж музыка ў вас застаецца на першым месцы. Так?*

— Так. Лічу, што людзі падзяляюцца на музыкальных і не музыкальных. Музыка — рэч універсальная. Музыка — маё жыццё. Музыцы я не здрадзіў ніколі, і яна мне таксама. Запісваю заўсёды не тое, што з галавы выйшла, а тое, што ў галаву ўвайшло.

*2013*

## Лідзія Арабей: «Не хочацца верыць у горшае»



*Лідзія Арабей, 1996 г.*

Люблю гутарыць са старэйшымі беларускімі літаратарамі. Яны шмат пражылі, шмат перажылі, бачылі, чулі. Гэта вельмі шчырыя людзі, сардэчныя, добрыя, цікавыя. Такія, напрыклад, як літаратуразнавец, кандыдат філалагічных навук, празаік Лідзія Арабей, якой сёлета 27 чэрвеня споўнілася 88 гадоў. Пісьменніца жыве ў Мінску і, нягледзячы на свой узрост, шмат піша, у беларускіх выданнях вельмі часта з'яўляюцца яе жыццёвыя абразкі, роздумы, развагі.

Лідзія Арабей нарадзілася ў вёсцы Нізок Уздзенскага раёна Мінскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта, аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі. Друкавацца пачала з 1946 года. Напісала і выдала шмат кніг прозы, даследчых нарысаў пра жыццёвы і творчы шлях Цёткі (Мінск, 1956), пра Хвядоса Шынклера (Мінск, 1959) і іншыя.

Нядаўна Лідзія Львоўна пагадзілася адказаць на некалькі маіх пытанняў.

*— Лідзія Львоўна, вы адна са старэйшых літаратараў Беларусі, шмат каго бачылі, сустракалі, ведалі, сябравалі. Каго з беларускіх літаратараў часцей за ўсё сёння прыгадваеце, а каго і не хочацца згадваць?*

— На вялікі жаль, з кім я сябравала, ужо няма побач з намі. А ўспамінаю я добрым словам Івана Мележа, Янку Брыля, з вялікай павагаю прыгадваецца Васіль Быкаў. А тых, каго не хацелася б мне ўспамінаць, проста не хачу называць іх прозвішчы. Вышэй названых пісьменнікаў прыгадваю часта, пішу пра іх. Напрыклад, у выдавецтве «Беларусь», дзе я ў свой час працавала рэдактарам, трапіў мне на рэдагаванне раман Янкі Брыля «Птушкі і гнёзды». Тагачасны загадчык рэдакцыі, якога паставілі замест Міколы Татура, напісаў на раман Брыля заключэнне на васямнаццаці старонках. У чым ён толькі не абвінавачваў аўтара, ледзьве не ў тым, што Брыль спагадае фашыстам.

І трэба было змагацца за раман, пераконваць начальства, што заключэнне загадчыка няпраўдзівае. Раман выйшаў у свет, і цяпер у мяне на паліцы стаіць экзэмпляр з аўтографам Брыля: «Лідзіі Арабей, майму мужнаму рэдактару, якой давялося ад гэтай кнігі… З сяброўскай удзячнасцю. Янка Брыль. 10.01.65». Прыемна такое ўспамінаць.

*— Калі і ў які час вам жылося і пісалася ў Беларусі лепш?*

— Пісалася лягчэй тады, калі была маладая.

*— Вы напісалі і выдалі два добрыя даследаванні — пра Цётку і Хвядоса Шынклера. Чаму спыніліся менавіта на гэтых асобах, а не іншых?*

— Пра Цётку (Алаізу Пашкевіч) у тыя гады было мала вядома, толькі некалькі вершаў у зборнічку ды блытаныя звесткі з біяграфіі. Але і з тых вершаў, з біяграфічных дадзеных узнікаў яркі вобраз самаахвярнай, самаадданай дачкі беларускага народа, вобраз мужнай жанчыны, якая стаяла ля вытокаў беларускага адраджэння. Таму я пра Цётку напісала і выдала некалькі кніг: першую ў 1956 годзе, апошнюю — у 2006 годзе. Вобраз гэтай жанчыны не пакідаў мяне ўсё жыццё, яна захапляла мяне сваёй мужнасцю, адданасцю беларускай справе, яна змагалася за незалежнасць Беларусі, яе творы — багаты ўнёсак у гісторыю беларускай літаратуры. Таму я і ўзялася даследаваць яе жыццёвы і творчы шлях.

Пра Хвядоса Шынклера пісала проста, як пра беларускага пісьменніка, які загінуў у гады Другой сусветнай вайны.

*— Лідзія Львоўна, што вы чытаеце сёння, з кім сябруеце, каму тэлефануеце?*

— Сёння я стараюся чытаць класікаў. А з беларускай літаратуры найбольш мяне цікавяць успаміны пра пісьменнікаў — Якуба Коласа, Івана Мележа і г. д. І яшчэ — люблю чытаць дакументальныя творы.

Засталося мала людзей, каму хочацца патэлефанаваць. Часцей за ўсё тэлефон мой маўчыць — на той свет няма праводкі. Перазвоньваемся часам з крытыкам Лідзіяй Савік і з пісьменніцай Аленай Васілевіч.

*— Што вас сёння хвалюе? Які лёс чакае нашу літаратуру, мову, Беларусь?*

— Хвалюе мяне сёння лёс беларускай літаратуры, беларускай мовы. Некалі нашая славутая Цётка пісала: «Добра ведаць замежную мову, але найперш трэба ведаць сваю, родную». А сёння ў Беларусі тушацца нават тыя невялікія агеньчыкі, дзе яшчэ тлее беларуская мова. Але не хочацца верыць у горшае. Хочацца спадзявацца, што мова, як і народ — неўміручыя. Бо ўсё ж радуюць маладыя беларускія пісьменнікі, якія пішуць творы на беларускай мове, не здаюцца, не паддаюцца прыгнёту. Хаця стан беларускай мовы, паўтаруся, трагічны. У беларускай сталіцы сёння рэдка чуваць родная мова. Я ўжо пісала, таму паўтаруся, што ідзе нейкі дзіўны працэс — беларуская літаратура ствараецца на рускай мове. Нават назву прыдумалі такому унікуму: рускамоўныя беларускія пісьменнікі. Якіх толькі анекдотаў не ствараюць жыццё і людзі!

*2013*

# Уладзімір Васько: «У жыцці павінна быць рамантыка»



*Уладзімір Васько ў маладосці*

З творчасцю беларускага паэта, празаіка і журналіста Уладзіміра Васько я пазнаёміўся ў 1981 годзе, калі вучыўся на першым курсе Белдзяржуніверсітэта. Тады выйшаў з друку яго першы зборнік паэзіі «Прасветленасць». Ён мне спадабаўся, і я напісаў на гэты зборнік невялікую рэцэнзію і занёс яе ў тыднёвік «Літаратура і мастацтва», дзе загадчыкам аддзела крытыкі быў Анатоль Сідарэвіч. Праз пэўны час рэцэнзію апублікавалі, праўда, з пэўнымі крытычнымі дапаўненнямі.

Прайшло шмат гадоў, і мяне лёс зноў звёў з Уладзімірам Васько, якога я прасіў напісаць успаміны пра Міхася Петрыкевіча (1913–1999) — заснавальніка Дзятлаўскага краязнаўчага музея. Успаміны ён напісаў, і яны былі апублікаваныя ў кнізе Міхася Петрыкевіча «Народжаны вечнасць тварыць» (Мінск, 2013).

Чалавек усё жыццё пражыў у глыбінцы. Працаваў у Шчучынскай раённай газеце, пасля Гродзенскага педінстытута настаўнічаў на Дзятлаўшчыне, потым працаваў карэспандэнтам у дзятлаўскай раённай газеце «Перамога», у рэдакцыі «Лідскай газеты»: і намеснікам рэдактара, і рэдактарам. За гэты час родную Гродзеншчыну ён аб’ехаў амаль усю, шмат сустракаўся з людзьмі, быў знаёмы з мясцовымі літаратарамі, кампазітарамі, мастакамі, музыкантамі, пісаў пра іх, пісаў наогул пра тое, чым тады жыла беларуская правінцыя. Пра ўсё гэта я і вырашыў з ім пагутарыць.

— *Уладзімір Гаўрылавіч, я з вялікай радасцю прачытаў вашу апошнюю кнігу прозы «Лясная рапсодыя». Асабліва мне спадабаліся ўспаміны пра Васіля Быкава і заходнебеларускага паэта Пятруся Граніта (Івана Івашэвіча). У Заходняй Беларусі былі, і іх часта разам згадвалі, паэты Прамень, Струмень, Граніт. Ці ведалі вы іх? І ці сябравалі яны між сабой? Яны ж родам былі з Дзятлаўшчыны.*



— Вядома ж, сябравалі. Я не ведаю канкрэтных дэталяў гэтага сяброўства у дачыненні да Праменя. А вось што датычыць Васіля Струменя (Аляксандра Лебедзева) і Пятруся Граніта (Івана Івашэвіча), то іх сяброўства звязвала на ўсё жыццё. Не проста звязвала, а ў дзяцінстве і ў маладосці яны нават жылі пад адным дахам у вёсцы Зачэпічы, што на Дзятлаўшчыне. Справа ў тым, што падчас Першай сусветнай вайны сям’я Івашэвічаў выязджала ў Расію. Адтуль яны вярнуліся з папаўненнем — прывезлі малога Аляксандра Лебедзева, які стаў паўнапраўным членам сям’і. Толькі я канкрэтна не ведаю (і цяпер няма ў каго спытаць), ці то бацька Івашэвіча ажаніўся другі раз (магчыма, яго першая жонка памерла) з маці Лебедзева, ці то ён усынавіў Аляксандра як сірату.

Васіль Струмень (Лебедзеў) добра вывучыў беларускую мову, пісаў на ёй вершы, умеў чытаць і размаўляць на польскай і ўкраінскай мовах. Абодва яны — Граніт і Струмень — актыўна ўдзельнічалі ў падпольным руху да 1939 года. Пасля Другой сусветнай вайны і да самай смерці Васіль Струмень жыў у горадзе Сарны на Украіне, але штогод прыязджаў на бацькаўшчыну ў родную вёску Зачэпічы, а адтуль у Дзятлава. Ён заўсёды заходзіў са сваімі вершамі (калі адзін, а калі і разам з Івашэвічам) у рэдакцыю газеты «Перамога», у якой іх творы друкаваліся. Прыязджаў Васіль Струмень і ў Ліду, заглядваў у рэдакцыю газеты «Уперад» (цяпер яна называецца «Лідская газета»). Паколькі я і ў Дзятлаве, і ў Лідзе кіраваў літаратурнымі аб’яднаннямі і вёў літаратурныя старонкі, я стараўся друкаваць яго вершы. Васіль Струмень разам з калектывам лідскай газеты выязджаў у Вязынку на святкаванне 100-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы, на іншыя мерапрыемствы.

*— Аб чым вы не напісалі ў сваёй кнізе «Лясная рапсодыя» (Ліда, 2013), прыгадваючы Васіля Быкава? Ці ёсць нейкая тайна?*

— Гэта не тайна, а проста адна ўпушчаная дэталь да характару пісьменніка. Васіль Уладзіміравіч заўсёды выступаў перад публікай сур'ёзна і разважліва. Але вось што адбылося падчас аднаго з яго выступленняў. Мы, група студэнтаў Гродзенскага педінстытута, праходзілі педпрактыку ў сярэдняй школе № 1 г. Гродна. Адна наша студэнтка запрасіла Васіля Быкава на свой урок па рускай літаратуры і ў дзясятым класе дала яму слова. Мы таксама прысутнічалі. Як заўсёды, ён выступаў сур'ёзна пра сучасную беларускую літаратуру, называў прозвішчы аўтараў, маладых і старэйшых, іх творы. А студэнтка ўсё прасіла Васіля Уладзіміравіча: «Раскажыце што-небудзь смешнае, смешнае. Трэба ж, каб смяяліся вучні».

Васіль Уладзіміравіч пэўны час трываў яе прыставанні. А пасля спакойна сказаў: «Паслухайце, я вам не клоўн, каб смяшыць дзяцей. А калі хочаце, каб яны смяяліся, выклікайце з Мінска Міхася Скрыпку ці Алеся Ставера». Студэнтка замоўкла, а вучні засмяяліся.

*— Я ведаў гарадзенскага паэта і журналіста Уладзіміра Шурпу (1939–1998). Вы з ім некалі добра сябравалі. На жаль, пра яго сёння рэдка ўспамінаюць. Раскажыце трохі пра яго.*

— Калі я паступіў у Гродзенскі педінстытут імя Янкі Купалы (1960), Уладзімір Шурпа ўжо вучыўся на трэцім курсе. Аднак мы з ім даволі хутка зблізіліся і пасябравалі. Разам хадзілі ў рэдакцыю газеты «Гродзенская праўда» на літаб'яднанні, выступалі на абласным радыё. Старэйшыя пісьменнікі Васіль Быкаў і Аляксей Карпюк, калі ў нас крыху памацнелі паэтычныя крылы, бралі нас іншы раз з сабой выступаць у школах, тэхнікумах, воінскіх часцях, у раённых цэнтрах. Помняцца, напрыклад, паездкі ў Ваўкавыск, Свіслач.



Акрамя рэдакцыі «Гродзенскай праўды», мы з Валодзем Шурпам хадзілі і ў рэдакцыю гродзенскай раённай газеты «Сельская новь», літаратурным аб'яднаннем у якой кіраваў паэт і даследчык, інспектар раённага аддзела адукацыі Апанас Цыхун. У гэтай газеце таксама друкавалі нашы вершы.

Уладзімір Шурпа быў здольным паэтам, гарэзным, гаваркім, разумным хлопцам. На жаль, яму пры жыцці ўдалося выдаць толькі адзін зборнік вершаў «Переразвон адліг» (1996).

У суботнія і нядзельныя вечары Валодзя звычайна браў у рукі гармонік, на якім добра іграў, і праходзіў па калідорах інтэрната з чацвёртага па першы паверхі, выводзячы мелодыі беларускай полькі ці вальса. Гэта быў сігнал для хлопцаў і дзяўчат збірацца на танцы. Яны ладзіліся на нашым другім паверсе ў фае. Спачатку іграў Шурпа, пасля яго змянялі Коля Петрыкевіч ці Алесь Пятроўскі. Часам мы Валодзю запрашалі ў свой 45-ы пакой і казалі: «Ну, Вовік, ідзі адгавейся. Ты ўжо, відаць, стаміўся…» Налівалі яму поўную шклянку «Партвейну», і ён залпам асушваў яе да дна. Ажыўлялася гамонка, гучаў смех. А пасля мы ўсе разам зноў ішлі на танцы.

Помніцца такі выпадак. Неяк Данута Бічэль запрасіла Апанаса Цыхуна, Валодзю Шурпу і мяне выступіць у школе рабочай моладзі, дзе яна пасля заканчэння педінстытута выкладала беларускую мову і літаратуру. Апанас Пятровіч дабіраўся туды сваім ходам, а я з Шурпам па дарозе заехалі на кватэру яго брата. Валодзя хацеў напрасаваць штаны. Дома нікога не было. Ён разагрэў прас і, не выключаючы яго, пачаў прасаваць. А час нас прыспешваў. І я Шурпу нават крыху падганяў. Неўзабаве ён хуценька надзеў яшчэ цёплыя штаны — і ў калідор, дзе я ўжо гатовы быў адчыніць дзверы. Шнура ж з разеткі ветраны паэт не выцягнуў.

Мы добра даехалі да школы, няблага выступілі. Але, калі вярнуліся на кватэру яго брата, убачылі, што ў кватэры чуць не адбыўся пажар: прас прапаліў стол і ўпаў на падлогу. На падлозе ён таксама прапаліў немалую пляму. Валодзя вельмі перажываў: «Перападзе мне ад брата. Адбярэ ключ».

Я стараўся яго суцешыць: «Дык стол жа стары. Чаго яго так ужо шкадаваць? Купіць новы».

На другі дзень мы заглянулі ў кабінет Апанаса Цыхуна і расказалі яму пра гэта здарэнне. «Ну і шалапуты, — папракнуў нас Апанас Пятровіч, — маглі б нарабіць пажару».

*— Вядома ж, у вашым жыцці былі і сустрэчы з іншымі вядомымі літаратарамі Беларусі. Так?*

— З многімі… І ў Гродне, і ў Дзятлаве, і ў Мінску, і ў Лідзе. Асабліва памятаюцца мне сустрэчы з Янкам Брылём і Алегам Лойкам.

*— Раскажыце пра іх.*

— Неяк у Дзятлава летам 1968 года прыехаў нейкі дзядзька з Польшчы, які да вайны служыў з Янкам Брылём у марской пяхоце на Балтыцы. Ён зайшоў у рэдакцыю раёнкі і перадаў адказнаму сакратару Васілю Пранкевічу фотаздымкі, на якіх красаваўся ў марской форме малады Янка Брыль, і папрасіў як-небудзь даставіць іх сябру сваёй маладосці. На той час мяне ў рэдакцыі не было. На другі дзень Пранкевіч паказаў мне здымкі і прамовіў: «Ты бываеш у Мінску, заходзіш у рэдакцыі, можа, перадасі як-небудзь фотакарткі Янку Брылю». Я ўзяў іх, паклаў у канверт і паабяцаў, што яны знойдуць патрэбнага адрасата. Праз некалькі дзён я паехаў у Мінск, зайшоў у рэдакцыю часопіса «Маладосць», аддаў Міколу Аўрамчыку новыя вершы і паказаў фотаздымкі: «Як іх перадаць Янку Брылю?» — «Пакідай тут, — адказаў спадар Аўрамчык. — Я іх перадам. Мы з ім сябры». Я іх і пакінуў. Праз тыдні два ў Дзятлава прыязджае Янка Брыль са сваёй дачкой. Яны заходзяць у рэдакцыю, павіталіся, і Брыль пытае: «Дзе тут можна ўбачыць Валодзю Васько?» — «Я перад вамі, — адказваю. «А як да цябе трапілі гэтыя здымкі?» — адразу запытаўся Брыль. Я патлумачыў тое, што ведаў, і дадаў: «Я паклічу адказнага сакратара рэдакцыі, ён раскажа больш падрабязна». — «Пакліч», — кажа Брыль. Прыйшоў у кабінет Вася Пранкевіч, стаў дэталёва апавядаць, скуль гэты дзядзька, якое ў яго прозвішча, да каго ён прыязджаў у Дзятлава, як у маладосці яго звёў лёс з Брылём. Іван Антонавіч уважліва слухаў, а пасля сказаў: «Так гэта ж мой самы лепшы сябра. Дзякую вам за здымкі». Васіль Пранкевіч даў яму адрас гэтага чалавека. А потым мы яшчэ з паўгадзіны размаўлялі. Іван Антонавіч цікавіўся, як мы жывём, пра што пішам, дзе бываем. «А я вось з дачкою, — прамовіў ён, — еду ў калгасны дом адпачынку «Рэчанька», што на Шчары ў вёсцы Малая Воля. Там ціхі, маляўнічы куточак, добра адпачываць, рыбачыць. У пакоі, дзе я звычайна пасяляюся, непафарбаваная падлога — і мне гэта вельмі падабаецца. Чысценькія сасновыя дошкі, пахнуць смалою. Няблага там і пішацца. Загляніце, калі будзеце выязджаць па збор матэрыялаў».



Але мы не асмеліліся трывожыць славутага пісьменніка. Баяліся, што можам прыехаць у той час, калі ён якраз што-небудзь будзе пісаць і мы пераб'ем яго думкі. Дарэчы, згаданы дом адпачынку (у творы ён называецца Шчарынка), быт у ім, сустрэчу з людзьмі, пушчанскую прыроду Янка Брыль адлюстраваў у сваім апавяданні «Дырэктарка».

*— А як у вас адбылася сустрэча з пісьменнікам, доктарам філалагічных навук, прафесарам Алегам Лойкам?*

— Гэта таксама было ў Дзятлаве. Дырэктар Яварскай сярэдняй школы А. Пятроль запрасіў на літаратурны вечар Алега Лойку, з якім разам вучыўся ў Белдзяржуніверсітэце. Ён жа патэлефанаваў мне і сказаў, што Алег Лойка і інспектар Дзятлаўскага раённага аддзела адукацыі І. Пазьняк возьмуць і мяне з сабой на вечар. Я крыху расхваляваўся, але падрыхтаваў вершы, бо ведаў, што прыйдзецца выступаць, і чакаў, калі і хто мяне пакліча. І вось у рэдакцыю райгазеты заглянуў І. Пазьняк. «Паехалі, — прамовіў ён. — Алег Лойка ўжо ў машыне». Мы выйшлі на вуліцу, селі ў машыну і паехалі ў вёску Явар. У школе настаўнікі разам з вучнямі сапраўды наладзілі вялікі літаратурны вечар. Вучні чыталі вершы, расказвалі пра нашу творчасць. Прыемна было чуць, як з вуснаў юных дзяўчат і хлопцаў гучаць твае ўласныя творы. Не ведаю, як для Лойкі, а для мяне такая сітуацыя надарылася ўпершыню.

Другая сустрэча з гэтым знакамітым чалавекам адбылася ў Гродне ў доме Элізы Ажэшкі, дзе праходзіла выязное пасяджэнне бюро секцыі паэзіі Саюза пісьменнікаў БССР. Сюды прыехала група літаратараў з Мінска на чале са старшынёй секцыі паэзіі Алегам Лойкам. Сярод іх былі Мікола Арочка, Вольга Іпатава, Рыгор Семашкевіч, Уладзімір Скарынкін і іншыя. На паседжанне былі запрошаны і літаратары Гродзеншчыны, вершы якіх былі вынесены на патрабавальны, але добразычлівы суд майстроў слова.

Пачатак размовы паклаў Аляксей Карпюк. Затым пра аўтараў прамаўляла Данута Бічэль. Пасля ўсяго Алег Лойка з прэзідыума спытаў: «Васько ёсць у зале?» Я падняўся і сказаў: «Вось я». Трымаючы ў руках мае вершы, надрукаваныя на машынцы, ён прамовіў: «Дык у цябе ж гатовы зборнік. Яго хоць сёння аддавай у выдавецтва».

Неўзабаве адбыўся перапынак. Я ўстаў з-за стала і павітаўся з Алегам Антонавічам. «Ну дык вось што, я вазьму з сабой твае вершы, больш уважліва прачытаю іх дома, зраблю на палях свае заўвагі, а потым вышлю табе ці перадам праз каго. А ты, калі выправіш недахопы, адвозь будучую кнігу ў выдавецтва».

Я, вядома ж, узрадаваўся такой сітуацыі. Алег Лойка вельмі мяне падтрымаў. Чакаў я вяртання вершаў з нецярпеннем. І вось аднойчы, падняўшыся на пляцоўку ў сваім пад'ездзе, бачу ў дзвярах запіску. Дастаў яе і прачытаў. Запіска была ад Алега Антонавіча. У ёй ён пісаў: «Быў у Лідзе ў стрыечнага брата, хацеў бачыць цябе, але дома, мабыць нікога не было, бо дзвярэй ніхто не адчыніў». Далей ён пісаў, што амаль усё лета будзе жыць у Слоніме ў цешчы. Пакінуў у запісцы яе адрас і запрасіў, каб я ў бліжэйшы час прыбыў туды.

Дачакаўшыся суботы, я на маршрутным аўтобусе з радасцю і хваляваннем ехаў у Слонім. Знайшоў патрэбны мне домік на беразе Шчары. І хутка мы з Алегам Лойкам зноў перачытвалі мае вершы. Ён сказаў, што ў рукапісе нямала перлаў сапраўднай паэзіі, але ёсць і недахопы. І кожную заўвагу на палях ён растлумачыў больш падрабязна, дэталёва, падказваючы, у якім месцы патрэбна напісаць па-іншаму. Я, безумоўна, уважліва слухаў і ўсё запамінаў. Яму вельмі спадабаліся мае радкі:



І намагнічвае прастору
Твая зямная прыгажосць.
Да ночы быць натхнёным бору,
Калі ты ў ім такая ёсць.

Ён іх працытаваў. А непадалёку, справа, сапраўды, стаяў прыгожы сасновы бор, унізе цякла празрыстая Шчара, на другім беразе якой буяла трава, злёгку варушыліся пад подыхам цёплага ветрыку галінкі лазовага і альховага кустоўя. Наўкола спявалі і ціўкалі птушкі. І так хораша і светла было на душы ў мяне! Я думаю, што ў Алега Антонавіча таксама. Гэта было бачна па яго іскрыстых вачах і цёплай усмешцы.

Дамоў з рукапісам у руках я ехаў у неапісальна радасным настроі. Вось што значыць падтрымка вядомага літаратара, навукоўца. Заўвагі Алега Лойкі я ўсе ўлічыў і хутка завёз рукапіс свайго першага паэтычнага зборніка «Прасветленасць» у Мінск у выдавецтва «Мастацкая літаратура». Ён і выйшаў з друку ў 1981 годзе.

*— Уладзімір Гаўрылавіч, мне здаецца, раней цікавей было працаваць у рэдакцыях раёнак, дзе гартаваліся творчыя людзі раённых цэнтраў, гутарылі, спрачаліся, часцей друкавалі свае літаратурныя творы. Цяпер зусім не так. Што вам памятаецца з таго часу, калі вы працавалі журналістам у дзятлаўскай і лідскай райгазетах?*

— У вашым пытанні амаль утрымліваецца і адказ. Так, усё гэта было. Асабліва мне найбольш падабаліся паездкі па вёсках раённых цэнтраў. Да гадзін 15–16 мы стараліся набраць фактаў у блакноты. Пасля дазвалялі сабе некаторую вольнасць. У летні час, наездзіўшыся, напрыклад, па Дзятлаўскім раёне, мы заязджалі на Шчару, Маўчадку ці Нёман і змывалі дарожны пыл, купаліся, загаралі, а восенню ў Ліпічанскай пушчы збіралі грыбы. У Лідскім раёне таксама

ў такі ж час адпачынкамі для нас былі Гаўя, Дзітва, Лебяда, той жа Нёман, навакольныя лясы. У гэтым адчувалася пэўная рамантыка. Да таго ж тады ў рэдакцыях раённых газет больш працавала мужчын, чым цяпер. А з імі, як вядома, прасцей было.

*— Вы выдалі тры зборнікі вершаў і кнігу прозы. Над чым працуеце сёння, аб чым думаеце?*

— Цяпер рыхтую кнігу ўспамінаў «Зігзагі лёсу». Там распавядаю пра сваё жыццё і людзей, з якімі мне даводзілася за свае гады сустракацца, сябраваць, працаваць. Па-ранейшаму пішу вершы, апавяданні…

*— Ці пайшлі б сёння працаваць у раённую газету, ці, калі б вярнуліся гады, інакш звязалі б свой лёс?*

— Пайшоў бы па тым жа шляху, па якім ішоў да сённяшніх дзён. У газету я і зараз гатовы ісці працаваць. Але ж ужо не бяруць. Там маладыя дзяўчаткі не вылазяць з камп’ютараў. Рамантыка забылася пра іх, а яны — пра рамантыку. Але ж час мяняецца, а жыццё працягваецца.

*2013*

## Іван Вярбіцкі: «З маленства люблю Беларусь»

У Карэлічах на Гарадзеншчыне жыве цікавы чалавек. Ён шмат ужо пажыў, пабачыў, перажыў. Завуць яго — Іван Іванавіч Вярбіцкі. Але, нягледзячы на свой 83-гадовы ўзрост, спадар Вярбіцкі поўны сіл, натхнення і творчых задумак. Хаця ўсё жыццё ён, як кажуць у народзе, не пакідаў пяра: піша вершы, апавяданні, нарысы пра людзей і сваю родную Карэліччыну. Цяпер Іван Вярбіцкі задумаў серыю гісторыка-краязнаўчых кніг пра свой Карэліцкі раён. Ён піша і друкуе асобныя выданні пра гаспадаркі, прадпрыемствы, навучальныя ўстановы свайго раёна. І піша ён вельмі цікава, змястоўна, грунтоўна, паказваючы гістарычны шлях развіцця таго ці іншага прадпрыемства ці гаспадаркі, лёсы





*Іван Вярбіцкі, Янка Брыль, Генадзь Вахтопаў, Генадзь Дзмітрыеў, 1990 г.*

людзей, якія там працавалі, іх справы, дапаўняючы лічбамі, фактамі, здымкамі. Атрымліваецца, дарэчы, вельмі цікава. Мне здаецца, Іван Вярбіцкі — гэта адзіны чалавек у Беларусі, які так дасканала даследуе сваю мясцовасць, сваю маленькую радзіму, дзе ўсё жыццё пражыў, адпрацаваў. Пра лёс Івана Вярбіцкага, пра яго творчыя планы і вынікі працы мы і вырашылі пагутарыць падчас нашай сустрэчы.

*— Іван Іванавіч, раскажыце трохі пра сябе.*

— Я нарадзіўся 8 студзеня 1931 года ў вёсцы Куравічы на Навагрудчыне. Наша вёска знаходзілася там, дзе канчаецца Навагрудскае ўзвышша і пачынаецца Прынёманская нізіна. Калі зойдзеш на вяршыню мясцовай Маленскай гары, то ў пагодны дзень убачыш палоску нёманскай вады.

Пасучы кароў, я заўсёды насіў з сабой кніжку і чытаў. Сястра Соня з 1946 года вучылася ў Навагрудскай сярэдняй школе, і адтуль яна прывозіла мне кнігі. Я іх чытаў і знаёміўся з рускай класікай, з беларускай літаратурай. Хутка і сам пачаў пісаць вершы. Залазіў на гарышча і пісаў пра вясну, пра вецер, пра дождж. А калі я вучыўся ў Навагрудскім педвучылішчы, мясцовая раёнка 5 снежня 1948 года апублікавала мой першы верш. Потым мяне забралі ў войска,

служыў у Расіі ў Забайкаллі. Закончыў вучылішча пасля войска. Стаў працаваць настаўнікам. Потым яшчэ скончыў гістарычны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Ажаніўся. Жонка ўсё жыццё працавала настаўніцай роднай мовы і літаратуры, а я працаваў і настаўнікам, і дырэктарам школы, і ў аддзеле адукацыі райвыканкама, але ніколі не пакідаў пісаць вершы, апавяданні, нарысы.

*— Іван Іванавіч, я ўважліва перачытаў вашы кнігі пра гісторыю прадпрыемства «Карэлічы-Лён», пра гаспадарку «Маяк-Заполле» і іншыя арыгінальныя выданні. Хто вам падказаў, натхніў на напісанне такіх кніг-дакументаў?*

— Аднойчы я сустрэўся са старшынёй гаспадаркі «Лукі-Агра» Карэліцкага раёна Мікалаем Гавінай. І кажу яму: давайце напішам пра вашу гаспадарку кніжку для гісторыі нашым нашчадкам! Спадар Мікалай пагадзіўся. І я пачаў працаваць. Кніга напісалася хутка і выйшла з друку ў слонімскай друкарні пад назвай «Луцкі мерыдыян».

*— А потым пісаліся новыя кнігі і адна за адной выходзілі ў свет?*

— Так. Пра гісторыю Карэліцкага племзавода я напісаў і выдаў кнігу «Шырокае поле здзяйснення», потым выдаў кнігу для школьнікаў «Край Карэліцкі мой», потым было выданне «У сэрцы з клятвай Гіпакрата» пра гісторыю мясцовай медыцыны і іншыя. Цяпер рыхтуецца да выдання кніга «Ад мінуўшчыны — дарогай…», прысвечаная гісторыі саміх Карэлічаў. І ўсе мае кнігі пішуцца і выдаюцца толькі на роднай мове.

*— Акрамя краязнаўства, вы яшчэ пішаце вершы. У сваёй хатняй бібліятэцы нават маю ваш зборнік вершаў «Ступені жыцця».*

— З вершамі ў друку выступаю ўжо 65 гадоў. Мяне мясцовыя людзі-землякі ў Карэлічах часам называюць паэтам. Але я сябе ніколі паэтам не лічыў. Я з маленства люблю сваю краіну — родную Беларусь. Вось ёй і прысвячаю ўсе свае кнігі і вершы:



Паклон, радзімая зямля.
Паклон вам, нівы залатыя!
Люблю і зблізку, і здаля,
Вас не пабачу — сэрца ные.

Дарэчы, магу пахваліцца, што я некалі ўдзельнічаў у конкурсах па напісанні гімнаў для Карэліч і Цырына. У абодвух конкурсах мае вершы перамаглі і сталі гімнамі.

*— Іван Іванавіч, а з кім вы ў сваім жыцці сябравалі і сябруеце?*

— Сяброў у мяне было і ёсць шмат. Хочацца пару слоў сказаць пра сябра Івана Буйвалава. Гэты чалавек адораны вялікім талентам. Яго малюнкі публікаваліся на старонках многіх маіх кніг. Шчыра я сябрую з вядомым беларускім «букварыстам» Анатолем Клышкам. Мы разам некалі вучыліся ў Навагрудскім педвучылішчы. Сябраваў некалі і з народным пісьменнікам Беларусі Янкам Брылём. Апошні раз я разам з журналістамі карэліцкай раённай газеты «Полымя» пабываў на летніку Янкі Брыля ў Крынічным. Засталі яго на агародзе, ён займаўся праполкай морквы. Скардзіўся, што вельмі моцна баляць ногі.

*— Ведаю, што вы пішаце і прозу. Так?*

— Спрабую сябе і ў прозе. Напісаў апавяданні і апублікаваў іх невялікую вязанку. Цяпер працую над аповесцю «Алеськава сядзіба». Нешта цяжка даецца, узрост ужо не той. Вельмі захапілі мяне і байкі. Маю ўжо пару дзясяткаў, некаторыя ўжо апублікаваў. На жаль, цяпер мала пішуць байкаў. А яны сёння былі б дарэчы.

*— Ці часта наведваеце сваю раённую бібліятэку? Чаму пытаюся — бо сёння ўсё менш і менш людзей карыстаецца паслугамі бібліятэк.*

— Ведаеце, я маю сваю прыватную вялікую бібліятэку рускай і беларускай літаратуры, якая налічвае некалькі тысяч кніг. Таму найчасцей карыстаюся кнігамі са сваёй уласнай бібліятэкі. Ёсць і старыя выданні. Напрыклад, байкі Крылова, выдадзеныя ў 1948 годзе, вершы Лермантава, таксама

1948 года, ёсць такое выданне, як «Воспоминание Брусилова», 1939 года, шмат пасляваенных выданняў беларускіх аўтараў. Стаяць на маіх паліцах і кнігі сяброў з аўтографамі, многіх якіх, на жаль, ужо даўно няма. Напрыклад, Іван Жук на сваёй кнізе напісаў: «Паэту Карэліччыны, сябру па пяру Івану Іванавічу Вярбіцкаму ад аўтара. Жадаю моцнага здароўя і новых вершаў і кніг у імя роднага краю. 4 студзеня 2007 года».

*— Як да вас адносяцца жыхары Карэлічаў як да чалавека, да літаратара? Відаць, ведаюць там вас амаль усе.*

— Скажу шчыра, у родных Карэлічах мяне ведаюць добра. І мае землякі да мяне адносяцца звычайна, проста, без ніякай злосці, зайздрасці і насмешкі. Яны мяне паважаюць, а я пра добрых людзей і іх справы пішу і выдаю кнігі.

*2013, кастрычнік*



# Пра аўтара кнігі



Беларускі літаратар, журналіст, гісторык, краязнавец і перакладчык Сяргей Чыгрын нарадзіўся 24 верасня 1958 года ў вёсцы Хадзявічы Слонімскага раёна. Скончыў тэатральнае аддзяленне Магілёўскага культасветвучылішча і філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Жыве ў Слоніме, працуе загадчыкам літаратурнай часткі Слонімскага драматычнага тэатра.

Выдаў зборнікі паэзіі «Шчырая Шчара» (1993), «Горад без цябе» (1999), «Лірыка» (2007), «Камень Міндоўга» (2009), кнігі гісторыка-краязнаўчых і літаратурных артыкулаў «Янка Купала і Слонімшчына» (1993), «Родам са Слонімшчыны» (2003), «Пакліканыя на родны парог» (2005), «Чамяры і чамяроўцы» (2006), «У пошуках слонімскіх скарбаў» (2007), «Беларуская Беласточчына» (2008), «З беластоцкай зямлі» (2008), «Тэатр у Слоніме» (2008), «Мастак Антон Карніцкі» (2009), «Жыў роднай песняй» (2010), «Альбярцін» (2011), «Такі іх лёс» (2012), «Па слядах Купалы і Коласа» (2012), «Слонімскія падмуркі» (2012), «Сярод сваіх людзей» (2012), «Краязнаўчымі сцежкамі Зэльвеншчыны» (2013), «Слонімскі буквар» (2013), «Легенды і паданні Слонімшчыны» (2013) і іншыя.

Уклаў і выдаў у Беластоку літаратурную спадчыну С. Грынкевіча, Ф. Грышкевіча, У. Казлоўшчыка «Вяртанне да сваіх» (1999), а таксама гістарычныя нарысы Міколы Шкялёнка «Беларусь і суседзі» (2003). Сабраў і выдаў літаратурную спадчыну Сяргея Хмары «Рабінавы хмель» (2009), Леаніда Трубача «Паміж песняй і болем» (2010), Юрыя

Весялкоўскага «Я веру» (2009), кнігу артыкулаў «Музей у Гудзевічах» Алеся Белакоза (2012), кнігі Анатоля Іверса «Аўсяныя росы» (2011) і «З глыбінь жыцця» (2012), кнігу «Жыццё і творчасць Анатоля Іверса» (2012), кнігу вершаў Алеся Сучка «Захацелася шчасця» (2012), зборнік вершаў Віктара Бяляцкага «Белы маладзік» (2013), краязнаўчых артыкулаў Міхася Петрыкевіча «Народжаны вечнасць тварыць» (2013). З'яўляецца аўтарам і выдаўцом шматлікіх беларускіх буклетаў, паштовак, плакатаў, праграмак. На яго вершы напісаны песні кампазітарамі Міколам Яцковым, Яўгенам Петрашэвічам, Кастусём Герашчанкам, Аляксандрам Масляніцыным, Мар'янам Медушэўскім.

На беларускую мову пераклаў вершы французскіх паэтаў Поля Элюара, Луізы Мішэль, Эжэна Пацье, Поля Верлена, украінскіх паэтаў Рыгора Елішэвіча, Валерыя Бойчанкі, Любові Пшанічнай, турэцкага паэта Фазыла Хюсню Дагларджы і іншых. Пераклаў таксама на родную мову п'есы А. Хайта, К. Манье, Э. Успенскага, К. Гальдоні, А. Астроўскага, С. Міхалкова, С. Пракоф'евай, Н. Абрамцавай, Г. Лабакіна, К. Папова, М. Каляды і іншых драматургаў. Многія спектаклі па іх п'есах пастаўлены на сцэне Слонімскага драмтэатра і іншых тэатраў Беларусі. Напісаў п'есу для дзяцей «Белая Мышка» (у сааўтарстве з Аляксеем Якімовічам, пастаўлена ў 2005 годзе) і дзіцячую п'есу «Зачараваная хатка».

З'яўляецца сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў і Беларускай асацыяцыі журналістаў.





# Змест

